МАЛАДОСЦЬ

падпісныя індэксы
індывідуальны - 74957
ведамасны - 749572
льготны - 00731
льготны
для настаўнікаў - 00592

ISSN 0131 2308
06/2017



Маладосць 06/2017

Таму, хто думае

у нумары:

**Янка Купала сёння**
На сцэне тэатра і ў турыстычнай вандроўцы

**Да 500-годдзя беларускага кнігадрукавання**
Суплікацыя Віленскага збору да гера Марціна Лютэра за Ксяндза Мікалая Бурхарда, свайго міністра, які ў суботу, лезучы па курэй, зваліўся з драбіны і меў гонар зламаць шыю

Пяць стагоддзяў беларускага кнігадрукавання за адзін «маладосцеўскі» год

У кожным нумары 2017-га

Хрэстаматыйнае і малавядомае

Ад Скарыны да...

Спецыяльны праект

# «Варштат»




Фота на вокладцы:

**«Нашы Руіны»**
**Аўтарскі праект Уладзіміра Цвіркі**

Гродзенская вобласць, Бераставіцкі раён, вёска Лішкі.
Сядзібны дом Вірыёнаў, 1875 год.

У кожным нумары часопісаў «Маладосць» і «Бярозка». Поўны камплект выяў будзе мець той, хто чытае абодва выданні.

**АДРАС РЭДАКЦЫІ**
Юрыдычны адрас: Рэспубліка Беларусь, 220013, Мінск, вул. Б. Хмяльніцкага, 10а. info@zvyazda.minsk.by

Паштовы адрас: Рэспубліка Беларусь, 220005, Мінск, пр. Незалежнасці, 39.
Тэл.: 284-85-24, 284-41-88, 288-20-72. maladost@zviazda.by

**http://zviazda.by/be/edition/maladosc**
**Група VK: https://vk.com/club75787481**

*ПАДПІСНЫЯ ІНДЭКСЫ:*

*00592 — індывідуальны льготны для настаўнікаў*

*74957 — індывідуальны*

*749572 — ведамасны*

*00731 — ведамасны льготны*
*для ўстаноў Міністэрства культуры*
*і Міністэрства адукацыі Рэспублікі Беларусь*

Пасведчанне аб дзяржаўнай рэгістрацыі сродку масавай інфармацыі
№ 16 ад 10.12.2012, выдадзенае Міністэрствам інфармацыі Рэспублікі Беларусь

Выдавец
Рэдакцыйна-выдавецкая ўстанова «Выдавецкі дом «Звязда»
Дырэктар — галоўны рэдактар Павел Якаўлевіч СУХАРУКАЎ

Тэхнічны рэдактар, камп'ютарная вёрстка: *Н.І. САВЕЛЬЕВА*
Дызайн вокладкі: *А.У. ГАЛОТА*
Стылістычны рэдактар: *Г.І. ВЕРАБЕЙ*

Падпісана да друку 14.06.2017. Фармат 84×108 $^{1}/_{16}$. Папера лёгкамелаваная. Друк афсетны. Ум. друк. арк. 15,12.
Ул.-выд. арк.15,86. Тыраж 1448 экз. Заказ

Рэспубліканскае ўнітарнае прадпрыемства «БудМедыяПраект».
ЛП №02330/71 ад 23.01.2014, вул. В. Харужай, 13/61, 220123, Мінск, Рэспубліка Беларусь

Змест

## КАЛУМНІСТЫКА



## ГІСТАРЫЧНЫЯ РЭКАНСТРУКЦЫІ



## ПАЭЗІЯ



## ПРОЗА



## КРЫТЫКА



## ПУБЛІЦЫСТЫКА



## ПРАЕКТ «ВАРШТАТ» *Да 500-годдзя беларускага кнігадрукавання*



## З БОГАМ



**Кацярына Захарэвіч**

# Мора і лужыны

Касечка вельмі хацела ў мора. Не «на мора», што звычайна азначае гарачае паветра, прыліпчывы пясок і вялікую колькасць незнаёмых людзей, а ў саму ваду — мяккую, лагодную, якая абдыме, закалыша.

Але ў Касечкі была толькі лужына. Глыбокая, праўда. Яміна ў двары пасля кожнага прыстойнага дажджу напаўнялася вадой так, што ступіць у яе можна было аж па костачку. Плаваць, зразумела, нельга, затое можна хадзіць і ўяўляць, што плаваеш. У моры, канешне, не ў лужыне. Купацца ў сонцы, ветры і вясёлцы, бо калі навучыцца адчуваць іх на сваёй скуры, то гэта ўсё — таксама мора — мяккае і лагоднае, люляе і закалыхвае.

Аднойчы Касечку запрасілі на возера. Возера — гэта, відавочна, не мора, але ўжо не лужына. «Расту», — падумала Касечка. Некалькі дзён яна толькі і думала, што пра паездку. Уяўляла, як плыве, плыве, плыве бясконца, паступова зліваючыся з вадой, робячыся чымсьці непадзельным, і так і застаецца — з вадой і вадой. Канешне, тануць Кася не збіралася, але плаваць доўга-доўга, пакуль возера само не выштурхне яе, — гэта абавязкова.

І вось надышоў гэты Дзень (інакш, як з вялікай літары, Кася яго і не называла). Узяўшы неверагоднай прыгажосці (ружовы ў рамонкі) купальнік, куплены год таму і апрануты аднойчы, ды й то каб пазагараць, Кася паехала на возера. Не выкапаную выключна ў ландшафтна-дызайнерскіх мэтах гарадскую сажалку, а сапраўднае жывое возера! У ім і вецер ганяе незвычайныя хвалі, і сонца адлюстроўваецца зусім па-іншаму.

І вось усе сябры ў вадзе. Хто плыве далёка, хто нырца дае глыбока, хто пырскамі абдае ўсіх навокал. А Касечка стаіць на беразе, усё з возерам вітаецца. Ды баіцца прызнаць — плаваць яна не ўмее. У лужыне гэтага пытання неяк не ўзнікала: ходзіш сабе ды марыш пра тое, як плаваеш.

Вырашыла Касечка хаця б у возеры пахадзіць, каб не так крыўдна было, што дарма прыехала. Падышла блізка-блізка, на ваду глянула, а яна не блішчыць, калі зблізу. Яна мутная, дна не відаць. Толькі розныя сілуэты загадкавага паходжання і прызначэння — ці то водарасці, ці то… лепш думаць, што водарасці. Зірнула Кася на сяброў, што плавалі амаль у самым цэнтры, быццам не было ні дна, ні сілуэтаў. Так захацелася туды, да іх, што Касечка сабралася з духам і ступіла ў прахалодную мокрую невядомасць. Пясок быў чамусьці не сыпучы, не складзены з вялікай колькасці асобных пясчынак. Цэльны, мяккі і клейкі, як пластылін, — непрадказальны і непрыемны. Бонусам былі каменчыкі, якія балюча ўразаліся ў скуру. Касечка павольна рабіла крок за крокам. Але чым глыбей, тым больш загадкавым рабілася дно возера і тым больш страшным. А сябры ўсё не набліжаліся.

Кася павярнулася, выйшла з вады і села на траву — самую звычайную, зразумелую зялёную траву. Было крыўдна. Вада, здавалася, ужо не так яскрава зіхацела, хвалі перакотваліся зусім не заманліва. Таму што пад імі было дно, на якое трэба ступіць, перш чым паплывеш. Возера — гэта не толькі вада, гэта яшчэ і дно. У лужыны яно знаёмае да апошняга каменьчыка, хоць і блізка. Можна, канешне, марыць пра басейн — з усіх бакоў гладкі, празрысты і бяспечны, але дзе ж тады ўзяць хвалі і вецер?




**Канстанцін Касяк**

## Жывыя і нежывыя

Пагаворым пра музыку.

Даўно мінулі часы, калі яна адыгрывала ў жыцці маладога чалавека важную ролю і была не толькі прыемным фонам, але нечым нашмат большым. Без музыкі раней было нікуды. Я памятаю час, калі пытанне «Што слухаеш?» было, па сутнасці, глабальным, бо змяшчала ў сабе адразу усё. Скажы мне, што слухаеш, — і я табе скажу, хто ты. Неяк так. Трэба было вызначыцца: калі слухаеш панк, гранж, метал, рэп — ты і павінен выглядаць адпаведна. І сябраваць з аднадумцамі, і нават у думках не дапускаць змены музычных захапленняў. Да ўсяго пажадана было ведаць акалічнасці жыцця куміраў. А сеціва ж тады, лічы, не існавала. Даводзілася збіраць каштоўную інфармацыю пра любімыя гурты па крупінках, выразаючы абвесткі, гутаркі, рэцэнзіі з выданняў (ад простых газет да гламурных часопісаў) і калекцыянуючы іх у самым звычайным агульным сшытку. У мяне такі дагэтуль недзе захаваўся. А яшчэ збіраць касеты, складаць правільныя дыскаграфіі і шукаць рэдкія кнігі пра сваіх любімчыкаў.

У той час яны (нават мёртвыя або недарэчныя) былі бясспрэчнымі аўтарытэтамі. Здавалася, што ўсе гэтыя людзі атрымалі ад нейкіх звышістот таемныя веды, якімі і дзеляцца з астатнімі, проста людзьмі. Дазіравана. Бо тыя не могуць «пераварыць» усё і адразу. Вось і выдаецца альбом за альбомам...

Але бліжэй да паўналецця прыйшло разуменне таго, што насамрэч усё далёка не так. І хутчэй наадварот: куміры ўжо не бачыліся такімі яркімі, разумнымі і выкшталцонымі персонамі, як гэта было ў юнацтве. Нежывымі, не ў сэнсе мёртвымі, а проста ніякімі. І жыццёвы досвед толькі пацвярджаў гэты сумны факт. Нічога новага і цікавага не адбывалася: адны і тыя ж ідэі, адны і тыя ж прамовы, адна і тая ж музыка. Не дзіва, што старыя ідалы бязлітасна скідаліся, а новыя не з'яўляліся. І тым не менш, як вядома, быў бы куст, а варона знойдзецца…

Гадоў з дзесяць у маім плэеры заўжды знаходзіцца месца для рэп-гурта «25/17». Спачатку гэта былі асобныя трэкі, недзе выпадкова пачутыя і спампаваныя. А пасля іх альбома «Только для своих», які пабачыў свет у далёкім цяпер 2009 годзе, прыйшоў час і для ўсёй дыскаграфіі.

Яны, па праўдзе кажучы, адны з нямногіх, хто мне сапраўды цікавы такі працяглы час. У іх атрымліваецца сапраўды па-наватарску: рэперы, якія не косяць пад амерыканскіх калег, а спрабуюць рабіць нешта сваё, спавядаюць здаровыя каштоўнасці, да ўсяго яшчэ і дэкларуюць любоў да Радзімы. І не сталічныя, не з Масквы прыехалі — з Омска. Ёсць, відаць, нешта магічнае ў гэтым сібірскім горадзе — столькі з яго вядомых і неардынарных музыкаў выйшла…

Добра памятаю першыя мінскія канцэрты «25/17»: не асабліва шмат народу, публіка ў асноўным з каляфутбольнай тусоўкі, рэдкія дзяўчаты. Такая музыка ў нашым рэгіёне была сапраўднай навінкай, а на «раскачку» неабходны быў час. Ці варта казаць, што для Польшчы або Сербіі гэта звычайныя рэчы: падобных калектываў і выканаўцаў там як сабак. І, канешне ж, на ўсё гэта ёсць попыт: у кожнага свая аўдыторыя, для якой нават часам ствараюць цэлыя лінейкі адзення.

Але не гэтым адным палюбіліся хлопцы. Толькі ўзнёслымі словамі пра любоў да Радзімы сыты не

будзеш. Тут павінна быць нешта яшчэ. І яно ёсць — смеласць і свежы погляд на ўласную творчасць, нежаданне раўняцца на аўдыторыю. Прасцей кажучы, хлопцы, атрымаўшы папулярнасць не толькі ў Расіі, маглі б спакойненька сабе асядлаць патрыятычную хвалю ў рэпе і да канца дзён круціць адну пласцінку. Ахвотнікі паслухаць заўсёды знойдуцца.

Але гурт «25/17» не стаіць на месцы, займаецца творчымі пошукамі і з альбома ў альбом расце. Цягнучы за сабой слухачоў. У адным са сваіх трэкаў яны адзначаюць:

*Мы не ведём за собой, но точно знаем: есть путь.*
*И если ты вместе с нами, дойдем когда-нибудь.*

На канцэртах вельмі моцна мяняецца публіка. Прычым увесь час. Гэта добра відаць, асабліва калі ёсць з чым параўноўваць. Ад патрыятызму пераходзяць да вечных тэм: кахання, смерці, адзіноты. Ёсць над чым задумацца… На канцэртах павялічваецца колькасць дзяўчат. Некаторыя плачуць пад медлякі. Рамантыка.

Зрэшты, хлопцы і самі кажуць, што не баяцца ратацыі сярод фанаў. А творчыя пошукі прыводзяць іх у… рок. Самы сапраўдны цяжкі рок. Яны прымаюць смелае рашэнне не проста чытаць пад такую музыку, але і набраць музыкаў, якія будуць рабіць жывы гук. А гэта ўжо заявачка на сур'ёзны эксперымент. І зноў гурт жывей за ўсіх жывых: не толькі праз гук, але і праз жыццёвую энергію, якая б'е цераз край.




Памятаю, з якім хваляваннем ішоў у сталічны клуб RE:PUBLIC на іх чарговы канцэрт колькі гадоў таму. Атрымаецца? Не атрымаецца? Што з усяго гэтага выйдзе? Ці буду далей іх слухаць? Не менш цікава было глянуць і на рэакцыю іншых слухачоў: будуць і далей хадзіць ці «адваляцца», як часцяком бывае?

Прапускаючы дэталёвае апісанне таго, што тады адбывалася ў клубе, адзначу, што ўсё атрымалася. Прычым не проста ў якасці эксперымента: гучаць вельмі арганічна не толькі сумесныя песні з вядомымі рускімі рокерамі, але і ўласныя. І тут ужо не разумееш, ці то гэта рок-мастадонтаў навучылі чытаць рэп, ці то нашы героі спасціглі ўсе азы рокерскай справы. Да таго ж, што датычыцца мяне, тут усё комплексна, а некаторыя песні настолькі ўдалыя атрымаліся, што цяжка паверыць у тое, што выконваюць іх рэперы.

Асобна варта адзначыць тэксты гурта. Гэта не набор слоў, які зрыфмавалі для зручнай чыткі, напхаўшы ўсяго да кучы. Тэксты «25/17» — гэта самая сапраўдная паэзія ў яе класічным выглядзе. Дазволю сабе працытаваць рэфрэн з песні «Путник», якая доўгі час стаяла ў маім плэеры на рэпіце:

*Ночь темна, костры под запретом,*
*Зверь не спит, путник сбился с пути,*
*Самый темный час перед рассветом,*
*Если верить, то можно дойти.*

У красавіку хлопцы ўжо заехалі ў Мінск з новай «кампраміснай» праграмай «#ЖИВОЙ-НЕЖИВОЙ». Чаму кампраміснай? Ды ўсё проста: канцэрт складаўся з дзвюх частак. Спачатку традыцыйны рэп пад біты з дыджэеем NAVVY, а ў другой частцы ўжо звычны вуху жывы цяжкі гук. І трэк-ліст разлічаны на ўсіх: і тых, хто хоча паразважаць, і тых, каму ахвота паскакаць.

Асабіста мне хочацца верыць, што музыканты «25/17» яшчэ доўга будуць цешыць нас сваімі смелымі эксперыментамі з гукам, тэкстамі і ідэямі.



Дзмітрый Шулюк

## Чэсна-чэсна

Часам я, жартуючы, кажу: «Усё ўмею. Толькі хлусіць не ўмею». Чакаю ў адказ: «Хлусіш?» і падвожу вынік: «Вось бачыш: не ўмею».

У кожным жарце ёсць месца праўдзе. Ёсць і ў гэтым. Я не ўмею хлусіць. То бок, сказаць няпраўду ці паўпраўду ці змаўчаць я магу. Але задавальнення ад гэтага няма. Злы раблюся і на сябе, і на гэтых людзей, якія паверылі, і на тых, якія не паверылі, і на тых, якія ўвогуле быццам ні пры чым, але яны таксама кожны дзень дадаюць лыжку свайго падману ў мора ўсеагульнага. Злы ад таго, што гэтая з’ява існуе. Злы, бо сам даю ёй жыццё.

З творчасцю Джэфа Хілі я пазнаёміўся, калі зацікавіўся блюзам. Набыў дыск з тыповай назвай накшталт «100 лепшых блюз-кампазіцый». Паслухаў. Пачуў «While my guitar gently weeps». Уразіўся. Па-сапраўднаму. Быццам кроў мая сплярталася з гукамі гэтай музыкі і запаўняла сабой увесь свет. Быццам ніякай хлусні не існуе, не можа існаваць там, дзе ёсць месца такім цудам.

Але хлусня ёсць. І больш таго, я не бачу ні адной прыкметы, што яна знікне ў хуткім часе. Што яна самаліквідуецца ці памрэ ад старасці. Паглядзіце навокал. Хлусіць — нармальна. Усе ведаюць, што ўсе хлусяць і нічога не зменіцца. Хлусня прывіваецца ў дзіцячым узросце, а затым рэдка хто знаходзіць ад яе вакцыну.

Ці мэтанакіравана бацькі робяць дзяцей хлусамі? Вельмі хочацца сказаць «не». Але не бачу для гэтага падстаў. Няўжо ўсё гэта робіцца імі падсвядома? Выпадкова? Незаўважна для сябе? Няўжо гэта метадычнае ператварэнне чысціні ў бруд праходзіць патаемна для выканаўцаў? Немагчыма. Не веру. Хлусня!

Хлусня пачынаецца не з Дзеда Мароза. Хлусня пачынаецца з павуціння недаказанасцей. «Не гавары тату». «Не кажы маці». «Не расказвай бабулі». «Не паказвай дзеду». Гэтыя ліпкія тонкія ніткі, нібы пальцы вечнай параноі, хапаюць за плечы, лезуць у вушы, у вочы, у рот. Ты ўпершыню губляеш рэальнасць. Ты знаёмішся з гэтым светам. Светам, дзе трэба думаць, што казаць, каму казаць, дзе казаць, як казаць. Бабулі не казаць пра цукеркі ў шафе, тату не казаць, колькі каштуе вопратка, дзеду не казаць пра схаваную дзесьці глыбока бутэльку, маці лепш увогуле нічога не казаць…

Я ніколі не расказваў бацькам, што адбываецца ў школе. Бо яны самі прывучылі мяне да гэтай пастаянай недаказанасці. Прывучылі так, што і зараз з мяне гэта не выбіць. Толькі калі я сам буду біць і біць пальцамі па клавіятуры.

Аднойчы мне выпадкова разбілі нос. Насамрэч выпадкова. След мае месца і сёння. Як прыклад выпадковасці. Бацькі даведаліся толькі па кроплях крыві на кашулі і словах балбатлівай аднакласніцы. Бацькі даведаліся, і мне прыйшлося ўсё гэта яшчэ і самому паўтарыць-расказаць, шчыра. Разам са шчырасцю з вачэй беглі слёзы. Слёзы хлопчыка-першакласніка. Які яшчэ не навучыўся прымаць неабходнасць хлусні — часам адкрытай і нахабнай.

Джэф Хілі сляпы. Сляпы музыкант. У гэтым штосьці моцнае, сімвалічнае. Ён не бачыць свету вакол і таму стварае свой свет. Свет святла. Маляўнічы, цёплы, кранальны. Ён стварае тое жыццё, якім яно магло быць, павінна было быць. Жывым.

Шлях у царства хлусні шырокі. Ён складаецца не толькі з сакрэтаў, не толькі з павуціння далечыні блізкіх людзей. Ёсць яшчэ адна з'ява. Рэакцыя. Вельмі часта рэакцыя бацькоў не адпавядае віне дзіцяці (потым месца бацькоў займаюць іншыя людзі). Яны называюць гэта выхаваннем. Так, гэта выхаванне. Выхаванне ўмелага хлуса. Паверце, нашмат прасцей, атрымаўшы «двойку», не ставіць яе ў дзённік, а проста ў выніку за чвэрць выправіць на прымальную адзнаку. Ніхто ніколі не даведаецца пра нейкую бягучую «двойку». Яна нікому нічога не дасць. Акрамя дадатковага бессэнсоўнага ціску. Я заўжды хаваў свае «двойкі» і «тройкі», нават за чвэрць. За год іх усё роўна не заставалася. У атэстаце ўсё роўна сярэдні бал больш як «восем». Рэакцыя агрэсіўнага шкадавання ад маці і таты нічога б не дала. Нічога. Ні мне, ні ім. Але не ўсё так проста схаваць, як «двойкі».

Быў такі выпадак. Мы з сястрой зрабілі штосьці нядобрае. Ці недазволенае. Можа, вазон разбілі, а можа, татавы касеты бралі пагуляць (звычайна ён дазваляў). Здаецца, вінаваты быў адзін я, але не ў гэтым сутнасць. Нас паставілі трымаць адказ за «злачынства». Першае і галоўнае, што мы павінны былі зрабіць, — гэта прызнацца. А мы не прызнаваліся. Мы былі ўжо навучаныя вопытам. Стаялі, глядзелі і маўчалі. Бацькі злаваліся. Мы маўчалі. Толькі час ад часу казалі: «Не я». Акрамя нас не было каму, але нас гэта не цікавіла. Мы ведалі, што пакуль мы кажам: «Не я», гэта не мы. Перакінуць віну на другога, нават калі яна ўжо на ім, мы таксама не маглі. Гэта было несумленна. Сумленна было стаяць і маўчаць.

Памятаеце выпадак вышэй: са слязьмі і шчырасцю. Так атрымалася, што з той пары слёзы надоўга сталі маёй рэакцыяй на маю шчырасць. Любая правіннасць абмывалася слязьмі. Бацькі паверылі, што я інакш не ўмею. А я ўмеў. Бацькі паверылі, і калі мы з сястрой стаялі і маўчалі, убачылі, што я не плачу. Яны зрабілі вывад, што гэта доказ маёй невінаватасці. Насамрэч гэта быў доказ таго, што ніякай невінаватасці не засталося. Я мог хлусіць у вочы.

Блюз. Блюз — гэта адзінота, пустэча, смутак. Блюз — гэта шчырасць. Я так і не палюбіў блюз. Мне не хапае адных эмоцый, каб палюбіць. Магчыма, я памыляюся. Магчыма, я штосьці недагледзеў. Хутчэй за ўсё. Але мы заўжды штосьці не заўважаем. Мы прымаем рашэнні на падставе маленькіх кавалачкаў ад вялікай карціны, бо мы бачым толькі гэтыя кавалачкі. Мы бачым іх ізаляванымі ад усяго свету. Ад прычын і ад вынікаў.

Крама «Алмі». Я стаю ў чарзе. Крыху бліжэй да касы зусім маленькі хлопчык выпрошвае ў маці смачняшку.

— Ну, купі-купі, — канючыць ён. — Я больш не буду прасіць. Чэсна-чэсна.

Гэтае «чэсна-чэсна» разрывае галаву. Бо я пачынаю шукаць прычыны і вынікі. Адкуль з'яўляюцца гэтыя словы? Навошта бацькі ствараюць гэты дзіцячы рытуал і падтрымліваюць яго? Гэтыя мярзотныя словы сведчаць, што без іх усё далёка не «чэсна-чэсна». Сведчаць пра тое, што за імі пойдуць розныя «абяцаю» і «клянуся», без якіх усё стане бязважкім. А пасля шматразовых прымусаў абяцаць, клясціся, казаць «чэсна-чэсна» і гэтыя словы страцяць сваё значэнне. З'явяцца «я не абяцаў», «на гэты раз чэсна», «ты ж ведаеш: я звычайна выконваю, калі абяцаю», «я клянуся, што мяне там не было, гэта быў не я…»

Нядаўна даведаўся, што «While my guitar gently weeps» — песня гурта «The Beatles», сляпы музыкант яе не пісаў.

Гэты тэкст не ўтрымлівае ні слова хлусні. Усё, што я мог сказаць, я сказаў. Я не прыхаваў нічога, што магло быць у гэтым тэксце. Ні адну думку, ні адно меркаванне я не падаў двухсэнсоўна. Я па-ранейшаму ўмею ўсё, але не ўмею хлусіць. Чэсна-чэсна.

*Джэф Хілі (Jeff Healey) — адзін з найвялікшых гітарыстаў у гісторыі. Страціў зрок у восем гадоў з прычыны рэдкага захворвання. Аднак гэта не стала непераадольнай перашкодай. Джэф у дасканаласці авалодаў гітарай. І фактычна нанова стварыў тэпінг. Тэпінг — тэхніка ігры, падчас якой гук здабываецца лёгкімі ударамі па струнах паміж ладоў на грыфе. Адна з тых тэхнік, якія лепш убачыць ужывую, каб сапраўды адчуць цуд чалавечых магчымасцей.*



**Анхела Эспіноса Руіз**

# Маленькі прынц

Ёсць кнігі, якія можна прачытаць адзін раз. Толькі адзін раз, і толькі на пэўным этапе свайго літаратурнага развіцця. Ёсць кнігі, якія перачытаць другі раз не пашкодзіць, але пасля таго, як мы забудзем гісторыю амаль цалкам. Ёсць кнігі, якія варта чытаць па частках, звяртацца да тых старонак, якія напісаны для нас менавіта сёння. Ёсць кнігі, якія добра выглядаюць на паліцах, дзе чакаюць сваіх чытачоў. Ёсць кнігі, якія перадаюцца з пакалення ў пакаленне. Ёсць, зразумела, кнігі, якія застаюцца недачытанымі (ёсць і калонкі для часопіса «Маладосць», якія застануцца недапісанымі, калі будзем працягваць пісаць такі доўгі ўступ). Мяркую, у жыцці кожнага жарстнага чытача ёсць затое адна кніжка, якая пасяляецца назаўжды ў сэрцы, і да якой чытач вяртаецца ў найшчаслівейшыя і найцяжэйшыя моманты свайго існавання. У маім выпадку гэтая кніга — «Маленькі прынц» Экзюперы.

У маленстве я была сапраўдным кніжным чарвяком (не магу сказаць, што ўжо стала кніжным матыльком, але я ў працэсе). Пачала чытаць кнігі самастойна, калі мне было тры гады, і мае вочкі хутка пажыралі ўсё, на чым былі надрукаваны літары. Мне было сем гадоў, калі бацька дастаў свой асобнік «Маленькага прынца», які яму падарыў хросны бацька ў дзяцінстве. З просьбай быць асцярожнай і берагчы яго ўлюбёную кніжку ён адправіў мяне на канапу чытаць і вярнуўся да сваіх дакументаў. Яго рашэнне вызначыла далейшы накірунак майго лёсу.

Пры першым чытанні «Маленькага прынца» мне былі цікавыя прыгоды тытулярнага героя: куды вандраваў, з кім знаёміўся, што з ім здаралася. Было весела чытаць яго нестандартныя пытанні і просьбы, пра жывёл і кветкі, якія ўмелі гаварыць і мелі каляровы і моцны характар. З таго часу я перачытвала гэтую аповесць ледзь не раз у год. У раннія падлеткавыя гады «Маленькі прынц» гаварыў мне пра высокую каштоўнасць сяброўства (ідэал, у які дагэтуль веру без ваганняў); у пазнейшыя гады я чытала ў ім пра крывадушнасць і непаслядоўнасць, якія, на вялікі жаль, часта з'яўляюцца часткай чалавечай натуры. У мяне былі — і ёсць — сябры з розных краін свету, з якімі я магла не бачыцца цягам месяцаў альбо гадоў. «Маленькі прынц» нагадваў пра каштоўнасць блізкіх стасункаў з людзьмі: кожны прыяцель — гэта адказнасць, і мы мусім цярпець такія перыяды адлегласці (геаграфічнай ці духоўнай) у абмен на светлыя ўспаміны і сяброўскае плячо. Сапраўдную цану сяброўства я зразумела толькі пасля свайго васямнаццатага дня нараджэння, калі адзін з маіх самых блізкіх людзей пакінуў гэты свет. Не, вядома, я перажыла ўжо смерць дзядулі, але ён быў старэнькім, хворым пенсіянерам, які пайшоў з жыцця ў сне і ўжо некалькі гадоў не пакутуе. Сябар жа памёр гвалтоўнай смерцю ў чужым краі ды ў маім узросце. Толькі тады адкрылася для мяне ўся трагічнасць «Маленькага прынца». Не на свядомым узроўні (я даўно разумела, што да чаго ў нарацыі), а менавіта нажом у сэрца. Я любіла свайго сябра, чакала моманту, калі пабачу яго яшчэ раз. Але момант не прыйдзе, сябар больш не ўсміхнецца мне, не дапаможа больш, ніколі мы больш не пагаворым. Усё ж я не шкадую таго, што перажылі разам. Вось яна — цана сяброўства. Цяпер застаецца толькі святло ўсіх зорак на небе. Застаецца няпэўнасць у тым, на якой з іх знаходзіцца дух майго сябра. Застаецца звонкі,

далёкі смех зорак у надбыцці. Я не магла вярнуцца да ўлюбёнай кнігі крыху больш як два гады.

Гаворыць «Маленькі прынц» і пра каханне. Я позна заквітнела ў гэтай галіне мастацтва, бо ўспрымала яе сур'ёзна. За ўсё жыццё я кахала, можа, тры разы. І толькі раз адносна паспяхова. Кожны раз, калі разбівалася маё сэрца, гэта нагадвала мне ружу, якая нічым не адрозніваецца ад іншых, калі паглядзець на яе простым вокам. Каханне таксама мае сваю цэну, аднак я часам сумняваюся, ці змагу заплаціць яе цалкам.

Я паспела прачытаць «Маленкага прынца» на розных мовах. Першаю, як здагадваецеся, была іспанская. Калі я атрымала стыпендыю і збіралася з'ездзіць на лета ў ЗША, настаўніца французскай мовы падарыла мне кнігу ў арыгінале, бо я з захапленнем гаварыла пра яе на лекцыях. Там, у Амерыцы, я атрымала і англамоўную версію. Да іх хутка дадалося рускае выданне (падарыў мой сябар з Варонежа, калі прыязджаў да мяне ўлетку ў Малагу, перад маім паступленнем ва ўніверсітэт). Універсітэцкія сябры, у сваю чаргу, падарылі мне польскі пераклад з усімі сваімі подпісамі. Са сваёй найлепшай сяброўкай я вандравала і па паўночнай Італіі, і мы набылі яшчэ адзін асобнік у Вічэнцы. Цяпер тая сяброўка жыве ў Японіі і ўжо абяцала прывезці мне тамтэйшы пераклад, калі заплануе наступны еўрапейскі візіт. А ведаеце? Кожная кніга змяшчае сваю інтэрпрэтацыю мудрасці Экзюперы: перакладчыкі паспрабавалі перадаць усе сэнсы словамі сваіх моў. Гэта і жудасна, і цудоўна: нешта губляецца, нешта хаваецца глыбей; а іншае знаходзіцца ў доўгіх пошуках, альбо ўзнікае зусім новая ідэя з небыцця. Падобная сітуацыя з Дон Кіхотам Сервантэса, дарэчы. Лічыцца, што пераклады «старэюць». Таму іх пастаянна абнаўляюць, каб тэкст быў даступным сучасным чытачам таго ці іншага перакладчыка (ці мне адной падаецца прыгожай і страшнай думка пра тое, што цяперашні час мінае?). Сервантэс не аднаўляе свой тэкст, і таму мала хто з іспанцаў пераадолеў чытанне класічнага мастадонта з архаічнай граматыкай і таямнічай лексікай. Я так разумею, у Беларусі Дон Кіхота чытаюць школьнікі.

Напэўна, вам хочацца спытаць: «Анхелачка, што за тэкст пра французскую літаратуру? Ты ж абяцала, што напішаш пра футбол!». І я, безумоўна, напішу. У наступным нумары (калонка ўжо напалову гатовая, чакаю каментар аднаго важнага чалавека). А тэкст гэты... Я не магла не напісаць. Як заўжды, калі наступае цяжкая хвіліна, я вяртаюся да «Маленькага прынца». Часам ён выклікае ў мяне боль, але адначасова ён заўжды і суцяшае мяне. І гэтым разам я звярнула ўвагу на адну дэталь, якая заўжды падабалася, але якую я не інтэрпрэтавала з заплюшчанымі вачыма да сёння — прысвячэнне.

Усе, хто чытаў шэдэўр Экзюперы, ведаюць, што аповесць пачынаецца з прысвячэння Леону Верту. Верт быў найлепшым сябрам аўтара, хаця і на дваццаць гадоў старэйшы за яго, і пісаў (бо, вядома ж, таксама быў пісьменнікам) зусім у іншым стылі. Для тых, хто не чытаў, прысвячэнне гучыць прыкладна так (у перакладзе Ніны Мацяш):

*ЛЕОНУ ВЕРТУ*

*Шчыра перапрашаю дзяцей за тое, што я прысвяціў гэтую кніжку даросламу. Скажу ў апраўданне: гэты дарослы — мой лепшы сябар. І яшчэ: ён разумее ўсё на свеце, нават дзіцячыя кнігі. І нарэшце: ён жыве ў Францыі, дзе цяпер і галадна, і холадна. І яму вельмі патрэбна суцяшэнне. Калі ж ўсё гэта не апраўдвае мяне, я прысвячу сваю кніжку таму хлопчыку, якім некалі быў мой дарослы сябар. Усе ж дарослыя былі спачатку дзецьмі. Праўда, мала хто з іх памятае пра гэта... То я выпраўляю сваё прысвячэнне:*

*ЛЕОНУ ВЕРТУ, калі ён быў маленькім*

Пры апошнім чытанні «Маленькага прынца» я адчула тое, што, верагодна, адчуваў Антуан дэ Сэнт-Экзюперы, калі пісаў гэта прысвячэнне. У мяне таксама ёсць сябар, які трапіў нядаўна ў бяду. Яго завуць Арцём, ён знаходзіцца ў чужым горадзе, у месцы, дзе мала ежы і святла ды і спіцца дрэнна. Ён зусім самотны, не мае ніводнай кнігі з сабой. Арцёму патрэбныя падтрымка і любоў. Ён, як і Леон Верт, разумее ўсё, нават мае калонкі ў «Маладосці». Душа яго чыстая, як у дзіцяці.

Таму хачу закончыць гэты тэкст так, як Экзюперы:

*Прысвячаецца Арцёму, калі ён быў маленькі, сёння і заўтра.*

Паведаміце мне, калі ласка, калі ўбачыце яго дзе-небудзь. Не пакідайце мяне такой сумнай.

Ноч. Ноч. Ноч. Спявае колерамі зацвярдзелага дажджу і гукамі паўночных ззянняў. Прывітанне, мой цяжарны сябар. Мой вечнацяжарны сябар. Як хваінка. Толькі яна вечназялёная, а ты вечнацяжарны. Сёння мы накіруемся на плошчу Якуба Коласа. І не мае значэння, што ў гэтым месяцы дзень нараджэння яго падручнікаўскага сіямскага блізняці Янкі Купалы. Проста там каменны, і на камені сядзіць цудоўны хлопчык Сымон.

Ноч. Ноч. Ноч. Маленькі хлопчык крочыць праз ноч. Новы Сымонка начных гарадскіх вуліц і завулкаў, кутоў і закуткаў, простых і складаных выбараў. Маленькі хлопчык — мая маленькая ахвяра. Я марны прарок мары. Дбайны прарок храмаў. Вечны камок драмы. Я апускаюся амаль на галаву новаму Сымонку сённяшняга сёння. Я ўяўляю яго чыстыя брудныя светлыя цёмныя валасы. Уяўляю ціхія гучныя сухія салёныя гукі. Ціхія чыстыя сухія цёмныя рукі. Іх рухі. Я ўяўляю. А што ён тут ходзіць адзін? Адзінота — удзел герояў. Я той герой, які патрэбны гэтаму гораду. Я пакіну ўяўнае ва ўяўленні, бо яму там месца. Няхай ляжыць там разам са смыком з рук Сымона-псеўдамузыкі. Які ж ён музыка, як ён будзе граць зоркам на скрыпцы без смыка? Як ён будзе граць сотням соцень людзей, якія ў снах бачаць, што таксама напішуць пра яго паэму? Пакінуць усё тое ж, каб не псаваць класіка, толькі імя зменяць. Назавуць «Данон-музыка», ці «Аканом-музыка», ці «Пад акном музыка», а найлепш — «Канон-музыка».

Шмат міфаў і легенд існуе на аснове аднаго чалавечага абавязку. Калі хочаш ісці наперад, не трэба аглядвацца. Бо станеш саляным слупом ці каменем, ці назаўжды застанешся ў падземным царстве. Арфей не стаў каменем. А Сымон? Сымон, глядзі на мяне! На Арфея тваіх часоў. Я спяваю песню без слоў. Без вобразаў. Без мілага краю. Без роднага кута. Я спяваю песню лагоднаму цмоку гарадскіх вятроў. Я спяваю песню пра адзін маленькі крок наперад.

Я ўжо сказаў, што ў мяне няма такіх цудоўных ног, як у вас. У мяне няма такога мінулага, як у вас. Якое можна павесіць у драўляных рамах пад шкло на сцены. У мяне няма вашага гонару. Вы ганарыцеся тым, што стаіце слупамі каля каменнага хлопчыка Сымонкі, у якога нават смыка няма. Сымонкі, які пасля стаў Салаўём, але салавей — гэта дзённы фігляр. Гэты шэры ілюзіяніст. Гэта толькі гукі. А калі рукі пацягнуліся да сякеры, то ваш Сымон паглядзеў на сваё раскіданае гняздо і застаўся стаяць жонкай Лота Эўрыдыкай.

Свежае паветра з'яўляецца, калі ляцець наперад. Свежае паветра з'яўляецца, калі ляцець наперад. Свежае паветра з'яўляецца, калі ляцець наперад. Дайце гэтаму хлопчыку сякеру. Дайце яму сякеру. Ён не пойдзе ў гандлёвы цэнтр, ён усё роўна каменны. Але лепш камень са скрыпкай і сякерай, чым са скрыпкай і без смыка. Лепш з мовай, чым без языка. Лепш сёння, чым некалі-ніколі. Свежае паветра з'яўляецца.

Ой, кажане, кажане!
Чаму ж ня сеў ты на мяне?
Каб я больш не падрос
Ды ад бацькавых калёс.

Сяду, хлопча, сяду. Не пераймайся. ■

## Канон-музыка





**Святлана Курганава**

# Смак жыцця

У гэтым нумары гаворыцца пра рух гістарычнай рэканструкцыі. Што гэта?

*Гістарычная рэканструкцыя* — гэта аднаўленне матэрыяльнай і духоўнай культуры пэўнай эпохі пэўнага месца. Для гэтага выкарыстоўваюцца археалагічныя знаходкі, выяўленча-мастацкія, пісьмовыя крыніцы.

Гістарычная рэканструкцыя — гэта з'ява, якая стаіць на скрыжаванні некалькіх навук: культуралогіі, гісторыі, археалогіі і сацыялогіі.

Гістарычная рэканструкцыя — гэта і спорт, і рамяство, і мастацтва, і… гульня.

## Напрамкі ГР

***Жывая гісторыя*, або *living history*** — гэта максімальна поўнае і дакладнае ўзнаўленне ладу жыцця людзей пэўнага адрэзку часу. Што з гэтага атрымліваецца, можна ўбачыць, зазірнуўшы ў лагер на фестывалі або ў «жывы» музей — цэлую вёску, горад, якія жывуць па законах абранай эпохі.

З асабістага вопыту: паглядзеўшы на абутак, можна зразумець, наколькі сур'ёзна рэканструктар ставіцца да таго, што ён робіць. Вобраз — гэта дэталі. Менавіта дэталі — сучасны абутак, завушніцы, гадзіннікі — часцяком рушаць увесь адноўлены вобраз.

***Ваенна-гістарычная рэканструкцыя*** — гэта адраджэнне культурна-гістарычнай традыцыі мінулага, дзе асаблівая ўвага надаецца рэканструкцыі зброі, даспехаў, баявых тэхнік. Убачыць такую рэканструкцыю можна на турнірах і масавых палявых бойках — *бугуртах*.

А яшчэ ў клубах гістарычнай рэканструкцыі могуць займацца танцамі, музыкай.

У ГР кажуць «рэканструкцыя музыкі». Але гэта слэнг рэканструктараў, які мае на ўвазе *расшыфроўку* старажытных крыніц (музычны запіс тады значна адрозніваўся), аднаўленне і выкананне такой музыкі.

## З'яўленне ГР у Беларусі

Клубы ГР пачалі з'яўляцца ў Беларусі ў сярэдзіне 1990-х. Гэты час быў росквітам гістарычнай рэканструкцыі ў краіне. Цяпер колькасць клубаў зменшылася, стала меней ахвотнікаў, затое тыя, хто застаўся, — сапраўдныя майстры.

Першы беларускі рэканструктарскіх клуб — *«Ордэн Паўночнага храма»*. Ён узнік у Мінску ў 1994 годзе. Аднаўляе ваенную структуру, узбраенне і рыштунак ордэна Бедных Рыцараў Храма Саламона (Тампліераў) перыяду XII — XIII стагоддзяў.

## Значэнне

ГР дазваляе на практыцы давесці ці абвергнуць навуковыя дапушчэнні, тэорыі і дапамагае запоўніць некаторыя прабелы ў гістарычных падзеях.

ГР — добрая рэч для развіцця турызму. І замежным гасцям, і самім беларусам цікава паглядзець, што было легендарнага ў нашай гісторыі. І гэта цесна звязана яшчэ з адным момантам.

Быў час, калі гісторыя Беларусі ў школе распавядалася за 1—2 ўрокі. Абрэвіятура ВКЛ заставалася незразумелай. І што тады рабілі рэканструктарскія клубы? Яны падымалі веды з архіваў, з кніг і паказвалі іх наяве, дазваляючы дакрануцца да гісторыі і пабачыць даўніну на свае вочы.

ГР — гэта культурна-асветніцкая дзейнасць. Рэканструктары перадаюць гледачу інфармацыю, якую той павінен зразумець і асэнсаваць. Рэканструктары пераапранаюцца, заглыбляцца ў той лад жыцця і такім чынам наладжваюць сувязь з мінулым. Усе тыя матэрыялы, якія ім даводзіцца чытаць і глядзець для аднаўлення сваёй эпохі, узбагачаюць іх саміх.

А самае простае і самае зразумелае, што дае ГР, — адпачынак: для гледача гэта яркае, незабыўнае відовішча, а для рэканструктара — любімая справа.

ГР можа стаць аднаразовай забаўкай, а можа зрабіцца часткаю вас. Гэта адпачынак, хобі, праца, і — лад жыцця. *Смак жыцця.*

Пакаштуйце ж гісторыю.

# Месца, дзе жывуць вужы… і рыцары

**Рэканструктары — гэта людзі, якія прыязджаюць на фестывалі, удзельнічаюць у гарадскіх святах… а што потым? Чым жывуць гэтыя людзі, што яны робяць, калі мерапрыемства закончылася, а гледачы раз'ехаліся? Гэтыя людзі едуць дадому, потым ідуць на працу, а пасля збіраюцца ў сваім клубе.**
**Пра тое, чым жыве клуб гістарычнай рэканструкцыі, Святлане Курганавай распавёў кіраўнік клуба «Гівойт» Уладзімір Лічко. А фотаздымак да матэрыялу прадаставіла Вольга Мілаванава.**



— Як вядома, гістарычная рэканструкцыя мае некалькі накірункаў. Мы займаемся абодвума. Першы — «living history» — поўнае аднаўленне гістарычнай эпохі: побыту, культуры, строяў, танцаў. Другі — ваенна-спартыўная рэканструкцыя, гістарычны сярэдневяковы бой (ГСБ). Тут хлопцы не гоняцца за поўнай дакладнасцю гістарычных элементаў і матэрыялаў: акрамя стандартнай сталі для вырабу даспехаў дазволена выкарыстоўваць часткова матэрыялы, якія раней не існавалі, — тытанавыя элементы, сінтэтычную нітку — для большай надзейнасці і зніжэння вагі даспеха. Гэты напрамак знаходзіцца на мяжы гістарычнай рэканструкцыі і спорту. У ім задзейнічаны ў асноўным мужчыны, але існуе і жаночае гістарычнае фехтаванне. Каб займацца ім, трэба прыкласці шмат намаганняў: і трэніроўкі павінны мець рэгулярнасць, і выраб элементаў досыць працаёмкі і нятанны. У нашым клубе можна займацца яшчэ і стральбой з лука. У дадатак мы перыядычна дыскутуем на гістарычныя тэмы — як звязаныя з Сярэднявеччам, так і не звязаныя, але стараемся трымацца ў рамках канкрэтнага перыяду. Часам на сходах праглядаем гістарычныя фільмы, у тым ліку і дакументальныя. Ды і самі ў здымках удзельнічаем: нас час ад часу запрашаюць у розныя гістарычныя (як расійскія, так і беларускія) праекты. Нашых рыцараў увогуле можна шмат дзе пабачыць. Яны прымалі ўдзел у здымках фільмаў «Ход каралевы: Соф'я Гальшанская», «Торвальд-падарожнік», «Выкрасці Бельмандо», «Раскол: трагедыя стагоддзя». Мы здымаліся ў некаторых роліках для камп'ютарных гульняў. Маем цяпер доўгатэрміновае партнёрства з камандай, якая здымае «Неруш», задзейнічаны ў многіх сцэнах, звязаных з гісторыяй Беларусі. Сярод іншых заняткаў — выезд на фестывалі, удзел у дабрачынных акцыях і экскурсіях.

**— Як распаўсюджваюцца веды, і чаму ў рэканструктарскім асяроддзі наогул прынята дзяліцца?**

— Усе выступаюць за максімальнае павышэнне ўзроўню гістарычнай рэканструкцыі ў свеце — і еўрапейцы, і мы, і амерыканцы. Усе проста ствараюць тэматычныя супольнасці ў сацыяльных сетках і сайты, дзе заўсёды можна задаць пытан-



не. Напрыклад, ты шукаеш выкрайку італьянскай торбы XV стагоддзя. Ты шукаеш крыніцы, задаеш пытанне, як правільна раскроіць, якое шво выкарыстаць, — і заўсёды знойдуцца жадаючыя дапамагчы. Няма такога, каб нехта хаваў свае тэхналогіі і крыніцы. Калі ў кагосьці з'яўляецца магчымасць выехаць у еўрапейскі музей, сфатаграфаваць даспехі з розных ракурсаў, то фота потым абавязкова выкладаецца ў вольны доступ. Абмен ведамі павышае агульны ўзровень. Нікому ж не цікава хадзіць у «вёдрах» і прыдуманых рэчах. Усім трэба, каб тыя, хто з табой займаецца гістарычнай рэканструкцыяй, былі прыстойна апранутыя, сапраўды адпавядалі сваёй эпосе. Дзяліцца зручна і праз клуб.

**— А як узнік ваш клуб?**

— У дзяцінстве шмат хто — і я ў тым ліку — меў рамантычнае ўяўленне пра рыцараў і эпоху Сярэднявечча. Усе чыталі кнігі на гістарычныя тэмы. Я зацікавіўся гісторыяй, напэўна, у 7—8 гадоў. Чытаў кнігі, браў удзел у алімпіядах па гісторыі. Паступіў на гістарычны факультэт БДУ і тады хацеў пайсці ў рыцарскі клуб, каб займацца гістарычнай рэканструкцыяй. Але так здарылася, што мы з таварышам прынялі рашэнне заснаваць свой клуб, а не ісці ў нейкі іншы. Гэта быў 2008 год, я тады вучыўся на трэцім курсе.

**— А як з'явілася назва клуба?**

— Тады мы хацелі знайсці назву, звязаную з часткай зямлі. Нас усіх цікавілі балты і іх узаемадзеянне са славянамі. На паўночным захадзе Беларусі і частцы сучаснай Літвы — гістарычнай Аўкштайтыі — шанавалі вужоў і ім пакланяліся. У гістарычных тэкстах вужоў называюць «гівойты», яны ж з'яўляюцца ў тэкстах пісьменнікаў-класікаў. У гэтым рэгіёне і цяпер можна сустрэць выявы і скульптуры з вужамі — адгалоскі старажытнай язычніцкай культуры. Нават у сучасных гандлёвых цэнтрах у Вісагінасе можна ўбачыць скульптуры са змеямі. Іх называюць альбо «гівойт», альбо «Жальгіун-Каралюс», або Кароль вужоў.

**— Хто тыя людзі, што прыходзяць да вас?**

Месца, дзе жывуць вужы… і рыцары

*У 2016 годзе на чэмпіянаце свету па ГСБ «Бітва Нацый» чацвёра байцоў з клуба «Гівойт» удзельнічала ў бугурце (21 на 21) ад Беларусі. Каманда заняла трэцяе месца.*

— У нас вельмі розныя ўдзельнікі, і прыходзілі яны па-рознаму. Напрыклад, многа праграмістаў, якія хочуць займацца чымсьці акрамя асноўнай дзейнасці. Шмат студэнтаў абсалютна розных накірункаў: бухгалтары, эканамісты, філолагі. Ёсць рабочыя — кавалі, напрыклад. Ёсць спартсмен: яму захацелася змяніць род дзейнасці ў сувязі з траўмай.

**— Ваш клуб адрозніваецца дэмакратычнасцю. Але ў чым яна праяўляецца?**

— Раней усе клубы абавязкова мелі статут і строгую іерархію. «Ордэн Паўночнага храма», напрыклад, такую: магістр, камандор, неафіты. Мы адразу вырашылі адысці ад гэтага. У нас ёсць кіраўнік клуба і астатнія яго ўдзельнікі. Важныя рашэнні прымаем калегіяльна. Нават калі чалавек прыйшоў у клуб не так даўно, але актыўна ўдзельнічае ў жыцці клуба, мы прыслухоўваемся да яго меркавання. Хто шмат зрабіў для клуба, той і ўплывае на агульныя рашэнні. Так мы і развіваемся.

**— Вашых рыцараў можна пабачыць не толькі ў фільмах, але і амаль на адлегласці выцягнутай рукі — на фэстах і гарадскіх імпрэзах. Патлумачце, як вы арганізоўваеце бойкі?**

— Так, цяпер у Мінску каля ратушы пастаянна праходзяць пастановачныя баі. Але каб зрабіць пастановачны бой відовішчным, трэба, каб удары былі рэальныя і ўсё адбывалася па-сапраўднаму. Многія даспехі пасля гэтага гнуцца, мячы ламаюцца. Баі імкнёмся ладзіць хутка і эфектна. У рэальным баі, калі мэта — перамагчы суперніка — усё больш жорстка: выкарыстоўваюцца алебарды, сякеры. Але ў нас задача іншая: паказаць турнір, апісаць пэўныя гістарычныя падзеі. Таму мы выкарыстоўваем так званую «белую зброю» — мячы. Ну, і стараемся добра апранацца ў даспехі. Самі зброю не вырабляем. За многія гады з'явіліся майстэрні з кавалямі, якія робяць зброю, даспехі, строі. Нейкія рэчы — шчыты, простыя рандэлі[1] для даспехаў, лускаватыя спадніцы — мы можам зрабіць самастойна, нескладаны рамонт таксама выконваем самі. Але для некаторых, да прыкладу, шлемаў патрэбна добрае тэхнічнае абсталяванне. У цэнтрах дадатковай адукацыі, дзе знаходзяцца многія клубы гістарычнай рэканструкцыі, ты не можаш паставіць балон з газам, каб грэць метал і надаваць яму неабходную форму. Нам прасцей некаторыя рэчы набыць.

**— А ў якіх фестывалях вы ўдзельнічаеце?**

— І ў беларускіх фэстах, і ў замежных. І ўжо трэці год ладзім свой фестываль каля Мінска — «Эпоха рыцарства». Прымалі ўдзел у фестывалі ў Вілейцы — «Гонару продкаў», таксама ў Мсціславе, Гальшанах і іншых месцах. Нашы байцы ўжо шмат гадоў ездзяць на чэмпіянат свету па гістарычным сярэдневяковым баі — «Бітва нацый». Сёлета яна пройдзе ў Барселоне.

**— Чаму з'явілася такое жаданне — стварыць свой фэст?**

— У Беларусі не так шмат фэстаў, таму нядрэнна, калі нейкі з клубаў праводзіць свой. Большасць мерапрыемстваў, дзе можна сустрэць рэканструктараў, — гэта не фестывалі гістарычнай рэканструкцыі, а гарадскія мерапрыемствы, якія рыхтуюцца да юбілеяў населеных пунктаў. У Беларусі ўсе гарады даволі старыя, і да такіх мерапрыемстваў часта прыцягваюць рэканструктарскія клубы. Гарадская адміністрацыя, такім чынам, ладзіць фестываль. Мы ж стараемся ладзіць свой фестываль — як штогадовы, каб людзі чакалі, што яны прыйдуць сюды адпачыць, паказаць дзецям рамантычную эпоху Сярэднявечча, а рэканструктары, у сваю чаргу, каб чакалі, што прыедуць паўдзельнічаць у турнірах, бугуртах, лучных турнірах.

**— Для Вас гэта ўсё — прафесія ці хобі?**

— Хобі, вядома. Але я гатовы — і хачу — аддаваць яму час.

[1]Рандэль — дыск, які замацоўваецца на латныя наплечнікі і затуляе падпаху спераду.

**Гэты чалавек дае нам падставы ганарыцца месцам, дзе мы жывём, працуем і ходзім штодня. Святлана Курганава паразмаўляла з Ігарам Усенка — рыцарам, гісторыкам і выкладчыкам — пра тое, што ёсць…**



## Рыцарства сёння

**— …пры нашай першай сустрэчы вы назваліся Франсуа дэ Манфор, ці не так?**

— Як толькі ўваходзіш у рэканструктарскі рух, абіраеш сабе нейкае імя. І тут усё залежыць ад таго, які герой на цябе больш паўплываў. Але чаму я — Франсуа дэ Манфор? Дэ Манфоры самі па сабе пакінулі глыбокі след у французскай, англійскай і нават рускай гісторыі. Нашчадак адной са збяднелых манфораўскіх ліній быў у Пушкіна гувернёрам. Ён у сшытку маленькага Аляксандра намаляваў свой герб: леапард, які стаіць на дзвюх лапах, на чырвоным фоне. І напісаў дэвіз: «Спачатку гонар, а потым шчасце». І вось гэтым дэвізам Пушкін кіраваўся ўсё сваё жыццё.

І мне гэта блізка. Уяўленне пра тое, якім павінен быць рыцар, засталося ад кніг Вальтэра Скота, Дзюма, Караткевіча. Нашы рыцары гэта ўвасобілі ў сабе: мы так жывём, мы так думаем, мы так дзейнічаем, мы так ставімся адно да аднаго.

**— Як вас зацягнула ў рэканструктарскі рух?**

— У гэтым руху я ўжо шмат гадоў. З 1990-х, калі ў нас з’явіліся першыя рэканструктары, я запрашаў «Ордэн паўночнага храма» на мерапрыемствы як рэжысёр. Я з імі працаваў па ўсёй краіне: мы арганізоўвалі і святы розных гарадоў, і Свята беларускага пісьменства. Потым ў мяне з’явіліся сябры ў гэтым асяроддзі... У 2002 годзе ўжо збіраў касцюм і зброю.

**— Вы — рыцар. Як чалавек, што прыходзіць у рэканструкцыю, атрымлівае гэта званне? І ці атрымлівае ўвогуле?**

— Спачатку адпрацоўваеш сваё імя, паказваеш сябе. І пачынаецца ўсё з цяжкай працы: над сабой, сваёй вопраткай, зброяй, арганізацыяй мерапрыемстваў. Да права называцца рыцарам трэба дайсці.

Прасякнуцца духам рыцарства мне дапамаглі сябры. Пасвячэнне праводзіў Міхаіл Мілаванаў, які высокімі асабістымі якасцямі, без перабольшвання гераічным ладам жыцця, высакароднымі паводзінамі і нястрымнай энергіяй з’яўляецца прыкладам стаўлення да любой справы і, карыстаючыся сваім аўтарытэтам, натхняе ўсіх нашых рэканструктараў. Зараз Міхаіл — дэпутат Палаты прадстаўнікоў Нацыянальнага сходу. На маю думку, гэта не выпадкова: яго сапраўды рыцарскі светапогляд дапаможа яму ў вырашэнні дзяржаўных пытанняў.

Мы паказваем сябе на фэстах. Не ведаю, як у іншых клубах, але ведаю, як у нас. Сам прайшоў рыцарскае пасвячэнне ў гістарычным месцы — у Ракаўскім храме. У мяне праводзілася ўрачыстая цырымонія ў праваслаўным храме, у майго сябра ў той жа дзень — у каталіцкім. На леташнім фэсте «Наш Грунвальд» у Дудутках месір Эверар пасвяціў свайго збраяносца Андрэ ў рыцары пасля коннага турніру. Андрэ пры гэтым прайшоў праз вялікую колькасць выпрабаванняў: акрамя жорсткіх вайсковых практыкаванняў, атрымаў прамы ўдар кап’ём у грудзі — нават страціў прытомнасць на паўгадзіны. Пасля турніру і пастраення рыцараў, кранальнай цырымоніі, адбылося галоўнае — ускладанне рэгалій. А гэта, уласна, атрыманне рыцарскага ланцуга, мяча і шпор.

**— Рэканструкцыяй якіх эпох вы займаецеся?**

— У першую чаргу, Сярэднявечча — адтуль усё пачалося. Таксама па Першай сусветнай — як казак, па напалеоніцы — як улан, па Другой сусветнай — як пехацінец. Такая разнастайнасць дыктуецца самім жыццём. З аднаго боку, мне цікава і там, і там, бо па адукацыі я гісторык. З другога боку, трэба падтрымліваць пэўны ўзровень падрыхтоўкі. Калі ты не ў форме, то ў цябе нічога не атрымаецца. На цябе павінны рэагаваць пэўным чынам і рэканструктары, і гледачы. Немагчыма ў звычайнай вопратцы даваць вайсковыя каманды і нешта абгрунтавана распавядаць.

**— Як вы самі можаце назваць тое, што робіце?**

— Наш жанр — хэпэнінг: дзея на імправізаванай аснове з актыўным удзелам аўдыторыі, накіраваная на сціранне меж паміж мастацтвам і жыццём. Мы не тэатралы і працуем без рэпетыцый. Ніхто з рэканструктараў не чакае апладысментаў. Яны проста дэманструюць сваё ўяўленне пра гістарычны перыяд, дэманструюць самі сябе, той вобраз мінулага, што выклікае ў іх найбольшую цікавасць. І няма ў іх сцэнарыя — яны не граюць ролю, яны сапраўдныя. Напрыклад, прыходзіў трэцяга сакавіка хлопец, апрануты Усяславам Чарадзеем, — даспехі ненатуральныя, барада наклеена, грым. Для











рэканструктара гэта выглядала: клоўн завітаў. Калі ты рэканструктар, то барада павінна быць натуральная, касцюм — дакладна адпрацаваны, зброя — сапраўдная. Тканіна, колеры, крой — усё, як было тады. Хлопцы, якія ладзяць бойкі, і б'юцца па-сапраўднаму — па гуку жалеза аб жалеза можна зразумець, што калоцяцца з усёй моцы. У гэтым сэнсе нічога не выдумляецца. І ніякага літаратурнага тэксту, пад які падводзіцца дзеянне.

**— Адно з месцаў, дзе вы павінны даваць каманды, — плошча перад Менскай ратушай, кожную суботу. Растлумачце, што гэта за імпрэзы.**

— Мы павінны каля ратушы паказаць дзесяць стагоддзяў менскай гісторыі. І ўсяго ў нас дзесяць праграм. Пройдзе гэты цыкл — пачнецца яго паўтор. За сезон адна праграма можа прайсці разы тры. Потым адбудзецца галоўны фэст «Менск Старажытны» — свята горада, дзе будуць задзейнічаны ўсе нашы ваенныя пабудовы з XI і да XX стагоддзя, якія мы пакуль што дэманструем паасобку. У нас дзейнічае канцэпцыя «Вайна і Мір»: у праграме павінны быць бойка ці вайсковыя манеўры, гістарычны расповед і танцы. Дадаём таксама інтэрактыў: гледачы могуць пастраляць з лука і папрацаваць кавалямі. Вольнае паветра, архітэктурнае асяроддзе, прастора падыходзяць не для усіх жанраў. Рэканструктары ў першую чаргу ўзнімаюць ваенную сітуацыю асобнага перыяду. Гэта рамантычна само па сабе: і адзенне, і зброя, і падзеі, якія адбываліся ў мінулым. І мы паказваем вайну ўвесь час, таму што ў гісторыі Менска было больш за дзесяць разбурэнняў, за дзесяць стагоддзяў якіх толькі войск тут не было. І горад кожны раз уздымаўся з руін, адраджаўся яшчэ больш прыгожым і велічным.

**— А як вы абіраеце гістарычныя падзеі для імпрэз?**

— У кожнага стагоддзя свая дамінанта. Па вопратцы або зброі яе вылучаю і раблю акцэнтам. Напрыклад, у XI стагоддзі гэта вікінгі і менская дружына. Яны і выглядалі аднолькава, і ваенныя дзеянні выконвалі падобныя. І таму вікінгаў і менскую дружыну Усяслава Чарадзея мы адносім да адной імпрэзы. Пасля ідзе высокае Сярэднявечча — XII, XIII, XIV стагоддзі. Яны ўжо адрозніваюцца латамі: ці каваныя, ці пласцінчатыя, ці кальчужныя даспехі. І гэта паказваецца ў розных праграмах.

**— Можаце патлумачыць асаблівасці больш позніх праграм?**

— Напалеоніку, Першую і Другую сусветныя мы маем магчымасць паказваць толькі тады, калі цёпла. Ваенныя вытрымліваюць розныя тэмпературныя рэжымы, але танцоры — не. У нас холад вытрымліваюць толькі танцоры Сярэднявечча: у іх і лёгкае адзенне ёсць, і цёплае, яны адаптаваныя да ўсялякага надвор'я. А салонныя танцы эпохі Ампіру ці Мадэрну патрабуюць цёплага сезона. Па вайне 1812 года і па Першай Сусветнай у нас ёсць праграмы, у якіх не б'юцца, а паказваюць маршыроўкі.

**— На якую аўдыторыю вы арыентуецеся ў горадзе?**

— Калі на праграме прысутнічаюць дзеткі, заўжды прасцей працаваць. Яны адразу цікавяцца, адразу жадаюць дакрануцца. Ім часцей бойкі падабаюцца: як толькі бойка заканчваецца, яны нават сумуюць, падыходзяць і пытаюцца: «А яшчэ будзе?» Дарослыя больш захапляюцца танцамі. Ёсць нават пастаянныя гледачы, якія прыходзяць толькі на танцы. Таму, як толькі ведаем склад гледачоў, разумеем, якія дзеянні больш патрэбныя. Ёсць тыя, хто прыходзіць проста пафатаграфаваць, зрабіць незвычайныя сэлфі.

**— На вашу думку, што ў першую чаргу прываблівае ўсіх гэтых людзей?**

— Імкненне далучыцца да гісторыі. Большасць не ведае тых выдатных асоб, якія жылі на нашай зямлі. Хоць чамусьці ведае суседніх — з Расіі, Польшчы, Германіі, Францыі, Англіі. Мы павінны памятаць тых, хто з'яўляецца часткай нашай спадчыны. І яны натхняюць нас. Рэканструкцыя фарміруе лад мыслення, выпрацоўвае асабістыя якасці, загартоўвае характар, ўзбагачае захапленні, разнастайвае жыццё падзеямі, знаёміць з людзьмі. Рыцарскія традыцыі для мяне — гэта ўсё, што я раблю ў жыцці. Тое, чым жывеш, адбіваецца на дзеяннях, паводзінах і асабістых рысах. Гэта не проста рух. Гэта — само жыццё.

# «Цяжкое дрэва», або Цяжар традыцыі і карані наватарства

**Дуда для беларусаў — такі самы нацыянальны інструмент, як і для шатландцаў. Таму зусім не дзіўна, што ў нас ёсць шмат добрых дудароў. Спецыяльна для гэтага нумара «М» Святлана Курганава пагутарыла з гуртом HardWood пра яго вытокі, музыку і рэканструктарскае кола. На пытанні адказвала Вольга Грынь.**



**— Спачатку пра назву гурта HardWood. Як яна з'явілася?**

— Кожны раз — шмат розных версій. Самая смешная: у нас цяжкія інструменты, і ўсе зробленыя з дрэва. Атрымліваецца «hard wood». Насамрэч нам хацелася знайсці штосьці звязанае з лясной тэматыкай — нешта драўлянае, карэннае. Мы хацелі зрабіць сярэдневяковую музыку больш цяжкай па гучанні, набліжанай да року, металу. Вось і абралі такую назву.

**— А як самі класіфікуеце тое, што граеце?**

— «Фэнтэзі-фолк» ці «акустычны фолк». Але асаблівых адрозненняў паміж тым і другім у выкананні, напэўна, няма. Фолк — гэта вельмі шырокі напрамак, які прадугледжвае не толькі гістарычную рэканструкцыю, але і ўласную творчасць. А ўвогуле мы працуем пераважна з сярэдневяковай музыкай. Пачыналі менавіта з рэканструкцыі, але ўжо адышлі ад гэтага. Надаём музыцы ноткі сучаснасці. І цяпер спрабуем штосьці і ў іншых жанрах — фолк-метал, фолк-рок, напрыклад.

**— Раскажыце пра склад гурта.**

— Спачатку HardWood складалі два чалавекі — Яўген Беня і Бора Машкароў. Яны стварылі гурт — барабан—дуда — каб проста граць на вуліцы, бо цікавіліся гэтай музыкай. Потым пачалі шукаць іншых музыкаў. Я раней грала ў гурце «Тутэйшыя», але мне спадабалася, што робяць Яўген і Бора, таму і прыйшла да іх. Так знайшлі мяне, а ўжо я знайшла Сашу Марцінкевіча, які ў нас цяпер грае на бузукі. Мы з Сашам ехалі ў адным аўтобусе, сядзелі на суседніх месцах падчас экскурсіі. Размаўлялі, і ён сказаў, што ўжо дзесяць гадоў грае на гітары, сам навучыўся. Я прапанавала яму прыйсці да нас, мо нешта, маўляў, атрымаецца. А сёлета мы кінулі кліч у інтэрнэце, што нам патрэбныя яшчэ два музыкі: басіст і скрыпач. Так да нас прыйшоў басістам Слава Гаўрылаў і скрыпачкай Воля Чыркун. Мы з імі былі знаёмыя: яны з нашага кола, а там усе адно аднаго ведаюць. Дагэтуль наша скрыпачка прымала ўдзел у рэканструктарскім руху, як і нашы дудар, бубнач і я. Бузукіст і басіст — з калярэканструктарскага кола, яны ладзілі фаер-шоу.

**— Якой спачатку была ваша музыка?**

— Тое, што ладзілася напачатку, калі з інструментаў быў толькі барабан і дуда, можна было называць рэканструкцыяй. Прынамсі, пераважная колькасць слухачоў думае, што менавіта так і выглядае паўнавартасная рэканструкцыя сярэдневяковых мелодый. Але гэта не так. Зміцер Сасноўскі («Стары Ольса») казаў на адной са сваіх творчых сустрэч, што немажліва напісаць музыку, якая была тады. Трэба мець вобраз мыслення, светапогляд, настрой, што мелі тыя людзі. Мы, сучасныя, так не можам ні думаць, ні пазіраць на свет. Таму робім штосьці стылізаванае. Потым, калі нас стала ўжо чацвёра, пачалі больш эксперыментаваць, займацца перапрацоўкай,

спрабавалі новыя шляхі гучання створанага раней. І цяпер спрабуем пісаць сваю музыку ў гэтым стылі. І чым больш развіваецца гук, тым больш у нас дадаецца ўласнай творчасці. І гэта, я думаю, шлях натуральны.

**— Як вы працуеце з сярэдневяковай музыкай: што падбіраеце і як іграеце?**

— Існуюць так званыя спісы, або кодэксы. Напрыклад, *Codex Buranus*, *«Чырвоная Кніга»*. Нейкія часткі з іх можна знайсці ў цалкам адаптаванай форме ў сеціве — бяры і грай. Існуе шмат адаптаваных танцавальных зборнікаў больш позняга перыяду. А некаторыя часткі (і мелодыі па-за межамі кодэксаў) існуюць толькі ў гістарычным запісе. Але гэта Сярэднявечча — няма ні відэа, ні аўдыё. І ў гэтых кодэксах няма ні памеру, ні тактаў, ні акцэнтаў. Можна толькі здагадвацца, як гэта насамрэч гучала, дадаваць свае акцэнты, бо ў нотах шмат што не пазначана. Мы бралі мелодыі з розных гістарычных дакументаў — адаптаваных і неадаптаваных. У апошнім выпадку займаліся інтэрпрэтацыяй.

**— На якой мове вы спяваеце і пішаце тэксты?**

— Спачатку паспрабавалі спяваць на лаціне. Ды і цяпер працягваем. На лаціне самім складана напісаць тэкст, таму бяром тыя, што ёсць, бо тэксты захаваліся. А калі казаць пра аўтарскае, то ёсць у нас тэксты і на беларускай мове, і на англійскай. Тэксты да песень пішу я. І апошні час яшчэ перакладаю на беларускую мову. На Каляды пераклала кэрал «Добры княжа Венцлаў». Мне вельмі спадабалася, як загучала.

**— У вас ёсць незвычайныя інструменты. Можаце пра іх распавесці?**

— З рук я набыла дуду ў хлопца з Віцебска. А ён прывёз яе з Іспаніі. Мая дуда — гэта іспанская гайта. Дуда — структура тонкая, і нават тып дрэва і ўмовы, у якіх яно захоўваецца, уплываюць на яе гучанне. Каб атрымаць сапраўдны галісійскі гук, трэба замаўляць гайту ў майстра з Іспаніі. А каб атрымаць сапраўдны гук беларускай дуды, дрэва павінна быць наша, беларускае. Яшчэ ў нас ёсць дудэльзак. Але зроблены нашым майстрам. На аснове простых барабанаў наш бубнач штосьці сам дарабляў, каб яны па гуку былі падобныя да сярэднявечных. Бузукі замаўлялі ў Румыніі, бо ў нас не вырабляюць. Астатнія інструменты простыя. Скрыпка і бас-гітара — тое, што можна набыць ў краме.

**— Чаму вы абралі менавіта такую музыку?**

— Амаль усе нашы музыкі ўдзельнічалі ў гістарычных рэканструкцыях. У нейкіх суполках, звязаных з гэтым рухам. Я сама была ўдзельніцай клуба «Вялікае Княства Літоўскае». Там дзейнічаў гурток сярэдневяковай музыкі. І вось я пачала разбіраць гучанні, мелодыі. Такая музыка прывабіла. Гэта ж, па-першае, незвычайны гук для сучаснага вуха і незвычайныя інструменты. Па-другое, мажлівасць нейкай свабоды, якая хаваецца ў музыцы, мажлівасць граць на вуліцы, як у Сярэднявеччы. Бо музыкі тады вандравалі, гралі ў гарадах, вёсках, і ўсе вакол атрымлівалі ад іх выступаў задавальненне. Таму фестывалі, мерапрыемствы, на якіх мы выступаем, нечым нагадваюць Сярэднявечча.

**— А як вы прыйшлі ў гістарычную рэканструкцыю?**

— Гэта было мо дзесяць гадоў таму, калі я вучылася ў дзявятым класе. Тады гістарычная рэканструкцыя была дзівам. Я трапіла на нейкі фэст. Рыцары, дамы — для мяне гэта быў іншы свет. Вах! Але знайсці клуб было не так проста. Інтэрнэт тады меў не кожны. Трэба было шукаць праз сарафаннае радыё. І я проста ўводзіла ўсім у вушы, што хачу ў клуб гістарычнай рэканструкцыі. Тады мая настаўніца хіміі сказала: «Я там займаюся, прыходзь». Ну, я прыйшла — і ўсё закруцілася. У тым жа гуртку нам расказалі, на якіх інструментах гралася сярэдневяковая музыка. Мы спачатку вучыліся на блокфлейтах — гэта самы лёгкі інструмент для духавіка. Мы былі яшчэ студэнтамі — з грашыма не надта, і мелі мару набыць дуду. Калі нарэшце гэта атрымалася, была падзея, адчувалася шчасце!

**— Калі і як вы пачалі ўдзельнічаць ў фэстах?**

— Ад пачатку так: усе былі ў клубах і бралі ўдзел у фестывалях як асобныя музыкі. А потым пачалі гуртом удзельнічаць. Наша першае мера-

прыемства прайшло ў Лідскім замку. Цяпер мы кожны год імкнёмся прыехаць ў Ліду, бо гэта першы горад, які нас прывітаў у 2011 годзе, — шэсць гадоў таму.

**— У вас чароўныя строі. Самі робіце ці замаўляеце дзесьці?**

— Асноўную працу замаўляем у майстроў, бо самі ж мы музыкі, а не краўцы. Менавіта ў рэканструктарскім асяроддзі, бо крой павінен адпавядаць гістарычнаму перыяду. І тканіна патрэбна адпаведная: тая, што выкарыстоўвалася ў часы Сярэднявечча, Рэнесансу. Спачатку мы гралі сярэдневяковую музыку і апраналі сярэдневяковыя строі. А цяпер, калі больш граем сваё, строі вольныя. Ёсць такія, якія адносяцца да XIV стагоддзя. Але апошнія з пашытых — да XVI—XVII стагоддзяў.

**— Фэсты — гэта летам. А увесь астатні час?**

— Увесь астатні час у нас ладзяцца вечарыны Дударскага клуба, куды можна прыйсці і выступіць. Але для ўсіх гуртоў гэта час напрацоўкі новых праграм, час пошуку новых кампазіцый і падрыхтоўкі да наступнага сезона. Нам пашчасціла, што ў гэтым сезоне нас двойчы запрасілі выступіць у Вялікім тэтры оперы і балета. Вельмі адказнае мерапрыемства. Хваляваліся. Спрабавалі падабраць лепшае, што ў нас ёсць, пад эпоху.

**— Чым фэсты адрозніваюцца ад выступаў на вялікай сцэне?**

— На фэсце шмат гледачоў і атмасфера больш разняволеная. Фэст — больш забаўляльнае мерапрыемства. Так, мы ведаем, што трэба падрыхтавацца, што гэта выступ, усё сур'ёзна. Але сама атмасфера заклікае нас потым застацца, паслухаць іншых музыкаў, сустрэцца з сябрамі, паразмаўляць. А Дударскі фэст — вельмі адказнае мерапрыемства, больш істотнае, чым фэст на вольным паветры, таму да яго крыху іншае стаўленне. Патрэбна грунтоўная падрыхтоўка.

**— На фэстах узаемадзеянне з публікай большае, чым на вялікай сцене. І як на фэстах рэагуюць слухачы?**

— У гэтым таксама выяўляецца забаўляльнасць фестывалю! Бо заўсёды пасля выступу людзі падыходзяць, цікавяцца інструментамі, фоткаюцца з намі. І мы тут можам доўга размаўляць, і дзеткі вакол нас круцяцца, пакуль граем. Вельмі весела!

**— Куды б вы хацелі яшчэ завітаць?**



*Codex Buranus (або «Carmina Burana») — самы вядомы зборнік паэзіі галіярдаў, сярэдневяковых вандроўных паэтаў. Складзены ў XIII стагоддзі, налічвае больш за тры сотні розных тэкстаў.*

*Llibre Vermell de Monserrat (або «Чырвоная Кніга») — рукапіс XIV стагоддзя з бенедыктынскага кляштара Мансерат (Каталонія), вядомы тым, што, апроч іншых тэкстаў, у ім захаваліся ноты да 10 музычных твораў.*

*Бузукі — музычны інструмент, разнавіднасць лютні.*

*Гайта — від дуды, найбольш распаўсюджаны ў Іспаніі ці Партугаліі.*

*Дудэльзак — від дуды (нямецкая дуда).*

*Кэрал — жанр музыкі, калядная песня.*

— Фэсты ладзяцца ў розных месцах, таму мы шмат падарожнічаем па Беларусі. Імкнёмся пашыраць сваю геаграфію. Хацелася б наведаць Украіну, бо і там ёсць цікавыя фэсты, і Вільню — там праходзіць фэст вулічнай музыкі. Але планы — гэта планы. Пагутарым, калі рэалізуем!

# Балада па-шведску і па-беларуску

## Каментар перакладчыка

Нават жывучы ў свеце рацыяналізму і высокіх тэхналогій, дзе ўсё менш месца застаецца для чагосьці чароўнага, чалавечая душа заўсёды будзе патрабаваць цудаў. Такімі цудамі поўняцца старадаўнія легенды, паданні і балады. Увага да іх не згасае і ў XXI стагоддзі.

Чароўныя сюжэты часта становяцца асновай літаратурных і музычных твораў. І часам нават адна такая песня можа паўплываць на жыццё.

Так, аднойчы пачуўшы скандынаўскую баладу «Herr Mannelig» і дужа зацікавіўшыся незразумелай тады для мяне мовай, я пачаў вывучаць шведскую і ў выніку стаў выкладаць яе ва ўніверсітэце. А цікавасць да балад перарасла ў навуковы інтэрас і жаданне данесці да чытачоў змест гэтых перлін старадаўняй скандынаўскай літаратуры на роднай мове.

І хоць арыгінальныя тэксты твораў былі зафіксаваны ў XIX стагоддзі, насамрэч гэтыя сюжэты нашмат старэйшыя: іх можна смела датаваць перыядам росквіту баладнага жанру — XVI стагоддзем.

Паводзіны і ўчынкі герояў твораў для нас могуць быць не зусім зразумелымі, але канфлікт пачуццяў і здаровага сэнсу актуальны і для тых, хто жыў пяцьсот гадоў таму, і для сучасных людзей.

*Яўген Папакуль*



Музыка з нюкельхарпай. Малюнак перакладчыка.

*Herr Mannelig — сярэдневяковая скандынаўская народная балада, адзін з самых вядомых прыкладаў народнай музыкі Сярэднявечча.*

*У цэнтры аповеду — жанчына-троль, закаханая ў рыцара па імені Манэліг. Паводле народных уяўленняў, троль мог займець чалавечую душу, калі чалавек пакахае яго. Упарты Манэліг аднак рашуча адхіляе ўсе тралісіны просьбы і прапановы, матывуючы сваю адмову тым, што яна не з'яўляецца хрысціянкай.*

*Гэты твор нязменна прыцягвае да сябе музыкаў, многія гурты выконваюць яго на розных мовах (у тым ліку — у арыгінале). Думаецца, справа тут і ў прыгожым музычным малюнку, і — у самой чароўнай гісторыі.*

***Нюкельхарпа*** *(або Нікельхарпа, шведск. Nyckelharpa) — традыцыйны шведскі інструмант. Самым першым сведчаннем выкарыстання Н. з'яўляецца малюнак дваіх музыкаў, якія граюць на гэтым інструманце. Выява знаходзіцца на варотах царквы на востраве Готланд і датуецца 1350 годам. Гучыць Н. падобна да скрыпкі, толькі са значна большым рэзанансам. Часам яе называюць «шведскай клавішнай скрыпкай».*

*Старадаўні інструмант актыўна выкарыстоўваецца і сёння — напрыклад, менавіта Н. гучыць у многіх альбомах Blackmore's Night (на ёй грае Рычы Блэкмар).*

## Забраная гарой

*(тэкст датуецца 1833 годам, правінцыя Вэстэргётланд)*

### Den bergtagna

Och Jungfrun hon skulle sig åt Ottesången gå;
Tiden görs mig lång —
Så gick hon den vägen, åt höga berget låg.
Men jag vet, att sorgen är tung.

Hon klappade på bergadörrn med fingrarna små:
Tiden görs mig lång —
«Statt upp du höga Bergakung, drag låsen ifrå!»
Men jag vet, att sorgen är tung. —

Och upp steg Bergakungen, drog låsen ifrå;
Så har han den bruden i silkes-sängen blå.

Så var hon i berget i åtta runda år,
Fick sönerna sju och en dotter så båld.

Jungfrun hon gångar sig för Bergakungen stå:
«Ack gifve, att jag finge till moder min hemgå!»

«Och nog kan du hem till din moder få gå,
Blott att du ej vill nämna sju barnen de små».

Och när som hon kom på sin kära moders gård,
Ute för henne huld-moderen står.

«Och hvar har du varit så långan en tid?
Nu hafver du väl varit uti Rosende lid?»

«Och inte har jag varit uti Rosende lid;
I berget har jag varit så långan en tid.

I berget har jag varit i åtta långa år,
Der har jag födt sju söner och en dotter så båld».

Bergakungen in genom dörren steg.
«Hvi står du här och talar så mycket ondt om mig?»

«Och inte har jag talat något ondt om dig,
Men väl om det goda, du gjort emot mig».

### Забраная гарой

Пайшла ва Ўтэсонген дзяўчына, але —
*Цягнецца мой час —*
Ля гор штосьці раптам спыніла яе.
*Я ведаю — смутак цяжкі.*

Пагрукала ў горныя дзверы яна,
*Цягнецца мой час:*
«Цябе, кароль горны, хачу бачыць я!»
*Я ведаю — смутак цяжкі.*

Адразу з дзвярэй ён замкі паздымаў,
Нявесту на ложак ядвабны паклаў.

І там пражыла яна восем гадоў,
Дачку нарадзіўшы й сямёра сыноў.

І вось караля стала жонка прасіць:
«Дазволь мне да любай матулі схадзіць!»

«Цябе я не стану ў няволі трымаць,
Але пра дзяцей ёй не думай казаць».

Дзяўчына пакінула лёхі гары
Ды маці сустрэла на родным двары.

«Казалі, на ружавы схіл ты пайшла
І там свой апошні прытулак знайшла».

«Не ружавы схіл за прытулак мне стаў,
Бо лёс зусім іншы мяне напаткаў:

У гор цёмных нетрах гады пражыла,
Дачку й сем сыноў я там радзіла».

Тут горны кароль уварваўся ў пакой:
«Ніколі не чуў я абразы такой!»

«Благое й не думала я расказаць.
Пра шчасце казала, што здолеў мне даць».

Så slog han henne på blekan lilje-kind,
Så blodet det stank på snörelkjorteln fin.

«Packa dig på dörren och låt det ske fort!
Och aldrig skall du komma inför din moders port».

«Farväl min kära Fader! farväl min hulda Mor!
Farväl min kära syster! farväl min kära bror!

Farväl du höga himmel, farväl du gröna jord!
Nu reser jag till berget, der Bergakungen bor».

Så redo de sig öfver den mörka långa skog.
Hon bitterligen gret, men Bergakungen log.

Så gingo de berget sex gånger omkring,
Så öpnades dörren och de stego in.

Ung dotteren framsatte den röda gullstol:
«O hvilen er här, min sorgbebundna mor!»

«Och hämten mig in de glasen med mjöd!
Derur vill jag dricka mig sjelfvan till död».

Och första dricken hon af mjödglasen drack:
Tiden görs mig lång.
Hennes ögon de lycktes och hjertat det brast.
Men jag vet att sorgen är tung.

Ён выцяў дзяўчыну па бледнай шчацэ,
Сабраўшы ўсю лютасць у моцнай руцэ:

«Ідзі да дзвярэй, нам вяртацца ўжо час!
У доме бацькоўскім апошні ты раз».

«Бывай, бацька й маці, сястрыца ды брат!
Яшчэ хаця б раз вас пабачу наўрад!

Бывай, блакіт неба, бывай ты, зямля!
Да страшных гор цёмных ізноў еду я».

З усмешкай вёз жонку кароль па лясах.
Яна ж гор цёмных прыйшла ўся ў слязах.

Гару абыйшлі яны ўкруг шэсць разоў,
Каб дзверы для іх адчыніліся зноў.

Падбегла дзяўчыне дачка дагадзіць:
«З дарогі, матуля, прысядзь адпачыць!»

«Мне хмельнага мёду ты лепей налі,
Бо жыць не хачу больш на гэтай зямлі».

Так зніклі ў тым мёдзе пакутаў гады:
*Цягнецца мой час —*
Заплюшчыла вочы яна назаўжды.
*Я ведаю — смутак цяжкі.*

## Гэр Хольгер

*(тэкст датуецца 1880 годам, правінцыя Сконэ)*

### Herr Holger

Fru Tala hon drömde hon drömde i natt,
Vak upp här är en god tid.
Att den rike herr Holger han skulle ge tappt,
Den rike herr Holger.

«Jag drömde, jag drömde om vår gångare grå,
Han bar dig till tinget du dödde där uppå!»

### Гэр Хольгер

Фру Таля апоўначы ўбачыла ў сне:
*Прачніся, наблізіўся час,*
Багаты гэр Хольгер, сужэнец яе,
*Багаты гэр Хольгер.*

«На цінг цябе конь наш у сне маім нёс,
Забіты там быў ты. Бязлітасны лёс!»

«Min kära fru Tala du säg icke så,
Dina drömmar kan väl vakna om en åtta år».

De stötte på dörren med stänger och spjut:
«Är herr Holger här in där så skall han här ut».

Herr Holger han talte till svennerna två:
I läggen gullsadeln på gångaren grå.

När som de var komna till Köpenhamn,
Der ståndar kung Kristian på hvitan den strand.

I varen välkommen herr Holger till mig,
Herr Holger, herr Holger det kostar ditt lif.

Kung Kristian klippte det hufvudet af,
Så blodet det neder till fötterna rann.

När fru Tala fick se hennes herre var lik,
Så domnas hon under skarlaknen hvit.

Herr Holger blev grafven när klockan var tolf,
När klockan var elfva så kom han igen.

Han klappar på dörren med fingrarne små:
«Fru Tala stig upp och dra låsarne frå.

Med ingen så hafver jag stämma utsatt
Och ingen så släpper jag in uti natt.

Min kära fru Tala, gif bonden sin ko
För i helvete der är så svårt att bo.

Fru Tala, gif Romman och Skromman igen,
För i helvete är så svårt att brinna för din vän».

«Nej, om jag så skulle i helvete som svan,
Så vill jag ej blifva utfattig försann.

Får du i helvete med svennerna dina!»
Vak upp här är en god tid.
«Så kommer jag efter med möerna mina».
Den rike herr Holger.

«Каханая Таля, хай восем гадоў
Не бачыць табе гэткіх жудасных сноў».

Ды вершнікаў голас пачуўся: «Мы тут,
Бо Хольгеру вынес кароль наш прысуд».

І Хольгер двум служкам сваім загадаў
Запрэгчы каня, каб ён золатам ззяў.

Калі ў Капенгаген махляр прыскакаў,
Яго кароль Крысцьян ля мора чакаў.

«Я рады, гэр Хольгер, цябе тут вітаць,
Табе ж гэта будзе жыцця каштаваць».

Ён Хольгеру сцяў галаву, ды пацёк
Крывавы ручай да злачынцавых ног.

Пабачыўшы мужа-нябожчыка труп,
Фру Таля здранцвела, нямая, бы слуп.

Апоўдні ў магіле гэр Хольгер ляжаў,
Ды аб адзінаццатай з мёртвых паўстаў.

Пагрукаў у дзверы ён тонкай рукой:
«Прачніся, фру Таля, бо муж гэта твой.

Паслухай параду маю, а пасля
Вярнуся ў пякельнае вогнішча я.

Прашу ад цябе я ўсяго аднаго:
Аддай селяніну карову яго,

Ды Скруману з Романам грошы вярні,
Бо ў пекле нязносна гарэць у агні».

«Жабрачкаю стаць, каб ісці да чарцей,
Бы белая лебедзь?! Ніколі! Далей

Гары ў апраметнай ды служкі твае!»
*Прачніся, набліўзіўся час.*
«Хай д'ябал крыху пачакае мяне».
*Багаты гэр Хольгер.*

# Марына Дубень



**нарадзілася 13 верасня 1994 года ў Бабруйску. Выпускніца філалагічнага факультэта БДУ. Вывучае беларускую мову і літаратуру, настаўнічае, трошкі малюе, вядзе дзённік і піша тэксты песень. Любіць мультфільмы, «жывыя» лісты і рок-музыку. Ніколі не піша пра каханне.**

## Вецер і Красавік

***

Усё мне — крах ды звярыны рык,
Усё мне — бой, бо мая вайна,
Усё мне — дзікі птушыны крык,
Усё мне — вера, і ўсё — вясна.

Дзе забыцца, ў якой цішы,
Дзе — ад сонца адно кіпець?
Гэта бура — не спосаб жыць,
А магчымасць пабачыць смерць.

Раз сустрэць яе — то каб так:
Праз маланку, бяду і боль.
Хай у жылах бурліць вада,
Хай у пену збівае соль,

Каб аднойчы суцішыць крык
І…
Прыняць у сябе зямлю.
Я люблю цябе, красавік,
Я бязбожна цябе люблю.

***

Калі раптам прачнешся ад жаху ўначы
Ў адзінокай кватэры пустой —
Гэты жах ты гарбатай з мелісай лячы,
Бо меліса даруе спакой.

Адзіноцтва, здаецца, з'ядае цябе,
Проста ў сэрца карэннем расце —
Разам з корнем імбірным журботы свае
Патапі у гарачай вадзе.

Калі цела тваё ціха трызніць вясной
У халодных руках забыцця —
Дзьмухаўцоў залацістых салодкі настой
Верне цёплыя фарбы жыцця.

А захопіць туга у свае ланцугі —
Чорнай кавы тады завары:
Горыч кавы адолее горыч тугі —
Прыхавае яе да пары.

А калі
          што ні дзень —
                    ды гары ўсё агнём,
Не знаходзіш спакою ў журбе,
Ты заходзь, калі ласка, у гасцінны мой дом —
У мяне ёсць напой для цябе.

***

Мая птушка — у клетцы залачонай —
Мне спявае кожны зімні вечар.
Твая птушка — з воляй заручона —
Прылятае да цябе, як вецер,
За акном спявае так прыгожа...
Думка не дае мне спаць уночы:
Мая птушка адляцець не можа,
Твая птушка адлятаць не хоча.

***

абміне
мяне?
неспакойнае,
непрытульнае,
непрыхільнае,
незаўважнае і няўмольнае,
непарушнае,
непахіснае —
абміне мяне?

чалавечае,
бессаромнае, беззаганнае,
гучна-спеўнае, зорна-вечнае,
шчыра-слоўнае,
лірна-п'янае.
проста дыхаць ім —
як ляцець у сне,
гэтак лёгка мне,
гэтак цяжка мне.
толькі іменем,
быццам каменем,
абміне
  мяне?
    **не.**

***

Неба сінée,
Бо служыць для мора люстэркам.
Мора глядзіцца
Ў яго залатыя агні,
Бачыць у небе
Бясконцую хваляў істэрыку,
Бачыць дрыготкі туман
І спакой глыбіні.

Бачыцца мору —
Русалкі матляюць хвастамі,
Мроіцца мору —
Квітнеюць каралы на дне.
Чуе яно,
Як сірэнавымі галасамі
Зоры-жамчужыны
Ціха спяваюць у сне,

Цягнецца целам
Да круглае белае поўні,
Прагне душою
Блакітнай нябеснай крыві.
Мора прымае усё
І нічога не помніць.
Мора не ведае
вечнай,
як неба,
любві.

***

Брукаванка гудзела гулам,
Не хапала зямлі на плошчы.
Людзі дзеўку вялі агулам
Аж ад самае Белай Рошчы.

Яе след пракліналі Богам
І за спіны дзяцей хавалі.
Апускаліся долу доўгія
Валасы кучаравай хваляй,

Прыпадалі да цела важка,
Проста з сонца адлітай меддзю.
А мужчыны ўздыхалі цяжка,
А жанчыны крычалі: «Ведзьма!»

Што з таго, што малая ўзростам
Ды і рост яе невялічкі?
Абвязалі вяроўкай проста,
Бо «рудыя — усе магічкі».

Выглядалі з-за мамак дзеці.
Той, у чорным, падлічваў грошы…
А яна ўсё шаптала: «Вецер,
Абдымай мяне, мой апошні».

І ён лашчыў ёй тварык — белы,
Быццам яблыневая квецень.
Там, на плошчы, да ног смела
Падкладалі жанчыны веццe.

А праз шэрань нябеснай стомы
Прабіваўся руды ранак.
«Бачыш, хутка я буду дома,
Дачакайся мяне, мама».

Тое вогнішча выла воем,
Скавытала сырое бярвенне,
Каралеўскім здавалася строем
Ільняное дзяўчыны адзенне.

Вочы бачылі, але — мала:
Ці агонь абдымаў цела,
Ці то сонца агнём палала,
Ці салома адна гарэла...

Ўсё хавае агонь манкі —
Як мірыцца са светам гэткім?..
А на плошчы з-пад брукаванкі
І дагэтуль растуць кветкі.

Аляксей Карпека



**нарадзіўся 10 кастрычніка 1991 года ў вёсцы Старыя Лаўкі Чашніцкага раёна. Атрымаў спецыяльнасць літаратурнага рэдактара ў БДУ. Супрацоўнічае з рознымі выданнямі як пазаштатны журналіст. Займаецца фатаграфіяй, вывучэннем гарадской прасторы і культуры. Дэбютуе з замалёўкамі пра Мінск як… «падставу для бясконцага дыялогу». А мо маналогу?**

## Мора Мінска

Мінск — прыморскі горад без мора. Пацешна, як гораду без мора па волі выпадку дасталася тыповае балтыйскае надвор'е. Рэзкія змены яго на працягу дня, гадзіны, а то і дзесяці хвілін, абветраныя вуліцы, высокая вільготнасць, нізкае неба з рыпучымі аблокамі.

Мінск і мора неразлучныя. Вось ты едзеш на ўзбярэжжа Балтыйскага мора, а там ён — Мінск — стаіць, гуляе, франтуецца.

Альбо ты застаўся ў Мінску і дзе-небудзь пасярод паўдзікіх вулачак былых завадскіх раёнаў, у якім-небудзь маленькім безыменным скверы або проста на зарослым і недагледжаным беразе ляжыш на бетоне, траве, асфальце або лаўцы з заплюшчанымі вачыма, а вакол крыкі чаек, і вада дзесьці недалёка шуміць, і вось мора ўжо дзесьці побач з табой.

Яно ўжо тут, і нікуды не трэба ехаць. Хіба што вецер не салёны.

Але няўжо гэта так важна?

Можна, вядома, успомніць Мінскае мора, але гэта зусім не тое, падробка, сімулякр, фальшыўка. Не мора гэта.

Бо мора, і *мора Мінска* ў тым ліку, зусім не павінна мець нейкае фізічнае і геаграфічнае ўвасабленне, якое раскінулася на тысячы і тысячы квадратных кіламетраў.

*Мора Мінска* — гэта ў першую чаргу твой погляд на горад, твой ракурс, твая оптыка.

*Мора Мінска* жудасна глыбокае, бязмежнае і часам небяспечнае.

*Мора Мінска* зацягвае людзей у ілюзію прыморскага горада, з яго лёгкасцю, легкадумнасцю, імгненнай непамятлівасцю, лёгкімі закускамі і белым вінам.

*Мора Мінска* (яго часцінка) ёсць у кожным з нас.

*Мора Мінска* — гэта стан, а не месца.

*Мора Мінска* непарыўна звязана з захадамі. Тымі самымі, што спальваюць неба, рагавіцы і камеры тэлефонаў, якія тысячамі накіраваны на іх.

Хіба можна забыцца, вырачыся гэтага мора, калі ты малады і сядзіш недзе ў спакойным, зацішным месцы, каб ніхто не перашкаджаў піць віно, глядзець на захад і чуць толькі грукат цягнікоў, якія праходзяць над тваёй галавой, ці можна пасля гэтага забыцца пра *мора Мінска*?

Аднак *мора Мінска* і Мінск — розныя. У Мінску не любяць летуценнасць, легкадумнасць. Усялякі, не прыкаваны да батарэі і не прыбіты цвікамі да крыжоў абавязкаў, лічыцца здраднікам, інфантыльным і слабаком. Адзінае паківанне на лёгкасць тут выклікае ўсмешкі і падколкі.

Ежа тут тлустая. Бульбачка з мясам. Маянэз. Пасля такога не палятаць.

І п'юць тут у асноўным гарэлку, што раскрывае «душу», але прыбівае цела да зямлі.

І даводзіцца — поўзаць.

Народжаны поўзаць павінен поўзаць і, можа, дапаўзе.

А — мора?

А хіба трэба мора, калі ты поўзаеш па сваёй нары?..

## Мінскае Маконда

Мінск, што паўстае перад вачыма турыстаў, у якіх часта проста няма ані часу, ані жадання разбірацца, што да чаго, — афіцыйны.

«Горад Сонца», які сустракае падарожнікаў на выхадзе з вакзала.

Мінск — асаблівы горад, у якім містыка, магія і рэальнасць перапляліся ў такіх цесных абдымках, што калі б Маркес жыў у нас, дык напісаў бы «Сто гадоў адзіноты» пра яго. Пра Мінск.

Кожны (пры жаданні) можа знайсці і стварыць свой непаўторны Мінск. Тут не горад падладжвае пад сябе, а ты будуеш свой асабісты горад. Велізарны канструктар, што ты можаш камбінаваць, як табе падабаецца, адначасна знаходзячы новыя дэталі ў час вывучэння прапанаванага набору і адкрываючы сакрэтныя мясціны. Тут — у большасці выпадкаў — ты напаўняеш нейкія месцы сэнсам, а не карыстаешся тымі, што ўжо існуюць.

Горад, які вызваляе ад татальнасці ўлады. Ён не вабіць міфамі, не пярэчыць традыцыям, не спакушае вабнотамі, не прымушае ідэалагемамі, не забараняе забабонамі, не абцяжарвае філасафамі, не абавязвае мэтамі.

Ён пакідае цябе сам-насам, і табе нічога не застаецца, як любіць самога сябе. У Мінску немагчыма не любіць сябе, бо няма тут нідзе нічога іншага, апроч тваёй адзіноты.

Тут па вуліцах блукае дух Марк(*е*)са.

Мінск — гэта калі б Маконда быў у Беларусі, а Буэндзіа кудысьці растварыліся за час акупацыі і культурнай асіміляцыі, і горад застаўся існаваць далей і чакаць вяртання вялікага роду.

Непаўторны, асаблівы, асабісты Мінск — для прагных да новага, для тых, хто жадае стварыць нешта сваё. Для здольных гойсаць па дварах і вулачках у пошуках таго, што можна назваць гарадской культурай.

Хтосьці стварае маленькую, камерную Еўропу са сняданкам на балконе з кавай і круасанамі. Іншыя тусуюцца ў андэрграўндных месцах, цягаюцца па недаўгавечных сквотах і жывуць у паўпадвальным горадзе з бутэлькай партвейну ў адной кішэні і марамі ў другой. Нехта завісае ў джазавых барах і на закрытых «творчых тусоўках», выпускаючы прадукт з маркіроўкай «толькі для сваіх». І так да бясконцасці.

Мінск для тых, хто можа змяняць тканіну рэальнасці, ствараць свой свет і адкрываць *terra incognita*.

Парыж ці Вільня, Лондан ці Масква маюць пачатак — цэнтр, якім пазначаны прасторавы і паэтычны міф горада: Эйфелева вежа, гара Гедыміна, Біг-Бэн, Крэмль.

Мінск пазбаўлены цэнтра як міфа, як сярэдзіны самога сябе. Мінск пазбаўлены сэрца. Таму на пытанне, дзе тухкае сэрца Мінска, магчымы толькі адзін адказ:

— *Ува мне.*

Той, хто не трывае адзіноты, кідаецца адсюль у Маскву, Парыж, Вільню. Кідаецца туды, дзе з чалавекам заўсёды побач Горад — як падстава для бясконцага дыялогу, як Другі, што ведае адказ на кожнае тваё запытанне, калі здолееш гэта пытанне выразна сфармуляваць.

А мы застаёмся тут, у сваім горадзе.

У Горадзе, які стварылі самі.



Алесь Емяльянаў-Шыловіч



**нарадзіўся 23 студзеня 1987 года ў Крычаве, жыве і працуе ў Мінску. Скончыў біялагічны факультэт БДУ. Паэт, перакладчык, рэдактар літпартала Textura.by, аўтар праекта «Літаратурная серада ў музеі П. Броўкі». Аўтар зборніка вершаў «Парасонечнасць». Творы перакладаліся на польскую, сербскую, украінскую і рускую мовы. Любіць вандраваць з жонкай і дачкой, гатаваць і спажываць нацыянальныя стравы з бульбы, а яшчэ гуляць у настольныя гульні і пасьянс.**

## Мой пераклад

***

наўрад ці такую гарбату
калісьці піў Фучай —
кітайскі імператар
гарбата ў нас звычайная
як кажа сваяк
— пыл грузінскіх дарог
я не маю ў падданых
ні Сі Шы ні Джэнь Дань[1]
уся мая імперыя змяшчаецца ў 37,5 м$^2$
затое я магу штодня
любавацца дзвюма прыгажунямі
якіх завуць Нас Ця і Лі На.

### дрэва

я дрэва
ты скура мая
лісце маё
атуляеш мяне
ад дажджоў нянавісці
ветру пустых размоў
пякучага сонца зайздрасці
трапечаш нутром
дрыжыш нада мною
абараняеш мае карані
ад холаду
адзіная перашкода
нашым пачуццям —
дворнікі.

[1]Сі Шы і Джэнь Дань — дзве красуні старажытнага Кітая, якія сталі сімваламі прыгажосці.

## час

ты знаеш
з намі штось не так
змяніўся час
а можа мы яго змянілі
так ці інакш
ён нас не пазнаé
і нават для прыліку
не зірне ў наш бок
але ж мы не адны
і гэта цешыць
час ад часу
спрабуе збегчы
таксама й мы
з тым часам
дрэвы голыя стаяць
ды ўсё не так як летась
няма бярозкі побач з домам
яе нядаўна ссеклі
худую і маленькую дзяўчынку
ні зморшчынкі ні шнара
на яе цнатлівым целе
кармушка для птушак
зламалася
цяпер сінічкі
прылятаюць на акно
і дзюбкамі дзяўбуць
скрылёк старога сала на цвіку
прыбітым толькі што
сінічкі ў нас гасцююць
і адбіраюць час
як добра любая дачушка
што ты яго не знаеш
але ж я не забуду
як з ім аднойчы
ты пазнаёміла мяне.

***

дзьмухаўцоў пераменная воблачнасць
разыходзіцца пакрысе
неўзабаве пачнуцца
кароткачасовыя таполевыя ападкі.

***

…калі гуллівае сонца
запускае ценькія мяккія пальцы
ў твае валасы
казыча павекі
а твой мілы ахайненькі носік
сонна вуркоча
— можна шчэ крышку паспаць?
о як тады я раўную цябе
о як тады я зайздрошчу табе
і сонцу…

***

калі на дварэ прысмеркі і зіма
я запальваю лямпу
ты прыходзіш і гасіш яе
і правільна робіш
бо я рызыкую аслепнуць
ад бясконцага святла тваёй мілосці.

## бутан

ты спытала: ці чуў я пра бутан —
адзіную ў свеце краіну,
дзе ёсць міністэрства шчасця.
давялося напружыць глузды
і ўспомніць геаграфію,
але часцей гэтае слова я чуў
на ўроках арганікі.
у бутане ўзровень шчасця
не вымяраецца колькасцю
і наяўнасцю грашовых адзінак,
хоць турысты іх тут пакідаюць нямала,
апавядаючы мне пра бутан,
ты, напэўна, не ведала,
што галоўны сімвал гэтай краіны — лінга́м,
яго тут малююць на кожным плоце,
акурат, як у нас,
адно, што тут гэта не забаронена,
і ён тут з'яўляецца сімвалам шчасця,
прынамсі для прыўкраснай паловы
краіны пад сцягам дракона.
нам для шчасця таксама трэба няшмат —
пару глыткоў бутану,
каб забыцца на ўсё
і забіць на бутанцаў,
платы і лінгамы —
у краіне пад сцягам цмока
намі цікавіцца іншае міністэрства.

## пераклад

я наўрад ці змагу прачытаць
sous le pont Mirabeau[2]
sonetos del amor oscuro[3]
альбо meine genesung[4]
бо не знаю французскай
гішпанскай
нямецкай
але дастаткова таго
што я ведаю
(прынамсі, мне як пачаткоўцу падаецца)
мову
якой гаворацъ ружовыя півоні тваіх вуснаў
поўныя жадання вочы
і рукі — гнуткія галінкі вярбы
мове твайго цела
пераклад не патрэбны.

## акупунктура

на целе тваім застануцца
дробныя кропачкі
ад акупунктуры травы.

---

[2] «Пад мостам Мірабо» — пачатак верша Гіёма Апалінэра «Мост Мірабо».
[3] «Санеты цёмнай любові» — паэтычны цыкл Федэрыка Гарсія Лоркі.
[4] «Маё акрыянне» — верш нямецкага паэта Фрыдрыха Гёльдэрліна.

Андрэй Сідарэйка



**нарадзіўся 16 студзеня 1985 года ў вёсцы Каравацічы Рэчыцкага раёна. Натхненне знаходзіць у жыццёвым вопыце, штодзённых назіраннях, творах любімых аўтараў. Рэаліст, але ружовыя акуляры на ўсялякі выпадак заўсёды бярэ з сабой. Згодзен з думкай Вікторыі Токаравай, што «людзі адно ад аднаго адрозніваюцца колькасцю нулёў і якасцю мары. І яшчэ: суадносінамі дабра і зла ў душы».**

*Што ёсць Дзень Перамогі для маладых? Што ёсць ён для тых, хто ладзіць святочныя мерапрыемствы? Што ёсць увогуле гэтыя святочныя мерапрыемствы — ці болей, чым проста «галачкі»? Ці можна выхаваць патрыятызм у вучняў, запрашаючы да іх у школу ветэранаў вайны? Ці вінаватыя бацькі ў тым, што іх дзеці вырастаюць лайдакамі і п'яніцамі?*

*Твор, які ставіць такія пытанні, даўно трэба было напісаць, і Андрэй Сідарэйка яго напісаў. Але хто на такія пытанні адкажа?*

## Ветэран

*Душа баліць мацней, чым раны,*
*Ляціць стралой няўмольны час,*
*Ў нябыт шагаюць ветэраны,*
*Ўжо засталося мала нас.*
Анатоль Балуценка «Роздум ветэранаў»

Была адзіннаццатая гадзіна вечара, калі ў шыбу пагрукалі.

— Хто там? — запытаўся гаспадар.

— Гэта мы, дзед, — пачулася за акном. — Нам запальнічак. А то прыпаліць няма чым.

— Свае трэба мець, — незадаволена азваўся стары, але пайшоў адчыняць.

На парозе паўсталі Алік і Вадзік — мясцовыя дарослыя дармаеды, якія працавалі не больш за тры месяцы на год.

— Дзед, зараз прыпалім і пойдзем. Ты не сярдуй, — сказаў Алік.

— Бярыце пачак і ідзіце, — працягнуў запалкі гаспадар.

— Праўда, дзед, не крыўдуй, — адклікнуўся другі, Вадзік, і дадаў: — З надыходзячым Днём Перамогі цябе.

— Дзякуй, — буркнуў ветэран.

Хлопцы выйшлі. Гаспадар вярнуўся ў залу, сеў у крэсла ля тэлевізара, дзе ішла трансляцыя святочнага канцэрта да Дня Перамогі.

«Ніхто не ў сілах ацаніць подзвіг Савецкай арміі ў Вялікай Айчынай вайне; яго проста няма з чым параўнаць і няма чым змераць. Наша моладзь павінна ведаць, на каго трэба раўняцца. А ўлада і грамадства — стварaць максімум умоў для таго, каб зрабіць жыццё сваіх герояў годным ва ўсіх сэнсах», — вяшчаў вядучы.

Ветэран слухаў песні ваенных гадоў у выкананні сучасных артыстаў і раз-пораз падпяваў ім. Спевакі на экране змяняліся. І ён не заўважыў, як задрамаў.

Ачомаўся ад знаёмага голасу.

«Ці самагон возьмем, ці грошы. А лепш тое і другое», — пачуў ён за спінай. Гэта былі зноў няпрошаныя начныя госці.

Голас стаў гучнейшым:

— Глядзі, а бацька яшчэ не спіць, тэлевізар глядзіць.

«Як яны сюды трапілі?» — падумаў гаспадар і, пахаладзеўшы, згадаў, што ў мінулы раз забыўся на засаўку.

— Дзед, ты спіш? — пачуў ён над самым вухам голас Вадзіка. Стары хацеў прыкінуцца, што спіць. Мабыць, тады гэтыя ёлупні пакінулі б яго дом.

— Ды тузані ты яго добра, — параіў сябру Алік. — Годзе храпці, калі ў хаце госці.

Вадзік тузануў ветэрана за плячо.

— Баця, хопіць спаць. Немцы ў хаце!

Гаспадар неахвотна расплюшчыў вочы.

— Дзед, як ты ваяваў? — засмяяўся Вадзік. — Усё з хаты можна вынесці, пакуль ты спіш.

— Што вам трэба? Зноў запалак? — незадаволена запытаў стары.

— Не, запалак хапае, — усміхнуўся Алік. — Разумееш, дзед, такая справа: усе пінёндзы прафукалі за вечар. А выпіць хочацца. Мікітаўна на вексель не дае.

— Грошай няма, дзеткі, — як мага больш спакойна адказаў ветэран. — Ведаеце, якая ў старых пенсія — капейкі. А тут вясна. Агарод. Сам пенсіі, як збавіцелькі, чакаю.

— Тады нясі самагон. Пад чарку ды скварку разам сустрэнем Дзень Перамогі, — не здаваўся Алік.

— Адсвяткуем як трэба, — жыццярадасна дадаў Вадзік.

— І самагону, дзеткі, няма, — лагодна адказаў ветэран. — Увесь Хведару ды Лёньку аддаў за тое, што агарод узаралі ды пасеялі.

— Каб у цябе, дзед, ды не было самагону? Не паверу, — паматаў галавой Вадзік.

— Ты нам «мурку» не заводзь, — пачаў закіпаць Алік. — А то мы тут хутка дурасць з тваёй галавы выб'ем.

— Ага, — пацвердзіў яго сябар і, каб застрашыць яшчэ болей, грукнуў нагой аб крэсла. — А ну стаў на стол «паліва»! І закусь нясі. Мы жартаваць не будзем. Ці самагон, ці адправішся да Абрама на піва. Ён даўно цябе там чакае.

Каб напужаць гаспадара, Алік нават дастаў з кішэні сцізорык, паднёс да твару ветэрана.

— А мы пракантралюем. Каб ні кроку ўправа ці ўлева, — амаль дабрадушна дадаў Вадзік. — І пра міліцыю, дзядзей, тэлефон забудзь.

— Калі што не так, мы цырымоніцца не будзем, — з пагрозаю сказаў Алік.

***

На стале стаяў трохлітровы слоік з самагонам, у талерцы ляжала тонка нарэзанае сала. Там жа месціўся бохан хлеба.

Алік і Вадзік выпівалі.

— Ты не саромейся, дзед, — звярнуўся да гаспадара Алік. — Сядай да нас. Што табе той канцэрт? Песень тых ніколі не чуў, ці што?

— Баця, Алік праўду кажа, — падтрымаў Вадзік. — Ну, пацісне табе заўтра руку старшыня калгаса, дырэктар школы. Што з таго? Пляваць яны на цябе хацелі. Толькі прыгожыя словы.

Ветэран згадваў, дзе кінуў мабільны, які падарылі яму дзеці і якім ён амаль не карыстаўся. Толькі націскаў на зялёную кнопачку, калі тэлефанавалі. Уцякаць ён не думаў: не тыя гады. Добра разумеў і тое, што для п'яных здаровых доўбняў яго жыццё нічога не значыць.

Ён разлічваў на шанец, які абавязкова павінен быў выпасці. Усё ж гэтыя асталопы маглі пайсці ў прыбіральню, папаліць, урэшце — заснуць.

Для такога выпадку ў каморы гаспадара захоўвалася паляўнічая стрэльба, нават зарэгістраваная. Ёю можна было напалохаць і выгнаць з хаты п'яных начных гасцей. Але трэба было дачакацца свайго шанца. Вайна навучыла яго, што перамагае не той, хто лезе на ражон, а той, хто цярпліва чакае найбольш спрыяльнага моманту.

«Дачакацца», — паўтарыў пра сябе ветэран.

Тым часам з экрана тэлевізара вядучы казаў далей прыемныя словы ў адрас пераможцаў: «У вас быў адзіны лёс, адна бяда, адна надзея і адна Айчына. І вы яе абаранілі. Вялікая пашана тым салдатам, якія клаліся пад кулі ворага ў няпросты для нашай Радзімы час».

— Чуеш, дзед, як цябе хваляць? — звярнуўся да гаспадара Алік. — Прыемна? А ты дзе ваяваў? Так бы мовіць, клаўся пад кулі?

— Шмат дзе, — спакойна адказаў ветэран. — Напрыклад, Сталінград вызваляў.

— Сталінград, — паўтарыў Алік. — Ды цябе б там грохнулі ў першы дзень. У акопе ты прасядзеў, а цяпер Сталінградам хвалішся.

— Ды добра, Алік, няхай дзед пабаіць нам свае казачкі. Цікавей будзе, — сказаў Вадзік сябру, а потым, задумаўшыся, дадаў: — Дзед, а я памятаю, як ты прыходзіў да нас у школу. Я тады ў восьмым класе вучыўся. Але ведаеш, усё-усё забыўся з таго часу. Давай раскажы што-небудзь з мінулага. Бачыш, і дата да гэтага якраз падаспела. Ну?

— Ну? — таксама паўтарыў Алік і пагрозліва ўставіўся ў ветэрана.

Ветэран збіраўся з думкамі. Што ён мог распавесці гэтым, як называлі іх па тэлебачанні і пісалі ў газетах, праўнукам Вялікай Перамогі, з свайго мінулага? Да таго ж у свядомасць засела крыўднае «казачкі».

А быў час, калі і ён быў малады.

І яго маладосць значна адрознівалася ад маладосці начных гасцей…

…На пачатку лета 1941-га яму споўнілася васямнаццаць. Працаваў у калгасе. Вось тут, у гэтай самай вёсцы. У вольны час купаўся і загараў ля копанкі, непадалёк ад мястэчка. Блакітнае неба над галавой, юначыя мары. Што яшчэ патрэбна для шчасця вясковаму хлопцу? Каханне. І яно было. З Любай, якая таксама працавала ў гаспадарцы і была яго аднагодкай. Абодва марылі пра вяселле. З пачаткам вайны скончылася і тое наіўнае юнацтва. Было зразумела, што светлае іх з Любай заўтра аддаляецца. Больш і больш. Бо яму наканавана не проста служыць, а ісці абараняць Радзіму.

— Таварыш старшыня прызыўной камісіі, прызыўнік Глухоўскі Мікалай Віктаравіч на пасяджэнне прызыўной камісіі прыбыў, — адрапартаваў ён у ваенкамаце.

— Чуеш, бачыш? — запыталі ў яго.

— Ну…так, — адказаў юнак, сумеўшыся.

— Прыдатны да службы! — заключыў старшыня. — Наступны!

Ён памятаў вечар, які правёў з каханай, да дробязей.

— Ты асцярожней там будзь, — усё прасіла яна, аціраючы слёзы.

— Буду, — абяцаў ён.

Далей была вучоба ў кулямётным вучылішчы. Начаваць прыходзілася ў халодных памяшканнях, а днём — палявыя заняткі з поўнай баявой выкладкай. Патронаў на вучобу «вышэйшае» не шкадавала. Стралялі па мішэнях і з калена, і лежачы, і стоячы.

Камандзіры любілі паўтараць словы Суворава: «Цяжка ў вучэнні, але лёгка ў баі». Байцы гэта зразумелі таксама. Праўда, пасля.

Там, у кулямётным вучылішчы, было спакойна. А недзе, далёка ці не, была лінія фронту. Там не вучыліся, а ваявалі па-сапраўднаму. Па-сапраўднаму ранілі, забівалі, гінулі.

Час ляцеў наперад. Вучоба заканчвалася. І зноў чакала невядомасць. Думаючы ноч у ноч пра тое, што з ім адбылося за апошні час, юнак зразумеў, як ён пасталеў. Гэта быў не адзін крок наперад, а нашмат больш. І колькі невядомага яго яшчэ чакала.

Пасля вучэбкі юнага байца накіравалі ў 204-ю стралковую дывізію, а разам з ёй на перадавую — у Сталінград. Тут і пачалася яго сапраўдная вайна.

Ён бачыў жудасныя смерці таварышаў. Немцы білі з танкаў, увялі ў бой авіяцыю. Закідвалі ўлёткамі, якія агітавалі здавацца.

У адной з атак яго кантузіла ад выбуху міны, потым прыціснула абломкам нейкага будынка. Аднапалчанін — Аляксандр, Сашка, які выпадкова апынуўся побач, — неяк паспеў яго выцягнуць, а потым аднесці ў санчастку. Так ён застаўся жывым.

Пэўны час наведваў яго таварыш. Але раптам знік. Ужо потым стала вядома, што Сашка загінуў падчас чарговага авіяцыйнага абстрэла. У знак удзячнасці і памяці пра баявога таварыша юнак вырашыў адпусціць такія ж вусы, якія насіў Аляксандр.

Пасля Сталінграда вайна працягвалася. Ён вылечыўся і зноў трапіў на фронт.

«Ты асцярожней там будзь», — згадваў словы каханай кожны раз перад сутычкай з ворагам. І стараўся выконваць сваё абяцанне…

…Ветэран блытанымі ўрыўкамі расказваў начным гасцям гісторыю свайго мінулага. Але ці мог ён дастукацца да іх сэрцаў? Што для іх былі гэтыя ўспаміны, калі вайну яны бачылі толькі ў кіно і ад матчынай спадніцы не адлучаліся?

***

— Стралком, кажаш, быў? — недаверліва спытаў Алік, калі стары замаўчаў. — Ну-ну. Мы ведаем, што ты добры паляўнічы. Бачыш, вунь і ласіныя рогі на сцяне вісяць. Трафей. А цяпер на паляванне ходзіш?

— Не, сынкі, якое паляванне? Зрок не той, ды і здароўе, — схлусіў ветэран, бо яшчэ гэтай зімой разы два хадзіў у лес на зайца. Праўда, вяртаўся з пустымі рукамі. Але не гэта было галоўнае. Любімы занятак цягнуў з хаты, ды і падыхаць лясным паветрам карысна для здароўя.

— А стрэльба засталася? — зноў пацікавіўся Алік.

— Якая там стрэльба? — махнуў рукой ветэран. — Яе рэгістраваць трэба, а навошта яна мне, калі на паляванне больш не хаджу? То прадаў, — зноў схлусіў гаспадар.

Ён ведаў: толькі скажы пра стрэльбу — папросяць паказаць, а там што прыйдзе ў галаву гэтым п’яным аболтусам? І да граху недалёка.

— Добра, — махнуў рукой Алік. — Няма дык няма. — Ты гэта, ужо давай апранай свой пінжак. Зірні, першая гадзіна ночы. Лічы, Дзень Перамогі надышоў.

— А мы паглядзім, — жвава дадаў Вадзік. — Медалі там усялякія.

— Чаму і не? — таксама ажывіўся гаспадар. — Дзякуй, сынкі, што падказалі. Усё роўна не спіцца ўжо.

Ветэран падышоў да шафы, дастаў святочны касцюм. Яму не было чаго хаваць, саромецца.

«Няхай смаркачы паглядзяць. Гэта лепш, чым у пошуках выпіўкі па хатах бадзяцца», — падумаў гаспадар.

На пінжаку было шмат баявых узнагарод: ордэн Чырвонага Сцяга, Айчыннай вайны 1-й і 2-й ступеняў. Хапала і медалёў: «За абарону Сталінграда», «За адвагу», «За баявыя заслугі», «За вызваленне Прагі», «За ўзяцце Берліна», «За перамогу над Германіяй», а таксама юбілейныя.

Пінжак ён апранаў нячаста: хіба толькі на Дзень Перамогі і Дзень Незалежнасці, калі выбіраўся ў горад.

— А ты, дзед, і сапраўды герой, — сказаў Вадзік, калі ветэран паўстаў перад імі. — І не цяжка табе, старому, іх насіць? Мабыць, добры пуд важаць?

— І грошай нямала каштуюць, — дадаў Алік.

— Сваё ніколі не бывае абярэмкам для плеч, — адказаў стары. — Ды і не кожны дзень яго апранаю. Дзеля Дня Перамогі можна і патрываць.

— Франціць хочаш, стралок. Ну-ну, — пажартаваў Вадзік.

— Ты не бойся. Адбіраць твае цацкі не станем. У гэтай глухамані хіба каму іх загоніш, — махнуў рукой Алік. — Да таго ж ты аднавясковец, адзіны на ўсё сяло герой.

— Дзед, давай з намі за Перамогу, — радасна прапанаваў Вадзік.

— А давайце! — пагадзіўся ветэран.

— А дзе вы, сынкі, служылі? — запытаўся ён пасля першай чаркі.

— Нідзе, — адказаў Алік. — Я, дзед, ЗПР!

— А я ў ЖДВ! — сказаў Вадзік.

— Ну, на вайне кожнае войска важнае, — зазначыў гаспадар.

— Ага, — засмяяўся Вадзік. — Нават канапавае!

Праз некалькі хвілін стары зноў пацікавіўся:

— Скажыце, вось вы вучыліся ў школе. А ў піянерскай дружыне вы былі, у камсамоле?

— Ты што, дзед, звар'яцеў? Якія піянеры? — здзівіўся Алік. — Няма тваіх піянераў даўно.

— А камсамол зараз Беларускім рэспубліканскім саюзам моладзі завецца. Ну, кшталту. Але туды мы нават і не думалі ўступаць, — дадаў Вадзік.

— Чаму гэта? — зноў пацікавіўся гаспадар.

— Патрэбнымі якасцямі, кажуць, не валодаем. Да таго ж, калі туды ўступаеш, то трэба розныя ўзносы плаціць. А тут і на гарэлку грошай няма.

— Зразумела… — прамармытаў стары.

— Вось як яно цяпер. А ты — піянеры, камсамол, — узняўшы галаву, сказаў Алік і пачаў разліваць у шклянкі самагон.

***

У 1943-м на фронце баі ішлі, што называецца, «з пераменным поспехам». Часам першую палову дня яны з таварышамі выбівалі ворагаў з акопаў, а ў другой тыя контратакавалі і вярталі страчаныя пазіцыі.

Вайна ішла на яго Радзіме — у Беларусі.

Каля вёскі Забалацце на Віцебшчыне яго прашыла кулямётнай чаргой. Куля прайшла ў міліметрах ад сэрца. Ён не памятаў, колькі праляжаў на зямлі. Ачомаўся ад холаду. Агледзеўся і зразумеў, што ляжыць побач з забітымі. Таму ў дакументах ужо мог быць зроблены адпаведны запіс. Яго асабістую справу «закрылі». Сярод жывых ён не значыўся. І, мажліва, у яго родную вёску ўжо адправілася сумная вестка.

Ён не хацеў, каб яго закапалі жывым. З астатнімі. Мёртвымі. А хто ведаў: магчыма, сярод іх былі такія ж, як і ён. Але калі яны апрытомнеюць? І ці не будзе занадта позна?

Крычаць ён не мог. У роце запяклася кроў. Сабраўшы ўсе свае сілы, ён пачаў паволі выбірацца са смяротнага штабеля. Неймавернымі намаганнямі яму ўдалося апынуцца ў чыстым полі. Там яго і знайшлі свае.

І зноў быў шпіталь. І зноў лекаванне. Па начах ён успамінаў тое, што адбылося. Перажываў. Ён нават не ведаў, ці чакаюць яго дома…

Ліст дахаты ён напісаў пазней, калі пайшоў на папраўку. Напісаў і Любе. Ён верыў, што яна яго чакае.

А потым — зноў фронт. Вайна не скончылася. І зноў патрабавалася яго дапамога. Бо ён быў сапраўдным камсамольцам.

Ён так думаў. Ён у гэта верыў. Тады.

Даўно гэта было…

***

— Ды ты, дзед, шчаслівчык, — заключыў пасля чарговага аповеду гаспадара Вадзік. — У кашулі нарадзіўся. І пад Сталінградам выжыў, і тут.

— Слухай ты яго больш, — як заўжды, змрочна выказаў недавер пачутаму Алік. — Ён табе праз год яшчэ новых баек прыдумае. Цяпер усе яны ахвочыя да гэтых спраў. Асабліва калі пінжак з медалямі апрануць.

— У такі дзень можна. Няхай, — сказаў Вадзік. — Што табе з таго? — І звярнуўся да гаспадара: — Ты не крыўдуй, баця, на Аліка. Ён не ведае, што такое служба. Вось я таксама ў арміі быў. Гісторый столькі засталося. Сяброў. З пэўнымі і да гэтых дзён падтрымліваю сувязь.

— Якія там у цябе гісторыі? — пажартаваў з таварыша Алік. — Шпалы васямнаццаць месяцаў цягаў. Усё бацькам ныў, што цяжка. Крыжыкі у календары ставіў. Так чакаў, пакуль дадому на бацькоўскія харчы вернешся.

— Ну і няхай, — пачырванеў ад крыўды Вадзік. — Ты зусім нідзе не быў. Адкуль табе ўвогуле пра армію ведаць?

— Шчасце вялікае, — махнуў рукой Алік. — Давай лепш разлівай. Ці я табе ўжо не сябар?

— Сябар, — уздыхнуў Вадзік.

— Вось. Я хоць у арміі не служыў, а такіх бляшанак, — Алік кіўнуў на ўзнагароды ветэрана, — на любым рынку набуду. Ды і форму таксама — у спецыялізаванай краме. За гадзіну героем стану.

Словы Аліка ветэран не чуў. Ён быў далёка — у сваіх ўспамінах.

***

…Ён добра памятаў таварышаў па службе. Лепшы сябар, які выратаваў яму жыццё ў Сталінградзе, — Аляксандр, Сашка — загінуў. Але на ўсё жыццё застаўся ў яго памяці.

Быў яшчэ адзін Аляксандр — Шурка, родам з Гродзенскай вобласці. З ім ветэран пазнаёміўся пасля таго, як вярнуўся на фронт са шпіталя. Абодва — вяскоўцы. Таму і сышліся, пасябравалі. Шмат яднала іх, шмат нямецкіх атак адбілі яны разам. Аднойчы Шурка назіраў за праціўнікам у перыскоп і заўважыў, як ворагі, робячы невялічкія перабежкі, набліжаліся да іх пазіцый. Па сігнале Шуркі быў адкрыты артылерыйскі агонь — і фашыстам не ўдалося выканаць задуманае.

Жвавым хлопцам быў Шурка. Ды толькі загінуў у 1943 годзе ля невядомага хутара ў сваёй Гродзенскай вобласці…

…Пасля вызвалення адной з вёсак да стралковай дывізіі прыбіўся пятнаццацігадовы хлопчык Данілка. Яго бацька ваяваў на фронце, а маці расстралялі ворагі. Падлетка адправілі дапамагаць на кухню. Праз год ён стаў хадзіць у разведку, дапамагаў дарослым, як мог. Разам з імі і сустрэў Перамогу. Пасля вайны ад знаёмых-аднапалчан ветэран чуў, што хлопец скончыў інстытут, працаваў у сталіцы на адным з прадпрыемстваў інжынерам.

Шмат гісторый, шмат успамінаў. Пра ўсё адразу і не згадаць…

***

— Дзед, вось ты герой. А ты думаеш, нам жывецца лёгка? — запытаў Алік. — А чорта лысага! І вайны няма, і не жывецца.

— Хто ж вам не дае жыць? — здзівіўся ветэран.

— А ўсе. Куды ні кінь — адзін клін. Дома — бацькі жыцця не даюць, працы вартай няма.

— Але ж вы ўжо дарослыя, то трэба жыць асобна, без бацькоў. Яны вас ужо вырасцілі, — заўважыў стары.

— Нічога. Пракормяць, — сказаў Алік. — Што ім, місы супу шкада?

— Вось кожны з гэтым лезе. Бацькі тое, бацькі сёе. Мы там, дома, і бываем рэдка.

— Спраў па горла, — дадаў Вадзік.

— Па хатах бадзяцца?

— Ты, дзед, палку не перагінай, — незадаволена адказаў Алік. — Што значыць — бадзяцца? Мы што, на чалавечыя адносіны забыліся? У госці нельга зайсці? Гэта нас сустракаюць неахвотна, а мы да ўсіх з шырокай душой.

— Так, — уставіў свае тры капейкі Вадзік. — І да цябе завіталі, каб з Днём Перамогі першымі павіншаваць. Адзначыць, так бы мовіць. Ці, можа, табе непрыемна?

«Ведаем мы вашы віншаванні. Зусім па іншае вы прыйшлі», — падумаў ветэран, але ўголас сказаў:

— Прыемна.

— Ну вось, — задаволена азваўся Вадзік. — Ці, можа, самагонкі шкада?

— І самагонкі… для добрых людзей… не шкада.

— У чым тады праблема? — спытаў Алік.

— Не так, не так усё гэта, — пахітаў галавой ветэран.

— Не так, — буркнуў Алік. — Зараз я цябе, дзед, навучу ветлівасці.

Няпрошаны госць умомант падняўся і сadануў кулаком у твар старому. Ад нечаканасці і моцы ўдару ветэран разам з зэдлікам паваліўся на падлогу і страціў прытомнасць.

— Ты што?! — зірнуўшы на сябра, запытаў Вадзік. — З глузду з'ехаў? А калі ты яго забіў? Бачыш, ляжыць, не варушыцца. Я, ведаеш, у турму не жадаю.

— Не хныч. Распусціў тут нюні, — агрызнуўся Алік. — А што было рабіць? Бачыш, п'е разам — і ні ў адным воку. А нам грошы патрэбныя. Давай лепш зірнём, дзе стары пень іх хавае. Можа, яшчэ што вартае знойдзем. Потым дап'ём самагонку і будзем думаць, што рабіць далей.

— Ты там зірні, ці хоць дыхае? — не адставаў Вадзік.

— Хочаш, глядзі сам. Мне няма калі.

Вадзік, у якога ад страху імгненна выйшаў увесь хмель, падышоў да ветэрана, прысеў, узяў яго руку і стаў намацваць пульс. Потым прыклаў вуха да грудзей.

— Здаецца, жывы, — з палёгкай выдыхнуў ён.

— Вось бачыш, а ты баяўся, — зазначыў дзелавіта Алік. — Хопіць лірыкі. Давай дапамагай.

Вадзік стаў таксама абшукваць хату. Праз пятнаццаць хвілін, знайшоўшы ў камодзе грошы, Алік з задавальненнем сказаў:

— Зірні, тут некалькі пенсій. Я заўсёды ведаў: у гэтых пенсіянераў грошай куры не клююць. Самі будуць сядзець на вадзе з хлебам, а грошы зберагуць — для дзяцей, унукаў, на агарод, дровы.

— Ты там хоць крыху пакінь, каб… не здагадаўся, — параіў Вадзік.

— Не вучы вучонага, — незадаволена адказаў сябар. — Сам ведаю, што і як рабіць. Хадзем, адзначым падзею.

Яны зноў селі за стол, напоўнілі шклянкі.

— Ну, за Перамогу, — выгукнуў Алік.

— За яе, — звыкла пагадзіўся таварыш.

***

Лёсы сяброў былі розныя.

Алік — адзіны сын дваіх небаракаў, якім у дзяцінстве не вельмі быў патрэбны. Пэўна, гэта і наклала на яго жыццё адбітак бездагляднасці.

На першым месцы ў сям'і значылася выпіўка. З гэтай прычыны Аліка некалькі разоў забіралі ў прытулак. Потым бацькі часова мянялі лад жыцця, і Алік вяртаўся назад. Нейкі час у хаце панавала ідылія, але бацькоўскай вытрымкі надоўга не хапала. На стале зноў з'яўлялася бутэлька і дзве шклянкі. І ў жыцці малога пачыналіся цяжкія дні. Тады не было ў яго нават хлеба. Хлопчык бегаў да суседкі Марылі, якая падкормлівала яго. Затым у хату прыязджала міліцыя, нейкія цёткі, дзядзькі. Пра нешта размаўлялі з бацькамі, а пасля забіралі Аліка зноў у прытулак. Хлопчык памятаў, як маці, калі машына ад'язджала, бегла ўслед і нешта крычала. Што менавіта, сын не чуў.

Юнацтва Аліка прайшло паміж родным домам і прытулкам. З аднаго боку — п'яныя бацькі, чарговы касметычны рамонт (новыя шпалеры), пусты халадзільнік, хлеб і вада. З іншага — чужыя халодныя сцены, выхавацелі, педагогі-псіхолагі. Чаканне бацькоў, іх пачастунак (чупа-чупс) і маленькая машынка, якую ён хаваў пасля пад падушкай, і калі заставаўся сам-насам, гуляў з ёю і цешыў сябе тым, што цацку яму падарылі бацькі.

Першы раз, калі ў прытулку яго павялі ў сталовую і прапанавалі салат і кісель, ён глядзеў на гэтыя стравы з недаверам. Не разумеў, што з імі рабіць. Выхавацелям спатрэбіўся не адзін дзень, каб растлумачыць хлопчыку, што гэта можна есці.

Так доўжылася, пакуль Аліку не споўнілася дванаццаць. З таго часу бацькі амаль перасталі злоўжываць. Пачалі сяк-так працаваць, і ў халадзільніку з'явіліся хоць нейкія запасы ежы. Раз ў год хтосьці з бацькоў на тыдзень-два запіваў. Але потым у хаце зноў усталёўвалася цішыня.

Здавалася б, бацькі павінны былі стаць для яго прыкладам таго, як жыць нельга. І што ў жыцці ёсць іншы сэнс, і ёсць куды імкнуцца, каб не вырасці такім, як родныя. Але ці то занядбанасць, ці то гены сталі прычынай Алікавай ляноты. У такіх выпадках кажуць: не было ў каго ўдацца. Ён вельмі рана пачаў хадзіць на дыскатэкі ў Дом культуры, і там са старэйшымі хлопцамі ўпершыню пакаштаваў самагон.

Тады яму было вельмі дрэнна, нават ванітавала. Але адчуванне лёгкасці і багатырскай моцы акрыляла. З кожным разам хлопец усё больш схіляўся да выпіўкі.

Неяк у разгар дыскатэкі яго п'яным затрымалі міліцыянеры, якія ў той вечар праводзілі рэйд. Аліка паставілі на ўлік у інспекцыі па справах непаўналетніх. Выклікалі бацькоў. Але жаданага выніку гэта не мела. Падлетак толькі стаў больш зацятым і асцярожным: стараўся не трапляць у поле зроку міліцыі.

Неяк скончыўшы дзевяць класаў, Алік паступіў у горад вучыцца на токара. Але пасля вучобы яго не размеркавалі, а шукаць працу самастойна ён намеру не меў. Вярнуўся ў вёску і сеў на шыю бацькам.

У армію Аліка таксама не ўзялі. Праўда, перад гэтым яго амаль месяц абследавалі ў псіхіятрычцы, дзе выдалі адпаведнае заключэнне.

Аб тым, што не давялося абараняць Радзіму, юнак не бедаваў. Няхай дурныя служаць, думаў ён. А яму знойдзецца занятак.

Праўда, занятак далей чаркі не заходзіў.

Бацькі лічылі паводзіны сына расплатай за свае грахі. Думалі, маладосць міне, і ён, як у свой час яны, возьме сябе ў рукі.

Зусім па-іншаму склаўся лёс Вадзіка.

Яго бацькі былі настаўнікамі і ў вёсцы лічыліся занадта інтэлігентнай сям'ёй. Бацька — Антон Іванавіч — доўгі час узначальваў педагагічны калектыў.

У дзяцінстве ў Вадзіка заўсёды хапала ежы. Што такая звычайная рэч, як абед і вячэра, бывае далёка не ў кожнага, хлопчык не падазраваў. Таму працу маці ў кухні ён не цаніў.

Вучоба ў школе давалася яму лёгка, але душа ні да чога не гарнулася. Быць касманаўтам, праграмістам ці кім-небудзь яшчэ яму зусім не хацелася. Падлетак павольна плыў па цячэнні, не імкнучыся выбраць сабе занятак, які б мог захапіць яго, змяніць яго жыццё.

Ці клопат бацькоў пра выхаванне іншых дзяцей, ці зноў гены (казалі, што прадзед Вадзіка таксама быў шалапутным) перашкодзілі вырасці хлопцу сур'ёзным чалавекам.

Калі ён пачаў хадзіць на дыскатэкі, бацькі цешыліся надзеяй, што сын адшукае сабе нявесту і возьмецца нарэшце за розум (бо да іх парад хлопец не прыслухоўваўся). Але замест таго адзіны сын пасябраваў з Алікам і стаў закладваць за каўнер.

Потым была служба ў арміі, якая таксама ніяк не паўплывала на яго светапогляд, не зрабіла з яго сапраўднага мужчыну. Вярнуўшыся з арміі, Вадзік нейкі час працаваў шафёрам у горадзе, пакуль аднойчы не прыйшоў на працу пад мухай. Яго звольнілі. Ён вярнуўся ў вёску да бацькоў, дзе апошнія два гады і жыў.

Паміж п'янкамі з сябрам у Вадзікаву галаву часам прыходзілі светлыя думкі. Ён задумваўся аб тым, каб узяць сябе ў рукі. І нават прызначаў сабе дзень, калі пастараецца кінуць свой цяперашні занятак, паступіць на завочнае ў ВНУ, пойдзе працаваць у школу настаўнікам фізкультуры. Усё ж ён сын педагогаў і хацеў працягнуць дынастыю.

Вадзік вельмі спужаўся, калі Алік ударыў ветэрана. У турму яму не хацелася. У гэты момант ён гатовы быў хоць зараз ісці пехатой у горад, каб закадзіравацца, а потым падаць дакументы ў інстытут.

Але калі ён зразумеў, што ветэран жывы, то падумаў: усе змены ў жыцці можна адкласці яшчэ на некалькі дзён.

Толькі а другой гадзіне ночы прытомнасць вярнулася да старога. Ён прыўзняўся з падлогі, азірнуўся. Моцна балела галава. Гаспадар зірнуў туды, дзе стаяў стол.

Яны спалі за сталом.

Ветэран доўга глядзеў на маладых аднавяскоўцаў.

«Дзеля чаго яны жывуць на зямлі? — думаў ён. — Ці змаглі б яны абараніць Радзіму? Ці змаглі б абараніць іх, ветэранаў мінулай вайны? Ці яны толькі здольныя піць і жраць? Прыносіць гора іншым?»

Зусім пра іншых нашчадкаў Вялікай Перамогі ён марыў. Але такія, як гэтыя, жылі і ў даваенны час. Што тут крывіць душой — поскудзі ў любы час хапае.

І ўсё ж было неяк не па сабе.

Сапраўды, дзеля чаго яго запрашалі ў тую школу? Дзеля «галачкі»? Каб потым адправіць чарговую справаздачу ў раённы аддзел адукацыі, што ў школе прайшла сустрэча з ветэранам? Школьнікі слухалі яго, бо гэта было лепей, чым сядзець на ўроках. А пасля забыліся. Ды ці помнілі? Прыслухоўваліся? Мабыць, усё ад сваіх мабіл адарвацца не маглі?

Што ёсць Дзень Перамогі для маладых старшынь сельскага Савета дэпутатаў і старшыні калгаса, дырэктара школы, якія будуць віншаваць яго на мітынгу, ціснуць руку? Тая ж «галачка». Выкананне абавязкаў. Нагода лішні раз з'явіцца на людзях, паказаць сябе. Каб у вёсцы ведалі пра іх красамоўства ды новыя гальштукі!

Ветэранаў сапраўды не засталося ў вёсцы. Ён адзін, яшчэ трое — удзельнікі. Ёсць чалавек пятнаццаць так званых дзяцей вайны. Разам з імі згасне сапраўдная памяць пра той жудасны час, які ім давялося перажыць. Ці перамаглі б у той вайне, калі б на фронт пайшлі такія Алікі і Вадзікі? Зрэшты, і такія там былі. Але толькі ў штрафбатах.

Што прыйдзе ім у галаву, калі яны прачнуцца? Пойдуць дадому трэсці бацькоў? Ці вінаватыя тыя, што ў іх выраслі такія дзеці?

Вёска заўжды была вёскай. Тут кожны ведаў усё адзін пра аднаго. Не быў выключэннем і ветэран. Ён чуў пра бацькоў Аліка, пра іх звычку па маладосці выпіваць. Што можна было сказаць пра іх сына? Яблычак ад яблынькі, вядома, куды коціцца.

Бацькоў Вадзіка яму было шкада. Ветэран ведаў іх — мясцовую інтэлігенцыю, ставіўся з павагай. Але і яны недагледзелі.

У газетах ветэран шмат чытаў пра тое, як моладзь зняважліва ставіцца да гісторыі мінулага і старых людзей. У райцэнтры старшакласнікі нападпітку пашкодзілі помнікі на Алеі памяці герояў-землякоў. У сталіцы адзін мужчына вырашыў пакатацца ля Вечнага агню на Плошчы Перамогі. У іншым мястэчку невядомыя пабілі ветэрана і адабралі ў яго ўзнагароды.

«Цяпер чарга дайшла і да мяне», — падумаў ветэран.

Між тым па тэлевізары ішла чарговая праграма, прысвечаная Дню Перамогі. Гучаў голас за кадрам: «Мы павінны паважаць, шанаваць памяць пра сведкаў вайны, тых, хто змагаўся за нашу будучыню!»

«Памяць, памяць», — паўтарыў стары і ўгледзеўся ў фотаздымкі на сцяне. Шмат ў той момант нагадалі ветэрану гэтыя фотаздымкі…

***

…Пасля вайны ён праслужыў яшчэ два гады ў арміі і толькі потым вярнуўся ў вёску. Ад бацькоў даведаўся, што Люба пасля той недарэчнай абвесткі пра яго смерць доўгі час не знаходзіла сабе месца. А адразу пасля вайны паехала на Далёкі Усход, дзе выйшла замуж. Яе бацькі казалі, што дачушка нарадзіла ім унука.

Яму таксама трэба было жыць далей. Праца ў калгасе, як і да вайны, чакала яго. Хутка знайшлася і спадарожніца жыцця — усмешлівая Кацярына, якая працавала ў паляводчай брыгадзе. Ён ведаў яе і да вайны, але кахаў тады Любу.

Разам з жонкай пабудавалі дом, разам вырасцілі двух дзетак: хлопчыка Сашку (малога назвалі ў гонар баявога таварыша — жывая памяць) і дзяўчынку Адарку. Мінулае юнацкае каханне выветрылася з яго галавы. І нават калі Люба прыехала да бацькоў са сваёй сям’ёй, гэта ніяк не ўзрушыла Мікалая. Якраз у той момант моцна захварэла дачка, і для былых сантыментаў, успамінаў, жадання ўбачыцца ў мужчыны проста не было часу. Дзверы ў мінулае назаўсёды зачыніліся.

Дзеці закончылі школу і паехалі вучыцца ў горад. Там і засталіся. Яны з жонкай цягнулі на сабе далей увесь цяжар гаспадарчых клопатаў. Здавалася, таго і не трэба было: садзіць столькі бульбы, сеяць столькі збожжа, трымаць некалькі свіней, карову і каня. Але без гэтага мужчына не ўяўляў сваё жыццё. Усё здавалася надта патрэбным — і сабе, і ў горад дзецям, бо там ужо падрасталі унукі.

Старасць надышла незаўважна, а з ёю і пенсія. Ды пацешыцца на заслужаным адпачынку разам доўга не давялося: нечаканы інфаркт падкасіў жонку. Праз некалькі гадоў яна згасла назаўжды.

Ішоў ужо дваццаты год, як мужчына жыў адзін. Дзеці з дарослымі ўнукамі наведваліся нячаста. Не так даўно яны падарылі яму мабільны тэлефон, бо звычайнага тэлефона ў бацькоўскім доме не было. Распавялі, як карыстацца, час ад часу тэлефанавалі.

Вялікую гаспадарку стары ўжо не трымаў, але дзясяткі два курэй хадзілі па надворку, агарод амаль увесь быў засеяны збажыной, там жа — некалькі радкоў бульбы ды крыху месца пад грады.

Два разы на тыдзень да яго наведвалася Нінка, сацыяльны работнік, якая прыбірала ў хаце, рыхтавала няхітры абед ды прыносіла з мясцовай крамы неабходныя прадукты.

Так міналі дні.

…Ён глядзеў на фотакарткі. Успамінаў.

Раптам яму зрабілася блага. Ён падняўся, падышоў да шуфляды, дастаў валяр'яну. У такія хвіліны, калі падымаўся ціск ці нешта хвалявала, пачынала балець галава. Давала аб сабе знаць кантузія. Ветэран быў у такія моманты не падобны сам да сябе.

«Хопіць спаць. Немцы ў хаце!» — пульсавалі ў галаве словы.

«Ворагі, ворагі», — паўтараў ён пра сябе.

Агледзеўшы пакой, стары зразумеў, што начныя госці нешта ў хаце шукалі. Паўсюль былі раскіданыя рэчы.

«Пэўна, грошы», — падумаў гаспадар. Што ім яшчэ было трэба? Можа, трэба было адразу аддаць ім і грошы, і самагон? Магчыма, тады яны б пакінулі хату і не сталі яму назаляць.

Тут ён згадаў пра шанец, які яму нарэшце выпаў. Хлопцы спалі. Цяпер можна было ўзяць стрэльбу і выгнаць іх з хаты.

Стары накіраваўся ў камору. Вярнуўся са стрэльбай. Паклаў яе на крэсла, пайшоў зноў у камору. Прынёс дзве доўгія вяроўкі. Адну кінуў на падлогу, з другой падышоў да Аліка.

— Зараз, пачакай, міленькі «ЗПРавец», — сказаў ветэран, звязваючы хлопца.

Спачатку добра ўвязаў рукі, потым пачаў абмотваць тулава. У старога было не вельмі шмат моцы, таму існавала рызыка, што хлопцы скінуць з сябе путы. Але пакуль яны п'яныя, шанец усё ж заставаўся.

Звязаўшы Аліка, стары ўзяўся за Вадзіка.

— І цябе ўпарадкуем, — амаль весела прыгаворваў ветэран.

Калі справа была зроблена, пачаў шукаць мабільны — патэлефанаваць у міліцыю. Але тэлефон ніяк не знаходзіўся.

Страціўшы надзею знайсці патрэбную рэч, ветэран зноў узяў у рукі стрэльбу. Падышоў да стала, пхнуў нагой зэдлік, на якім пасопваў Алік.

— Hände hoch! — голасна ўскрыкнуў ветэран. — Ну! Рускія прыйшлі! Пад'ём!

Алік на імгненне пралупіў вочы.

— Дзед, ты з глузду з'ехаў? Што гэта? — ён кінуў позірк на вяроўку.

— Гэта значыць, што вы трапілі ў палон, — адказаў ветэран.

Тут ачомаўся Вадзік.

— Дзед, ты… што, у вайну вырашыў пагуляць? — не зразумеў ён.

Ветэран не адказаў.

— Ды я цябе зараз! — ускіпеў Алік.

Ён паспрабаваў устаць на ногі і тут жа ўпаў.

— Пад'ём! Я не жартую! — сказаў стары і для ўпэўненасці гвазданула нагой Аліку ў жывот.

— Сука! Ды я цябе зараз! — гнеўна ўскрыкнуў Алік і паспрабаваў падняцца.

— Давай! Давай! — падганяў яго гаспадар. — А ты што? Падымайся таксама, — звярнуўся ветэран да Вадзіка.

— Дзед, мы гэтага табе не даруем! Чуеш? — зароў Алік. — Прыйдзем, адпомсцім! Нават з турмы!

Ветэран зноў узняў стрэльбу.

— Хто ведае, што ў яго ў галаве, — адказаў Вадзік дрыготкім голасам. — Падымайся. А то пастраляе, кантужаны гэты.

Хлопцы павольна падняліся.

— На выхад!

Госці рушылі да дзярэй.

На надворку ветэран скамандаваў:

— У клець!

— Куды? — не зразумеў Алік.

— Куды чуў, — сурова адказаў стары.

— Што там рабіць? — запытаўся Вадзік.

— Чакаць раніцы. Міліцыю, — не адразу адказаў ветэран і прыставіў да яго спіны стрэльбу. — Надумаеш жартаваць — атрымаеш кулю.

— Дзед, ты ж казаў, што ў цябе няма стрэльбы, — сказаў Вадзік.

— Шмат чаго я казаў, — уздыхнуў стары. — Вы ж самі ведаеце: ветэраны толькі на байкі здатныя.

Як толькі яны зайшлі ў клець, ветэран замкнуў дзверы.

— Дзед, не адзін дзень жывём, яшчэ зойдзем, — не супакойваўся «ЗПРавец».

З хлопцаў яшчэ не выйшаў хмель, таму, трохі пашумеўшы, яны хутка сціхлі.

Ветэран прычыніў дзверы ў хату і пайшоў на вуліцу — на дарогу.

Ён павольна крочыў па вёсцы, узіраўся ў дамы вяскоўцаў. У змроку і начной маўклівасці яны, здавалася, выглядалі зусім інакш. Ветэран згадваў кожнага, чыю хату мінаў. Вось у гэтай хаце жыве Хведар, да якога стары штораз звяртаецца, каб той восенню пераараў яму агарод. А ў гэтай —Ганна, якая тры разы на тыдзень за грошы прыносіць яму малако.

Нетаропка прайшоў ветэран амаль палову вёскі. На перакрыжаванні вырашыў павярнуць на дарогу, што вяла на пагост. Чамусьці ў гэтую хвіліну захацелася зірнуць на апошні прытулак таварышаў, такіх жа, як ён, ветэранаў, што пайшлі з жыцця нашмат раней за яго.

Там жа пахаваныя і бацькі. Таму ў першую чаргу ён накіраваўся да іх. Пастаяўшы крыху ля магілак, рушыў далей. Ён памятаў людзей, якія глядзелі на яго з фотакартак, прымацаваных да крыжоў.

У апошнюю чаргу падышоў да брацкай магілы, да помніка-воіна. Тут былі пахаваныя астанкі тых, хто вызваляў яго вёску. Ён ваяваў на іншым фронце, вызваляў зусім іншыя вёскі, а за яго малую радзіму змагаліся тыя, хто, магчыма, ніколі датуль і не чуў яе назвы.

Ветэран кінуў позірк на прозвішчы. Усяго іх тут сто пяцьдзесят два. Але што маглі сказаць яму прозвішчы? За кожным — лёсы юнакоў і дарослых мужчын. Кім яны былі? Дзе жылі? Хто чакаў іх з вайны? Шмат пытанняў. І ні на адно з іх ён не ведаў адказу. У думках ён падзякаваў ім за вызваленне сваёй вёскі, за тое, што яны жылі некалі на гэтым свеце.

Развіднела. Ветэран рушыў да помніка воінам у цэнтры вёскі. Менавіта тут праз якія трычатыры гадзіны адбудзецца мітынг.

Па дарозе ён сустрэў Святлану, даярку, якая ўжо ехала на веласіпедзе на працу.

— Добрай раніцы, дзед. Што, у Дзень Перамогі не спіцца? Хочаш хутчэй адзначыць? — пажартавала яна.

Ветэран адказаў:

— Канечне, такое свята раз на год. Чаму і не адзначыць?

Стары падышоў да клумбы ля будынка сельсавета, сарваў некалькі цюльпанаў, усклаў іх да помніка. Потым сеў адпачыць на лаву побач.

Здавалася, ён ужо ні пра што не думаў. Ён стаміўся.

Ветэран заплюшчыў на імгненне вочы. Яму захацелася крышачку падрамаць, а ўжо потым сустрэць свята Перамогі. Раптам яго сэрца тузанулася, быццам на імгненне прыпынілася — старога павяло ўбок.

Ветэран хацеў ухапіцца за лаву рукой. Але не паспеў. Так і ўпаў ніцма долу.
Ён так і не зразумеў, што з ім сталася.

Аліка і Вадзіка знайшлі ў клеці ў той жа дзень. У раённай газеце пра гэта здарэнне надрукавалі нататку. Побач змяшчаўся невялічкі артыкул, у якім прадстаўнікі аховы правапарадку заклікалі пенсіянераў не адчыняць дзверы незнаёмым людзям.

***

Мітынг, прысвечаны Дню Перамогі, пачаўся з хвіліны маўчання.
Адзначыць свята сабралася мясцовая інтэлігенцыя, школьнікі, вяскоўцы. Галоўныя ўдзельнікі мерапрыемства сядзелі недалёка ад мікрафона, дзе выступалі прамоўцы. Школьнікі трымалі партрэты родных, якія прайшлі праз вайну і якіх зараз, на жаль, ужо не было сярод жывых.
Зноў гучалі высокія словы пра тое, што дзякуючы гераізму і адвазе салдат Савецкай арміі сённяшняе пакаленне бачыць над галавой блакітнае мірнае неба. І што моладзь павінна пранесці памяць у сэрцах і перадаць яе сваім нашчадкам, каб на зямлі не паўтарылася вайна.
Слова далі самым малодшым удзельнікам мітынгу — вучням пачатковых класаў. У іх запыталі, што яны ведаюць пра вайну.
— Вайна — гэта самае страшнае слова, — сказаў у мікрафон маленькі хлопчык.
— Мама мне сказала, што вайна — гэта боль, слёзы, доўгія пакутныя дні, — адказала на пытанне дзяўчынка.
— Вайна — гэта смутак, — адказаў наступны хлопчык.
— На ўроку нам расказвалі, што кожны трэці жыхар нашай краіны загінуў, — сказаў чарговы нашчадак Вялікай Перамогі.
— Вайна — гэта жах…

…Віншаванні гучалі і гучалі.
Удзельнікі і дзеці вайны глядзелі на юнае пакаленне і разумелі, што для яго ўсё сказанае — толькі словы. І што яны ў гэтым не вінаватыя. Для іх жа саміх гэта памяць. Трагічная і гераічная.
Вайна скрала ў іх дзяцінства, забрала ад іх бацькоў. Яны радаваліся звычайным цацкам: каляровому шкельцу, праз якое можна было ўбачыць ружовым неба, драўлянаму пісталецiку, гліняной лялькцы.
І зараз, на мітынгу, яны сапраўды хацелі, каб мірнае жыццё працягвалася, каб гэтыя дзеці, якія прыйшлі сюды і трымалі фотакарткі сваіх прадзедаў, радаснымі вярнуліся дадому. Каб не былі галоднымі і раслі шчаслівымі.
Гэтага хацелі ветэраны. Бо яны памяталі, што ў іх жыцці было інакш. Што ў жыцці бывае інакш.
Цёплае надвор'е і па-сапраўднаму блакітнае вясновае неба ўмацоўвалі іх веру ў тое, што будзе цяпер толькі так. А памяць вырастала над помнікам, над удзельнікамі мітынгу, цягнулася некуды ўвысь і рабілася далёкай і недасяжнай. І тым не менш заставалася жыць у сэрцах.
Як падавалася, назаўжды.

**Заўвага аўтара**
Увесь тэкст з'яўляецца мастацкай выдумкай. Усялякае супадзенне герояў і фактаў з рэальнасцю трэба лічыць выпадковым.



Глеб Ганчароў



**нарадзіўся 23 верасня 1965 года ў Мінску. Працаваў інжынерам-оптыкам-канструктарам, гаспадарчым юрыстам. Выступае з вершамі і прозай у рэспубліканскім друку. У творчасць Лесі Украінкі ўлюбіўся, калі ў 1977 годзе ўбачыў тэлеспектакль паводле яе п’есы «Касандра».**

## Цвет нікацiяны

*паэма*

*Когда цветёт никотиана,*
*Всё, всё тогда полно обмана,*
*Опасна ночи тишина,*
*Как то затишье роковое,*
*Когда коварная волна*
*Хранит молчанье гробовое.*

*Леся Украінка*

**I**

Лібава-Роменскі вакзал.
Раство Хрыстова адшумела,
Паўсонны горад ачумела
Ў прыгожым смецці загразаў.

Спыніся ж, моташны цягнік!
Не валачыся ўздоўж платформы!
Гудок праплакаў песню Нормы[1]
І абяссілена панік…

О, Casta Diva, змрочны бог,
Гатовы прагна ўпіцца кроўю,
Але цяпер тваё здароўе —
Пад доглядам маіх трывог!

Хутчэй! Перадвакзальны пляц
Мяне зняможана чакае.
Якая жарсць, туга якая
Далей мне будзе назаляць?

Нахабны вецер, як штукар,
З плячэй зрывае палярынку.
Стаіць ля конкі на прыпынку,
Што кульба, газавы ліхтар.

Неўтаймаванай балбатнёй
Сарочын хор мне косткі мые.
О вы, сухоты касцявыя —
Бацькі кульгавасці маёй!

Хутчэй! Хутчэй! Бо кожны міг
Мінае марна ў морак Мінскі;
Цурок Нямігі, як памінкі,
Імкне падманліва праз Мінск!

---

[1] Каваціна Нормы «Casta Diva» («Прачыстая Багіня») з оперы В. Беліні «Норма» — адна з выдатных арый сусветнага савецкага опернага рэпертуару, вельмі папулярная напрыканцы XIX стагоддзя; па некаторых звестках — любімая арыя Лесі Украінкі, гімн жаночай самаахвярнасці.

Ну, што ж! Паедзем над ракой,
Напяўшы з варчаком пастронкі.
Трымай плацеж, кандуктар конкі,
Сухой сухотнаю рукой.

Вязі, дрыготкі экіпаж,
Мяне ў туман, jak boga kocham[2],
І, шпалы, палачкамі Коха
Каханне ўстаўце ў спіс прапаж.

Дзе ты закончышся, сувой,
Бясконцых страт маіх матрыкул[3]?
У безнадзейнасці? У крыку?
У міласціне кулявой?

Пячэ душу маю сухмень
Да амярцвеласці, дасуха,
Як аваднёвая трасуха,
Як палымнеючы прамень.

Не грукачы, пусты вагон,
Стальной рашоткаю па стыках,
Нібы скалечаны каліка
Калоціць мыліцай аб звон.

У неапальнай купіне
Я патану ў струменях слёзных.
Цягні, вазак туберкулёзны,
Наўсцяж Кальварыі мяне.

Касцёл Крыжа Святога, рдзей,
Працяўшы сухмаркі, як гофэр[4].
Адхаркай, Мінская галгофа[5],
Шмаццё крывавае з грудзей!

Уціхні, здрыгванне вушэй
Запрэжкі, тут жа ўсё сціхае,
І нават вуліца Сухая
За суш пустынную сушэй.

Хутчэй! Як трохгаловы *змій*,
Ляціце ўдалеч, каняжынкі,
*Бо задихається без жінки*
*Сергій Мержинський, любий мій!*

Папраўлю шпільку ў касмылях.
Вішчаць заржаўленыя рэйкі.
Міхайлаўская. Дом Нарэйкі.
Тут кане мой крыжовы шлях…

**II**

Шчарбаты, чорны мураваны ганак,
Прысыпаны кальцытам тратуар,
Дзе дворнік зранку падмятае ранак,
Яму гарэлкай дыхаючы ў твар.

Трымай жа грыўню, хабарнік ліхвярны,
Здымай замок са скошаных варот…
Літыя створкі скрыгатнулі скнарна
Па жвіры, як разладжаны фагот.

Разгалістая ліпа, што манстэра,
У шыбу б’ецца скрыўленым суком.
Дык вось яна — Сярожачкі кватэра —
Другі паверх… Падымемся паўзком.

Ах, чортава задышка! Хоць ты енчы,
Што кляча ламавая пад бічом,
О, дайце, ратавальныя парэнчы,
За вас схапіцца свірнавым кляшчом!

Адчыніць дзверы кволая кухарка
І ў драным, неахайным фартуху
Заб’ецца ў кашлі… Ну, хоць ты не харкай,
Не наганяй цвінтарную тугу!

У пасмы закруціўшы папільёткі,
Аберуч учапіўшыся ў сястру,
З пакояў ватным крокам выйдуць цёткі,
Падобныя да пульхных кенгуру,

Якім лядашчасць навязала лейцы.
І, як увасабленне ўсіх маркот,
З-за куфара, бы ў дранай кацавейцы,
Віжуе слепавокі лысы кот.

Хоць скобляй рэж нясвежае паветра —
Атрутнае, што медны купарвас!
За шторамі з прапыленага фетру
Чаўрэе ў гляку высахлы альвас.

[2] Jak boga kocham (польск.) — далібог.
[3] Матрыкул (ад лац. matricula — спіс) — афіцыйны спіс якога-небудзь саслоўя, установы, узносаў, даходаў і г. д.
[4] Гофэр (бібл.) — кіпарыс.
[5] Кальварыя (лат.) — галгофа.

І толькі моль пасланкаю хімеры
Грызе заслону лямцавых гардзін,
Каб праз яе мільгнуў праменнем веры
Агонь жыцця ад сонечных курцін[6].

— Дабрыдзень, пані! Не сярдуйце з гневам,
Бо я сюды па першаму пісьму…
Спытала цётка, што дрыжала злева,
Хаваючыся ў сальную тальму:

— Вы — Лося Косач? Госпадзі! Нарэшце…
Ён штохвілінна заклікае Вас.
Прашу за стол — мы снедаем. Пад'ешце —
У нас з Раства ёсць трошачкі каўбас.

Бярыце чай, вось сітніцы кавалак,
Пляменнік спіць траха што пяць гадзін —
Яму сягоння вельмі дрэнна стала,
І доктар Ёфэ ўпырснуў гераін.

Вох, што рабіць, як раптам ён сканае?.. —
Радзімы знак бурэў з-пад каптура.
— А хто тады нас з Мартай пахавае? —
Прашамкала малодшая сястра.

Шпаком свістала пройма з падаконня,
Старэч ухутваў збіты мухаяр,
Ім песціў падагрычныя далоні
Цяплом надзеі тульскі самавар.

Утрох яны сустрэчу зрэб'ем сцерці
Хацелі б, не хаваючы прычын,
Бо аб'яднала прадчуванне смерці
Нецалаваных зродненых жанчын.

Гарачы чай гарэніў смакам нэндзы
Ды паднябенні пёк да печаі,
З усіх куткоў пранізлівая бездань
Сачыла хіжым позіркам змяі.

Раптоўна: — Лося, Лесенька, Касачык! —
Данеслася маленне з-за сцяны.
Хрыстос глядзеў у несуцешным плачы,
Як трапятліва стрэліся яны.

Мурлыкаў кот, як рой у сытым вуллі,
На стомленых кухарчыных руках,
І маятнікам ходзікі з зязюляй
Секунды перамешвалі ў вяках.

**III**

— Ну, вось, каханы, я з табой,
Нікуды ўжо цяпер не згіну,
Бо тоесныя андрагіну[7],
Мы — як два колы пад арбой.
Нам поплеч трэсціся ўдваіх
Па крамяністаму каменню
І выехаць у час вясенні
Да роўных вуліц гарадскіх.
Табе не прыйдзецца тужыць…
— Я буду жыць?
— Ты будзеш жыць!

Як толькі падужэеш ты,
То мы — на красавік ці травень —
З табой адправімся наяве
Ў шпіталь швейцарскі, дзе хрыбты
Альпійскія буйной градой
Праколваюць блакітны полаг,
Там ты забудзеш аб уколах,
І мы павольнаю хадой
У горы пойдзем, дзе сняжыць…
— Я буду жыць?
— Ты будзеш жыць!

О, не смуткуй, каханы мой!
Мы ў Ялту з'ездзім, як залетась,
Ды зноў татарскія рулеты[8]
Скаштуем з вішняй і хурмой.
Мы на шаландзе паплывём,
Ты веславаць мяне навучыш,
Неспадзявана шторм грымучы
Ўначы ўзарвецца бугаём,
Да гарызонту пабяжыць…
— Я буду жыць?
— Ты будзеш жыць!

[6] Курціна — града для кветак або іншых раслін.
[7] Андрагіны (грэч.) — міфічныя істоты, якія мелі і жаночыя, і мужчынскія прыкметы. Угнявіўшыся на іх, богі раздзялілі іх напалам, і з тых часоў палавінкі блукаюць па зямлі, шукаючы адна адну. Калі яны злучаюцца, нішто на свеце не можа супрацьстаяць іх сіле.
[8] Татарскі рулет — пахлава.

Нас прыме ветлівы гатэль,
Дзе, пераборлівыя петлі
Сплятаючы са струн басэтлі,
Музыка грае багатэль[9],
І дзе, нібыта ручаі,
Цячэ духмянае паветра
Па спусцістых баках Ай-Петры,
Як пена з келіха Аі,
Што рот засохлы асвяжыць…
— Я буду жыць?
— Ты будзеш жыць!

— Тады адразу напішы
Дзеля найбольшай славы боскай
Да Верачкі, да Крыжаноўскай.
Яна ля Вяткінскай шашы
Сумуе ў ссылцы ў Волагдзе.
Няхай за лёс мой недарэчны
Яна памоліцца сардэчна,
Нібы за вязня на судзе,
Які ад жудасці дрыжыць!

— …Я напішу.
Ты будзеш жыць!..

**IV**

Як марудна, звычна і марудна
Крапалі рыцынавыя[10] дні!
Ніва пераліўчатая брудна
Пэцкалася ў колер галаўні.

Лопаліся ў кашлі альвеолы,
Марныя чаканні йшлі ў разнос.
Апускаў штодня ніжэй дадолу
Доктар Ёфэ талмудысцкі нос.

Лося сябра з лыжачкі карміла,
Прыпавесць чытала з паляі,
Як Гасподзь, пачуўшы кліч з Карміла[11],
Даў жывы агонь для Іліі.

Даў агонь… Што згнілае палена,
Босва націскала на педаль,
І маладзіковы вальс Шапэна
Вылучаў эбенавы раяль.

Даў агонь… У радасці натужнай,
Са слаты цягнуўшы важкі воз,
Замярзала ў апраметнай сцюжнай
Тое, што не вычарпаў Хрыстос.

І калі да дна сцякла надзея,
Засуха настала на душы —
Перад дэісусам дабрадзея
Засталося плакаць за шышы.

**V**

— Калі Бог разышоўся на шостыя суткі тварэння
І ў натхнёным азарце да плеч закасаў рукавы,
Ён не думаў, што паўшы анёл са сваіх сутарэнняў
Яд упырсне раздвоеным джалам у вобраз жывы.

Ён даверыў свайму параджэнню глыбозныя нетры,
Неабсяжныя землі і недасягальную цвердзь,
Але лепшы з дароў змей-спакуснік прысвоіў з паветра —
Гэта права на смерць. Гэта права на годную смерць!

О Ісусе, чаму ты яму гнаякроўную рвоту
Згодна з жэрабем жорсткім аж поўную міску наліў?
Сачавічная поліўка з пахам з'ялчэлага поту
Аніколі не будзе цаной першародства зямлі.

Ты ж уведаў, што гэта такое — пякельныя мукі,
Калі боль і адчай пачынаюць сваю кругаверць,
Калі цвік прапякае кап'ём распасцёртыя рукі,
А ты моліш аб праве на смерць. На імгненную смерць!

Сіл не стала ў мяне — крывасмокам хвароба ўвассала
І любоў, і жыццё, і надзею, і праведны сон,
Быццам пыхнула іскрай на цэру сухую красала —
І душа дагарэла, крывёй акрапіўшы вісон.

Я стамілася, Панна! Я, што залатушнік[12], засохла,
Перамолата жорнамі сэрца, як мулкая дзерць.
Галубінай пяшчоты сасмагла бязмужняя похва.
Дай жа права на смерць! Дай жа права на хуткую смерць!

---

[9] Багатэль — невялікая, лёгкая ў выкананні музычная п'еса. Самым знакамітым багатэлем з'яўляецца «Багатэль для чатырох басэтляў» С. Манюшкі.
[10] Рыцына — раслінны алей; таксама выкарыстоўваецца ў медыцыне.
[11] Карміл — горная града ў Палесціне, дзе па малітве прарока Іліі з неба сышоў боскі агонь (3 Цар., 18:4).
[12] Залатушнік — бяссмертнік, ён жа сухацвет, імартэль.

Яму болей ні дня і ні ночы пакуты не здолець.
Дык забі Ты яго, міласэрны, чуллівы Гасподзь!
Забяры да сябе, вырві з поля зямное юдолі,
У вянок упляці, нібы водарную цяпалоць[13].

Распускаецца ў болі жыццё, як у воцаце перлы —
Забяры, колькі хочаш, пакінь мне васьмушку ці чвэрць;
Раскавельвай мяне, бо і так мая душачка сшэрхла,
Толькі дай яму права хутчэй на лагодную смерць!

**VI**

Так кожную ноч спрабавала яна
Ў малітвах ратунак знайсці давідна.
Чадзіў у лампадцы з алеем драўляным
Бавоўнавы кнот перад стомленым Панам.
Куродым руды завіваў валакно
Дзягцярнае сажы ў сляпое акно,
У дзірку, заткнёную звязкам мачал.
Маўчала зямля. І Збавіцель маўчаў.

Часамі ў надзеях па яраснай мэце
Душа пагасала, як мокрае вецце.
На скрыні кухоннай сівая кухарка
Траскуча храпла, што ў сатэйніку скварка,
Старэчы саплі праз макротны катар,
І кот пад чарэнню ў паўсне варкатаў.

Ледзь меней за месяц у пацерах гэтых
Завоблачны Месяц змяншаўся на ветах —
Змяншаўся, худзеў, раставаў ды марнеў…
І Рыбы плылі праз Авенавы зеў.

Раптоўна скрозь скрыганне весніц на шулах
Яна басанож, у начное кашулі,
На мулкай падлозе маліўшыся ніц,
Пачула ў адказ пасля свята Грамніц
Ад ліка Ісуса нямое пытанне:

— Ты цэніш Сяргея жыццё не затанна?
Як можна прасіць, каб хвароба забіла,
Каго ты да болю бязмерна любіла?

— Так, Божухна мой! Я кахаю бязмерна,
Я ўзважыла ўсё на спружыне бязмена,
Я лёс адмярала яму сямікратна,
Я зубы ламала, каб выгрызці краты,
Я ведзьмай камлала, каб вынішчыць псоту,
Я ў рот цалавала, каб скрасці пярхоту,
Я білася ў сутаргах раненай птушкай,
Я рылася ў джутавым смецці нясушкай,
Я ў вочы яго безадрыўна глядзела,
Я ноччу яму аддала сваё цела,
Я мыла яго ад мачы і ад калу,
Я выла — ні словам яго не ўпікала,
Я з пасмаў грабенцам часала пачассе,
Але я згібела нарэшце па часе!
Я знікла, што змрочны надбагнавы гнюс,
Я плоццю змарнела…
І мовіў Ісус:

— Ты хочаш ад гора схавацца ў мане?
Дык я раскажу, як забілі мяне.
Я гэтак жа думаў, народжаны ў свяце,
Што мне не прызначана лёсам распяцце.
Я з пропаведдзю падарожнічаў міма
Муроў Віфлеема, сцен Ершалаіма,
Палёў Галілеі, дамоў Назарэта,
Свядома абраўшы лёс анахарэта,
І сноўдаўся ўсюды па свеце за мной
Апосталаў тузін хвалебнай шпаной,
Ліслівіў, падлізваўся напрапалую,
Навыперадкі распяваў алілую.
Але, як адзелі мяне ў рызманы,
Куды іх садзьмула? Дзе зніклі яны?..
Калі на крыжы я, што рымскі трафей,
Матляўся, то побач быў Левій Матфей,
А іншыя вучні ва ўтоеных норах
Дрыжалі ад кожнага шораху ў шорах.
Пад сонцам распаленым месяц нісан
Ірваў маё цела, як хіжы сапсан.
І толькі руплівае дбанне Матфея
Мяне зберагло ад зняваг фарысеяў,
Я толькі дзеля пастаянства яго
Прымаю Сяргея да царства свайго.

[13] Цяпалоць — тое ж, што і зуброўка.

Ты зараз — такі ж непахісны слуга
Нясцерпных пакут. Дык настала чарга
Прадставіць нябогу маім алтарам…
Ідзі ж да яго, *одержима* Мір’ям[14]!

**VII**

*Крыжаноўскай Веры Рыгораўне.*
*Дом Карпухіна па Навінкавай*
*(Уваход з Бабрышнага ўгорання*[15]
*Каля з’езда ад плошчы рынкавай).*
*Горад Волагда.*

«Паважаная,
Незнаёмая Вера Рыгораўна!

Вам павінна з вялікім жалем я
Расказаць, што ўначы паскорана,
У злагадзе з сабой ды іншымі
Ў асабістай кватэры мінскай
Адышоў Сяргей Канстанцінавіч
Мяржынскі.

Перад смерцю ён прычасціўся
І прыняў ад Хрыста сабораванне,
І ўвайшоў у чартог прачысты
Задаволена, недакорліва.
Ён прасіў мяне, каб я зараз жа
Вам паведаміла пра гэта.
Ён цяпер — у бліскучым зараве,
А не ў немачы апраметнай.
Ён у краі цяпер рабінавым,
Чарамшынавым, ядлаўцовым.
А яшчэ Сяргей Канстанцінавіч
Папрасіў перадаць два словы:
Ён сказаў, што, калі Вы ў Кіеве
На Дняпры першы раз сустрэліся,
Ён аслеп, як пад зрокам Віевым,
І прапаў, нібы трус падстрэлены.

Калі ласка, прыміце ветліва
Развітальны паклон ад віцязя.
Не цурайцеся гэтай вестачкі —
За Сяргея лепш памаліцеся.
Памаліцеся за пакутніцтва,
За хваробу яго смяротную,
Што ад болю хацеў атруціцца.
Памаліцеся ў Велікодную!
Так! Ён ведаў, што Вы — няверніца,
Ды аднак жа пастаўце свечачку —
Ён ніколі адтуль не вернецца
На сцяжыначку чалавечую!

Яго сёння ў царкве адпелі
Сакавіцкім паўднём астылым,
І цвілі ў труне імартэлі —
Я Сярожачку не любіла!
Вы мяне не раўнуйце, пані, —
Не любіла зусім. Наогул!
Вам належыць яго каханне:
Прысягаюся перад Богам!
Я яго нецярпела нават:
Яго шчокі, усмешку, вусны,
Яго смешную кучаравасць,
Яго позірк — такі спакусны,
Яго цела ў радзімых знаках,
Яго рукі з вялізнай сілаю,
Пацалункі з мядовым смакам…
Я яго не кахала, мілага!

Ён ляціць да Хрыста азорана,
Да палаца яго хрустальнага!
Дарагая Вера Рыгораўна...»

Перакрэслена. Неадпраўлена.

**VIII**

Ну, вось і ўсё: у саквояжы,
Як у вандзэлку жабрака,
Ляжаць маткі ваўнянай пражы,
Лісток з магільнага вянка,

Няскончанае рукадзелле,
Праколаты пруткамі шаль;
Па-змоўніцку хаваў вандзэлак
Мініяцюрную эмаль

У філігранным медальёне
(Чый быў там твар, чый светлы лік
Паміж дзвюх вечак у палоне,
Замкнёных на тугі гаплік?);

[14] Падчас хваробы Сяргея Мяржынскага Леся Украінка напісала драматычную паэму «Апантаная» («Одержима») — пра ахвярную адданасць Марыі Магдаліны Хрысту. Гэта паэма лічыцца вяршыняй яе творчасці.
[15] Бабрышны ўгор (Бабрышнае ўгоранне) — гістарычны раён на ўскрайку Волагды.

Два пятакі, што непазбыўна
Спыняюць зрок у свет людскі —
Дзве неразменныя паўгрыўні,
Каштоўнейшыя пятакі,

Што ўпотайкі зняла з павекаў,
Не даўшы ў гліне ззелянець…
У флігелі гамарнік кхекаў,
Літуючы літую медзь.

Кот лашчыўся да паварыхі,
Сястры трымалася сястра,
І падалі глухія ўздыхі,
Як кроплі падаюць з вядра.

Па вуліцы шнырылі гавэнды
Пад малітоўны перазвон,
З-за рога прыцягнулі скрэнды
Запоўнены біткам вагон.

— Абрыдлы горад! Маё сэрца
Ты прадзіравіў, быццам цвік!
Абсып жа, дворнік, соллю з перцам
І гэты двор, і сакавік,

І ржавы віск прагнілых весніц,
І цвёрды гужавы трамвай,
Але пагорак на Пярэспе —
На могілках — не засыпай!

…Вагон рыпеў, набок крывіўся,
Хістаў шматлікіх ездакоў,
І ў хітрых поглядах таіўся
Неўціхаміраны дакор.

На кожным стыку, завароце
Аб сценку білася нага,
Нібы чаротніца ў чароце
Альбо ў нябёсах пустальга.

— Прашу сядаць! — хлапчук чарнявы
Гадоў васьмі ці дзесяці
Ёй саступіў краёчак лавы
(Амаль як месца ля куцці).

Яна ўступаць не стала ў спрэчку,
Бо спакушаў прывабны сон.
У хлопца ўзвуз[16] на паліцечку
Шарэў мышыным паясом,

Башлык пацёрты на вушанцы
Пасуе цесным рукавам,
На шчоках яркія румянцы,
*Ласкавы шэпт: «Мо больна Вам?»*

— Не, паніч, мне цяпер не больна —
Цяпер не ў болю кабала:
Я паляцець хачу прывольна
Туды, дзе радаснай была,

Туды, дзе мора мяккай хваляй
На пляжы зліззвае пясок,
Дзе на квітнеючым міндалі
Збіраюць пчолы п'яны сок,

Дзе ў страсці пацалунак гіне,
Украдзены ўначы з крывёй,
І кожны струннік — Паганіні
З рассохлай скрыпіцай сваёй…

Чаму без хітрыкаў сказала,
Яна не ведала сама.
З-за павароткі гмах вакзала
Ўставаў, што душная турма.

Паклон галантнаму суседу:
— Вы прыязджайце ў Ялту — ў Крым.
— Пакорна дзякую. Прыеду.
— Як Вас завуць, спадар?
　　— Максім.

— Ну што ж, Максім, хай сябар здрадны
Вам не сустрэнецца ў жыцці,
Лёс зможа ніткай Арыядны
Ад Мінатаўра адысці;

Каб не паставіла капкана
На Вас смяротная бяда,
*Когда цветёт никотиана,*
*Как догоревшая звезда…*

[16] Узвуз (стараж., прастам.) — рэмень.

Маргарыта Латышкевіч



**нарадзілася 19 студзеня 1989 года ў Брэсце. Закончыла філалагічны факультэт БДУ, магістратуру і аспірантуру пры сваёй alma mater. Даследуе беларускі фальклор — як навукоўца. Любіць яго ўсім сэрцам — як і належыць кожнаму беларусу. Часам піша вершы і прозу, пад настрой, і публіцыстыку. У 2012 годзе выдала кніжку вершаў «Пульс навальніц», у 2016 годзе — кніжку апавяданняў «Яблыкі».**

*Калі хто з чытачоў памятае «Вершнікаў на дарозе», што з'явіліся на старонках «Маладосці» летась, то, магчыма, адчуе падабенства — а дакладней, адзінства — мастацкага свету твораў. І не памыліцца: і «Вершнікі…», і «Над Вугерай — дождж» належаць да таго ж самага сетынга. Толькі падзеленыя часам і прасторай: апісаныя тут падзеі адбываюцца раней на некалькі дзесяцігоддзяў.*

*Аўтару хочацца распавесці праз цыкл такіх вось аповедаў не гісторыю аднаго-двух персанажаў, а — мастацкага свету вакол іх.*

*Таямнічага, казачнага, бясконца прыгожага* ***беларускага*** *свету.*

## Над Вугерай — дождж

Другім, падтопленым берагам возера нетаропка крочыў бусел — ярка, амаль нясцерпна белы ў сакавітай зяляніне. Высока падымаў чырвоныя ногі, круціў галавою, нахінаўся, пабачыўшы жабку, суха шчоўкаў доўгаю дзюбаю.

Пахла ігліцаю і смалою — вецер павяваў ад стромкага бору. Каляровыя стракозы мітусіліся над трыснягамі, над спакойнаю вадою. На мелкаводдзі мірна спачывалі вялікія, у далоню велічынёй, мідыі, ад узросту пазелянелыя, і бліскалі сярэбраным бокам імклівыя малькі. Туды, да малькоў, да мідый, да стракоз плаўна спускаўся ціхі пясчаны бераг, і залацістыя хвалі пяску далёка было відаць пад празрыстым водным покрывам.

Ільга, стомленая за цэлы дзень дарогі, крочыла па беразе, нетаропка, як і бусел, і бяздумна паглядала на зыркую сінюю ваду. За аброць вяла пярэстую кабылку, і тая таксама глядзела на ваду — касіла трывожным залатым вокам з доўгімі вейкамі, неспакойна торгала вушамі.

Лес быў незнаёмы, чужы, таму і згубіла дарогу. Увогуле, дзяўчына яшчэ не была так далёка ад дому — прынамсі, адна.

Вецер падхопліваў русявыя пасмы, што выбіліся з Ільзінай цяжкой касы, таму раз-пораз даводзілася праводзіць рукой па твары, адкідваць надакучлівыя валасы назад. Веснавое сонца падпякала, залаціла макушку Ільгі, рассыпала па твары пазнакі сваёй прыязнасці — дробнае частае рабаціннe. Промні слізгалі і пужліва ўспыхвалі, разбіваючыся на серабрыстай лусцы лёгкай кальчугі, на ўзорыстых спражках на поясе. Цьмяна і драпежна свяціўся востры наканечнік бацькавай дзіды, прытарочанай да сядла, пабліскваў метал на плячах цяжкога баявога лука.

Тое гэта возера, млява думала Ільга, ці ўсё-такі не тое? Здаецца, у карчме пад Кудравіцамі ёй расказвалі, быццам калісь на месцы аднаго такога возера быў горад. А пасля праваліўся пад зямлю. Чары там, ці што.

— Толькі званы і чуваць, праўда, адно ў добрае надвор'е!..

Ільга прыслухалася. Званілі толькі аблокі гнюсу, што віўся над зараснікам. Белы бусел на другім беразе спакойна высочваў жабак, трыснёг ледзь прагінаўся пад крокамі ветру. Цягнулі сакавітыя басавыя ноты чмялі, а высока-высока, нябачны ў вецці, працаваў клапатлівы дзяцел. Са схованкі ў чароце, спудзіўшыся, порстка ўзняліся, сталі на крыло качкі.

Не, ніякіх званоў не было. Ільга нават усміхнулася. Ясна згадала, як у паўцёмнай карчме кашчавы дзед з гуслямі на каленях, акругляючы вочы і шырока разводзячы рукі, казаў голасным шэптам:

— …і п-праваліўся, значыцца, п-пад зямлю!..

Карчомнікі дружна жахаліся — і бывалыя вої з кудравіцкага двара, і местачковыя гандляры, і сяляне з ваколіцы. А пасля наўзахваткі ўсе адначасова пачалі згадваць, як самі ехалі тамака, і нешта ж там было — ну такое, ну такое ўжо, што —

— І не вымавіць!

Пярэстая раптам заржала — нервова, перарывіста. Спынілася, ірванула галавою ўбок з самым пакутніцкім выглядам.

— Чаго ты? — здзівілася Ільга. — Ціха, ціха…

Кранулася кабылчынай шыі, пагладзіла, адчуваючы, як жывёла дрыжыць, скаланаецца ўсім целам. Пярэстая зноў паскардзілася, праўда, ужо цішэй, затупала на месцы.

— Супакойся, ну, што ж ты… — ласкава гаварыла ёй Ільга. І раптам сама скаланулася, з трывогаю зірнула на спакойную сінюю гладзь.

Над возерам, ледзьве чутная, бязважкая, плыла, адмыслова сплятаючыся са спеву вады, з шэптаў трыснягоў, з паважнага чмялінага гуду, з пляскату птушыных крылаў, музыка. Узвівалася ўверх, да верхалін меднастволых хвой, да пульхных белых аблокаў — каб тут жа рассыпацца дробнымі пырскамі гаваркой сярэбранай вады.

Ільга павольна ўдыхнула і выдыхнула, высілкам волі супакойваючы сябе. Азёрная музыка трывожыла, непакоіла — і разам з тым настойліва, бясконца вабіла, быццам запрашала ісці за сабою.

Не дзіва, думала Ільга, што пярэстая так дрыжыць: жывёлы лепш за людзей адчуваюць чары. А ў азёрнай музыцы звіняць чары, гэта несумненна. Таму яна пранізвае наскрозь і гучыць унутры, спакваля вырастаючы, перапаўняючы сэрца дзіўным спалучэннем і бязмернай радасці, і невычэрпнай тугі адначасова.

Людзі так граць не ўмеюць. Так граюць — *іншыя*, тыя, што не-людзі. Тыя, што з рогатам носяцца ў зімовых віхурах, блытаюць лясныя сцежкі, апоўначы гушкаюцца на галінах, запальваюць бледныя агні на курганах. Тыя, што выходзяць з ценяў, нядобрыя, падступныя, з вострымі агністымі — у колер іх курганных агнёў — вачыма. Аплятаюць людзей сваімі спевамі ды танцамі, зводзяць — зачараваных, паўсонных — пад зямлю. Навечна, назаўжды.

Ільга сутаргава намацала на поясе жалезны нож з касцяным дзяржальнам. Ад дотыку металу супакоілася, нават набралася рашучасці. Цвёрда ведала: тыя, іншыя, баяцца жывога агню ды халоднага жалеза.

А другой дарогі ўсё роўна не было.

— Ну! — строга сказала яна кабылцы, пацягнула за аброць.

Ад Ільгі ўпэўненасць перадалася і пярэстай. Тая, хоць і па-ранейшаму касілася на страшнае возера, паслухмяна рушыла следам. Музыка вірыла вакол, падхоплівала, амаль адчувальна цягнула наперад. Дзяўчына, сціснуўшы зубы і звёўшы бровы, змагалася, прымушала сябе ісці спакойна, а не бегчы наперад з радасным заміраннем сэрца.



Неслухмянае сэрца, праўда, усё ж салодка замірала.

За рэдкім хмызняком, дзе бесклапотна перасвістваліся імклівыя дробныя птахі, адкрываўся невялікі ўзгорак — выгінаўся, нібы кашэчая спіна, над возерам. На ўзгорку самотна зелянеў раскідзісты дуб, і ад яго распаўзаліся вузлаватыя наплывы карэння. Схон з аднаго боку асыпаўся, саступаючы ўпартай азёрнай вадзе, так што карані апынуліся звонку, застылі над хвалямі, быццам цягнучыся да іх — і не рашаючыся дакрануцца.

У карункавым цені дрэва ледзь відно было чалавечую («Нечалавечую», — тут жа выправіла сама сябе Ільга) постаць. Нехта стаяў, прыхінуўшыся спінаю да шырокага камля, і радасныя сонечныя зайчыкі слізгалі па залацістым баку лютні.

Музыка, дзіўная, вусцішная, бясконца прыгожая азёрная музыка, разлівалася ад яго ва ўсе бакі — быццам кругі па вадзе.

Ільга прыпынілася, адчуваючы, як змоклі далоні, як непрыемны халадок прабег уздоўж хрыбта. Зноў сціснула неслухмянымі пальцамі запаветны нож, паўтараючы, як закляцце: *яны* баяцца халоднага жалеза, баяцца, баяцца, баяцца…

Збаяліся або не, але музыка абарвалася. Гучала яшчэ цэлае імгненне між ударамі сэрца, трымаючыся над возерам, — і згасла, патанула, зусім як той зачараваны горад з бязладнай дзедавай байкі.

А ў Ільгі тым часам сасмягла ў роце, бо нечакана прыйшло разуменне: музыка сціхла, бо яе — заўважылі. І зараз вось глядзяць адтуль, з ценю, вывучаюць пільна, з адчужаным інтэрасам.

— Можаш прайсці, чалавечае дзіця, — сказалі Ільзе. Тая здрыганулася, як ад холаду, хоць мужчынскі голас быў пекны, аксамітна мяккі, ды і прагучаў досыць дабрадушна. Яна няўпэўнена пераступіла з нагі на нагу. Звузіўшы вочы, спрабавала разгледзець замглёную постаць там, ля дрэва, але цень быў дзіўны, ажно занадта густы.

— Неба бачыць, — працягвалі з-пад дуба. — Гэта ўпрост знак лёсу.

— …знак? — тупа паўтарыла, нахмурыўшыся, Ільга. З-пад дуба насмешліва чмыхнулі. Густы цень варухнуўся, быццам патрывожаная вада, і ледзьве заўважная постаць у ім вокамгненна набрыняла колерамі і формамі.

З пагорка па шорсткай траве хвацка з'ехаў уладар голасу і лютні — высокі, танклявы, з ясным маладым тварам, з сабранымі на патыліцы ў вузел залацістымі валасамі. Увесь быў — суцэльнае ззянне. Золатам успыхнулі гузікі-ракавінкі на выкшталцоным адзенні, бліснуў зялёны шоўк на доўгіх вышываных рукавах. Засвяцілася злева на грудзях фібула-змяя, загарэлася завушніца з паўпразрыстым зялёным самацветам. І вочы былі таксама зялёныя — светлыя, ззяйкія, вострыя, з залатымі іскрамі.

— Не надта ты гаварлівая, так, чалавечае дзіця? — весела сказаў лютніст. Змерыў паружавелую Ільгу вачыма і, пачасаўшы падбароддзе, прамармытаў сабе пад нос: — Возера і князёўна, чым табе не сюжэт?..

Дзяўчына сумелася.

— Я… не князёўна, — азвалася сіпата. І, сяк-так пракаўтнуўшы камяк у горле, скорагаворкай выпаліла, сціскаючы нож у кулаку: — І я не хацела... заходзіць у вашы ўладанні.

Лютніст прыўзняў бровы, паглядзеў на нож, на Ільгу, зноў на нож. І засмяяўся.

— Уладанні, бач ты, — ён пакруціў галавой. — Чалавечае дзіця, я не ўладар нікому, апрача, можа, самога сябе.

Ён памаўчаў, кусаючы вусны, зірнуў у неба, а пасля паўтарыў нараспеў, лёгка крануўшы струны:

— Уладар ні для кога, апроч самога сябе. Апроч сябе… самога.

Зморшчыў востры нос і выдыхнуў расчаравана, пакутліва:

— Эт, усё лухта-а!

Ільга тым часам зірнула цераз плячо на сваю кабылку. Пярэстая, памахваючы хвастом, прынюхвалася да расчараванага лютніста — без асаблівага страху, проста з мудрай перасцярогай.

Небяспекі сапраўды не адчувалася, але не-людзі, кажуць, якраз гэтым і небяспечныя. Закружаць галаву, пададуцца мяккімі, добрымі, свойскімі, а там глядзі — і ачомаешся ў падзем'і. Калі, вядома, увогуле ачомаешся.

— Можа, хоць ты выратуеш мяне, князёўна? — запытаў лютніст з апантанай надзеяй. — Дапаможаш? А?

Ільга спахмурнела: не-людзям, яна чула, вельмі падабаецца гуляць з людзьмі. Так коткі гуляюць з мышамі, здзекуюцца з драпежным азартам. Вось і ад яго просьбы таксама патыхала нейкай здзеклівай гульнёй.

— Мне трэба ісці, — адказала яна, намагаючыся, каб гэта гучала не надта няветліва. І таму дадала дрыготкім голасам: — Даруйце, лясны гаспадар.

Ён зноў усміхнуўся — і радасна, і сонечна.

— Я не лясны гаспадар, чалавечае дзіця. І не азёрны, і не палявы, і не які-кольвек яшчэ, Неба бачыць.

— Вось як, — недаверліва выціснула Ільга.

— Неба бачыць, — паўтарыў лютніст. — Усяго толькі паэт з Курганова Поля, князёўна.

Цырымонна пакланіўся і назваўся:

— Йурай. Або Йурай Відушчы, калі заўгодна. Князеў відуш.

Пра Курганова Поле Ільга чула — а хто не чуў? Показкі пра Дзікі Гон, што імчыць над вечнаю Пушчай, пра старадаўнія чары, што трымцяць між ікламі рунных камянёў. І на самым дне памяці яшчэ варушыліся бабчыны казкі пра ўсёмагутнага Белага Князя і яго Двор, дзе адвечна піруюць паляўнічыя і прыўкрасныя панны.

— Паэт?

Йурай, прыплюшчыўшы вочы, паківаў — з самым паважным выглядам.

— *Мерныя ўдары цяжкія сыпле каваль на метал,* — прагаварыў ён, здавалася б, нягучна, але голас уладна расцёкся над возерам. — *Сам я падобна выкоўваю хвосткія звонкія словы.*

Словы — так падалося Ільзе — сапраўды пазвоньвалі, быццам загартаваная зброя, быццам баявая сталь. А яшчэ адгукалася ў іх рэха той азёрнай музыкі, амаль згубленае, няўлоўнае, і ад гэтага трохі кружылася ў галаве.

— А як магла б звацца ты? — Йурай прамовіў гэта ўслых, але, здаецца, звяртаўся збольшага да самога сябе, чым да дзяўчыны. Прамовіў — і надоўга задумаўся. Нават азадачыўся. Мармытаў, пастукваючы пальцам па падбароддзі, што імёны, маўляў, заўжды самае складанае, і дзе б знайсці такое, каб змясціла і сонца, заблытанае ў валасах, і россып пацалункаў вясны на скуры, і ўпарты разлёт броваў — упрост ластаўчыны крылы.

— Ільга, — рашуча перапыніла яна бязладнае мармытанне. Йурай наморшчыў лоб і паўтарыў некалькі разоў, нібы спрабуючы імя на смак: «Ільга…»

— Пасуе, — задаволена пагадзіўся паэт. — Неба бачыць, пасуе. Быццам каштуеш салодкі ліпавы мёд — «Іл-л-л-ль…» — і выдыхаеш ад задавальнення — «…га». Быццам запела адліга, быццам узляцела івалга. О, забяры мяне кадук, пасуе!

Тут паэт зірнуў на Ільгу, працяўшы яе агністым позіркам.

— І вось, — загаварыў, паблісквaючы вачыма. — Ты, дзіця з імем салодкім, як ліпавы мёд, апоўдні крочыш берагам зачараванага возера. У даспеху ды пры зброі, маленькая ваіцелька, ідзеш наўздагон, бегма, берагам — у пагоню за памяццю, за помстаю, за… полымем. І пакутуеш — ці ў пару, ці не позна?

Ільга задыхнулася ад нечаканасці.

Паэт з Курганова Поля нібы здолеў зазірнуць ёй у душу і нахабна, нават не тоячыся, разгледзеў там аж занадта многа.

«Скуль ты ведаеш?» — ледзь не крыкнула Ільга. І ліхаманкава падумала: сапраўды, як адзін з нелюдзей можа гэта ведаць? Ці не таму, што сваімі паскуднымі чарамі пралез у думкі, учапіўся ў душу пачварнымі кіпцюрамі?

Бацька заўжды гаварыў: калі ўжо давялося натрапіць на каго з народу курганаў, трэба трымаць сябе ў руках. Не казаць лішняга, не паказваць свае слабыя месцы. Не даваць магчымасці затлуміць галаву, зацягнуць і зачараваць. Інačай — смерць. А можа, і нешта горшае за яе.

Рукі ў Ільгі ганебна дрыжалі, лязо бацькавага нажа з халоднага жалеза рассыпала сонечныя зайчыкі. Яна імкліва нагнулася і нажом — па рэдкай траве, па сухой зямлі —акрэсліла вакол сябе маленькае крываватае кола. Выпрасталася павольна, цяжка дыхаючы, ацерла з ілба пот. Пярэстая, якая засталася па-за абарончай рысай, ціхенька дакорліва заржала. Кабылку было шкада, але, як ні круці, лепей застацца пешым, чым мёртвым.

Не-чалавек сачыў за Ільгай уважліва, схіліўшы галаву трохі ўбок, не хаваючы зацікаўленасці.

— А, разумею, — здагадаўся нарэшце. — Ты мяне баішся, чалавечае дзіця.

— Ага, зараз, — змрочна адказала яна. — Я цябе не баюся, не-людзь.

Апошняе, мусіць, прагучала б больш пераканаўча, каб Ільгу не білі дрыжыкі.

— Але ты, о бясстрашная, хаваешся ад мяне за халодным жалезам, — небеспадстаўна заўважыў Йурай. — Між іншым, у цябе кола перарываецца. Унь там.

Дзяўчына зірнула сабе пад ногі і праглынула лаянку. Кола сапраўды перарывалася, зводзячы ў нішто ўсе яе абарончыя захады.

— Паслухай, — загаварыў паэт, уздыхнуўшы. — Я не збіраюся… што там, па-твойму, я збіраюся з табою зрабіць?..

— Зачараваць і звесці назаўжды ў ваша нялюдскае падзем'е, — суха мовіла Ільга. І дадала, падумаўшы: — Можа, каб з'есці там, ці што.

Йурай вырачыў вочы. Відаць, уразіўся.

— Ну, дык вось: нічога такога я не збіраюся рабіць, — сказаў ён раздражнёна. — Неба бачыць, не маю такой звычкі.

— А музыка? — недаверліва прабурчала Ільга.

— А што — музыка?

— А ў ёй — чары!

Паэт пачухаў патыліцу.

— Вядома, — сказаў ён. — Вядома, чары. Але, калі хочаце, не наўмысна. Проста не ўмею інačай. Думаў сабе пра гэта возера, ну і…

Ільга завагалася. Не-чалавек, здаецца, не хлусіў — ці, магчыма, не вельмі хлусіў. І, верагодна, сапраўды не жадаў паснедаць чалавечынкай.

— Але скуль ты ведаеш пра цмока? — Ільга ўзялася ў бокі.

Йурай прыўзняў бровы.

— О! — сказаў. — А я і не ведаю.

— Але ж сам толькі што казаў! — зазлавала дзяўчына. — Пра полымя, пра помсту, пра пагоню!

— Я не ведаю, чалавечае дзіця, — са спакойнаю ўсмешкаю паўтарыў не-чалавек. — Я — відуш. Я часам бачу.

Сказаў так проста, быццам Ільга павінна была адразу ўсё зразумець. Яна, аднак, не зразумела.

Але паверыць — паверыла. Амаль што.



А цмок з'явіўся тры начы таму.

Казалі, наляцеў апоўначы, узняўшы крыламі вогненную буру. Закружыў над горадам, дыхнуў агнём — раз, другі, трэці. Вартавыя затрубілі трывогу, але што з таго?

Адну з веж цмок знёс як бы мімаходзь, адным ударам магутнага крыла, пасля цяжка ўпаў на саламяныя дахі, папоўз — распалены, як метал у кавальскім горне, — апякаючы ўсё вакол, цягнучы за сабою доўгі, усеяны шыпамі хвост у вогненнай лусцы. Зямля скаланалася, і вакол быў агонь, і крыкі, і дымны смурод, і гар.

Кагось цмок ухапіў пашчаю — толькі бездапаможна храбуснулі косткі ды пырснула барваю. Хтось згарэў жыўцом або загінуў пад разбуранымі сценамі. Тых, каго атрымалася вывесці праз падземны ход, не набіралася і трох тузінаў. Усё збольшага дзеці, жанчыы і старыя.

— Мой бацька — войт, — дадала Ільга, змрочна ўтаропіўшыся ў спакойнае возера. — Быў.

Яны з паэтам сядзелі на тым самым узгорку пад дубам: Ільга спачатку завагалася, але адпачыць усё роўна трэба было б. Кружляючы між бясконцых лясных азёр, выбілася з сіл.

Йурай уважліва слухаў, паклаўшы падбароддзе на пераплеценыя пальцы, яго лютня спачывала тут жа — беражліва ўладкаваная ў траве пад дубам. Ільга, часцяком перапыняючыся, каб знайсці словы, расказвала. Спачатку не хацелася: думак пра тую ноч яна старанна пазбягала, не дазваляючы сабе ўспамінаць. Але, распавёўшы, нечакана адчула, як зрабілася трохі лягчэй. Быццам нарэшце выцягнула стрэмку.

І вось Ільга сядзела на траве, з асалодаю выцягнуўшы ногі, якія гулі ад стомы. Жмурылася на сонцы, падхоплівала лёгкія пасмы з твару. Возера дыхала прахалодаю, дубовае лісце перашэптвалася так мірна, так спакойна.

— А пасля ён паляцеў на поўнач. Ну, цмок. У Кудравіцах і Мокрай Дубраве бачылі яго ў небе.

Распавяла пра тую страшную ноч — і ўнутры стала пуста. Быццам толькі-толькі палымнеў цмокаў агонь, спусташаў і пёк. А зараз — згас, пакінуўшы попел і пустату. І цяжкую, даўкую, невыносную, мёртвую цішыню.

— То ты, значыцца, зараз ідзеш па галаву вогненнага цмока? Сама?

Ільга ленавата кіўнула. Паэт падціснуў вусны і прамармытаў нешта наконт таго, што — не аматар ён настолькі сумных фіналаў.

— Я табе не нейкая там пяшчотная князёўна, не-людзь, — сярдзіта сказала дзяўчына. — Мяне, каб ты ведаў, вучылі паляваць.

— Няўжо? На цмокаў?

Тон быў невыносна з’едлівы, але ў нечым паэт з Курганова Поля меў рацыю. Не паспрачаешся асабліва: на цмокаў, хоць вогненных, хоць не, Ільзе паляваць не даводзілася. Пакуль што.

— Высачу пачвару, — цвёрда прагаварыла яна, пераконваючы найперш саму сябе. — Высачу, а там яшчэ пабачым.

Каб зусім шчыра, Ільга дасюль неяк не паспела вырашыць, што адбудзецца, калі яна знойдзе цмокава логавішча. Увесь час думала: толькі б паспець, толькі б дагнаць. А тады…

А што, уласна кажучы, тады?..

Паэт пахітаў галавой.

— Зрэшты, — сказаў задумліва, памаўчаўшы. — Ты ўсё яшчэ можаш дапамагчы мне. А я ў такім выпадку дапамагу табе.

— Ты так і не сказаў, у чым патрэбна дапамога, — з прахалодаю заўважыла Ільга. — Можа, я і не пагаджуся.

І дадала пра сябе: вядома, не пагаджуся. Не хапала яшчэ — абяцаць штосьці каму з не-людзей. Што б сказаў бацька, заўжды такі мудры, такі асцярожны?

— Я згубіў… адну рэч, — Йурай мякка ўсміхнуўся. — І, мяркую, менавіта ты, не-князёўна, дапаможаш мне яе адшукаць.

— Утапіў, мабыць, у возеры штось? — са змрачнаватаю радасцю здагадалася Ільга. — З п’яных, мабыць, вачэй?

І сурова адрэзала:

— Нават і не спадзявайся, я нырца даваць за тваімі трантамі не буду.

Яна не паспела дагаварыць: паэт з Курганова Поля зарагатаў. Захлынаўся смехам, хапаючыся за жывот, аціраў слёзы.

Праз колькі імгненняў яго нястрымнага рогату Ільга палічыла патрэбным абразіцца.

— Чалавечае дзіця, — глуха мовіў Йурай, сяк-так супакоіўшыся. — Ты… О, Неба бачыць… Я ж меў на ўвазе натхненне.

Ільга насупілася. А паэт, трохі аддыхаўшыся, загаварыў — пра Курганова Поле, пра спаборніцтва паэтаў у княжым двары.

Каваны радок значыць куды болей за заточаны кавалак металу. Адно важкае адважнае слова перамагае і пераважвае ўсе астатнія, хоць бы і сказаныя самым магутным уладаром свету.

Курганова Поле спавіта чарамі і песнямі. Адно не існуе без другога, жывіцца адно адным. Песні адбіваюць свет, быццам люстра, і свет, адбіваючыся, змяняецца — па волі таго, хто сплятае словы. Калі, вядома, хапае майстэрства і агню ў сэрцы. І — натхнення.

Старыя гісторыі паступова пакрываюцца пылам, і словы, старанна сплеценыя калісь, губляюць свае чары і моц.

— Проста ўсё не тое і не так, — казаў Йурай, не хаваючы агіды. — Бляклае, бездапаможнае, брыдкае. Не атрымліваецца, не даецца, слізгае з пальцаў, так што — не ўхапіць.

Ён нават раззлавана стукнуў кулаком па выгнутым корані, які змяіўся ў траве побач.

Чароўная азёрная музыка досыць жыва помнілася Ільзе, і гэтая музыка не была ані бляклай, ані брыдкай. Была — сапраўднай.

— Таму я блукаю, — паэт кіўком паказаў на возера, і самацвет у ягонай завушніцы бліснуў ярчэй. — Шукаю нечага. Новага. Незнаёмага.

— Дзеля песень?

— Дзеля іх, — вельмі сур’ёзна пацвердзіў Йурай. — Нельга ж, пагадзіся, зноў і зноў апяваць подзвігі Вотана Косткасея.

Паэт прачысціў горла, паморшчыўся і напаўголаса дадаў, што незадаволены Косткасей усё роўна за тое апяванне абяцаў зламаць яго, Йурая, лютню аб яго ж галаву.

— Хто-хто, а ён, чалавечае дзіця, свае абяцанні выконвае.

Што ж я тут раблю, запознена падумала Ільга. Сяджу пад вячыстым дубам на беразе зачараванага возера, размаўляю пра песні з не-людзем. І нібыта так і трэба.

Яна паглядзела на ўпартыя кропкі мурашоў, што адна за адной жывою ніткаю цягнуліся між каранёў, на пярэстую кабылку, што мірна пасвілася непадалёк. Зірнула і на возера — чамусь падалося, быццам над спакойнаю вадою вось-вось вырастуць белыя вежы, і сцены, і сцягі, і сярэбраныя званы загудуць на ўсю ваколіцу. Ва ўсялякім разе, калі б зачараваны горад раптам узнік на месцы возера, Ільга зусім не здзівілася б: мусіць, перайшла тую мяжу, дзе магла здзіўляцца.

Возера, аднак, спакойна каціла свае хвалі, і свежы вецер крочыў па зарасніках, і белы бусел нясцерпна зыркаю плямаю застыў на зяляніне.

— Мне казалі, тут быў горад, — прагаварыла, нечакана для самой сябе, Ільга. — Быццам быў — і праваліўся...

— Знік пад вадой, — падхапіў Йурай нараспеў. — І зараз там, на глеістым дне, у вусцішным зеленаватым святле паблісквають шпілі на гонкіх вежах, і цені рыб бязмоўна плывуць па каменнай кладцы, і доўгія стужкі водарасцей караскаюцца ў расколінах сцен.

Адно з пульхных аблокаў, мабыць, засланіла сонца, бо святло дня пацьмянела, налілося зялёным. І паветра неяк загусцела, набрыняла, так што лугавыя травы калыхаліся ў ім павольна і мерна, і ссохлы дубовы ліст, што неспадзявана сарваўся з магутнай галіны, падаўся залатой рыбкай.

Ільга трасянула галавой — і дзень стаў такі, які быў.

— То гэта, значыць, усё праўда? — спытала Ільга. — Пра горад?

— Вядома, — адказаў паэт. — Пакуль у гэта верацьдык — чыстая праўда.

Ён хутка зірнуў на дзяўчыну, працягнуў руку, асцярожна зняў з яе валасоў зжаўцелы лісток. Нямоцна сціснуў у вузкай далоні, раскрыў пальцы — і да аблокаў і сонца ўзляцеў залацісты матыль. Ільга падціснула вусны і на ўсялякі выпадак адсунулася.

— Дык… як жа мне дапамагчы табе, не-людзь?

— А, гэта проста, —Йурай махнуў рукою. — Будзь у маёй песні, не-князёўна.

— У тваёй песні? — Ільга перакрыжавала рукі на грудзях. Гучала, падавалася б, нястрашна, але з не-людзямі не бывае ўсё гэтак проста.

— Лепшыя гісторыі, — паблажліва патлумачыў паэт, — пішуцца толькі тады, калі ўсё бачыў сваімі вачыма. Таму я хачу пабачыць.

— А чым ты можаш дапамагчы мне? — Ільга звузіла вочы. Йурай пругка падняўся на ногі.

— Для пачатку, чалавечае дзіця, — сказаў, цаляючы ўсмешкаю проста ў сэрца. — Дапамагу табе высачыць тваю пачвару.

— Жартуеш, мабыць? — Ільга зняважліва змерыла яго позіркам.

— О, толькі не зараз, — сказаў паэт. — Адно прыхапі маю лютню. І не адставай, чалавечае дзіця.

Ільга, не стрымаўшыся, засмяялася ўголас. Зусім не падобны ён быў да магутнага воя або ўмелага паляўнічага — у гэтым сваім раззалочаным строі, з пяшчотнымі рукамі музыкі.

Йурай, усё яшчэ ўсміхаючыся, зрабіў крок назад, на самую мяжу карункавага ценю — і павярнуўся вакол сябе, і стаў віхураю, і стаў — языком зыркага белага полымя. Ільга ўскрыкнула, закрыла рот далонямі, мацней прыціснулася спінай да нагрэтай сонцам дубовай кары.

Белае полымя апала, заквітнела ззяйкімі крышталікамі інею на белай калматай поўсці. На мяжы ценю і святла стаяў, насмешліва гледзячы на Ільгу зыркімі зялёнымі вачыма, вялізны снежны воўк. Выскаліўся, павёў носам, ловячы вецер, гулліва ўзмахнуў хвастом.

— Што… — ледзь змагла выціснуць Ільга, але воўк ужо стрымгалоў рушыў прэч ад узгорка, скакаў так шпарка, што, здавалася, ляцеў.

— Пачакай! — крыкнула яна, падхопліваючыся. Падчапіла лютню і, прыціскаючы да грудзей,



кінулася да пярэстай кабылкі. Тая была не надта задаволена такім паваротам падзей і нават некалькі разоў абурана заржала. Ільга, не зважаючы, як мага хутчэй ускараскалася ў сядло, тарганула аброць, пусціла пярэстую галопам — туды, дзе ў зарасніку яшчэ бялела ваўчынае футра.

І замільгалі хмызнякі, замільгалі гонкія хвоі. Возера бліснула ў апошні раз і знікла за альхоўнікам. З-пад капытоў пярэстай пырскала іржавая ігліца, разлятаўся жоўты жвір. У Ільгі займала дыханне, яна бліжэй тулілася да шыі кабылкі, шэпчучы:

— Шпарчэй!..

А белы воўк шалёна нёсся наперадзе, быццам выпушчаная з лука сярэбраная страла, мінаючы частыя дрэвы, пераскокваючы карчажыны ды буралом, амаль не кранаючыся зямлі.

З бору вылецелі на заліты сонцам лугавы разлог, прапаролі дрыготкае мора пахкіх траў, збіваючы жоўтыя шапкі ранніх дзьмухаўцоў, узбіваючы ў неба светлыя расткі канюшыны і бледныя ўюнкі. Пырхнулі прэч з дарогі рудахвостыя курапаткі, кінуўся ўбок агністаю зарніцаю ліс.

Праз кусты глогу зноў уварваліся ў лес. Вавёркі, быццам языкі агню, скакалі з галіны на галіну, захлёбваючыся, сакаталі між сабою. Крычалі, перапырхваючы над Ільгаю, усхваляваныя сарокі — ці то прарочылі, ці то сурочвалі. Зрэшты, ёй іх амаль што не было чуваць, так заўзята, так шалёна свісцеў у вушах вецер.

Прамінулі, ледзь заўважыўшы, адзін звонкі ручай, другі. Трэці пабег навыперадкі, кружляючы, пераскокваючы з аднаго каменнага грэбня на другі, дзынкаючы насмешліва. Побач праходзілі звярыныя сцежкі да вадапою: некалькі разоў краем вока Ільга заўважала імклівыя цені аленяў, што разбягаліся прэч.

Пачалі трапляцца валуны. Падобныя да вялікіх старажытных жывёл, яны паказваліся тут і там, засыпаныя ігліцаю, зарослыя сырым мохам. У некаторых ямінкі на крутых спінах збіралі дажджавую ваду ды сухое вецце, і ў гэтых дробных лужынках адбіваліся кароны стромкіх хвой ды рэдкія латкі сіняга неба.

Валуны большалі, заступалі шлях, таму пярэстай даводзілася хутчэй паварочвацца між іх, знаходзіць дарогу наўкол, па склізкай гліністай глебе. Хваёўнік паволі змяніўся ельнікам, лес пацямнеў і спахмурнеў, цяжкія колкія яловыя лапы час ад часу драпежна хапалі Ільгу за плечы. Таму нечаканы прасвет між дрэвамі наперадзе балюча разануў вочы. Асляплёная яна заміргала, зацерла вочы кулаком і не адразу ўбачыла, што белы воўк прыпыніўся.

Мудрая кабылка, аднак, заўважыла гэта сама — і сама ж стала. Мусіць, злавіла чуйным нюхам нейкі новы, незнаёмы пах, бо занепакоена забіла капытом.

Ільга паволі спешылася, усё яшчэ прыціскаючы да сябе адной рукой паэтаву лютню.

Яны апынуліся на камяністым абрыве, з якога падала, разбіваючыся аб скалістыя ўступы, гаваркая водная плынь. Далёка ўнізе плынь пашыралася, працінала зялёныя ўзгоркі, упарта скіроўваючыся на захад. Праваруч, за палоскамі палёў і сенажацей, за рэдкімі хатамі, што збіваліся ў пары, сінелі, зацягнутыя смугою, частыя зубцы лесу.

Над лесам — Ільга ўважліва прыгледзелася з-пад далоні — віліся спуджаныя птахі і падымаліся, паступова перамешваючыся з нізкімі аблокамі, шызыя іклы дыму.

— Там?.. — дрогкім голасам спытала Ільга ў ваўка. Сэрца яе прапусціла ўдар і сціснулася. Пакуль пачвара была далёка, пакуль ніякіх сведчанняў яе існавання не было заўважна, яна не баялася. А зараз балючая памяць жыва паднесла ёй храбусценне чалавечых касцей у ненажэрнай пашчы і крыкі тых, што гарэлі жывымі, і лямант пахаваных пад зруйнаванаю вежаю.

Без асаблівай патрэбы Ільга праверыла страмёны. Кранулася бацькавай дзіды, паторгала з сілаю — ці добра прымацавана. Правяла пальцамі па вострым наканечніку, адчула, як метал халадзіць скуру, які ён суровы, магутны, надзейны. Пагладзіла па плячы лук — як старога таварыша, палашчыла бела-чырвонае пер'е на стрэлах у калчане.

Думала з халодным, жудасна ясным разуменнем: дотыкаў, пахаў, святла і ценяў, колераў, удыхаў і выдыхаў у яе, можа, хутка ўжо не будзе. Хутчэй за ўсё нават — не будзе. Ніколі. Бацька быў шматкроць лепшы, быў — вой. Але яго больш няма. А Ільзе да бацькі далёка, як да месяца. Ну што, што яна можа?

— Трэба неяк спускацца, — сказала Ільга ваўку, не паварочваючыся, бо не хацела, каб з'едлівы паэт пабачыў яе твар. Ціхенька пацягнула носам і крадком падцерла далонню край правага вока, востра ненавідзячы сябе — за такую нікчэмную слабасць, за няздатнасць нават памерці, як належыць.

— Не плач, чалавечае дзіця.

Ільга непрыязна пакасілася цераз плячо. Йурай паспеў скінуць ваўчынае футра, стаяў побач, абтрасаючы ігліцу з доўгіх вышываных рукавоў, і ад яго постаці між цёмных ялін разыходзілася слабое залацістае ззянне.

— Я і не плачу, — глуха сказала яна.

— Вядома, — рахмана пагадзіўся паэт. — Ты ж памятаеш, што я абяцаў дапамагчы тваёй песні?

— Але гэта ніякая не песня, — у Ільгі задрыжалі вусны. — Гэта ўсё праўда, чуеш ты, звар'яцелы не-людзь?! Праўда! І агонь — праўда, і кроў, і… смерць!

Пад павекамі самі сабою ўскіпалі слёзы, ліліся па шчоках — гарачыя, балючыя. Плылі да падбароддзя, апякаючы, джалячы, зрываліся на кальчужны каўнер, бездапаможна слізгалі на грыф паэтавай лютні.

— Вядома, — мякка паўтарыў Йурай. — Гэта ўсё — праўда, Ільга. Але чаму песня не можа быць праўдаю, а праўда — песняю?

Ён зноў гаварыў так, быццам ўсё было зразумела з самага пачатку. Ільга ўсхліпнула, сутаргава ўцягнула ротам паветра.

— І што мне рабіць? — спытала з горыччу.

— Быць у маёй песні, чалавечае дзіця, — проста адказаў Йурай. Зрабіў крок да заплаканай дзяўчыны, амаль бязважкім дотыкам змахнуў з яе шчакі апошнія слязінкі. Асцярожна, быццам прымаў немаўля, падхапіў з яе рук сваю лютню, правёў рукою па спеўных струнах, расквеціўшы яловую цішыню.

— Ага, толькі і ўсяго? Ці мо яшчэ што? — са змрачнаватай усмешкаю пацікавілася Ільга. Слёзы ўжо не кіпелі ўнутры, замкнёныя, забітыя, схаваныя як глыбей, таму апаленая памяць болей не смылела так невыносна.

— А гэтага — досыць, — з непахіснаю упэўненасцю адгукнуўся паэт. Усміхнуўся востра, выскаліўшыся амаль па-воўчы, задзірліва і жыццярадасна.

І Ільга зноў, нечакана для сябе самой, нават насуперак уласнай волі, насуперак уласным бязрадасным прадчуванням, насуперак усяму на свеце яму паверыла. Проста не змагла гэтай яснай усмешцы і светлым вачам не паверыць.

Можа, гэтага сапраўды было — досыць.

Над левым плячом Йурая загарэўся кволы зеленаваты агеньчык. Задзынкаў ціха, павольна плаваючы ў паветры ўверх-уніз, абсыпаў бляклым святлом цёмныя яліны, неяк выхапіўшы з ляснога паўзмроку ўсё да апошняй галінкі, да апошняга каменя ці кораня на сухой зямлі. Браты гэтага агеньчыка, такія ж халодныя, запаліліся, задзынкалі, перагукаючыся, паплылі далей, пазначаючы сцежку.



Сцежка ішла пад адхон — паступова, нетаропка. Дрэвы, старыя, моцныя, прагна ўпіваліся каранямі ў глебу, абступалі, варожа цiснулі з бакоў і зверху. Ад гэтай цеснаты, ад цяжкога паветра, напоенага водарам смалы, рабілася трохі ніякавата. Калматыя цені ад яловых лап дрыжэлі ў няпэўным святле, падбіраліся бліжэй, быццам хацелі ўхапіць. Праз якую сотню крокаў у Ільгі ацяжэла галава, і падавалася, што ўсё гэта — адзін страшны сон пра бясконцы цёмны лес, якому ні пачатку няма, ні канца.

Йурай лёгкаю хадою бязгучна ішоў наперадзе і, не зважаючы на варожыя цені, гаварыў. Голас яго сплятаўся з галасамі чароўных агнёў, расцякаўся між дрэў, падганяў ачмурэлую Ільгу і занепакоеную пярэстую.

Гаварыў ён пра самыя дзіўныя рэчы: пра даўнія-даўнія часы, калі твар гэтай зямлі быў зусім іншы, калі шляхі рэк пралягалі інача, калі даліны мерылі цяжкімі крокамі, скаланаючы зямлю, нябачаныя звяры. Дзікая Пушча была зусім маладая, сягала ад свінцовых хваляў Паўночнага мора да шумнай салёнай вады на поўдні. Пушча поўнілася галасамі і рухам, поўнілася новым таямнічым жыццём.

А пасля прыходзілі на снежных крылах завей доўгія-доўгія зімы, і пад халоднымі зорамі лёд наступаў з далёкіх адгор'яў, несучы за сабою выгнаннікаў гор — валуны. Лёд глыбока ўразаўся ў цела зямлі, перакройваў па-свойму — і выраcталі ўзгоркі, і распаўзаліся яры, і ўзнікалі з расталага лёду азёры, а валуны, поўныя вечнага суму па згубленых вяршынях, заставаліся на варце новага ладу, урасталі ў зямлю.

Ільга слухала. Перад сівою даўніною схілялі галовы непрыязныя чалавеку дрэвы, і дыхаць было лягчэй, і крокі нанізваліся адзін за другім, нібы пацеркі на доўгую-доўгую нітку.

— Адкуль ты ўсё гэта ведаеш? — падала голас дзяўчына. Выйшла сіпата, нібы маўчала з тых самых спракаветных часоў. Йурай толькі засмяяўся і адказваць не стаў.

Чым ніжэй спускаліся, тым радзейшым станавіўся ельнік, тым болей прыбывала святло. Хутка чароўныя агеньчыкі над сцежкаю па чарзе пабляклі і згаслі, і толькі той першы, прывідна паўпразрысты ў дзённым святле, яшчэ доўга круціўся ў Йурая над плячом.

А дзень даўно пераваліў за палову, і сонца няўхільна апускалася ўсё бліжэй і бліжэй да сіняй стужкі ракі. Лес на даляглядзе падсунуўся бліжэй, клубы дыму над ім пацямнелі і пабольшалі. Зараз нават Ільга ўхапіла праз ноздры тонкі, ледзь улоўны, але несумненны смурод ад гару, які насіўся ў паветры.

Плынь, што падала з таго абрыву, дзе яны нядаўна стаялі, гледзячы на даліну, рассыпала дробныя іскрыстыя пырскі, шалёна круцілася між вільготных льсняных камянёў. Спусціўшыся ніжэй, яна раздавалася ўшыркі і прыцішвалася, абрастала трыснягамі, несла хвалі спакойна і размерана. Але тут, у сваёй каменнай калысцы, плынь неўтаймавана білася і шалёна танчыла, і звінела, падавала радасны голас.

Ля гэтай гаваркой плыні і прыпыніліся — адпачыць і напіцца чысцюткай халоднай вады, ад якой ламіла зубы. Ільга, напіўшыся ўдосталь, рашуча плюхнула з прыгаршчаў вадою сабе на твар, на шыю. Пасля трэсла намоклымі валасамі, спрабуючы аддыхацца, — да таго займала дыханне ад бадзёрага холаду, ад няўмольнай ледзяной свежасці.

Йурай тым часам асядлаў пляскаты камень і, легкадумна боўтаючы нагамі над ашалелаю вадою, важдаўся са сваёй лютняй, бязладна перабіраючы струны.

Лютня пад яго пальцамі загаварыла на птушыны лад: то падавала голас на манер жаўтагрудай

сініцы — «Дзілін-дзілін!», то клекатала па-буслінаму, то пасвіствала і шчоўкала малінаўкай. Ільга ледзь прыслухоўвалася, пакуль паіла пярэстую, а калі зноў павярнулася да паэта, то побач з ім ужо сядзелі, паважна ціўкаючы, некалькі дробных камячкоў пер'я. Ад рэзкага руху дзяўчыны маленькія госці жвава кінуліся ўрассыпную, і адна з птушак ледзь не мазнула ёй па шчацэ цёмным крыльцам.

— Гэта… што зараз такое было? — спытала Ільга шэптам. Азірнулася, спрабуючы пабачыць, куды зніклі птахі.

— Весткі, — спакойна адказаў Йурай, і было відаць, што тлумачыць не збіраецца. І не столькі праз сваю фанабэрыю — проста не ўяўляе сабе, што камусь тут могуць спатрэбіцца тлумачэнні.

Ільга дакорліва пакруціла галавой. Вядома, чаму б і не? Выпявае чары, абрастае ваўчынаю поўсцю і размаўляе з птушкамі, і ўсё з такім выглядам, быццам толькі так і трэба, быццам нічога няма ў гэтым дзіўнага або выключнага.

— Для не-людзя, — дадала яна пра сябе.

Пусты з самай раніцы страўнік нарэшце падаў голас, і ўсе напружаныя думкі пра цмока неяк саступілі звыклай жыццёвай патрэбе. У торбе ля сядла мусіла застацца колькі лустаў хлеба і, магчыма, кавалак сыру. Можа, нават трохі падсохлай вяндліны. Зразумела, не немаведама якія прысмакі, але хоць нешта, каб падмацаваць сілы.

— Гэй, ты, птушыны паэт, — паклікала Ільга. — Мо падсілкуешся?

Паэт уважліва зірнуў на працягнутую яму хлебную лусту, на белы авечы сыр, на вэнджанае мяса. Прыўзняў бровы.

— О, — выгукнуў ён няўпэўнена. — Не думаю, што мне варта…

Ільга сурова звяла бровы.

— Эй! — сказала. — Нават калі на скарынцы і ёсць трохі цвілі, няма чаго нос адварочваць. Падумаеш, цаца.

— Тут справа не ў носе, — Йурай развёў рукамі. — І не ў цвілі. Проста ваша ежа — не для нас, чалавечае дзіця.

Але ж і сапраўды, адумалася Ільга. Не-людзям шкодзіць агонь і халоднае жалеза, а амаль усё, што людзі ядуць, праходзіць праз полымя і метал. Скажам, духмяныя боханы хлеба запякаюцца ў вогненным чэраве печы, а пасля нажом наразаюцца на лусты. То, атрымліваецца, з'есці драбок чалавечага хлеба для не-людзя — як праглынуць атруту. Ясна, што па ўласнай волі ніхто з іх не захоча гэтага рабіць.

Ільга ўпарта падціснула вусны.

— Ну-тка, — сунула Йураю хлеб. — Патрымай.

А сама зняла з пярэстай торбу, яшчэ раз як след пер態трэсла. Выцягнула вялізны румяны яблык — на шчасце, заваляўся з таго паўтузіна, што набыла заўчора на рынку ў Мокрай Дубраве. Купляць спачатку і не думала, але ажно заслухалася, як гандлярка, надрываючы голас, нахвальвае свой тавар — і салодкія, маўляў, як першае каханне, і хрусткія, і сакавітыя, і ледзьве маладосць не вяртаюць.

Наконт апошняга Ільзе не было як праверыць: гады не выйшлі. Але тыя, што пакаштавала, сапраўды аказаліся смачнымі. Таму гандлярка, пры ўсёй сваёй гандлярскай натуры, не вельмі нахлусіла.

— Вось так, — урачыста аб'явіла Ільга, мяняючы хлеб на яблык. — Ні табе жалеза, ні агню. Зараз не атруцішся, ага?

— Няўжо так прагнеш усіх накарміць? — засмяяўся паэт. Дзяўчына паважна кіўнула і апусцілася побач, таксама замахала нагамі.

— А як інакш? Каб адзін еў, а другі глядзеў?

Йурай усміхнуўся — не так, як звычайна, бліскавічна ды зырка, а неяк крывенька, няўмела, адным вуглом вуснаў.

— Дзякуй, — сказаў.

— Кінь, — адмахнулася Ільга, закідваючы ў рот сыр. — Колькі там таго яблыка, далібог.

Рэшткі хлеба змяла пярэстая — і, нават усё спрэс пад'еўшы, доўга тыцкалася мяккімі гарачымі губамі ў яе далонь, шукаючы дабаўкі. Ільга гладзіла кабылку па галаве, дурасліва тармасіла за вуха. Думала: што ж з пярэстаю будзе? І такая ж ладная, і такая слухмяная, і нават пяці гадоў яшчэ не споўнілася.

Пярэстая, быццам усё разумеючы, заржала, страсянула грываю, баданула Ільгу ў плячо — «Не турбуйся». Супакойвала, як магла.

Зрэшты, яна і не хвалявалася. Сышла, нібы змылася ў ледзяной плыні, трывога і скруха, сышоў прытоены салёны боль, нават страху не засталося. Унутры засталася адно крышталёвая яснасць, халодная і празрыстая, як тая вада, і ад гэтай яснасці чаканіліся думкі, простыя і дакладныя. Ільга як бы бачыла крокі на тры наперад, таму ў непатрэбнай мітусні ды шкадаваннях не было сэнсу.

На поўначы большала, разрастаючыся з кожнаю хвілінаю, набрынялая дажджом хмара. Несла ў чэраве і ваду, і грымоты, навісала так нізка, што амаль чаплялася распухлым брухам за вяршаліны. Вецер ахаладзеў, ацяжэў ад прадчування навальніцы, прыпаў да самай зямлі, сваім цяжарам згінаючы зялёнае жыта. Нізка віліся, хапаючы мошак, крыклівыя вастракрылыя ластаўкі, праносіліся над дзяўчынай з прысвістам, быццам цемнапёрыя баявыя стрэлы.

Крочылі па дарозе між палёў, прыслухоўваліся да блізкіх грымот. Вусцішны цёмны дым над лесам, гэты пагрозлівы цмокаў штандар, схаваўся за ільснянаю паласою дажджу. Сонца кацілася да зялёнага ўзгор'я, і сіняватае пакрыва смугі на захадзе паступова налівалася ліловым.

— А як увогуле забіваюць цмокаў? — спытала Ільга. Гэта пытанне чамусь не паўставала перад ёю раней, а зараз, побач з цмокавым берлагам, выплыла з падступнаю нечаканасцю — і збянтэжыла.

— О, якія своечасовыя думкі, — адгукнуўся Йурай. — Але, вядома, лепш пазней, чым ніколі.

— То ты — ведаеш? Ты ж усё на свеце ведаеш, так? — працягнула Ільга і дадала пра сябе: або, можа, проста сам ва ўласнай дасведчанасці цвёрда перакананы.

Ён раздражнёна павёў бровамі, нібы пачуў тое, не сказанае ўслых.

— Я ж, здаецца, казаў: я не ведаю ўсяго. Але часамі бачу.

— І што ж ты бачыш? — не адставала Ільга.

— Тое, што ёсць, — суха мовіў Йурай. І нечакана для сваёй субяседніцы патлумачыў: — Бачу, што цмокі не з'яўляліся тут некалькі пакаленняў чалавечых дзяцей. Бачу, што гэты, мусіць, адзін з апошніх. Слабы, хутчэй за ўсё, паранены, успуджаны, ашалелы ад болю і ўсяго нязвыклага, нова-га вакол сябе.

— Ты, можа, яшчэ і пачвары спачуваеш? — Ільга нахмурылася. — Хіба забыўся, што я табе расказвала?

— Памятаю, — мовіў паэт. — Але я памятаю і іншыя часы, калі ані вас, ані вашых сяліб на гэтай зямлі не было. І ён, — Йурай кіўнуў на ахоплены навальніцаю лес, — памятае таксама.

— То ты кажаш, — сярдзіта загаварыла Ільга, — што трэба, значыцца, пашкадаваць змея? Хай сабе і паліць гарады, і чалавечых дзяцей жарэ, усё роўна шмат напладзілася, — так, па-твойму, трэба?

Йурай пахітаў галавою.

— Я толькі кажу, — заўважыў мякка, — што старое непазбежна мусіць сысці, каб даць дарогу новаму. І як частку таго старога гэта мяне трохі засмучае, так.

— Ды ніхто ж не збіраецца вынішчаць вас і вашы курганы, — няўпэўнена запярэчыла Ільга.

— Пакуль што, — напаўголаса прагаварыў Йурай. Глядзеў на ахоплены навальніцай цмокаў лес — і як быццам скрозь яго, скрозь далягляд, скрозь прашытае навальнічнымі іголкамі неба. Ільзе стала ніякавата, і чамусь ад чужога суму сціснулася сэрца.

Колькі часу ішлі моўчкі. Далёкія грымоты падкотваліся бліжэй, хмара насоўвалася на луг, на поле, на іх дваіх з няўхільнасцю кону.

— Але ён спаліў мой горад, — сказала Ільга, нібы апраўдваючыся. — І забіў, і скалечыў столькі людзей.

— Гэта праўда, — пагадзіўся паэт. — А калі яго не спыніць, заб’е і скалечыць яшчэ болей. А гэта значыць…

— Што ў мяне няма выбару, — Ільга цяжка ўздыхнула. Зноў паўставала пытанне, з якога яна пачала ўсю гэтую размову і ад невырашальнасці якога ламіла скроні. Ільга закусіла вусны, наморшчыла лоб, спрабуючы знайсці ў галаве хоць нейкую слушную думку.

Але там было проста абразліва пуста.

Йурай, скоса паглядаючы на яе грымасы, урэшце адтаяў, засмяяўся. І загаварыў.

Не так і даўно такіх, крылатых, было куды болей. У цёплых сырых пячорах у самых нетрах Пушчы яны ладзілі свае гнёзды, грэлі магутныя целы на залітых сонцам скалах. Яны — дзеці глыбіннага агню ў палкім сэрцы зямлі, таму холад скоўвае іх, прыпыняе кіпучую кроў, змушае дранцвець, засынаць. Амярцвелыя ад холаду цмокі могуць спаць стагоддзямі.

Яны растуць, пакуль жывуць. Трохі большыя за зайца, калі вылупляюцца, слабыя, голыя, яны пакрыва набіраюць вагу, абрастаюць вострымі касцянымі грэбнямі, апранаюцца ва ўбор з залатой лускі, быццам у баявы панцыр. І на працягу свайго жыцця цмокі спяваюць, размаўляюць амаль салаўіным пошчакам, перасвістваюцца — маці з дзецьмі, самка з самцом.

У сваёй любові да бліскучых рэчаў яны падобныя да сарок: так і цягнуць у гнёзды штосьці ззяючае, штосьці залатое. У шлюбную пару самкі, абіраючы самцоў пад пару, найперш прыглядаюцца: ці добра складзена гняздо, ці ўтульна там, ці блішчыць, як належыць.



Палююць звычайна далей ад уласнага логавішча, як тыя ж ваўкі, і вышукваюць здабычу на адлегласці недзе ў дзень лёту. Наеўшыся, адпачываюць прыблізна з тыдзень, спяць або прыхарошваюцца — чысцяць крылы, точаць кіпцюры аб каменне, аб дрэвы.



— Рэдкія, бач ты, чысцёхі.

Йурай сказаў гэта з дабрадушнаю ўсмешкаю. Ільга амаль абурылася ягоным замілаваннем, а пасля жыва ўявіла: вось цмок пакруціўся па-сабачы ў сваім гняздзе, натаптаў ямінку, уладкаваўся і, выкруціўшы доўгую шыю, з заўзятасцю абкусвае касцяныя грэбні на спіне.

І сама не стрымалася — усміхнулася.

Вывадкі ў цмокаў вялікія, але да года, калі пісклята ўжо становяцца памерам з дарослага аленя, дажываюць адзін-два з кладкі. Бацькі да іх прывязваюцца, даглядаюць старанна, кормяць, напераменку прыцягваючы ў гняздо ўпаляваных кабаноў ды касуль. Таму ад цмокавага гнязда з малечай зазвычай востра цягне тхлінаю, не памылішся. Калі малыя вырастаюць яшчэ ўдвая і канчаткова становяцца на крыло, то пакідаюць логавішча, лятуць прэч, каб самім шукаць сабе харч і схоў. Такія падлеткі часта збіваюцца ў зграі па пяць-шэсць галоў, палююць разам, разам адпачываюць. Праз пэўны час пачынаюць дзяліцца на пары, якія зазвычай захоўваюцца ўсё жыццё, і выводзяць уласных дзяцей.

Чуць усё гэта было дзіўнавата. Не таму нават, што ніхто з людзей нічога такога — Ільга была цвёрда пераканана — і не ведаў. Дзіўна было тое, што тая жудасная вогненная бура на кажановых крылах, якая так ярка помнілася, так балюча джаліла памяць, раптам стала жывою істотаю. Звыклым дзікім зверам, з плоці ды крыві, быццам тыя, якіх вучыў высочваць бацька.

— Калісь на цмокаў паляваў Княжы Двор, — Йурай паважліва крануўся змяінай фібулы на сэрцы. — Збольшага на крыважэрных бадзяг, якія не ў час ачомаліся ад спячкі, або на ашалелых выгнаннікаў са зграі.

Паэт памаўчаў і, кашлянуўшы, дадаў, што, можа, Двор і зараз з ахвотаю паляваў бы, але саміх цмокаў амаль не засталося.

— І як жа палявалі? — жыва ўдакладніла Ільга. — Мо і мне гэтак паспрабаваць?

— Для пачатку, — адазваўся Йурай насмешліва. — Табе патрэбна будзе з паўтузіна ўзброеных княжых паляўнічых і ўдвая болей хартоў.

Упрост цудоўна, сказала сама сабе Ільга, паціраючы лоб у роздуме. Патрэбна шасцёра вояў з не-людзей ды па двое не-людскіх сабак на кожнага. А ў яе распараджэнні толькі адзін на рэдкасць самазадаволены не-людзь, і той паэт, ды пярэстая кабылка.

Зрэшты, ёсць яшчэ верная бацькава дзіда ды лук, ды ўмелыя рукі. Калі цмок — усяго толькі звер, хай сабе вялікі ды небяспечны, значыць, яго можна адолець. Не сілаю — дык хітрасцю.

— Пачакай, — Йурай прыпыніўся. — Глядзі вунь туды.

Ільга зірнула, куды ён паказваў. За жытнім полем, на самым ускрайку луга бялелі раскінутыя шатры. Хвасты дымоў ад вогнішчаў слаліся нізка, прыбітыя сырым ветрам, блізкаю навальніцаю. Чуваць былі прыглушаныя чалавечыя галасы, бразгат металу ды конскае ржанне. Пярэстая, пачуўшы сваю радню, застрыгла вострымі вушамі, адгукнулася тоненька, радасна.

— Цікава, хто б гэта мог быць? — прагаварыла Ільга занепакоена.

— Воі кагосьці з вашых князькоў, — упэўнена адказаў Йурай. — З тых князькоў, хто бліжэй. Пабачылі цмока ў небе — і вырашылі праверыць.

— Але чаму тады яны тут? — гнеўная Ільга нават прытупнула. — Іх жа там, мабыць, да халеры! Яны б маглі…

— Не маглі, — па-воўчы ўсміхнуўся паэт. — Вядома, і не змогуць.

Злавіў на сабе непаразумелы пагляд дзяўчыны і патлумачыў:

— Так і смярдзіць жахам. Нават адсюль.

— Дык і нядзіўна, — разважліва сказала Ільга. — Пад самым жа, лічы, цмокам сядзяць.

На лузе навальніца, нарэшце, дакацілася да іх. Загусцела, застыла паветра. У сіняватым святле рэзка пасыпаліся долу хвосткія ніці вады, з сілаю забілі па зямлі, па свежай безабароннай зяляніне. Бліснула вусцішным блакітам зусім побач, пранёсся высока аглушальны грукат — голас раз'юшанай буры.

— Хто ідзе? — хрыпла крыкнулі Ільзе ад белых шатроў, ледзь перакрываючы ўдары цяжкіх кропляў ды грымоты. Вой у чырвоным плашчы паверх blішчастага панцыра было ледзь відно за палосамі дажджавой вады.

— Паварочвайце, — сказаў вой. — Не чулі, ці што? Цмок!

— А я на таго цмока і палюю! — упэўнена адказала Ільга.

— Ну-у? — здзівіўся вартавы, нават прысвіснуў. Азірнуўся неяк бездапаможна, быццам шукаючы парады ці падтрымкі, і таропка адсунуўся, саступаючы месца камусь мажнаму ды медзведзяватаму. Ільга закінула галаву і далёка наверсе разгледзела цёмную кучаравую бараду.

— На цмока? — прабасіла з барады. — Хто? Ты, дзеўка?

— Я, — Ільга выпрастала плечы. З барады пырснула кароткім здзеклівым смехам — як сабака забрахаў. А пасля барада спусцілася ніжэй, бо ўладальнік яе нахінуўся, каб лепш разгледзець Ільгу. Тая змрочна ўтаропілася ў крывы гарбаты нос, што вытыркаў з барады, і маленькія шэрыя вочкі. А бараты гаварыў так:

— Ну, во толькі цябе нам і не хапала, дзеўка. Зусім, бач, не ведалі, што і рабіць — а тут, каб цябе трасца, такая дапамога. І як, хвароба яе вазьмі, клятая мамка цябе з-пад спадніцы сюды адпусціла?

— Я іду з Лыцавіч, — холадна прагаварыла Ільга. — Тры дні ўжо іду за гэтым цмокам. Па яго галаву іду.

— Дык ты… з Лыцавіч? — бараты прачысціў горла. — З тых, што пагарэлі ўшчэнт?

Ільга кіўнула. Барада ўздыхнуў — як кавальскія мяхі — і прашыпеў невыразную лаянку.

— Ну, то хадзем, дзеўка, — запрасіў, махнуўшы агромністаю рукою на шацёр. — Хаця б абсохнеш, ці што.

І пагрозліва гыркнуў зверху на вартавога, якому Ільга перадала аброць пярэстай:

— А ты, каб цябе трасца, глядзі мне тут.

У шатры цьмяна гарэлі свечы, мяккія цякучыя цені слізгалі па вялікім круглым шчыце са старанна вымаляваным гербам — чырвоны мядзведзь, што трымае белы рог. На пасцеленых ваўчыных шкурах быў з непрыхаванаю любасцю ўладкаваны доўгі меч, на клінку якога цьмяна паблісквалі руны. Йурая ад гэтага відовішча злёгку перасмыкнула: ці то гэтак уразіўся шматлікімі ваўчынымі скурамі, ці то меч быў не абы-які, а з заклятага халоднага жалеза. На груба скалочаным стале пасярод шатра расклалі мапу, прыціснуўшы краі пергаменту цяжкім кубкам, паляўнічым рогам і свінцовай гербавай пячаткай з мядзведжаю выяваю.

Барада цяжка сеў на дубовую калоду, паглядзеў з-пад кусцістых чорных броваў уважлівымі вочкамі.

— Тамаш Дубыніч, — назваўся. — З Вугеркі. Князеў брат. А ты, дзеўка з Лыцавіч?

— Ільга.

Шэрыя вочкі спыніліся на Йураі. Дубыніч незадаволена цокнуў языком.

— Ідзеш па галаву цмока і цягаешся з не-людзем. Трасца, дзеўка, я нават і не ведаю, што горш.

— О, і не даведаешся, — нявінна азваўся Йурай. — Асабліва пра першае.

Ільга штурхнула языкатага паэта локцем. Дубыніч выскаліўся, паказаўшы рэдкія жаўтаватыя зубы.

— Бач, — працадзіў. — Размаўляе тут яшчэ.

— Гэта мой памагаты, — паспешліва ўклінілася Ільга. — Мой сябар.

Дубыніч засмяяўся на свой лад, сіпла і гаўкліва. Пасля пазмрачнеў.

— То гэта не-людзь напеў табе ў вушы, быццам ты зможаш забіць цмока? Ды яшчэ зусім адна?

— Не адна, — важка вымавіў Йурай. Дубыніч грэбліва звузіў вочы.

— Чаму вы тут? — спытала Ільга нецярпліва. — Цмок жа засеў у лесе.

— Думаем, — адказаў Дубыніч, скрывіўшыся.

Думалі яны, як выявілася, з заўчорашняй раніцы. Уночы ў небе над Вугеркай варта заўважыла цмока. Вырашылі: трэба прасачыць за пачварай.

— Бачылі тое папялішча на месцы Лыцавіч, — Тамаш Дубыніч патрос барадой. — Частцы сваіх вояў я загадаў застацца з пагарэльцамі. Буданы памагчы зладзіць, упаляваць там чаго.

Ільзе перахапіла сутаргай горла.

— Дзякуй, — ледзьве выціснула з сябе.

— Тут дзякуй, дзеўка, не дзякуй, усё адно, — Дубыніч пакруціў крывым носам. — У логавішча цмокава лезці — смерць, гэта ясна. Я сваіх людзей, бач ты, у цмокаву пашчу кідаць не надта ахвочы. Во і сядзім. Была адзін час думка — лес падпаліць, каб гада выкурыць адтуль.

— Глупства ж чыстае, — чмыхнуў Йурай. Дубыніч зноў ашчэрыўся на яго і з пагрозлівым хрустам размяў магутную шыю.

— Агнём звера ніяк не выкурыш, — таропка патлумачыла Ільга. — І праўда, глупства: цмокі ж цеплалюбівыя. Гэты яшчэ й вогненны.

— Цеплалюбівыя яны, трасца іх вазьмі, — недаверліва прабурчаў Тамаш. — Нос яшчэ не дарос, а, бач ты, цмокавую завядзёнку яна ведае.

Ільга падышла да мапы на стале, асцярожна адсунула ўбок княскую пячатку. Павяла па выявах і паметах пальцам, уважліва аглядаючы ваколіцу.

Цмокаў лес цягнецца далей на поўнач, далёка-далёка, сягаючы поймы навіпольскай ракі. З заходу падпіраецца парослымі травою ўзгоркамі, заступае ўвесь правы бераг звілістай Вугеры ажно да каменных парогаў.

— Вось, — Ільга тыцнула ў чарнільную пазнаку на пергаменце. — Гэта ж мост, так?

Дубыніч, крэкчучы, падняўся на ногі, у адзін крок апынуўся побач, засоп, падслепавата водзячы крывым носам па мапе.

— Калінаў мост, — пацвердзіў. — Стары, праўда, ледзь ліпее. На поўначы, бач ты, зараз ёсць больш зручная пераправа, то гэты мост і закінулі зусім.

— Ну, гэта, мабыць, і да лепшага, — Ільга засяроджана пацерла лоб. Дубыніч зноў засоп — з недаверам.

— Надумала штось, дзеўка?

Ільга ўсміхнулася:

— Ёсць такое нешта, ага.

Гэта нешта віравала і бурліла ўнутры яе, біла сярэбранымі малаточкамі. І радасна было, і трохі вусцішна — ці атрымаецца.

— Не блазнуй, дзеўка, — нахмурыўся Дубыніч. — Цмок жа зжарэ і не заўважыць нават: ты яму — што тая муха.

— Не зжарэ, — упэўнена мовіў Йурай. Дубыніч закаціў вочы, забурчаў, што з не-людзя і ўзяць няма чаго, ды і не шкада не-людзя, а вось дзеўку дурную няма чаго на такое пад'южваць.

— Табе б, трасца мяне вазьмі, яшчэ ў лялькі гуляць, — са шкадобаю дадаў Дубыніч. — Далібог, дзеўка… як там цябе, Ільга? Давай, можа, дам табе каго з сваіх малойцаў, завязуць цябе хоць у Вугерку, хоць куды хочаш.

Абражаная Ільга ўзялася ў бокі.

— Лепей дапамажы мне ўпаляваць цмока, калі такі добры.

Дубыніч гнеўна засоп, скрыжаваў цяжкія рукі на грудзях.

— То мо ты мне раскажаш, як жа, трасца яго вазьмі, таго цмока ўпаляваць, га? Калі такая, бач, разумная?

— О, вядома, — амаль весела паабяцала Ільга. — Раскажу.

Разлік быў досыць просты: не лезці ў пячоры пад лесам, а прымусіць цмока самога з іх выйсці. Завабіць у прыдатнае месца — і ўжо там з ім расправіцца.

— На мосце, значыць, — заклапочаны Дубыніч пачасаў бараду. — Хітра.

— Не зусім **на** мосце, — выправіла яго Ільга. Уражаны Дубыніч падняў калматыя бровы.

— То ты хочаш яго ў ваду скінуць?

— Вугера перад парогамі надта халодная, — патлумачыла Ільга. — Цмок ад холаду саслабне, здранцвее.

— Хітра, — паўтарыў Дубыніч. Слізгануў позіркам па мапе, пастукаў тоўстым пальцам па княскай пячатцы, падціснуў вусны.

— Але сваіх вояў у яго бярлог я не адпраўлю, — сказаў сурова. — Мала нас тут, каб… Пашлю каго да князя, хай яшчэ які тузін малойцаў прышле.

Кажучы так, дробна стукаў пальцамі па стале, глядзеў убок, неяк па-сабачы вінавата. Вялікі, моцны, занадта добра памятаў смуроднае папялішча ў Лыцавічах і абгарэлыя косткі пад попелам.

І — баяўся. Ільга нечакана адчула чужы страх, ліпкі, пакутлівы, перамешаны з сорамам. І падумала: хіба ў боязі можна каго вінаваціць?

— Я сама выбаўлю цмока з пячор, — сказала вельмі роўным голасам.

— Ты?..

Ільга кіўнула.

— Як жа гэта — адна?

— Табе ж сказалі, чалавечы сын, — мовіў Йурай. — Яна — не адна.

Дубыніч змерыў паэта доўгім непрыязным позіркам, пасля сустрэўся з паэтам паглядам — і, скалануўшыся, адвёў вочы, увесь надзьмуўся, наморшчыў лоб.

— Зробім так, дзеўка, — загаварыў Дубыніч, павольна, з цяжкасцю падбіраючы словы, быццам супрацiўляючыся самому сабе. — Мы, я і мае малойцы, на світанні рушым да Калінавага моста. Паглядзім, што ды як, усё ўладкуем. Будзем… чакаць.

— Чакаць вы майстры, я гляджу, — мімаходзь заўважыў Йурай. Дубыніч толькі заскрыгатаў зубамі.

— Дабро, — таропка згадзілася Ільга, паціху торгаючы паэта за вышываны рукаў. — А я завяду цмока ў пастку.

— То дамовіліся, — заключыў Дубыніч, з сілаю пляснуўшы па стале, нібы прыпячатваючы ўласныя словы. — А пакуль адпачні трохі, ці што. Як толькі развіднее, рушым.

Навальніца над белымі шатрамі патроху адкотвалася прэч, бурчала ўжо далёка за зялёнымі пагоркамі. Дождж суцішыўся, і сыры вецер падымаў галаву з высокіх лугавых траў, гарэзліва абтрасаў з іх долу апошнія кроплі. Хмара мінула, адкрыла цёмнае сіняе неба, яшчэ злёгку кранутае барваю з захаду. Сонца села, зусім схавалася за ўзгор'ем, таму цемра ўсё гусцела, налівалася сінню. У нябеснай вышыні высыпаліся і заззялі частыя зоры — буйныя, касматыя. Свяціліся халоднаю нябеснаю расою, пазначаючы вялікую Птушыную Дарогу, адвечны шлях у вырай.

Іскры вогнішч віліся роем залатых пчол, падымаліся ўверх, змешваліся з зорным россыпам. Ільга ленавата сачыла за імі, закінуўшы галаву. Знайшла — як бацька вучыў калісьці — і Траіх Сясцёр, і Стажары, і Вялікі Воз. Над Лыцавічамі, яна памятала, усе сузор'і быццам бы былі такія ж самыя — а быццам і не. Паспрабуй яшчэ разбярыся.

Бязгучна вынырнуў з цемры Йурай, прысеў на бервяно побач. Пакінуў быў лютню і знік кудысь, як у ваду кануўшы, а зараз зноў з'явіўся — з самым спакойным тварам. Здымаў з доўгіх рукавоў прысталае лісце, паглядаў на агонь, ціхенька насвістваў.

— Вядома, хадзіў і глядзеў, — адказаў на Ільзіна пытанне ў сваёй звычайнай манеры. Тая адно галавой пахітала, але не здзівілася і не пакрыўдзілася: неяк прызвычаілася.

— І што ўбачыў?

— Што ж, мост там сапраўды ёсць, — адказаў Йурай, з асалодаю пацягваючыся. — Каменны. І сапраўды лядашчы. Ад цмокавых пячор вярсты тры. Але гэта напрасткі.

— То бок, гэта для ваўка там тры вярсты, — прабурчала Ільга. Паэт паківаў, зірнуў на Ільгу — і ўсміхнуўся ледзь заўважна, самым краёчкам вуснаў.

— Паспі, чалавечае дзіця. Ночы слепяць вочы, а раніца — зладзіцца.

Сонная Ільга ўпотайку пазяхнула ў кулак.

— А сам? — спытала строга. — Зноў жа бегаў ваўком абы-дзе. Стаміўся, мусіць, як… хм… сабака?

Йурай заляскаў у ладкі.

— Анічога ад цябе не схаваеш, — заўважыў весела. І дадаў мягчэй: — Спі, Ільга, спачывай. Заўтра доўгі-доўгі дзень.

Ільга сяк-так прыладзілася на пасцеленым на траву плашчы, скруцілася, падклаўшы руку пад шчаку. Прыплюшчыла вочы — і адразу ж рэзка правалілася ў сон, цёмны і глыбокі, як начное неба, без сненняў — і трывожных, і радасных. Прачнулася таксама рэзка, прахапілася ў адзін момант, быццам нехта штурхануў, быццам і не спала зусім. Вогнішча апала, полымя сышло ў вуголле, адпачывала ў прыску. Па зямлі адчувальна цягнула халадком і пахам попелу, ныла спіна, і галава была мутная ад кароткага сну. Яшчэ не развіднела як след, але па даляглядзе на ўсходзе ўжо прайшла светлая палоска, якая ўсё шырылася, ружавела, а зоры дрыжэлі, цьмянелі, знікалі. Саступалі месца новаму дню.

Йурай сядзеў тут жа, зусім побач, нібы і не кранаўся з месца, важдаўся са сваёй лютняй, схіліўшы светлую галаву. Лютня ціхенька дзынкала, шчодра рассыпаючы прыгаршчы спеўнай сярэбранай вады, а незадаволены паэт моршчыўся, хмурыўся, шаптаў засяроджана:

— Не тое. Не так! З-зараза…

І спеўная вада слухмяна адкотвалася назад, зноў звівалася ў мудрагелісты ўзор, зноў рассыпалася, вірыла, узвівалася. Мусіць, падобна гучала чароўная музыка над возерам — у Ільгі ад аднаго ўспаміну закруцілася ў галаве, бо ажыло рэха той песні пад зводам чэрапа.

Добра было ляжаць вось так, зябка скурчыўшыся пад плашчом, ля згаслага вогнішча, глядзець праз прымружаныя веі і слухаць ціхутую музыку, заключаную ў кола бясконцых паўтарэнняў. І не варушыцца, і нават дыхаць цераз раз, каб нічым не выдаць сябе, каб ціхмяны спеў мог падоўжыцца, патрываць яшчэ хаця б трошачкі.

— Ну, добрай раніцы, — раптам няголасна сказаў Йурай, не падымаючы галавы. — Трэба ўставаць, Ільга. Час.

Яна падскочыла ад нечаканасці, паружавела і села, затрэсла галавой. Воі з Вугеркі таксама ўжо не спалі — перагукаліся, перакідваліся жартачкамі і лаянкаю, згортвалі шатры, сядлалі коней. Ільга, пазяхаючы, неслухмянымі рукамі скруціла плашч, пайшла па роснай траве да пярэстай, што пасвілася непадалёк. Кабылка заржала прывітальна, сунулася носам ёй у плячо, старанна вымагаючы пачастунак.

— Потым, — паабяцала Ільга. Пярэстая з’едліва чмыхнула — мусіць, паспела набрацца ганарыстасці ў аднаго паэта з Курганова Поля.

Дубыніч, падобны ў ранішнім паўзмроку да жывога пагорка, адно з ускудлачанай барадой, ужо ў поўным узбраенні цяжка тупаў вакол коней. Пакрыкваў, падганяў сваіх малойцаў, нават пагражаў камусь кулаком. Пабачыў Ільгу і прыпыніўся, паважна кіўнуў са сваёй вышыні.

— Будзем, дзеўка, спадзявацца, што ўсё зладзіцца.

— Будзем, дзядзька, — адгукнулася яна, пагладжваючы пярэстую па шаўковай шыі. Дубыніч гучна засоп, нават раскрыў быў рот, каб нешта сказаць, але ў самы апошні момант перадумаў.

— То стрэнемся на Калінавым мосце, — кінуў толькі, нейкі прыцішаны і пахмурны, як стылы восеньскі ранак.

Затрубілі ў баявы рог. Гарачыя шэрыя коні хрыпелі, закідваючы галовы, білі капытамі, прадчуваючы дарогу. Вершнікі з Вугеркі, усе ўкрытыя чырвонымі плашчамі, са сваімі мядзведжымі шчытамі за плячыма, урэшце крануліся з месца — з шумам, тупатам, свістам. Ехалі на захад, да зялёных

узгоркаў, аб'язджаючы цмокаў лес па дузе, і хутка зніклі, расталі ў прыцемку. Ільга колькі часу глядзела ім услед, кусаючы вусны, адчувала сябе да крыўднага маленькай і слабой. Пасля прыкрыла вочы і глыбока ўдыхнула, прагна ўцягваючы ў сябе водар вільготнага лугу.

— Хадзем, — мякка мовіў Йурай, паклаўшы ёй руку на плячо. — Час.

Пайшлі.

Цмокаў лес набліжаўся быццам сам па сабе, незалежна ад Ільзіных высілкаў, быццам па сваёй волі — спачатку на крок, а там — і на два, і на дзясятак. Разрастаўся наперадзе, шырыўся, пакуль, нарэшце, не раздаўся ў бакі, распаўшыся на асобныя дрэвы — ясені, елкі, хвоі, на зараснік у падлеску — шызыя трапяткія парасткі асіны, пахкія белыя воблакі чаромхі, разное лісце малінніку. І рассыпаўся на колеры, пахі, птушыныя галасы, аглушыў і збянтэжыў. Ільга неяк падсвядома чакала жудаснага мёртвага месца, з асмаленымі галінамі, з павыпаленай зямлёй. А лес — жыў.

Матылі, белыя, пунсовыя і сінія, кружылі над чарнічнікам паабапал зарослай дарогі, падалі на ружовыя і блакітныя пралескі, на нясцерпна-жоўты чыстацел. Там — адпачывалі, паважна дыхаючы крыльцамі. За сцяною ядлоўца, сыта парохкваючы, праходзілі са сваімі вісклівымі вывадкамі дзікі. Слізгалі пад зарослыя сырым мохам карчажыны ціхія вужы, глядзелі са сваіх схованак уважлівымі вачыма-пацеркамі. Бессаромна бразгаталі рудыя сойкі, з рэзкім свістам пераляталі з галіны на галіну асцярожныя вяхіры. Кукавала зязюля — сонна, няўпэўнена адлічвала чыйсьці гады. Заблытвалася, прыпынялася, задумваючыся на імгненне, і пачынала нанова.

Лес жыў спакойным і размераным жыццём. Як быццам і не хаваў у нетрах крыважэрнага драпежніка. Або, магчыма, гэты драпежнік таксама быў часткаю ляснога жыцця — як і любы іншы драпежнік, хоць танканогі воўк, хоць вастравухая рысь, хоць непаваротлівы мядзведзь. Ільга сутаргава павяла плячыма, толькі задумаўшыся над гэтым.

Чым глыбей у лес, тым болей было пазнак змяінай прысутнасці. Спачатку зніклі птушыныя галасы і дзелавітыя крокі звяроў — усе тыя галасы, увесь той няспынны кіпучы рух, якім толькі што быў ахоплены лес. Пасля адчувальна пацягнула гарам, і ў хуткім часе зеленаватае лясное святло адступіла. Наперадзе чарнеў прагал — той прадбачаны, выпалены, маўклівы, мёртвы, а пасля зялёнай лясной таўкатні — яшчэ больш жудасны. Быццам вяха на шляху да цмокавых пячор, быццам напамін пра злавеснага звера ў самым сэрцы леса.

— Адсюль ён узлятаў, — Йурай агледзеўся, крануўся рукою зламанай абгарэлай хвоі. Ільга, акінуўшы вачыма паваленыя, як ад буры, дрэвы, толькі сціснула кулакі і рушыла наперад.

За паласою абгарэлых дрэў зноў радасна зелянеў лес, але цішыня пад яго полагам была, здавалася, яшчэ больш густою і цяжкою. Дробныя часцінкі попелу насіліся ў паветры, пахруствалі на зубах, набіваліся ў нос, у вочы, настойліва ліплі да скуры. Падала голас вада — то зарослы багуном лясны ручай, схаваўшыся ў неглыбокім яры, бадзёра скакаў у рэчышчы з чырвонай гліны.

З асцярогаю спусціліся на дно яра і пакрочылі следам за вадою. У гліне ля звонкай плыні Ільга ўхапіла звыклым вокам і ямінкі ад капыткоў казуль, і клінапіс птушыных слядоў, і выразныя частыя адбіткі лісіных лап. І яшчэ, паверх усіх астатніх, іншыя, незнаёмыя сляды — трохпальцыя, глыбокія, у тры Ільзіны далоні даўжынёю.

— Праходзіў тут колькі разоў, мабыць, на вадапой, — прагаварыў Йурай, вывучыўшы сляды. І дадаў паўшэптам: — Ужо блізка.

— Блізка, — рэхам паўтарыла Ільга.

Пайшлі як мага цішэй па трохпальцых слядах — цмокаваю сцежкаю. Хутка ручай вільнуў, пераскочыў цераз асклізлыя альховыя карані, упарта пракладаючы сабе дарогу праз markdownрознакалёрны друз, нанесены працавітаю вадою. За каменным россыпам маячылі чырвоныя скалы — добра ўкрытыя зелянінай, зарослыя травою ды мохам. Некалькі маладых хвоек ускараскалася на самы верх, гайдала слабымі галінкамі, быццам ад ветру.

Але ветру тут не было — гэта цяжка дрыжэла сама зямля, мерна скаланаючыся.

— Нібы… дыханне, — прагаварыла Ільга. І — зразумела.

Пад чырвонаю скалою чарнеў цмокаў ход — агромністы правал у цемру. Трохпальцыя сляды спярэсцілі чырвоную гліну перад пячораю, так што іх можна было чытаць, як кнігу. Ільга адрозніла і досыць свежыя сляды, яшчэ выразна акрэсленыя, і даўнія, з акругленым краем, паўсцёртыя, запоўненыя дажджавою вадою ды ігліцаю. На некалькіх блізкіх хваінах — на вышыні двух-трох яе ростаў — заўважныя былі сляды кіпцюроў ды падпаліны, а да смалы там і сям присталі невялікія залатыя лускавінкі.

З цемры патыхала невыноснаю гарачынёю, ад якой спірала дух і слязіліся вочы, і душным трывожным звярыным пахам. І тое, і другое надта занепакоіла пярэстую: кабылка забілася, заржала тоненька, баязліва. Йурай ласкава пакудлаціў пярэстую па галаве, шапнуў штось на вуха — і тая вокамгненна прыціхла, супакоілася.

— А з цмокам? — шапнула паэту Ільга. — Што, з цмокам гэтаксама зрабіць нельга?

— О, хочаш праверыць? — таксама шэптам адказаў ён з заўсёднаю сваёю кпліваю усмешкаю. Ільга паціснула плячыма. Падумала: наўрад цмоку спадабаецца, калі Йурай паспрабуе яго пагладзіць. Ды і каб шапнуць штосьці змею на вуха, паэту давядзецца ўскараскацца на хвою. І, вядома, папярэдне вельмі ветліва папрасіць таго стаяць на адным месцы ўвесь гэты час.

І, падумаўшы так, Ільга шчыра сама сабе ўразілася — якія ж дурныя рэчы лезуць у галаву.

— Эт, усё лухта, — прамармытала сабе пад нос. І ўспомніла: хтосьці казаў тое самае. Даўнодаўно. Быццам у мінулым жыцці.

— Не бойся, — шапнуў Йурай — здаецца, усхваляваны. Ільга павяла плячом і адказала вельмі спакойна, трохі здзіўленая, што ён не разумее відавочнага:

— Я не баюся.

І лёгкім крокам пайшла да правала ў цемру, які струменіў гарачыню. Хітра звіўшы пальцы — так, як калісьці яшчэ бацька вучыў, — свіснула радасна, звонка. Раз, другі, трэці.

Ажно пакуль поўная гарачыні цемра не адазвалася пранізлівым, аглушальным свістам.

І зямля застагнала, задрыжэла, забілася дажджавая вада ў звярыных слядах — адгукаючыся на глыбінны рух, на цяжкія крокі.

З непрагляднай цемры спачатку вырвалася цэлае воблака нясцерпнай гарачыні, змешанай з гарам ды звярыным смуродам. Ільга закашлялася, закрыла твар рукою. І з-пад далоні, халадзеючы, пабачыла, як пашча пячоры выплюнула агромністы цень, што засланіў сонца.

Зыркім злым золатам успыхнула, асляпляючы, луска, касцяныя грэбні горда ўзняліся вышэй за лес, працялі неба, а за грэбнямі разгарнуліся, хвостка ўдарыўшы стылым ветрам, магутныя крылы, падобныя да кажановых. Перакотваліся пад лускаю таўшчэзныя канаты мышц, поўныя неўтаймаванай сілы, даўгія кіпцюры глыбока ўпіліся ў чырвоную гліну. Кольцы звівастага хваста, усеянага вострымі шыпамі, з вусцішным шаргаценнем папаўзлі амаль пад ногі Ільзе. А на доўгай гнуткай шыі, увенчаная каронаю рагоў, сядзела выцягнутая сухая галава з паўраскрытаю пашчаю, поўнай вострых іклаў.

І глядзела гэтая галава ўважлівымі барвовымі вачыма, і пагрозліва сычэла, выпусціўшы вострае атрутнае джала.

Ільга зніякавела, спынілася. Глядзела — і не магла адарваць пагляд. І думала: прыгажосць. Пагрозлівая, драпежная, жудасная нават, бясконца небяспечная, але — якая ж прыгажосць!..

— Іль-га! — прыглушана — быццам здалёк — крыкнуў Йурай. Яна паматала галавой, трохі апрытомнела. А цмок выдыхнуў праз тонкія ноздры лёгкія воблачкі пары — і раптам зароў, забіў хвастом па зямлі, высока ўзбіваючы шматкі гліны.

Унутранае чуццё падказала Ільзе слізнуць долу, і ў час: ледзьве ўнікла ўдару вострых кіпцюроў,

праехаўшыся ўпрост пад цяжкою лапаю. Кроў у жылах нібы застыла, сэрца забілася павольней. Ільга нават паспела са здзіўленнем пабачыць, як замерлі, падвіслі ў паветры драбочкі зямлі і сцябліны сухой травы, і — рушыла, пакацілася да пярэстай.

Побач з пакутаю ўсхліпнула парваная струна — і Йурай вылаяўся праз зубы. Рэха азёрнай музыкі ўсплёснула сярэбранаю хваляю, раскацілася вакол, адгукнулася тройчы. Раз'юшаны цмок прыпаў да зямлі, выпусціўшы глухі вантробны рык, але голас звера абледзянеў, замёр у яго горле, і сам цмок спыніўся, павольна-павольна раззяваючы пашчу, каб дыхнуць агнём.

— Руш! — Йурай з сілаю падштурхнуў Ільгу. — Доўга мне яго не ўтрымаць!

Ад яго голасу Ільга зусім ачомалася, узляцела ў сядло, ударыла пярэстую пяткамі. Кабылка заржала і сарвалася з месца. Побач успыхнула, завірыла белае полымя — і з яго калматай завеяю выкаціўся, кульнуўшыся, скочыў следам снежны воўк.

Замарожаны час з невыносным скавытаннем зноў прыйшоў у рух, заспяшаўся — і ў спіны ім дыхнуў ненажэрны агонь. Ашалелы цмок з сілаю рвануўся наперад, уварваўся ў зараснікі. Ударыў хвастом наводмаш — і са страшэнным трэскам паваліліся некалькі хвой. Ільга жвава павярнулася ў сядле, падняла лук і выпусціла адразу некалькі стрэл, нават асабліва не цэлячы: галоўнае было — утрымаць увагу звера на сабе.

Адна страла пры канцы лёту слаба клюнула наканечнікам залатую луску на цмокавым плячы. Цмок зароў, шумна забіў крыламі, узняўшы сапраўдную буру. Пярэстая закрычала ад жалю: яе разам з Ільгай душны смуродны вецер пацягнуў назад, так што капыты кабылкі пакідалі барозны ў сырой зямлі. Ільга, ледзьве перасільваючы вецер, зноў падняла лук, стрэліла, не бачачы, не дыхаючы, усляпую — і амаль аглухла ад пранізлівага, поўнага лютасці і болю звярынага крыку. Бура адступіла, так што Ільга, прамаргаўшыся, здолела пабачыць: неяк умудрылася пацэліць. Яе страла з бела-чырвоным пер'ем усё яшчэ трапяталася ў згібе скурыстага крыла.

Цмок, адступіўшы адным падскокам, помсліва плюнуў агнём. Ільга рванула аброць, праклінаючы сябе за маруднасць і з адчаем разумеючы, што адысці не паспявае, што момант безнадзейна згублены. Нават прыкрыла вочы і згорбілася ў сядле, чакаючы пякельнага болю.

Але побач зноў сярэбрана запела азёрная музыка, акружыла беражліва, акрэсліла вакол Ільгі бяспечнае кола прахалоды. Лютае цмокава полымя слізнула па самым краі гэтага кола і адразу ж апала, зняможанае, долу. Белае ваўчынае футра бліснула срэбрам наперадзе, паказваючы дарогу ў густым маліінніку. Ільга прыспешыла пярэстую, і тая — няма дурных — узбрыкнуўшы, панеслася частым галопам.

За сабою Ільга пачула драпежны звярыны крык і аглушальны бой крылаў. Не паварочваючы галавы, ведала: узлятае. Сапраўды, вялізны цень лёг на траву і зараснікі, цягнучыся далёка наперад, а пасля ў парыве ветру распоўзся вакол Ільгі, атачыў варожа, пагрозліва. Звярыны крык груба прарэзаў паветра над самаю яе галавою, зверху дыхнула невыноснаю гарачынёю. Пярэстая, адчуўшы Ільзін дотык, доўгім зграбным скачком, не губляючы хуткасці, сышла ўбок. З трэскам схапілася агнём сухое кустоўе, папоўз, блытаючыся ў чарніцах, белы задушлівы дым.

Азёрная музыка вілася вакол Ільгі, падхоплівала яе валасы, серабрыстай пенаю ўскіпала на капытах пярэстай. Засланяла, быццам шчыт, і вяла за сабою, ззяйкай ніткаю пракрэслівала між маўклівых дрэў сцежку.

Яны мінулі чырвоны яр з лясным вадапоем, адным духам праляцелі страшны чорны прагал. Цмок не адступаўся, біў крыламі зусім нізка, віўся над самымі вершалінамі, сычэў і гнеўна роў, шалёна пляваўся агнём. Дзяўчына раз-пораз падагравала яго імпэт, цэлячы з лука ўверх, у цень над дрэвамі, што засланяў неба. Галоўнае, зацята думала Ільга, звыкла прыслухоўваючыся да сухога рыпення лука, самае галоўнае, каб не адстаў. Каб не згубіў след і шалу да самага канца, да Калінавага моста.

За прагалам цмок упаў — паваліўся цяжка, як камень, ламаючы хвоі і яліны. Забіўся з вісклівым лямантам, ушчэнт крышыў страшэннымі ўдарамі крылаў і хваста ўсё вакол — векавыя дрэвы, валуны. Ад бяссільнай злосці грыз зямлю, душыўся ўласным агнём і атрутаю. Ільга, прыпыніўшыся на лясным пагорку, чакала, пільна сачыла за зверам паверх насцярожанага лука і, як толькі цмок падняўся на лапы, стрэліла — раз, другі, трэці. Цмок засычэў, павярнуўся на дзіва імклівa для такой махіны. І рушыў, падвалакваючы падстрэленае крыло, на Ільгу бегма, з хуткасцю лепшага каня, і тугія канаты мышц шпарка ўзвіваліся пад блішчастаю лускаю. Ад такога відовішча пярэстая ўзбрыкнула пад сваёй вершніцай, захрыпела ад жаху, так што з храпы пасыпала пена.

Ільга ўладна нацягнула цуглі, пусціла кабылку ў галоп. Зямля скаланалася, страшна гула пад цяжкімі крокамі, ад пранізлівага рову і свісту закладвала вушы. Цмокава пашча раз ці два прагна шчоўкала над Ільзінай галавой, абдаючы невыносным смуродам, і тады пярэстая заходзілася ў гучным ржанні, яшчэ хутчэй, яшчэ часцей пачынала перабіраць точанымі нагамі. Ад udараў шыпастага хваста са стогнам і трэскам падалі дрэвы, і тады з крыкамі разляталіся птахі. Ненажэрны цмокаў агонь шугаў па траве, па кустоўю, караскаўся па галінах, спрабаваў, як і сам цмок, нагнаць, ухапіць і раздзерці.





Лес гуў ад жаху, гарэў і дыміўся. Атрутная цмокава сліна падала на зялёнае лісце — і радасная веснавая зеляніна скурчвалася, чарнеючы, ссыхала. І доўга, жудасна, бясконца доўга вакол быў толькі агонь, дым ды атрута, і смуроднае цмокава дыханне, і пранізлівы рык, ад якога завязваліся вузлом вантробы, і цяжкі тупат, што балюча адгукаўся ў самых касцях. Ільга задыхалася, кашляла, лавіла ротам паветра, слепла ад гарачыні і смуроду, ад густога дыму. Настойлівая азёрная музыка гучала далей, ратуючы, выводзячы, слізгала па крутых плячах напятага лука, танчыла на вастрыях стрэл, жыла ў звоне спушчанай цецівы. Ільга раз за разам паварочвалася, страляла, адчуваючы гулкую пустату ў галаве, ад якой ламіла патыліцу і абмякала, рабілася на дзіва слухмяным цела. Ільга як бы глядзела на сябе збоку, спакойна і разважна адзначаючы: вось тут трэба пераскочыць цераз глыбокую прамывіну, тут лепей ашчадна прытрымаць стралу на цецiве, выбіраючы лепшы момант, тут варта прыгнуцца.

Прасвет між стваламі дрэў падаўся Ільзе чаканым збавеннем. Пярэстай, мабыць, таксама: кабылка заржала радасна, прыспешылася, як магла, з апошніх сіл. Голас блізкай ракі, такі лагодны, такі ласкавы, накотваў разам з ясным святлом шэранькага пахмурнага дня, нёс з сабою і свежасць, і надзею.

Ільга вырвалася на ўзлессе, вылузалася з дыму і гару, — і нарэшце змагла ўздыхнуць на поўныя грудзі. Унізе звілістая Вугера спакойна несла свае хвалі між высокіх узгорыстых берагоў, шчыльна зарослых светлымі бярэзнікамі. За нешырокім пясчаным валам, за чорнымі вольхамі горбіўся, патанаючы ў белай квецені каліны, стары мост, і за ім раптам, папярэджваючы, запеў баявы рог: з-за моста сачылі і заўважылі.

Цмокаў рык прагучаў быццам у адказ, паляцеў далёка над рачною далінаю. Па сыпучым пяску, праз трапяткі паўпразрысты бярэзнік, міма пахкага лісця вольх, навыперадкі з цмокам, Ільга шпарка панеслася да шэрага горба старога моста. Узмыленая пярэстая цяжка і часта дыхала, раздуваючы бакі, пачала злёгку прыпадаць на адну нагу і паступова збавіла ход.

— Яшчэ трошачкі, — прасіла Ільга. — Трошачкі, любая, давай!..

Узляцелі на мост — белы воўк і пярэстая кабылка з Ільгай. Даўніх камянёў месцамі не хапала, а тыя, што былі, калываліся, вохкалі пад любым цяжарам, і ўвесь мост часта трося, заходзячыся, быццам у ліхаманцы. Ільга лёгка саскочыла на мост у самай сярэдзіне, прыхапіўшы з-пад сядла бацькаву дзіду. Учапілася ў дрэўка абедзвюх, наставіла вастрыё на цмока, які, трывожна прынюхаўшыся, замёр перад самым мостам у нерашучасці — мабыць, зразумеў ненадзейнасць такой пераправы або счуў блізкую пастку.

— Ну?.. — голасна сказала Ільга цмоку. Павольна, на паўсагнутых нагах рухалася з боку ў бок, асцярожна ступаючы, адчуваючы падэшвамі гуд і напружанне выцертых часам камянёў.

Цмок выскаліўся, пагрозліва засычэў, торгаючы параненым крылом. Ударыў хвастом, узняўшы воблакі пылу. За зверам палымнеў лес, сыходзіў языкамі шалёнага агню і клубамі густога чорнага дыму.



Вывернуўшыся з ваўчынага футра, ступіў бліжэй Йурай — захаканы, бледны, увесь нібы выцвілы, з чорнымі кругамі пад стомленымі вачыма. Занадта шмат сілы выцягнулі з яго тыя чары, са шкадаваннем падумала Ільга. Яшчэ трошачкі — і зусім нічога не застанецца.

Йурай, цяжка дыхаючы, плаўна падняў руку. Азёрная музыка павольна закруцілася вакол яго, зырка праблісківаючы ў валасах, на скуры, на адзенні вострымі сярэбранымі іскрамі.

— Чакай, — ледзь варушачы вуснамі, мовіла яму Ільга. — Не трэба так. Дай лепш я сама.

Кружэнне музыкі рэзка апала, спеўнае срэбра згасла. Йурай хіснуўся і ледзьве ўтрымаўся на нагах. Пераводзячы дыханне, паглядзеў на цмока, на дзяўчыну — і, прыкусіўшы вусны ад болю, схапіўся за запясце.

— Я змагу, — сказала Ільга, праглынуўшы сухі камяк у горле і лацвей перахапіўшы дрэўка. Сказала і паэту, і — можа, нават найперш — самой сабе.

Рушыла маленькімі крокамі бліжэй да звера, напружана не зводзячы з яго вачэй. Цмок глуха рыкнуў, з прысвістам уцягнуў ноздрамі паветра. Ну, давай, думала яна, аблізваючы перасохлыя вусны. Я ж зусім-зусім блізка, толькі лапу працягнуць. Ну?..

Цмок затупаў на месцы і выдыхнуў струмень полымя. Ільга жвава кульнулася цераз плячо, апынулася з другога краю моста. Дражнячы пачвару, голасна свіснула — і зноў была вымушана кульнуцца, ратуючыся ад агню. Сырыя кусты каліны падхоплівалі полымя з неахвотаю, патрэсквалі і моцна дымілі.

Ільга з раздражненнем падзьмула на лёгкія пасмы, што ўпалі на вочы. Рукі ў яе пачыналі трохі падрыгваць ад на-

пружання. Не зводзячы позірку са звера, яна намацвала падэшваю каменныя пліты, асцярожна перасоўваючыся, чакаючы новага вогненнага ўдару.

І раптам пад нагою апынулася вусцішная пустка. Ільга пахаладзела і, вохнуўшы, страціла раўнавагу.

Быццам толькі таго і чакаў, цмок падабраўся і адным моцным рыўком кінуўся наперад, скрабянуўшы доўгімі кіпцюрамі зусім побач з Ільзінай галавою. Яна ўхілілася, адкацілася прэч — і амаль сарвалася ўніз, туды, дзе плылі халодныя хвалі Вугеры. Затрымалася на паўразбураным ад часу і непагадзі краі, упіўшыся пальцамі ў адну з хісткіх каменных пліт. Пацягнулася да згубленай дзіды — і сягнула зброі самымі кончыкамі пальцаў, але ўхапіць не змагла і адразу ж саслізнула ніжэй. Аскялепкі разбітага моста, патрывожаныя рэзкім Ільзіным рухам, пасыпаліся долу.

Мост троссе, прагінаўся пад цмокавым цяжарам, сырыя камяні курыліся ад гарачыні. Звер быў ужо на сярэдзіне — прынюхваўся, прыглядаўся. Звесіўся над Ільгаю з глухім сычэннем, абдаў гарачым дыханнем. Сталёвыя кіпцюры магутных лап упіліся ў камяні, выкрасаючы злыя калючыя іскры, у горле, закаваным у залатую луску, клекатала, збіраючыся, прагнае полымя.

— Кола, Ільга! — хрыпла крыкнуў нябачны Йурай. — Ахоўнае кола!

Глупства, падумала Ільга, зажмурыўшыся. Якое яшчэ ахоўнае кола! Што тут увогуле можа вырагаваць, абараніць? Гэта ж не які-небудзь не-людзь, ад якога можна схавацца за…

Яна павісла на адной руцэ, другою сутаргава схапіўшыся за ножны на поясе. Бацькаў нож ладна і спраўна лёг у далонь. Ільга выдыхнула і ўсадзіла нож па самае ўзорыстае дзяржальна ў цмокаву лапу — паміж двух пальцаў, у тонкі зазор між лускавінамі, дзе прасвечвала бялёсае цела.

З ровам адхінуўшы лапу, цмок адхіснуўся і сам, выпусціўшы набранае ў грудзі полымя проста ў неба. Раз'юшаны, грозны, затупаў, гнеўна забіў хвастом і крыламі.

І тады, нарэшце, здрыгануўся да самага падмурка стары мост — і пайшоў доўгаю рванаю расколінаю ўпрост пасярэдзіне. Каменныя пліты лавінаю пасыпаліся ў бурлівую ваду, са скрыгатам падламіўся роўны шэраг пазелянелых ад часу калон. Добрую палову моста павяло ўбок, і цмок, учапіўшыся ў старыя камяні, дарэмна спрабаваў утрымацца. З таго берага ракі ў звера, быццам цэлы рой кусlівых вос, пасыпаліся стрэлы вугеркаўскіх вояў, а змей роў і пляваўся ў лучнікаў агнём. Стрэлы шкодзілі яму не болей, чым пчалінае джала мядзведзю, але злавалі, адцягвалі ўвагу.

У гэтай сумятні Ільга паспрабавала выбрацца — падцягнулася на руках, намацала нейкае апірышча для ног. Пліта, за якую яна трымалася, раскалолася напалову і папаўзла ўніз. Ільга адчула спінаю бездань, паспрабавала ўтрымацца за іншую пліту, але не дастала, адно вырвала колькі высахлых былінак, што прараслі ў шчыліне.

Аднак не ўпала — Ільгу цвёрда ўхапілі за руку. Матляючы нагамі над далёкай — усё яшчэ далёкай — вадой, Ільга падумала з палёгкаю: тры дні таму наўрад ці магла ўявіць, што настолькі рада будзе бачыць не-людзя.

Йурай выцягнуў яе, і своечасова: мост хіліўся набок усё мацней і мацней, калоны пад ім крышыліся ад бязладнага тупату і ўдараў цмокавага хваста. Давялося бегчы па плітах, якія ад першага ж дотыку падалі, сыпаліся, бегчы навыперадкі з расколінамі, з праваламі, што расходзіліся ўсё далей і далей, аплятаючы старыя камяні шчыльнаю сеткаю. Цмок, адчуваючы пад сабою зыбанне, закрычаў успуджана, працяжна. Паспрабаваў распрасцерці крылы, ударыў імі, разганяючыся, — і камнем паваліўся ў халодныя імклівыя хвалі. Упаў разам з абломкамі калон, расколатымі плітамі ды дробным друзам і знік у агромністым слупе іскрыстых пырскаў. Звер з пакутаю закрычаў зноў, і разам з яго крыкам ад вады паднялося воблака густой шызай пары, затапіла бераг, быццам ранішні туман.

Ільгу прабіў халодны пот, ад лёгкага павеву ветру яна задрыжэла, дробна застукала зубамі. З-пад яе ног сарваўся туды, ў вусцішную густую па́ру, каменьчык — і ў Ільгі валасы заварушыліся на галаве.

— А цмок… ён жа ўсё яшчэ там, так? — з цяжкасцю выціснула яна, дарма спрабуючы хоць нешта разгледзець унізе.

— Там, — пацвердзіў Йурай. Ільга паківала, зноў паглядзела ўніз і пругкім крокам пайшла да пярэстай, што схавалася ў алешніку. Зняла калчан са стрэламі, па-гаспадарску пералічыўшы, колькі засталося, прымацавала яго да пояса. Зняла лук, праверыла пальцам цеціву.

З кустоўя паказаліся чырвоныя плашчы вугеркаўцаў. Тамаш Дубыніч, вынырнуўшы з-пад ніцай вярбы, паклікаў Ільгу па імені, замахаў рукою. Пасля падбег, з асцярогаю косячыся на абрушаны мост.

— Дзеўка, — мовіў уражана. — Ты… ну ты, аднача, і штука! Сапраўды ж, бач, цмока… таго…

— Кон гэта! — гукнуў хтось з вояў. — Як прарочана было: дзева-вой!

І другі ўскрычаў з падобным захапленнем:

— Блаславенне багоў!

Ільга тольгі пагардліва чмыхнула. Ведала, што гэта ніякія не багі толькі што рызыкавалі ўласнымі каркамі.

— Ды яшчэ, бач, — працягваў Дубыніч, звонка пляснуўшы сябе па сцягну. — Трасца цябе вазьмі, адна!..

— Я была не адна, — суха выправіла яго Ільга, таропка папраўляючы наплечны шчыток.

І рушыла — далей ад іх позіркаў ды перашэптванняў — да высокага берага Вугеры. Агледзелася, прыкідваючы, як лепей было б спусціцца да вады і ці атрымаецца гэта ўвогуле зрабіць, не скруціўшы шыю. Бераг быў досыць круты, камяністы, густа парослы бадзяком і дзядоўнікам.

З пахмурнага нізкага неба зарадзіў дождж — лагодны, ціхі, дабратворны. Прыбіваў пыл і попел да зямлі, суцішваў палкае полымя, змінаў змяіны смурод, шчодра рассыпаючы сярэбраную свежасць.

Дождж рассцяліў над Вугерай шырокае шэрае радно, замгліў далі, адмыў пяшчотную маладую зеляніну, і тая ажно заззяла. Дождж змягчаў гукі і фарбы, горача шаптаўся з рачною вадою, дробна крочыў па густых зарасніках. Мусіць, недзе побач цвіў бэз, бо ад дотыку дажджу салодкі бэзавы водар зрабіўся больш акрэсленым, больш яўным, галавакружным, запаланіў усё вакол. Ільга стомлена прыкрыла вочы, падстаўляючы разгарачаны твар небу.

Добра было, што — вось вакол і бэз, і дождж, і засмужаная далячынь. Ільга адкінула валасы з твару і ўсміхнулася — дажджу.

Крокі Йурая, як звычайна, былі бязважкія, але Ільга неяк адчула яго прысутнасць побач самою скураю, як адчуваюць цяпло. Прамiргалася, слаба кіўнула.

— Цмок унізе, — сказаў Йурай. — Здранцвелы, зняможаны, заложнік сцюдзёнай вады, звонкай і злой, звязаны і зломлены.

У гэтых словах перакотвалася чароўная сталь, і Ільга насцярожылася. А паэт моўчкі глядзеў на зацягнутую па́рай раку — з непрыхаванаю скрухаю, з жалем і шкадаваннем. Пасля пытальна зірнуў на Ільгу. Тая нахмурылася, бо прачытала ў яго вачах незададзенае пытанне.

Дакладней — неагучаную просьбу.

— Ну, не! — выгукнула Ільга сярдзіта. — Нават і не думай!

— Ты перамагла, — адчаканіў Йурай. — Гэтыя дурні і так будуць насіць цябе на руках. Чула? — і перадражніў, наўмысна гнюсавячы: — «Воля багоў».

— Воля-шмоля! — злосна мовіла дзяўчына, нават прытупнула. — Думаеш, мне да іх увогуле ёсць справа? Цымус не ў гэтым, хіба не разумееш?

Йурай звузіў вочы.

— О, вядома. Цымус у тым, каб зусім знішчыць. Каб выпаліць карэнне. Каб не засталося і звання.

У голасе яго зноў бліснула тая небяспечная сталь, і Ільзе на імгненне зрабілася страшна — мусіць, нават страшней, чым тады, калі яна вісела над безданню, а на яе любаваўся крыважэрны вогненны змей.

Адчувалася, што размова ўжо не зусім пра цмока. А можа, нават і зусім не пра цмока.

Ільга зябка павяла плячыма.

— Ты атрымала сваю помсту. Атрымаеш сваю славу, — гаварыў Йурай з горыччу. — Але гэтага недастаткова, праўда, чалавечае дзіця? Вам жа ніколі не бывае дастаткова.

Ільга задумліва пацерла лоб, размазваючы сажу. Паглядзела з-пад сваёй рукі на Йураеў твар, на дзіва змрочны, і адзначыла пра сябе: такім паэта ёй яшчэ не даводзілася бачыць.

Чужая скруха зноў адазвалася ўнутры балючым рэхам, ажно знутры разанула вочы. І ўспомнілася з былой размовы: цмокаў даўно не было відаць. Гэты, мабыць, апошні.

Агніста-залаты, з каронаю з рагоў, з касцянымі грэбнямі, з магутнымі крыламі. Драпежны, злосны, крыважэрны. І, каб яго, — прыгожы.

— Нельга яго пакідаць, — не здавалася Ільга. — А калі адляжыцца і зноў пачне паляваць на людзей?

— О, не пачне, — упэўнена адказаў Йурай. — Ажно пакуль рэкі не зменяць сваіх рэчышчаў. Глядзі.

І махнуў рукою на раку пад разбураным мостам, быццам разводзячы ўбакі крылы шызай па́ры.

Ільга ахнула.

Сцюдзёныя хвалі Вугеры амывалі чорную, гладкую, быццам шкло, скалу. У камні ледзьве згадваліся прытоеныя пад блішчастай паверхняй і звівы агромністага змеева цела, і золата лускі, і вострыя кажанавы крылы — застылыя, надзейна закаваныя ў камень.

Ільга злажылася і нават — на ўсялякі выпадак — стрэліла ў вяршыню скалы, што высока ўзносілася над вадою. Пацэліла, але страла, звонка стукнуўшыся аб камень, бяссільна ўпала ў Вугеру, закружылася, затанчыла ў хвалях і апусцілася на дно.

— Ты! — абвінаваўча мовіла Ільга, апусціўшы лук. — Ты ж з самага пачатку ведаў, што так адбудзецца. Што цмок не проста здранцвее, а скамянее. Так? Ведаў?

— Я не ведаў, чалавечае дзіця, — ускінуўшы галаву, зацягнуў сваю любімую песню Йурай. — Я проста ба…

Але дагаварыць не дагаварыў, бо асекся пад нядобрым позіркам Ільгі і, кашлянуўшы, прызнаўся:

— …ведаў.

І адразу ж вохнуў, бо сярдзітая Ільга сунула яму кулаком у плячо. Нямоцна, збольшага для прыліку — бо няма чаго недагаворваць.

— Даруй, — папрасіў Йурай. І ўсміхнуўся квола, самым краёчкам вуснаў.

— Ну, ты і зараза, паэт, — сказала дзяўчына значна мякчэй, чым варта было б. Акінула позіркам скалу з застылым у ёй цмокам і падумала: рэкі не зменяць сваіх шляхоў яшчэ доўга-доўга. Прынамсі, для чалавека. І калі крылатаму аскялепку сівой даўніны няма месца ў свеце людзей, то, магчыма, будзе месца ў свеце пасля.

Маленькая, кволая надзея на будучыню — для даўніны.

А над Вугерай плыў сярэбраны звонкі дождж.

І гэта было — добра.

*Ілюстрацыі аўтара.*



**Анастасія Анцімонік**

# Снег і іншае ў штодзённасці

чаму так доўга квітнеюць каштаны
навошта людзі бяруцца шлюбам
і што гэта значыцца ‘закаханы’
апроч таго што ён проста прыметнік
свае пытанні я адрасую
дарослым дзядзям дарослым цёцям

За вокнамі буяе шматколерная яркая вясна, а я трымаю ў руках бялюткі вытанчаны зборнік паэзіі «Граматыка снегу» Вольгі Гапеевай, які аўтарка прэзентавала 2 сакавіка. Колеравы кантраст падштурхоўвае да думкі, што мае пальцы сціскаюць не проста кнігу — магічны артэфакт. Я ўпэўніваюся ў гэтым і пасля знаёмства з самім напаўненнем. Бо вершы Вольгі Гапеевай сапраўды адметныя сваёй арыгінальнасцю і вылучаюцца на тле сучаснай беларускай паэзіі.

Мне падаецца, гэты зборнік шапоча пра снег, каханне і адзіноту, якія фармiруюць штодзённасць лірычнай гераіні, вытыркваюцца сваімі косткамі праз словы і іх значэнні, дэманструючы, згодна з анатацыяй, «своеасаблівую граматыку ўзаемаадносін чалавека з сусветам праз мову». Наконт граматыкі: так, кніга насычана «філалагічнасцю», але жывой, бо граматыка ў кантэксце творчасці Вольгі Гапеевай набывае адзнакі звышсістэмнай (чытай: мова=сістэма), а часам і пазасістэмнай з’явы. Таму, думаю, гэта не спыніць «не-філолага» перад прыгажосцю інтэлектуальнага кшталту, якую дэманструюць вершы паэткі.

Ці маеш ты словы, што выражаюць для цябе нешта нашмат большае, чым сукупнасць дакладных лексічных значэнняў? Словы настолькі важныя і гаваркія для цябе асабіста, што перастаюць быць словамі і становяцца чымсьці іншым. Важкім. Родным. Нявытлумачаным. Нешта, што выклікае ірацыянальную блізкасць і адгукаецца ў табе сімвалічнай трываласцю. Сярод маіх словаў-якія-больш-чым-проста-словы, жыве «снег». Магчыма, менавіта ён робіць зборнік Вольгі Гапеевай значным асабіста для мяне. Здаецца, сімвалічнасць снегу ў кнізе можна смакаваць бясконцую колькасць разоў, у розных настроях, у розных узростах. Калі за акном вясна ці лета, верагоднасць веры ў надыход зімы зводзіцца да мінімуму: яна становіцца міфічнай істотай. Таму, прынамсі, я вельмі рамантызую гэтую пару. У дзяцінстве я заўсёды казала, што мая любімая пара года — зіма. Бо Новы год, бо свой дзень нараджэння, бо гэтыя халодныя тры месяцы звычайна не выклікалі ў маіх аднагодкаў такога захаплення, як лета, а мне хацелася вылучыцца на іх фоне. Таму — толькі зіма («дзе льга замарозіць сябе ўсю / і не баяцца што прыйдзе лета / і дзесь унутры нешта адтае / і распачне крыгаход»). Цяпер я люблю лета. Але зімовы час так і застаўся сімвалічнай плямай у маёй свядомасці («так хацелася каб першы ў гэтую зіму снег / пайшоў не абы-калі / не ранкам употай / а звечара / пакуль мы будзем сядзець у кавярні / і зрэдчас трымацца / рука ў руцэ»).

У свядомасці лірычнай гераіні «Граматыкі снегу» снег займае адно з цэнтральных месцаў. Ён выконвае шматлікія ролі (хаваць «недасканаласць быцця», «зацярушыць дзе заўгодна», «навалiцца ўсім цяжарам прымусовацi», «спрабаваць адхукаць пальцы»), ён становіцца аб’ектам персаніфікацыі («гэты снег — гуманіст / ён нікому нічога не абяцаў / ён проста быў / нараджаўся і паміраў», «снег мала лічыцца з чужымі жаданнямі»). Зіма ўвогуле асацыюецца ў зборніку з прагай свята, толькі яна застаецца неспатоленай: «верыць у цуд на каляды — ужо непрыстойна / не таму што дарослая / а таму што за кожным цудам стаіць чыясьці вялікая праца», «джым, якая рамантыка? / тут мінус 8 глінтвейн не грэе / на плошчы паставілі елку / не думала што такія бываюць / падрыхтоўка да свята за некалькі месяцаў / быццам так будзе прасцей паверыць / у цуд на каляды і святога міколу». Вось і атрымліваецца, што ледзь не адзіным сапраўдным спраўджаным цудам з’яўляецца снег. Галоўнае, што аб’ядноўвае лірычную гераіню з ім, — адзінота:

> Для гераіні праявы яе асабістай унікальнай рэчаіснасці з’яўляюцца вызначальнымі, самымі важнымі. Яна не ўмее растварэць сваё «Я» ў іншых людзях, аднак дазваляе сабе губляцца ў плыні свайго жыцця

Гэты зборнік шапоча пра снег, каханне і адзіноту, якія фарміруюць штодзённасць лірычнай гераіні, вытыркваюцца сваімі косткамі праз словы і іх значэнні, дэманструючы, згодна з анатацыяй, «своеасаблівую граматыку ўзаемаадносін чалавека з сусветам праз мову»

я і мой снег будзем бавіць гадзіны ў ложку
так і не здолеўшы прызнацца
адно аднаму
ў сваёй адзіноце

Адзіноты ў зборніку сапраўды шмат («нібы я наўмысна імкнуся да адзіноты»). Можа, гэта ўражанне ствараецца з-за выяў індывідуальнай штодзённасці, якія фіксуюцца лірычнай гераіняй. Яна падаецца мне самадастатковай сфарміраванай асобай са сваім светабачаннем і светаадчуваннем. Не дзіва, што любыя з'явы/прадметы, якія звяртаюць на сябе яе ўвагу, становяцца «выпуклымі». То бок, для гераіні праявы яе асабістай унікальнай рэчаіснасці з'яўляюцца вызначальнымі, самымі важнымі. Яна не ўмее раствараць сваё «Я» ў іншых людзях, аднак дазваляе сабе губляцца ў плыні свайго жыцця: «у рэцыдыўнай надзеі цісну клавішу home / але не трапляю дадому», «я даўно ўжо не магу сябе зразумець / пачуваюся яварам або ліпай / з якой змайстравалі шафу каб захоўваць чужыя сукенкі і гарнітуры», «у сваім пачуцці да мора я / практыкавацца буду адна», «і зноў э-мэйлы, паштоўкі, часам сны / ў чаканні / калі змагу забыцца на хвіліну / і стаць нікім / а проста целам». Між іншым, праблеме цялеснасці ў «Граматыцы снегу» адведзена сваё месца. Лірычная гераіня адчувае пэўную дысгармонію: «гэта сапраўды цяжка / быць упісанай у цела / якое магчыма і не хацела / каб я была ў яго ўпісана». Асабліва яскравым падаецца асэнсаванне ўласнага цела ў кантрастных суадносінах з вобразам смерці, якая паўстае жывой у адным з вершаў:

смерць мая будзе какеткай
у чорным капелюху ды і толькі
і ейныя голыя плечы
і ейныя голыя сцёгны
прымусяць мяне чырванець
за цела сваё занадта

Такое перапляценне Эраса (імкненне да жыцця) і Танатаса (імкненне да смерці) проста зачароўвае. Як зачароўвае і каханне лірычнай гераіні, у якім таксама цесна знітоўваюцца эратычныя і танатычныя матывы: «ты памёр мяне ў снежні / так граматычна няправільна і таму здавалася б немагчыма», «пакуль ты сякерай адсякаў мне галаву / бо я звер, ненажэрны дракон ці цмок». Агульная настраёвасць у інтымнай лірыцы Вольгі Гапеевай сумная. Ці то каханне неўзаемнае, ці то закаханыя не могуць быць разам — незразумела. Зразумела толькі, што лірычная гераіня пакутуе: «справа не ў гатаванні / а ў тым што цябе раптам не стала / ў тым адрэзку рэальнасці які называецца «маё існаванне» / з якога знікла катэгорыя кахання». І што зробіш, калі чорны птах «засеў унутрох / і скляваўшы дашчэнту сэрца / ён выпестуе яго наноў / каб нагадаць пра сябе / ў новым аблíччы / каханка». Карацей кажучы, лепш самастойна прачытаць вершы і зрабіць свае высновы наконт гэтага дзіўнага пачуцця. Ды і наконт іншых рэчаў.

У параўнанні з мінулымі паэтычнымі зборнікамі (а Вольга Гапеева з'яўляецца аўтаркай кніг «Рэканструкцыя неба», «Няголены ранак», «Прысак і пожня», «Метад муаравых крэсак») «Граматыка снегу» падаецца мне самай «строгай». Пачуццёвасць прыхавана найперш за формай, за словамі, што стварае ўражанне поўнай адарванасці кнігі ад сваіх папяровых папярэдніц. І яшчэ з'яўляецца наступная думка: Вольга Гапеева перайшла на новы ўзровень творчасці, калі кожны вобраз — максімальна дакладны, кожнае слова — максімальна на сваім месцы, кожная думка — апрацаваная паэтычная перліна.

ёсць гэтулькі ж самых розных прычынаў
каб заставацца адной у лагчыне
ёсць невыносны боль прыгажосці
і можна паспрабаваць збегчы ў госці
ці напісаць верш
каб потым нейкая крытык сказала
што ён пра прыроду або пра каханне

Паліна Лісоўская

# Ох, і любім мы вас, Андрусік Іванавіч!

## Прыцягльнасць Фб-дзённіка як жанру сучаснай літаратуры

**Калі правесці апытанне, чыё імя ў беларускай літаратуры сёння ва ўсіх на слыху, то, здаецца, вынік будзе прадказальным. Андрусік Іванавіч Горват, які паспеў змяніць не адну прафесію, папрацаваць дворнікам у Купалаўскім, пераехаць у вёску, стаць пісьменнікам, знайсці свой Космас. Ці не знайсці? Пытанне адкрытае, без шматкроп'я тут не абысціся...**

Ды і сам феномен Горвата выклікае шмат пытанняў. Вось існавала беларуская літаратура спакойна сабе, галоўнае — роўна. Кнігі — добрыя, таленавітыя, выдатныя, розныя — пісаліся, пубікаваліся, купляліся. Хтосьці зачытваўся, а хтосьці і не ведаў пра іх існаванне. Бо літаратура наша, як тая пані, не прызвычаілася выходзіць у масы, чакае, пакуль люд просты сам да яе прыйдзе, падпішацца на часопіс, не палянуецца зайсці ў краму ці бібліятэку. І вось выходзіць «Радзіва «Прудок» Горвата — бум! Асобнікі імгнення знікаюць з паліц. «Ці ёсць яшчэ кніжачка?» — «Вы што?! Даўно разабралі!» Як? Калі яшчэ такое было? Друкуюцца дадатковыя тыражы — і зноў купляюцца. Імя аўтара — паўсюль: у Фэйсбуку, СМІ. Андрусь Горват атрымлівае прэмію «Дэбют», «Залатую літару», а ў Купалаўскім тэатры пагаворваюць пра спектакль паводле кнігі… Грамадства гразне ў пытаннях: ці гэта літаратура? Ці таленавіта, а мо проста няблага? Адкуль ажыятаж такі і навошта?

Адказаць жа хочацца на пытанне: «Чаму?». Чаму «Прудок» (дэбют аўтара!) так масава, з такой сілай стрэліў? Чым новае літаратурнае слова так прыцягвае ўсіх?

Адказ трэба шукаць у Фэйсбуку, дзе «Прудок» і нарадзіўся. Кніга, па сутнасці, пісалася анлайн. За яе стварэннем назіралі чытачы, больш за тое, яны маглі ўплываць на змест твора адкрытай камунікацыяй з аўтарам праз ленту Фэйсбука. Вопыт «Радзіва «Прудок» паказаў, што сёння і аўтар, і чытачы зацікаўленыя ў няспынным узаемадзеянні, у сатворчасці. Інтэрактыўная літаратура, максімальна набліжаная да аўдыторыі, становіцца патрабаваннем часу, як і інтэрактыўныя выставы ці спектаклі ў клубах, на вуліцы, якія патрабуюць ад гледача не толькі назірання, але і дзеяння. «Радзіва «Прудок» прапанавала нямала варыянтаў гэтых самых дзеянняў. Пачынаючы ад лайкаў, перапостаў і каментарыяў і заканчваючы непасрэдным удзелам чытачоў у падзеях кнігі. Дзякуючы сацыяльнай сетцы знікла сцяна паміж аўтарам і чытацкай аўдыторыяй.

Фэйсбук зрабіў уплыў і на жанравую асаблівасць твора. «Радзіва» — гэта не проста дзённік, як значыцца на вокладцы. Гэта Фб-дзённік, які дыктуе звычайнай дзённікавай форме свае правілы. Так, дописы у творы — максімальна лаканічныя. Могуць складацца літаральна з двух слоў ці з невялікага сказа, ці з абзаца або некалькіх абзацаў. Выключэнні — асобныя главы на 2—3 старонкі, якімі аўтар заканчвае кожны (акрамя апошняга) раздзел. І якія, у адрозненне ад астатніх штодзённых нататак, маюць назвы, што разам з большым памерам вылучае іх з усёй структуры твора. Раскол тэксту на мноства кавалачкаў дае магчымасць зацікавіцца творам усім, нават тым, у каго зусім няма часу на літаратуру. З гэтай нагоды і сам Горват напісаў у кнізе: «Мае тэксты можна чытаць на аўтобусным прыпынку і ў метро. Я пішу іх для людзей, якія спяшаюцца жыць». А такіх людзей сёння — большасць.

> Сацыяльная сетка за кароткі прамежак часу задавальняе розныя нашы патрэбы: дае штуршок для глыбокіх роздумаў, дапамагае ўдзельнічаць у абмеркаванні важных пытанняў грамадскага жыцця ці хаця б даведацца пра іх існаванне, проста адпачываць, у рэшце рэшт

Літаратура наша, як тая пані, не прызвычаілася выходзіць у масы, чакае, пакуль люд просты сам да яе прыйдзе, падпішацца на часопіс, не палянуецца зайсці ў краму ці бібліятэку

Аднак у Фэйсбуку слова — далёка не адзіны кампанент. На мультымедыйнай платформе побач са словам існуюць фотаздымкі, відэа, музыкальныя трэкі. Літаратура, вядома, не можа ўключыць мультымедыйнасць, але, як паказаў вопыт «Радзіва», можа наблізіцца да яе. Так, кнігу аздабляюць фотаздымкі, якія зусім натуральна могуць дапаўняць і ленту у сацсетцы. Хата ў Прудку, кот Рома, алкаранішнік каля Купалаўскага, а побач — старыя сямейныя фотаздымкі (дзядуля, бацька, маці)… Фатаграфічны кампанент дапамагае тэксту звяртацца да тэматычных пластоў рознага ўзроўню, чытачам жа — уключыць візуальнае ўспрыманне. А вось як літаратура можа звярнуцца да гукавога складніка? Проста! Праз шматлікія згадванні ўлюбёнай музыкі ў тэксце аўтар літаральна падштурхоўвае чытачоў націснуць на «плэй». Бачым, што Фб-дзённік вабіць не толькі лаканічнасцю, але і мультымедыйнай прыродай, якая дапамагае слову пры ўдзеле іншых складнікаў гучаць яшчэ мацней.

Прыцягальным для шматлікай аўдыторыі дзённік Андруся Горвата стаў і дзякуючы другой асаблівасці Фэйсбука — спалучэнню зместу рознай накіраванасці. Як і ў фэйсбучнай ленце, у кнізе трапныя філасофскія выказванні суседнічаюць з гумарыстычнымі ўстаўкамі, каларытныя жыццёвыя назіранні — з абмеркаваннем вострых сацыяльных пытанняў.

Грамадства гразне ў пытаннях: ці гэта літаратура? Ці таленавіта, а мо проста няблага? Адкуль ажыятаж такі і навошта?

Сацыяльная сетка за кароткі прамежак часу задавальняе розныя нашы патрэбы: дае штуршок для глыбокіх роздумаў, дапамагае ўдзельнічаць у абмеркаванні важных пытанняў грамадскага жыцця ці хаця б даведацца пра іх існаванне, проста адпачываць, у рэшце рэшт. Тую ж самую місію выконвае і друкаваны твор.

Аўтар звяртаецца да праблем быцця. Да вечнага сутыкнення, суіснавання мікра- і макракосмасу, якое ўдала ў сваёй прастаце праілюстравала на вокладцы мастачка Ніка Сандрас. Касманаўт, прывязаны да свайго «я», спрабуе спазнаць і сусвет. Адсюль і мноства ліній горватаўскіх разважанняў: я — жыццё, я — смерць, я — шчасце, я — Радзіма, я — грамадства. Асаблівую цікавасць выклікае яго філасофія шчасця — простая, шчырая, сапраўдная: «У мяне няма нічога, але я маю ўсё». Здавалася б, усім вядомая ісціна, аднак у «Радзіве» яна сапраўды мае вялікі ўплыў на розумы чытачоў, бо герой сваімі ўчынкамі дае, банальным словам, жыццё. Андрусь Горват не ганяецца за заробкамі, перспектывамі, з'язджае ад іх у вёску. А прыехаўшы ў Прудок, клапоціцца не пра камфортную прыбіральню, а пра дзедаву хату. У кішэні засталося 100 рублёў (па старому курсу, вядома!) — і яго гэта не турбуе. Бо шчасце — у людзях і жывёлах, якія побач, у зорках, якія далёка, у самім сабе, шлях да якога трэба шукаць і знаходзіць кожны дзень. Бо шчасце людское — яно, ведаеце, простае. Рамантыка Максіма Танка ажывае ў палескім дзэне барадатага прудкоўскага дзядзькі.

Філасофскае ў творы аўтар разбаўляе гумарыстычным. Увогуле, канцэнтрацыя гумару на квадратны метр тэксту ў «Радзіве» прыемна здзіўляе. Андрусь Горват жартуе шмат і з асалодай, прычым выкарыстоўвае розны гумар. Ёсць у кнізе і лёгкія, арыгінальныя жартачкі накшталт вымярэння снежнага покрыва ў валёнках. Ёсць і актуальны, сацыяльны смех, мэта якога — не толькі павесяліць, але і прывесці да роздуму. Аб'ектамі гэткага смеху могуць выступаць грамадскія з'явы. Абраўшы вясковае жыццё, аўтар, аднак, не рамантызуе яго, а выяўляе «хваробы». Нястача працоўных месцаў, праблема алкагалізму ў сучаснай вёсцы... Прычым ад лагоднага смеху над дзедам Ганушам,

які кленчыць чарку, як кот малако, над Колем, чые п'яныя вандроўкі па вёсцы могуць стаць асновай прыгодніцкага рамана, аўтар пераходзіць да сітуацый, дзе месца для смеху проста не застаецца: «У Аўцюках толькі сёлета два сыны забілі сваіх матак за тое, што тыя ім не налілі».

Пад нож аўтарскага гумару трапілі і тыповыя беларускія рысы. Да прыкладу, паляшуцкі ген, дарэчы, распаўсюджаны ва ўсёй нашай краіне, які так і нудзіць, што б яшчэ пасадзіць на агародзе. «Гляджу я на свае кабачкі, града з якімі хіба што ўкраінскай мяжы не дасягае, і думаю, што я псіх. Сквапны палескі псіх», — чытаем у «Радзіве». Беларусаў немінуча цягне да зямлі, з часоў Коласа нічога не змянілася. Смяецца аўтар і з празмернай любові беларусаў да бульбы, на падставе чаго ўзнік ўжо сапраўдны нацыянальны стэрэатып: Беларусь — гэта бульба, беларусы — бульбашы. «Мяне завуць Андрусік Іванавіч. Мне 32. Я ведаю, што бульбу прасцей купіць, але вясной не магу спыніцца». Бачым, што да самога сябе аўтар таксама ставіцца з іроніяй. 31 год — і прыбірае смецце! От як! З'ехаў у вёску, а прамудрасцей вясковага жыцця не ведае — ну, гарадскі лапух жа!

Філасофскі, гумарыстычны, сацыяльны змест дапаўняецца трапнымі жыццёвымі назіраннямі героя, якія надаюць твору асаблівую прыгажосць. Бо часцей за ўсё ў цэнтры такіх назіранняў — простыя вясковыя жыхары са сваёй сакавітай мовай: «анігадкі», «ідзіце здаровенькі», «паслухай мяне сюды», «попелка», «нянаскія хлопцы» і г. д. Аўтар можа фіксаваць звычайныя размовы бабак, цётак, мужыкоў, дзядоў, што не нясуць у сабе ніякіх сур'ёзных думак, падтэкстаў, аднак менавіта з дапамогай якіх кніга робіцца яшчэ і навукова-папулярным слоўнікам вясковай беларускай мовы.

Новы жанр Фб-дзённіка зрабіў сваю справу. Дзякуючы такім яго асаблівасцям, як інтэрактыўнасць, дыялагічнасць, лаканічнасць, мультымедыйнасць, стракатасць зместу кніга стала сапраўдным айчынным бестселерам, які ў аднолькавай ступені зацікавіў і знаўцаў беларускай літаратуры, і звычайных беларусаў. Вядома, у кагосьці маглі яшчэ застацца сумневы — маўляў, якая ж гэта літаратура? Проста надрукаваная старонка з Фэйсбуку. Скептыкам

Горват не ганяецца за заробкамі, перспектывамі, з'язджае ад іх у вёску. А прыехаўшы ў Прудок, клапоціцца не пра камфортную прыбіральню, а пра дзедаву хату

адкажам, што, канешне, не кожная старонка ў сацыяльных сетках — гэта літаратура. Каб уласныя думкі ды назіранні заслугоўвалі не забыцця ў бясконцай прасторы інтэрнэта, а старонак кнігі, яны павінны несці грамадству не толькі моўную прыгажосць, але і думку. Думку актуальную — і вечную. Якая натхніць, знервуе, занепакоіць — зменіць. «Радзіва «Прудок» такую думку дало. Бо гэтая кніга — не толькі пра вясковыя выпрабаванні хлопца са сталіцы. Яна пра паняцці, якія сёння маюць асаблівую каштоўнасць для нас. Яна — пра вяртанні. Да Радзімы і сям'і. Да мовы і гісторыі. Да сапраўднага і галоўнага. Да сябе. А праз сябе — да разумення Космаса чалавечага быцця. У час, калі мы ўсе, наадварот, засяроджаныя на тым, каб збегчы кудысьці далёка-далёка наперад (да лепшай краіны, пасады, заробку, да ідэалаў, прыдуманых не намі), такая кніга павінна была з'явіцца.

Бо шчасце — у людзях і жывёлах, якія побач, у зорках, якія далёка, у самім сабе, шлях да якога трэба шукаць і знаходзіць кожны дзень. Бо шчасце людское — яно, ведаеце, простае. Рамантыка Максіма Танка ажывае ў палескім дзэне барадатага прудкоўскага дзядзькі

**Андрусь Апалонік**

# Гераізм старога Бакаса

«1813» — першы беларускі зомбі-хорар. Галоўны герой — Міхал Клеафас Агінскі. Месца дзеяння — замак Агінскіх каля Маладзечна і само мястэчка. Сюжэт выплывае з вышэйсказанага. Ідэя — можна пісаць зомбі-хорары пра Беларусь і беларусаў (ці ўсё ж такі пра Расійскую імперыю і ліцвінаў). Акрамя самой навелы «1813», у кнігу Уладзіміра Садоўскага ўвайшло пяць апавяданняў рознай ступені фантастычнасці, розных па аб'ёму і якасці.

«1813». Ужо напачатку навела прапаноўвае адкласці кнігу і не чытаць далей ні ў якім разе. Затым прапаноўвае зноў і зноў. Але чытач, мэтанакіраваны патрыёт, не можа адмовіць сабе ў такой радасці: прачытаць першы беларускі зомбі-хорар.

Ужо на першых старонках мы сустаракаемся з аўтарскай няўважлівасцю да таго, што ён піша. Напэўна, разлічвае, што і чытаць гэта будуць праз радок ці праз старонку. «Месцамі юнак правальваўся ў рыхлы снег па грудзі», каб затым: «Янка паднаціснуў і выбег з лесу». Штосьці мне незразумела, якая ўсё ж была глыбіня і шчыльнасць гэтага «белага покрыва». Адарваная заячая лапа на снезе — не лепшы варыянт, каб напалохаць вопытнага паляўнічага ці чытача зомбі-хорара. А тое, што яна бліжэй да фіналу згадваецца зноў на поўным сур'ёзе як адзін з важных (страшных, паранармальных) момантаў, — выклікае смех. Тое ж са старым канём Бакасам, «якому было добра за дзесяць гадоў і таму ён нікому не спатрэбіўся». Вось толькі пасля і сам Бакас, і Міхал Агінскі, і аўтар выкідваюць з галавы гэтую нэдарэчнасць. Навошта памятаць пра ўзрост? Пра ўзрост патрэбна было памятаць, калі тлумачылі, чаму конь адзін. А каб уцякаць ад мерцвякоў і скакаць туды-сюды ад світанку да сутоння — ўзрост непатрэбны.




Увогуле, сюжэт навелы настолькі банальны, што непрадказальнасцямі там нават і пахнуць не можа. Ну, толькі пры ўмове, што гэта першае знаёмства з жанрам. Што чытач не глядзеў дзясяткі фільмаў, не чытаў сотні кніг. Магчыма, і так. Але гэта не апраўдвае аўтара. «Ружжы» ў яго не вісяць на сценах незаўважна, каб стрэліць у канцы. Аўтар паказвае кожнае «ружжо» чытачу і як бы крычыць у вуха: «Вось зараз як бахне!». Гэта, да прыкладу, пратэз капітана Халматава, за які абавязкова трэба было грымзануць.

Ёсць меркаванне, што дадзеная навела — мэтанакіраваны сцёб над класікай жанру. Калі так, то сцёб няўдалы. Гумар адсутнічае. Па сутнасці, як і шмат што яшчэ. Напрыклад, стылёвае падмацаванне выбранай формы. Навела як бы пададзена то ад трэцяй асобы, то ад першай (Агінскага), але гэтыя дзве плыні тэксту не адрозніваюцца нічым. Аўтар быццам паспрабаваў, але не атрымалася.

Зразумела, ёсць за што Уладзіміра Садоўскага і пахваліць. Ён стараўся. Знаёміўся з гісторыяй, з рознымі гістарызмамі і ўвогуле ў першай жа кнізе паспрабаваў адчыніць новыя дзверы для паслядоўнікаў. Пры гэтым сам ён разумее, што расці ёсць куды, і, думаю, гэтым і стане займацца, каб наступная кніга была ў разы лепшай.

Пра апавяданні скажу ўсяго некалькі слоў. Яны лепшыя за навелу. Яны арыгінальныя. Выразна відаць, што яны не пісаліся пад заказ слогана «першы беларускі постапакаліпсіс» ці яшчэ што. У іх ёсць стыль, асабліва яркі ў апавяданні «Як у старыя добрыя часіны». У іх ёсць глыбіня думак. Ёсць спасылкі, але не шаблоны. У іх бачны сам пісьменнік. Я спадзяюся, што гэты пісьменнік знойдзе сябе і ў наступны раз не стане мучыць старога каня.

**Анастасія Анцімонік**

# Магія вакол

Ці часта вы сутыкаецеся з магіяй у штодзённасці? Ці адчуваеце лёгкасць яе дакрананняў і, разам з тым, самаўпэўненую сілу? Ці верыце ў існаванне паралельных сусветаў? Якія ў вас адносіны да чараўніцтваў і цудаў? А як склаліся стасункі з марамі? Якое месца ў вашым жыцці займаюць колеры, смакі, гукі і пахі фантазіі? Проста справа ў тым, што ў дэбютнай кнізе Яніны Пінчук «Горад мрой» так званая рэальнасць цесна пераплятаецца з фантастыкай. На аснове гэтай сувязі аўтарка будуе шэраг магічна-рэалістычных апавяданняў пра гарады (сярод якіх Мінск займае цэнтральнае месца). Хаця, відаць, правільней было б сказаць, што дадзеная кніга з'яўляецца выразнікам суб'ектыўных пачуццяў, перажыванняў, думак галоўных гераінь у дачыненні да іх рэчаіснасці. А ўрбаністычны фон — толькі тканіна, на якой вымалёўваецца адмысловае светабачанне.

Увогуле, пры прачытанні неаднойчы ўзнікала адчуванне дысанансу: з-за аднастайнай стылістыкі і фігуравання адных і тых жа персанажаў так і не ўдалося ўспрыняць « Горад мрой» як шараговую зборку разнародных апавяданняў. З'ўлялася жаданне звязаць нейкімі пераходамі сюжэтныя лініі, бо ў працэсе азнаямлення з тэкстам складвалася ўражанне, што існуе пэўная прадуманая храналогія, — і атрымаць нядрэнны раман. У наяўнасці ж маем чатырнаццаць пазлаў, якія так і просяцца, каб іх склалі ў адну выяву, але не выходзіць. Хаця кожнае з апавяданняў і вылучаецца сваёй непасрэднасцю, да самастойнага ладнага твора не дацягвае. На старонках разгортваецца цэлы калейдаскоп падзей: сустрэча сяброўак у кавярні, нірвана ў трамваі, асэнсаванне ўнутранага за́мка з цішынёй і вечнасцю, баўленне часу ў Сан-Марціна, ірацыянальнае каханне, помста з летальным сыходам, вучоба ў міністра ВКЛ, матэ як мадэль жыцця, сальса, пошукі папараць-кветкі і іншае, іншае, іншае. Не дзіўна, што ў вочы кідаецца своеасаблівая эскізнасць кнігі. Да прыкладу, даведваемся пра тое, што адна з гераінь працуе на міністра з паралельнага свету, дзе ВКЛ

> Яніна Пінчук магла б стварыць «магічна-рэалістычныя апавяданні» і без звароту да звышнатуральных рэчаў. Самае моцнае ў «Горадзе мрой» — гэта стыль

квітнее на ўсю моц. Ніякіх дакладных і разгорнутых тлумачэнняў і падрабязнасцей Яніна Пінчук чытачу не прапаноўвае. А якая завязка! Можа, аўтарка «падкінула» ўяўленню чытачоў гэткае практыкаванне для трэніроўкі фантазіі? Іншыя эпізоды таксама маюць патэнцыял стаць больш буйнымі творамі: яны нагадваюць пупышкі, якія вось-вось павінны лопнуць, каб выпусціць вонкі зялёнае лісце.

Крыху не дацягваюць да самастойных яркіх персанажаў і героі кнігі. Дзве галоўныя дзеючыя асобы, якія можна вылучыць, і чые характары прапісаны найбольш выразна, — Алеся і Улада. Яны нядрэнна падыходзяць пад апісанне з аднаго апавядання: «Мы нагадваем персанажаў картасараўскага рамана «Экзамен» — маладыя, няпростыя, мы шукаем, чагосьці там ствараем, вечна ў стане прадчування». Асабіста ў мяне з гэтымі дзяўчынамі адносіны не склаліся: не хапіла глыбіні, псіхалагізму, «жыццяздольнасці». Пры ўсім тым, што літаратура так ці інакш з'яўляецца ўмоўнасцю, Алеся і Улада сапраўды толькі нагадваюць герояў кнігі — а ніяк не паўстаюць жывымі асобамі мастацкага свету. Я не пераканалася, што яны сапраўдныя. Магчыма, прычынай таму з'яўляецца тая акалічнасць, што свет, створаны аўтаркай, падаецца значна ярчэйшым за дзеючых персанажаў. І, магчыма, менавіта якраз тут трэба прыняць да ўвагі, што гэта ўсё ж апавяданні, а не цэльны тэкст, які часта да драбніц раскрывае «нутро» герояў… Але абедзве дзяўчыны выглядаюць тыповымі, нягледзячы на спробу прадставіць іх выключнымі.

> Свет — чароўны. Ты можаш адбрыквацца ад гэтай ідэі, хавацца і бачыць тое, што хочаш. Гэта не адмаўляе існаванне магіі ў нашым жыцці

Пра важнасць мінулага, пра значнасць этнічнай прыналежнасці і так гаварылася ўжо шмат. Хочацца адкінуць убок банальнасці і паўторы

Яны тыповыя ў сваёй нетыповасці, створаныя па шаблоне: дзяўчаты «не такія, як усе», рамантычныя, па-сучаснаму высакародныя. Плюс пару індывідуальных характарыстык. А яшчэ яны вядзьмаркі. Хаця, па словах адной з гераінь, гэта «тэрмін прымітыўны і састарэлы. Я — аташэ па сувязях са звышнатуральным». Няхай і так. Гераіні мілыя сваёй упэўненасцю ў арыгінальнасці: «Навошта нам штучна сябе падсцёбваць, калі мы і так досыць дзікаватыя: якраз гэтак, каб знаходзіць радасць у ласунках, травеньскім надвор'і і назіранні за тым, як гараць запалкі?»

Мяркую, Яніна Пінчук магла б стварыць «магічна-рэалістычныя апавяданні» і без звароту да звышнатуральных рэчаў. Самае моцнае ў «Горадзе мрой» — гэта стыль. Дзякуючы толькі аднаму стылю перад маімі вачамі навакольны свет Алесі паўставаў дзіўным і прываблівым. Цёплым і пяшчотным. Прыцягальным сваёй вытачанасцю і маляўнічасцю. Цікавым і непрадказальным, як само жыццё. Прыкметная любоў гераіні (думаецца, найперш аўтаркі) да ўсяго, што яе акаляе, да сваіх «учора», «сёння» і «заўтра», да будзённых дробязей. Таму звароты да паралельнага свету, да камунікацыі з памерлымі і т. п. «рэчы» нішчылі магію штодзённасці. Такі вось парадокс атрымаўся. А вы проста пасмакуйце такое невялічкае апісанне: «Аднак і мясцовыя жыхары, і турысты ўсё адно не маглі выстаяць перад спакусамі аксаміцістай ночы, падобнай да пялёстка архідэі з мігатлівымі светлячкамі». Гэткіх прыгожых апісанняў у кнізе дастаткова. На іх аснове можна будаваць сапраўдны лірычны твор шчырых асабістых перажыванняў. І пра горад, і пра мроі, і пра што хочаце. Такіх перажыванняў, што залезлі б у самую глыбіню твайго сэрца і заявілі: свет — чароўны. Ты можаш адбрыквацца ад гэтай ідэі, хавацца і бачыць тое, што хочаш. Гэта не адмаўляе існавання магіі ў нашым жыцці. «Часам рэальнасць чыніць вельмі цудоўныя штукі». І гэта насамрэч так, і гэта цешыць і напаўняе святлом. Таму, можа, і падаецца, што ў кнізе зліцця цудаў «рэальнасці» і цудаў «звышнатуральных» не адбылося. Першыя аказаліся нашмат мацнейшымі і пераўзышлі другія. Магчыма, аўтарка і не імкнулася да падобнага зліцця. Але выглядае так, быццам задумваўся арганічны мікс рознаякасных цудаў, да таго ж, згадаем, што кніга падаецца менавіта як «магічна-рэалістычныя» апавяданні.

У гэтым недамяшаным міксе часам трапляюцца недапрацаваныя заўвагі і роздумы, якія выглядаюць нацягнутымі і картоннымі. Нібы аўтарка спецыяльна ўклініла ў кнігу пэўныя штампы кшталту сакральнай сувязі чалавека з яго роднай зямлёй і народам, кшталту тыповых аптымістычных парад, «як лепш жыць». Сэнсавай нагрузкі гэтыя думкі не нясуць, прынамсі, на ідэю кнігі не працуюць ніяк. Яны маглі б дапамагчы стаць «больш жывымі» гераіням кнігі, але толькі пры ўмове выхаду за межы штампавання. Бо пра важнасць мінулага, пра значнасць этнічнай прыналежнасці і так гаварылася ўжо шмат. Хочацца адкінуць убок банальнасці і паўторы.

Такім чынам «Горад мрой» — гэта «ненапружная» кніга са сваім гучаннем. Яна пра суіснаванне нашай рэальнасці і «іншага плана быцця», пра захопленасць штодзённымі цудамі і спробамі знайсці сваё месца сярод іх, пра рамантычныя ўзаемаадносіны жывых і мёртвых, пра паралельны свет з ВКЛ і свет, дзе непарушнай застаецца сувязь з народнымі ўяўленнямі і традыцыямі. Без прэтэнзіі на грунтоўнасць і пераканальнасць. Гэта вобразная кніга з атмасферай «звычайнага» чараўніцтва, агеньчыкі якога здольныя прыхарошыць рэчаіснасць і падарыць усмешку. «А цяпер я несла ў сабе цэлае скопішча шматкаляровых агеньчыкаў, яны грэлі мяне, прымушаючы забыцца пра надвор'е, мігацелі, як светлячкі ў слоіку».

P. S. На сайце Livelib чытачы ўжо паспелі параўнаць «Горад мрой» з «Казкамі старога Вільнюса» Макса Фрая. У вас ёсць магчымасць паглыбіцца ў свет, створаны Янінай Пінчук, паблукаць па мінскіх і не толькі вулачках і пагадзіцца з такім параўнаннем і ўсім вышэйсказаным альбо не. А таксама стварыць свой чароўны горад, у якім мроі становяцца рэчаіснасцю.

**Анастасія Васілевіч**

# Купалавы п'есы на сённяшняй сцэне: шляхі адкрытыя

У студзені 1913 года Янка Купала едзе з Пецярбурга ў Вільнюс дзеля вечарынкі ў рабочым клубе «Сокал». Гэта выглядае дзіўным, але паддаецца тлумачэнню: менавіта тут адбудзецца прэм'ерны паказ «Паўлінкі» — першай п'есы Купалы. Беларускі музычна-драматычны гурток на чале з рэжысёрам Аляксандрам Бурбісам выбірае твор ужо дастаткова знакамітага паэта, і гэта гарантуе поспех. А вось у лютым Купала едзе ўжо не з Пецярбурга, а ў Пецярбург: Беларускі навукова-літаратурны гурток студэнтаў таксама ставіць п'есу.

Ролю Паўлінкі ў другім спектаклі выконвала Паўліна Мядзёлка — каханая Купалы. Так здарылася, што потым яе «ўвялі»[1] і ў першы. Пры пастаноўцы спектакля ў Пецярбургу аўтар сам дапамагаў размяркоўваць ролі і прысутнічаў на рэпетыцыях, таму і не дзіва, што Паўлінку сыграла Мядзёлка. Сцвярджаецца, што і п'еса была прысвечана ёй, захаваліся нават успаміны актрысы. Аднак, як лічаць навукоўцы, менавіта п'есу Купала пісаць не збіраўся — яна атрымалася з апавядання «А вербы шумелі».

Шлях Янкі Купалы да драматургіі быў цікавы — можна выказаць здагадку, што першую п'есу ён напісаў ад кахання. Але потым з тэатральным напрамкам зраслося, і творы для сцэны сталі пісацца можа і не ад кахання, але па любові. Для гэтага былі добрыя перадумовы: шмат якія вершы і паэмы Купалы ўяўляюць сабой быццам бы міні-п'есы, бо ў іх хапае драматургічнага канфлікту. Купалаўская паэзія карысталася поспехам і ў тэатральных колах: Ігнат Буйніцкі, ці «бацька беларускага тэатра», уключаў цэлыя блокі вершаў песняра ў знакамітыя беларускія вечарыны[2].

Ідэйную лінію народа, яго волі і долі Купала і далей адлюстроўваў у п'есах. Нават «Паўлінка», жанр якой пазначаны аўтарам як камедыя, набывае зусім не радасны фінал. Тут, як у Чэхава: камедыя зусім не камедыя, а хутчэй трагедыя. «Паўлінка» працягвае традыцыі беларускай драматургіі XIX стагоддзя — Каятана Марашэўскага, Вінцэнта Дуніна-Марцінкевіча, Каруся Каганца. Падзеі ў купалаўскай п'есе разгортваюцца ў народнай традыцыі — з сатырычным гумарам, песнямі ды танцамі. У цэнтры — прыгожая Паўлінка, да якой заляцаецца фанабэрысты шляхціц Адольф Быкоўскі. Але гераіня яго не кахае, а кахае Якіма Сароку — школьнага настаўніка, што не падабаецца бацькам Паўлінкі, бо занадта разумны. Вось і атрымліваецца: толькі збіраецца гераіня збегчы з каханым, а яго арыштавалі па даносе яе ж бацькоў. Канешне, было за што — за нацыянальныя ідэі. У жаданні волі і новага жыцця галоўным героям супрацьстаялі блізкія людзі, якія, так сталася, апынуліся па іншы бок барыкад. Вось Паўлінка і называе іх «звярамі сляпымі», бо прага да свабоды перамагае сямейныя пачуцці.

Лёгкая для ўспрымання, народная па сваім характары, але разам з тым сацыяльна-палітычная, філасофская п'еса мела вялікі поспех і ставілася шмат разоў. Спектаклем паводле гэтага твора адкрылася Першае таварыства беларускай драмы і камедыі, якое ўзначальваў вядомы беларускі дзеяч Фларыян Ждановіч. Менавіта яно потым пераўтварылася ў Першы Беларускі драматычны тэатр (БДТ-1), якому ў 1944 годзе надалі імя Янкі Купалы. І гэта таксама не проста так: у тым жа 1944 годзе, калі тэатр знаходзіўся ў эвакуацыі ў Томску, рэжысёр Леў Літвінаў паставіў «Паўлінку». Але з радасным фіналам: Паўлінцы і Якіму ўдаецца ўцячы. У той момант, напрыканцы вайны, такая трактоўка была даволі актуальная і давала надзею на новае жыццё. З гэтага часу спектакль стаў візітнай карткай тэатра і да сёння захоўваецца ў рэпертуары. Зразумела, ён выглядае даволі «музейна», але заслугоўвае пэўнай увагі.

У 1913 годзе Купала піша вадэвіль «Прымакі» — такую ж сакавітую па мове і вымалёўцы характараў п'есу, як і «Паўлінка». Гісторыя пра дзве сямейныя пары, якія на раніцу чамусьці пераблыталіся месцамі і пайшлі шукаць свае сапраўдныя «палавінкі», напоўнена гумарам і

---

[1] У пачатку верасня 1913 года Паўліну Мядзёлку ўвялі на ролю Паўлінкі ў спектакль Беларускага музычна-драматычнага гуртка.

[2] Беларускія вечарыны — вечарыны, дзе звычайна паказвалі спектакль, выступаў хор, чыталі вершы і/ці танцавалі. Вечарыны былі прасякнуты нацыянальным духам, праводзіліся ў Вільні і некаторых беларускіх гарадах.



Паўлінка — Бірута Дакальская.
«Паўлінка», 1953—1963 гады.



Паўлінка — Ала Доўгая.
«Паўлінка», 1963—1982 гады.



Паўлінка —Зоя Белахвосцік.
«Паўлінка», 1982—2000 гады.

амаль пазбаўлена нейкіх намёкаў на сацыякультурнае жыццё Беларусі, што толькі адраджалася. Тым не менш спектаклі паводле гэтага твора таксама ўпадабалі гледачы. Але Янка Купала не адышоў ад тэмы роднай зямлі і свабоды: пасля «Прымакоў» у тым жа годзе ён бярэцца за драму «Раскіданае гняздо», якой ўжо не займаць вострасацыяльнай праблематыкі.

Дзеянне адбываецца ў сям'і Зяблікаў — прозвішча тут невыпадковае, і раскіданае гняздо — гэта раскіданая сям'я. У добрасумленнага селяніна Лявона гаспадар адбірае зямлю — і ён вырашае павесіцца. Яго жонка Марыля застаецца на руінах разбуранай хаты разам са сваімі дзецьмі — Сымонам, Зоськай, Данілкам, Аленкай і Юркам. У кожнага з іх свой спосаб выйсці са складаных абставін: скрыпач Данілка дапамагае маці і малодшым Аленцы ды Юрку збірацца ў дарогу, Зоська бегае да маладога паніча. А Сымон — свавольны малады мужчына, які доўга дамагаўся вярнуць хату, але выбраў іншы спосаб змагання з несправядлівай сістэмай: пайсці за Незнаёмым на «Вялікі сход! Па Бацькаўшчыну!!!», дзе будзе вырашацца жыццё тысяч людзей. Сабраўшыся, ён забярэ з сабой расчараваную, амаль звар'яцелую Зоську.

Свавольства паноў, жаданне роднай зямлі для людзей, а не для ўлады, барацьба за свабоду і волю — адны з галоўных тэм, што цікавяць Купалу. Твор атрымаўся філасофскі, напоўнены шматлікімі сімваламі і пры гэтым аўтабіяграфічны: продкаў паэта таксама выгналі з роднай сядзібы князі Вітгенштэйны.

На публікацыю Купала нават не прасіў дазволу, бо разумеў, што яго не дадуць. Але праз чатыры гады пасля напісання п'еса была ўсё ж пастаўлена Фларыянам Ждановічам у тым жа Першым беларускім таварystве драмы і камедыі. Акцэнт быў зроблены не на сацыяльны, а на бытавы пласт, тым не менш гэта ніяк не зніжала вострую праблематыку п'есы. Дарэчы, Ждановіча рэпрэсіравалі ў 1937 годзе.

Пра складаныя часы прыладжвання, якія ў Беларусі гістарычна паўтараліся не раз, Янка Купала ў 1922 годзе напіша сатырычную камедыю «Тутэйшыя». Дзеянне адбываецца ў 1918—1920 гады, калі беларусаў напаткалі адна за адной акупацыі. Мікіта Зносак — герой без сумлення, які падстройваецца пад любыя жыццёвыя абставіны з дапамогай сваіх падхалімскіх здольнасцей. Быццам хамелеон змяняе ён свой светапогляд, адносіны да людзей, улады, толькі каб застацца сытым і жывым. Жаданне зразумелае, але ў п'есе яно прымае жудасныя формы і абарочваецца здрадай Радзіме, сям'і і, у першую чаргу, самому сабе. «Каб толькі не кранулі», даведзенае да абсурду, выклікае агіду.  Па іншы бок — настаўнік Янка Здольнік. Як і ў «Паўлінцы», Купала робіць прадстаўніка вучонай прафесіі голасам справядлівасці. Канфлікт светапогляду герояў становіцца сацыяльным, філасофскім



Мікіта Зносак — Віктар Манаеў, начальнік патруля — Алег Гарбуз. «Тутэйшыя», 1990 год.



Янка Здольнік — Аляксандр Лабуш, Аленка — Зоя Белахвосцік. «Тутэйшыя»,1990 год.

канфліктам. Аўтар выступае супраць беспрынцыповасці, змагаецца супраць тутэйшасці дзеля чысціні беларускай будучыні. Бо, здаецца, не ведаеш, хто ты — дык трэба цябе пашкадаваць. Але часта тыя, хто называе сябе «тутэйшымі», аказваюцца прыстасаванцамі, бо насамрэч зусім не хочуць ведаць, хто яны — так зручней. Калі трэба — дык паляк, іншы раз — немец, а можа і ўвогуле: сёння — за цара, а заўтра — бальшавік.

Менавіта гэтая п’еса стала адной з самых знакавых у творчасці Купалы. Яе грамадзянскі пасыл быў настолькі моцны, што твор лічылі прасякнутым «ваяўнічай контррэвалюцыйнай ідэалогіяй беларускага буржуазнага нацыялізма»[3] і пасля пастаноўкі 1926 года ў БДТ-1 забаранілі амаль на 70 гадоў. У 1982 годзе, да 100-годдзя з дня нараджэння Янкі Купалы, у Магілёўскім абласным драматычным тэатры Валерый Маслюк паспрабаваў паставіць п’есу — пасля другога паказу спектакль быў таксама зняты з рэпертуару. Але ў 1990 годзе ўжо ў тэатры імя Янкі Купалы рэжысёр Мікалай Пінігін узяўся за «Тутэйшых». Атрымалася не проста пастаноўка, а «цэлая эпоха, прычым не толькі ў нашым тэатральным існаванні, але — у беларускім культурным жыцці», як выказаўся паэт Леанід Дранько-Майсюк. Ролю Мікіты Зносака выконваў знакаміты беларускі акцёр Віктар Манаеў. Ён трактаваў героя як бязвольнага, пакрыўджанага і няшчаснага чалавека, што заблытаўся ў жыцці, — гэта дадавала трагічныя ноты. У фінале спектакля дзіцячая калыска падымала бела-чырвона-белае палотнішча. Як у 1922 годзе, так і ў 1990-я праблема чысціні нацыянальнага адраджэння стаяла вельмі востра — спектакль настолькі палюбіўся гледачам, што шмат хто хадзіў на яго некалькі разоў. «Тутэйшыя» атрымалі Дзяржаўную прэмію, а ў 2001 годзе былі зняты — не таму, што састарэлі, а зусім наадварот.

Гэта яшчэ раз пацвярджае, што творчасць Янкі Купалы заўсёды актуальная, бо з яго імем і творамі звязана ні многа ні мала нацыянальнае адраджэнне. На жаль, драматургічная творчасць беларускага песняра не заўсёды трапляе ў фокус чытачоў, а пры гэтым Купала таксама стаяў ля вытокаў прафесійнага беларускага тэатра.

Нядаўна ў Рэспубліканскім тэатры беларускай драматургіі аднавілі спектакль Сяргея Кавальчыка па паэме Янкі Купалы «Адвечная песня». Яе вельмі любяць ставіць ва ўніверсітэцкіх тэатрах: вось і гэтай вясной студэнты Беларускай дзяржаўнай акадэміі мастацтваў павезлі сваю «Адвечку», як называюць твор на прафесійным жаргоне, на фестываль. Шляхі адкрытыя.

[3] Вольскі, В. Праблемы сучаснай беларускай драматургі / В. Вольскі. — Мінск, 1934. — С. 14.

**Уладзімір Цвірка**

# Купалаўскі маршрут

**Здаецца, усе купалаўскія мясціны мы ведаем. Але калі паставіцца да тэмы больш грунтоўна, трэба канстатаваць, што ведаць можна нашмат больш. Гэты «даведнік у часопісе» створаны не з мэтай крытыкі ці выкрывання, а з іншай: каб проста ведаць.**
**Прапаную восем пунктаў маршруту і раю падзяліць яго на два дні: у першы наведаць тры кропкі — Вязынку, Радашковічы і Яхімаўшчыну, у другі — Акопы, Карпілаўку, Селішча, Мінск і Малыя Бясяды. Бо пажадана не «бегчы», а ўсё аглядаць «з расстаноўкай».**



По дарозе ў Радашковічы — велічныя дубы, валадары ваколіцы.

## Вязынка — кропка адліку

Гэта лагічна: Купала тут нарадзіўся. Дамінік і Бянігна Луцэвічы, ледзь толькі абвянчаліся, адразу ж аддзяліліся ад сям’і, што з'яўляецца паказчыкам іх упэўненасці і самастойнасці. Спачатку жылі ў фальварку ў Паморшчыне, а пасля перасяліліся ў фальварак Станіслава Замбжыцкага — Вязынку. Усё, што тут можна бачыць сёння з будынкаў, — узноўленае. Экспазіцыі музея — камфортныя для прагляду, то бок, не перанасычаныя. Аднак трэба разумець, што бацькі Купалы жылі тут не даўжэй за год. Што памятае Купалу немаўляткам? Дубы (відаць, што ім за дзвесце) і сажалка з вербамі (яны пастаянна самааднаўляюцца).



Бацькі Купалы жылі тут не даўжэй за год.



Тое, што памятае Янку Купалу.

## Радашковічы — месца хрышчэння

Яно адбылося тут у Траецкім касцёле 12 чэрвеня 1882 года. Пры хрышчэнні хлопчыка запісалі шляхціцам. Хаця б тут ды перамог дзед Ануфрый, бо яго, чый род вядомы з XVII стагоддзя, са шляхціцаў разжалавалі і перавялі ў арандатары, і як ён з гэтым ні змагаўся… Хоць тут перамог.

У 1903 годзе, у дваццацігадовым узросце, Купала зноў апынуўся ў Радашковічах — працаваў пісарам у судовага следчага. І ў 1913-м тут жа, у памяшканні пажарнай аховы, паказвалі яго «Паўлінку». Плошча гэтага памяшкання дазваляе арганізаваць у ім і сцэну, і глядзельную залу. Будынак, праўда, перароблены. Але, магчыма, фундамент яшчэ той. І пасля перабудовы памяшканне зноў функцыянавала як «пажарка».

Ля Дома быту, у не вельмі ўдалым месцы, стаіць бюст Купалы. Вуліца, якая носіць яго імя, кароткая, але вельмі чыстая, утульная, акуратная.



Вуліца Янкі Купалы ў Радашковічах.



Траецкі касцёл, дзе адбылося хрышчэнне.



Тут, у памяшканні пажарнай аховы, паказвалі «Паўлінку».

## Яхімаўшчына — сядзіба Любанскіх

Ад размешчанай тут некалі сядзібы, якой валодалі адна за адной не менш як дзесяць фамілій, захаваліся афіцына, сажалкі, свірны і дом для рабочых. У ім Купала жыў у 1906—1907 гадах, працаваў у Любанскага, у бровары. Тут цяпер знаходзіцца філіял купалаўскага музея, экспазіцыя якога распавядае пра Віленскі і Пецярбургскі перыяды, а таксама пра творчую дзейнасць паэта ў Яхімаўшчыне. Тут напісаныя «А хто там ідзе…», «Ворагам бацькаўшчыны», «Дайце мне волю» і іншыя, што ўвайшлі ў «Жалейку».



Афіцына.

## Чаму Палачаны?

Таму што менавіта праз Палачаны Купала ішоў у Яхімаўшчыну. Дарогай, якая вядзе паўз старыя могілкі і царкву. А яшчэ, паколькі творчасць Купалы звязана з фальклорам і ўсялякімі такімі гісторыямі, хіба не цікавіў яго крыж, што быў і тады ўжо падняты з балота і пастаўлены пры дарозе? Гэта ідал, перароблены ў крыж. Мясцовыя пераконваюць, што ён лечыць. Звычайна абкручаны ручнікамі, абсыпаны цукеркамі і грашыма, ён толькі для фотасесіі ўсяго такога пазбаўлены — каб паказаць свае знакі, якімі спярэшчаны ўздоўж і ўпоперак.



Свірны.



Дом для рабочых, у якім жыў Купала. Цяпер тут філіял музея.



Вароты могілак.



## Лагойскі напрамак. Акопы і Харужынцы

Пачынаць трэба з Акопаў. Фальварак арандавала маці паэта з яго сёстрамі Ганнай, Марыяй і Леакадзіяй у 1909—1929 гадах. Важна, што ў Акопах захаваліся фундаменты пабудоў, планіроўка і ваколіца. Пагоркі, камень, дубы — таксама сведкі яго жыцця тут. Менавіта на гэтым месцы трэба было ставіць музей, а не ў Харужынцах, адметных хіба толькі тым, што туды сястра Купалы пайшла замуж.

Першы раз Купала трапіў у Акопы ў 1911-м. Тут было напісана больш за сто паэтычных твораў, паэмы «Бандароўна», «Яна і я», «Магіла льва», а таксама «Паўлінка», «Раскіданае гняздо», «Тутэйшыя».

Скульптура маладога паэта ў Харужынцах радуе вока.

У Харужынцах.

## Селішча і Малыя Бясяды



Селішча. Нічога матэрыяльнага не захавалася.

Калі з Вялікіх Бясяд ехаць у бок Малых Бясяд, у раёне старога закінутага пясчанага кар’ера трапляеш у Селішча. Сёння тут знаходзяцца толькі два курганы. Адзін з іх — з фундаментнымі камянямі. Тэрыторыя абнесена лесам. Фальварак арандаваўся з 1895 да 1904 года. Тут у 1902 годзе памёр бацька Купалы, пасля брат і дзве сястры. Тут жа быў напісаны верш на дзень нараджэння сястры Леакадзіі. І менавіта ў Селішчы Купала пазнаёміўся з суседам Чаховічам, якому праз поле насіў малако і сыр. А гэта ж дзякуючы Чаховічу, старому рэвалюцыянеру, удзельніку паўстання 1863—1864 гадоў з’явіўся Янка Купала! Менавіта той Купала, якога мы ведаем, а не нейкі іншы. Бо ён пісаў вершы па-польску, а Чаховіч і Ядвігін Ш. пераарыентавалі яго на беларускую мову. Але галоўнае: у сядзібе Зыгмунда Чаховіча была вялізная бібліятэка, якой Купала не мог не карыстацца. Усе кнігі для чытання падлетку Луцэвічу падбіраліся гаспадаром бібліятэкі, нязломным чалавекам, які вярнуўся да сябе ў сядзібу пасля трынаццаці гадоў катаргі. Гэтыя кнігі мелі два накірункі: гісторыя ВКЛ і гісторыя згаданага паўстання. Канечне, адбываліся тут і размовы. Хоць нічога матэрыяльнага не захавалася.





На тэрыторыі Бясядкі, сядзібы Зыгмунда Чаховіча.



Дуб, пад якім, магчыма, чыталіся вершы.

## Карпілаўка — сядзіба Антона Лявіцкага

Недалёка ад Селішча — сядзіба Антона Лявіцкага, вядомага як Ядвігін Ш. Дарога да Карпілаўкі тут адна, яна магла звязваць Карпілаўку з Акопамі. Тут ёсць дуб, пад якім, магчыма, чыталіся вершы. У сядзібе Лявіцкага ладзіліся творчыя вечары беларускай інтэлігенцыі. Так Купала знаёміўся з гэтым колам грамадства. У 1912 годзе тут ён чытаў «Паўлінку». Пасля стаў хросным дзяцей Лявіцкага. Гэта запаведныя мясціны. Больш запаведныя, чым тыя, дзе зладжаны музейныя прасторы.

## Мінск

Музей стаіць на месцы спаленага ў першыя дні вайны дома Янкі Купалы.



Дарога да Карпілаўкі тут адна, яна магла звязваць Карпілаўку з Акопамі.



Мінск.

## Адам Глобус:

# «Мае героі — людзі, якія заўсёды канфліктавалі з грамадствам»



**З Адамам Глобусам як з мастаком і пісьменнікам, разумным эгаістам і адначасова атэістам, якому з гэтай прычыны лёгка спрачацца, з чалавекам, які стварае ў сваіх тэкстах дамашнюю ўтульнасць і аднолькава не прымае як творы «музычна арганізаваныя», так і з героямі-забойцамі, размаўляла Вольга Губская.**

**— Вы знаёмыя беларускаму чытачу ўжо больш за 35 гадоў. Якое месца адводзіце сабе ў сучаснай беларускай літаратуры?**

— Я не класіфікатар. Вызначэннем майго месца ў літаратуры павінны займацца спецыялісты.

**— Але ж унутранае адчуванне хоць нейкае ёсць?**

— Галоўнае ў літаратуры — не нарабіць гадасцей. Хочацца быць незалежным інтэлігентным беларускім пісьменнікам. Большасць жа пісьменнікаў у нас залежыць ад вонкавых акалічнасцей. Мяне заўсёды хвалявалі адносіны мастака і грамадства. Мастак — гэта апошняя вольная прафесія, якая захавалася ў соцыуме. Мастак можа прыходзіць на працу, можа не прыходзіць. Калі яго прыгнятаюць, ён проста малюе фальшывыя грошы. Ён здатны падарваць эканоміку любой дзяржавы, і таму, каб ён не маляваў фальшывыя грошы ці нечага іншага не рабіў, дзяржава часам адкупаецца ад мастака, а часам яму і прыплачвае. За тое, каб не рабіў фальшывыя грошы, а самае галоўнае — не выказваў сваё меркаванне. Не смяяўся з моцных гэтага свету …

**— Такім чынам, вы абсалютна незалежны пісьменнік?**

— Абсалютна незалежных людзей у прыродзе не існуе. Затое я ў сто разоў менш залежны за астатніх, бо паставіў гэта сабе за мэту, і мае вобразы, мае героі — людзі, якія заўсёды канфліктавалі з грамадствам. Таму я паводле сваіх перакананняў радыкальны анархіст, анархаіндывідуаліст. Можаце лічыць мяне разумным эгаістам. Я не думаю, што мастак ці пісьменнік павінен быць партыйным чалавекам.

**— А як жа радыкальны анархіст, анархаіндывідуаліст?**

— А гэта значыць, што я люблю сябе, сваю сям'ю, сваіх жанчын. Мая краіна мне даражэйшая за ўсе астатнія, і таму я не буду здраджваць сваёй краіне. Калі трэба будзе — я памру за яе.

**— Калі большасць стане разумнымі эгаістамі, што будзе з нашым грамадствам?**

— Калі ты можаш зрабіць добра сабе, ты не будзеш рабіць кепска іншаму. А калі ты збіваешся ў партыю, то табе іншая партыя —вораг адразу. Але ж чужы —не значыць горшы, іншы — не значыць кепскі.

**— Пры гэтым літаратуразнаўцы адчуваюць у душах вашых герояў «арктычны холад». Ці згодны Вы з такой характарыстыкай?**

— Я не чытаю крытыку даўно, бо яны пішуць нейкую ахінею. Ці разумеюць яны, што такое душа? Ці можа быць там плюсавая тэмпература? Калі ў мяне «арктычны холад», тады ў душы іншага могуць ісці экватарыяльныя ліўні?! Гэта кепская метафара. Відаць, што чалавек, які так гаворыць, далёкі ад паэзіі. Я наогул метафары ненавіджу. Рэдка паэты любяць метафары. Таму што для мяне канстатацыя факта важнейшая за ўсякую трактоўку і інтэрпрэтацыю. Канечне, літаратура можа быць жывапіснай: «У бе-

лым доме ля сіняй бухты…». Тут аўтар стварае карціну. А ёсць такія, якія пішуць «дыр-бур-шчыр-убер-шчур…» — музычна добра арганізаваная, але ахінея. Ім ў прынцыпе галоўнае, каб добра звязваліся літары, каб узнікла музыка. Такімі былі Пастэрнак, Бродскі — пісьменнікі, мне цалкам далёкія. Яны нясуць ахінею, а людзей гэта заваражвае. Як шаманы. Гэта музычная літаратура. А калі пачынаеш пра душу — адразу хочацца сварыцца! Мне як атэісту гэта вельмі лёгка рабіць.

**— Напрошваецца пытанне: вы пішаце, каб вас чыталі, ці для вас важна «выпісацца»?**

— Мастак Савіцкі пра гэта некалі добра сказаў: «Калі б мастак пісаў для сябе, ён усё жыццё пісаў бы карціны на адным і тым жа палатне». Я пішу для чытачоў. І ў мяне ёсць свой чытач — гэта хлопчыкі, а не дзяўчаты. Дзяўчат сярод чытачоў 75 працэнтаў, а хлопцаў — 25, таму я тут вельмі абмежаваны.

Той чытач, для якога пішу я, — гэта студэнт мастацкай вучэльні, трэцяга курса, вельмі цяжкага. На першым курсе студэнт яшчэ ў эйфарыі: ён вырваўся са школы, атрымаў свабоду ад бацькоў, настаўнікаў, школьнага дырэктара. І нарэшце трапіў у архітэктурны тэхнікум ці музычную вучэльню, а там усё аднадумцы, прыхільнікі мастацтва… На другім курсе ён робіцца дарослым. І раптам на трэцім пачынаецца жудасны крызіс. У гэты час яго трэба папярэдзіць: апісаць трэці курс, чацвёрты, даць нейкія парады. А яшчэ гэта падлетак, які вельмі цікавіцца эротыкай і перспектывамі жыцця. Вось такі ў мяне чытач. Але гэта не дзяўчынка. Я пішу для таго, хто верыць, што, прачытаўшы кніжку, ён стане іншым.

**— Ці жадаеце вы паўплываць на яго ўнутраны свет? Зразумела, слова «душа» я ўжо не выкарыстоўваю?**

— Так, я жадаю, каб ён не расчараваўся ў жыцці.

**— Сумная, журботная літаратура…**

— Я не лічу, што я пішу сумна… У маіх творах шмат іроніі.

**— Калі браць каляровую палітру, вашы творы мне падаюцца шэрымі, можа, шэрафіялетавымі, а месцамі нават чорнымі. Будзеце аспрэчваць?**

— Ну, па-першае, я старшыня таварыства па ахове могілак «Кальварыя». Для мяне могілкі не з'яўляюцца змрочнымі. А ў літаратуры для мяне ёсць толькі тры тэмы: смерць, задавальненні-радасці і каханне.

**— Ці ёсць пісьменнікі, якія зрабілі ўплыў на вашу творчасць?**

— Колас і Купала. У паэмах «Сымон-музыка» і «Новая зямля» Колас стварыў код беларускасці. Калі беларусчына пачынае з мяне сыходзіць, я перачытваю Коласа. У трагікамічных сцэнках «Тутэйшыя» Купала паказаў тыповага адмоўнага беларуса — Зноска-Знасілава-Знасілоўскага. Я прымаў удзел у экранізацыі «Тутэйшых» і лічу Купалу найлепшым з беларускіх драматургаў. Калі браць рускую літаратуру — Юрый Алеша, ён жа з нашых мясцін. Напэўна, ён моцна паўплываў, асабліва яго «Ні дня без радка». Наогул, мяне моцна ўразіла ўся гісторыя жыцця Алешы. Ён напісаў, што ў свеце найлепшае месца — калі пад'язджаеш на цягніку да Вільні і бачыш сосны і пагоркі, забудаваныя невялічкімі ўтульнымі дамкамі… Я з ім цалкам згодны. Далей — Масей Кульбак. Яго раман «Зельманцы» — лепшае, што я чытаў пра Мінск. З савецкіх творцаў магу згадаць Казіміра Малевіча. Яго нельга назваць пісьменнікам, хутчэй гэта літаратар, стваральнік ленінізму. Лозунг «Ленин жив для живых, а мертв для мертвых» — яго. Савецкі народ павінен растварыцца ў імені Ленін, сцвярджаў Малевіч. Без разумення творчасці Малевіча і яго паплечнікаў, кшталту Маякоўскага, нельга зразумець пафас савецкага перыяду нашай гісторыі. Таму я вывучаю і нават захапляюся вывучэннем першакрыніц анархізму, якім напоўнена яго творчасць. Канешне, я натхняўся і творчасцю бацькі — Вячаслава Адамчыка. Асабліва мяне захапляюць яго апавяданні. Іх высока цаніў і друкаваў у «Новом мире» Аляксандр Твардоўскі. У пэўнай ступені маім настаўнікам быў і Міхась Стральцоў, які напісаў прадмову да маёй кнігі лірыкі «Парк». Ну, і безумоўна, на мяне моцна ўплывала ўсё пісьменніцкае асяроддзе. Асобнае месца сярод маіх настаўнікаў займае Вера Маркава. Яна жыла ў Мінску на вуліцы Магазіннай, зараз Кірава. У 1914 годзе з'ехала ў Маскву, вучылася ў Конрада ў Пецярбурзе. Вера Мікалаеўна пераклала

з японскай на рускую мову ўзорную старажытную класіку — Басё, Іса, Бусона, Сэй Сёнагона. За стварэнне школы хайку ў Беларусі трэба дзякаваць ёй.

**— У вас ёсць уласная тэхніка працы над мастацкім творам?**

— Адбываецца па-рознаму. Калі я пішу хайку — сітуацыя адна. Ідэальнае хайку пішацца так: ты павінен напісаць сваё ўражанне, пакуль не ўключыцца аналітыка. Цябе нешта здзівіла, ты пайшоў за здзіўленнем і гэта запісаў.

Працэс напісання апавяданняў іншы. Калі я паказваў свае апавяданні Маркавай, яна казала, што мне трэба ўзяць за ўзор Поджа Брачаліні. Ён быў пісарам у Папы Рымскага і запісваў розныя плёткі пра людзей. Людзі збіраліся ў пакойчыкі папляткарыць, а той усё занатоўваў. Калі яму чалавек падабаўся, але зрабіў нейкую гадасць, ён браў гэтую гісторыю і прыпісваў яе другому. У яго цэлая метадалогія была, як пісаць пра сучаснікаў. Брачаліні — стваральнік мікранавелы. Гэта імя я адкрыў для сябе дзякуючы менавіта Веры Мікалаеўне Маркавай. У выніку стварыў праект «сУчаснікі». Эратычная навела — асобны праект.

**— Нейкая такая вельмі далікатная тэма…**

— Па-першае, кожная чацвёртая думка нармальнага чалавека — пра эротыку, секс і працяг роду. Мы жылі ў краіне, у якой расказвалі, хто каго забіў і як. І гэта лічылася нармальным. Героі Быкава, Адамовіча, Брыля — забойцы. Чытаем і прыходзім да высновы: забіў — і добра! Чым больш забіў, тым лепш. Гэта што за літаратура такая?!

**— І таму трэба пісаць пра тое, хто каго кахаў…**

— Так! Калі чалавек пакахаў некага — людзі радасць атрымалі ці рэўнасць. Але ж не забіў! «Уж лучше сделать одного, чем уничтожить многих». Падручнікі па гісторыі запоўнены не гісторыяй культуры, а монстрамі-забойцамі. І хто больш забіў, той большы герой. Гэта што такое?! Зразумела, што мой герой весялейшы, ён дамавік. Ён любіць дом. Раман «Дом» — гэта асобны праект, калі я пішу пра самых блізкіх мне людзей. У мастакоў заўсёды так прынята: напісаць партрэт маці, бацькі, брата. У літаратуры ж нейкія абстрактныя маці, а бацька ўвогуле не існуе. Раман «Мать» Горкага — чорт ведае пра што! І таму адна з маіх тэм — «Дом». Газета «СБ Беларусь сегодня» назвала яго адзіным ідэалагічна правільным творам у нашай сучаснай літаратуры.

Каштоўнасці сям'і цалкам адсутнічалі ў савецкай літаратуры. Сям'я ігнаравалася. Калі вы бачыце пісьменніка, які не піша, што трэба любіць маму, — гэта савецкі пісьменнік. Звярніце ўвагу, газета «Сям'я» з'явілася ў 1988 годзе, толькі напрыканцы заняпаду савецкай улады. Пісалі пра салдата, які смярдзеў кірзачамі і страляў з пушкі чым далей, тым лепей. Я ж заўсёды любіў маму. Я хачу прачытаць пра такое пачуццё. Дзе? Толькі ў блатной песні была гэтая мама, і то скрадзеная ў якога-небудзь Сярожы Ясеніна: «Ты жива еще, моя старушка?» І калі некаторыя пісьменнікі ў мяне пытаюць: «Цябе яшчэ чытаюць твае дзеці?» — я кажу, што чытаюць. «А мяне не чытаюць», — скардзяцца яны. Тады я пытаю: «А ты што-небудзь пра іх напісаў? Напішы пра сваіх дзяцей, як ты іх любіш».

**— Можа, гэта занадта ўласнае, інтымнае?**

— Што значыць — інтымнае! А пра што тады пісаць, як не пра дом, родных, любых сэрцу людзей? Прыязджаеш у вясковую хату: побач з іконай Ісуса Хрыста заўсёды вісіць рамка, поўная фотаздымкаў. І ты ведаеш, што ў бабы Броні вісіць твой партрэт. Ты да яе заўсёды можаш прыйсці, разумееш, што цябе там любяць, памятаюць, чакаюць. З гэтай рамкі я і стварыў раман «Дом». І ведаеце, гэты раман ніколі не скончыцца, бо ў маім доме шмат родных, блізкіх мне людзей. І пра кожнага я хачу напісаць.

**— Ваш раман «Дом» вельмі цёплы, шчыры, утульны. У ім хочацца гасцяваць. А які твор вам хочацца перачытваць? Увогуле, давайце напрыканцы размовы складзем топ-5 твораў, рэкамендаваных Адамам Глобусам для прачытання.**

— Андрусь Горват «Радзіва «Прудок» (2016), Ігар Канановіч «Астэроід» (2015), Янка Брыль «Парастак» (2006), Вячаслаў Адамчык «Дзікі голуб» (1972), Міхась Стральцоў «Загадка Багдановіча» (1968).

## Спорт як мастацтва

**Для кагосьці, магчыма, дзіўна, але мастацтва і спорт маюць шмат агульнага. Так шмат, што не будзе асаблівай памылкай назваць спорт відам мастацтва. Пра гэта і не толькі Дзмітрый Шулюк пагутарыў з дырэктарам Мінскай дзяржаўнай абласной сярэдняй школы-вучылішча алімпійскага рэзерву Уладзімірам Тайнікавым.**



**— Спорт… Ён падобны да мастацтва. Напрыклад, для простага чалавека як спорт, так і мастацтва, — гэта, з аднаго боку, змарнаваны час, які не прынясе нічога матэрыяльнага. Але ёсць і другі бок — рэальны.**

— Я б паспрачаўся. Як гэта не прынясе матэрыяльнага? Усё ж такі ў мяне такое адчуванне, што спорт прыносіць матэрыяльныя вынікі. Спорт — гэта пазнанне самога сябе. Спорт — гэта развіццё. Агульнае развіццё чалавека. І чалавека як асобы. А як вызначыць, што матэрыяльнае, што не? Здаровы чалавек народзіць здаровае дзіця. Што, гэта нематэрыяльнае? Гэта вельмі матэрыяльнае. Вынікі спорту? Сёння мы займаемся спортам, а заўтра ім жывём. Наш студэнт заканчвае вучобу і можа, напрыклад, звязаць жыццё са спортам, а можа не звязаць. Магчыма, ён пойдзе працаваць у другую галіну. А калі мы паспрабуем зазірнуць углыбіню? Правядзём, напрыклад, статыстычны аналіз: колькі дзён хто прабыў на бальнічным. Сітуацыя атрымаецца не на карысць тых, хто недапалкі збіраў ці ля камп'ютара сядзеў, ці толькі ў гульні гуляў. Гэта быццам не матэрыяльна? Гэта матэрыяльна. Для дзяржавы — гэта матэрыяльна.

А тое, што спорт падобны да мастацтва... Я з вамі цалкам згодны. Спорт — гэта прыгажосць. І спорт пастаянна развіваецца. Знаходзіць новыя праяўленні. Сёння — гэта адно, заўтра — другое, трэцяе. Спорт і мастацтва. Мне здаецца, яны сапраўды маюць шмат агульнага.

**— Цікава было б даведацца, ці агульныя мэты маюць спорт і мастацтва. Вось вы, калі бачыце ўпершыню свайго абітурыента, якія мэты перад ім ставіце? Ці ён сам іх стварае перад сабой?**

— Да нас прыходзяць абітурыенты ў вельмі юным узросце. Зараз мы ўжо сярэдняя школа-вучылішча, таму сярод нашых навучэнцаў ёсць школьнікі, пачынаючы з восьмага класа, а з наступнага года, між іншым, мы адкрываем сёмы клас. То бок, у нас ужо будуць сямікласнікі, якіх мы будзем рыхтаваць у якасці алімпійскага рэзерву. Здаецца, на гэтай задачы можна супыніцца. Мы падрыхтавалі — сваю справу выканалі. Але мы не супыняемся. Мы падтрымліваем і пасля нашага выпускніка. Сочым за ім. Бо калі мы бачым яго алімпійскім чэмпіёнам… На нашу радасць і гонар ёсць алімпійскія чэмпіёны — выпускнікі нашага вучылішча. Зразумела, мы бачым розных чэмпіёнаў, чэмпіёнаў свету. Хочам бачыць іх. Каб яны былі ў нас. Увогуле — жаданне нас усіх. І гэта не толькі жаданне нашага калектыву, а і ўсіх падобных да нашага калектываў. Каб нашы спартсмены заваёўвалі вяршыні.

**— Напэўна, для гэтага патрэбны асаблівы характар?**



— Ну, па-першае, трэба разумець, што ўсе спартсмены — неардынарныя асобы. Таму характар прысутнічае ва ўсіх. Ён атрымаў які-небудзь вынік, ён куды-небудзь выехаў — гэта ўжо накладвае пэўны адбітак. Ён робіцца лепшым. А мы бяром толькі лепшых — пераможцаў, прызёраў. Зразумела, яны ўжо нечым адрозніваюцца ад іншых. Але сёння, каб чагосьці дасягнуць у спорце, аднаго характару мала. Трэба прымусіць сябе працаваць галавой. Трэба ўключыць мазгі напоўніцу, каб кім-небудзь сёння стаць.

Сёння спорт часам выходзіць за межы чалавечых мажлівасцей. Гэта прывяло да таго, што спіс забароненых для ўжывання спартсменам прэпаратаў складае некалькі дзясяткаў тысяч назваў. І сёння той спартсмен, які гэта разумее, які падтрымлівае накірунак «за чысты спорт», кожнае дзіця, якое вырашыла, што будзе займацца спортам, ужо на гэтай стадыі павінна ведаць: ты прыехаў, ты захварэў, патрэбна лячэнне, і ты ўжо сёння павінен ведаць, што табе можна, а што нельга. А калі, напрыклад, бабуля штосьці яму ўжо дала выпіць з лекаў, то дзіця ўжо павінна ў сёмым ці восьмым класе запісаць назву, каб пасля паведаміць, што такога чысла ён ужываў такія медыкаменты.

Сёння да нас прыходзяць спартсмены са сваімі вынікамі, сваімі баламі. Але гэта не асноўнае. Для таго, каб мы ўбачылі добрага спартсмена. Ён павінен мець добры дзённік — дзённік вучэбны і дзённік спартыўны. І адразу бачна: калі ў вучэбным дзённіку шэсць балаў і вышэй, то гэта добра. Між іншым, у нас правіла: 6,0 — мінімум. Наш навучэнец не можа вучыцца горш. А другое правіла: ён павінен весці рабочы дзённік. Калі мы бачым, што ён не піша ў ім, што ён не праводзіць аналіз, не аналізуе выкананую работу, то ўжо можам спрагназаваць яго вынікі. Загадзя. Нават калі гэты спартсмен чаго-небудзь ужо дасягнуў. Мы бачым сутнасць. Бо, з аднаго боку, атрымоўваецца талент, здольнасці і нават характар, а з другога — ёсць таксама не столькі здольныя, але ўдумлівыя і мэтанакіраваныя. Вельмі часта менавіта той, у каго і няма ніякага таленту, і здаецца адразу нічым не выдатным, а прыходзіць да большага. Бо ён пастаянна працаваў над сабой, сачыў за сабой, пазнаваў сябе. Думаю, тут зноў падабенства з мастацтвам. Паглядзіце, колькі навокал юных талентаў. Мноства. А праз нейкі дзясятак гадоў хто з іх застанецца? Будуць тыя ж збольшага, што і ёсць зараз. Будуць спяваць тыя, каму па семдзесят гадоў. А тыя, хто мелі галасы лепшыя, трымаліся на сцэне лепш, куды зніknуць усе гэтыя «таленты»? Гэта проста тлумачыцца. Імі кіруе імпэт, які знікае пры пэўным дасягненні. Але дасягнуць адзін раз мала. Ёсць цудоўныя прыклады. Мне, напрыклад, падабаецца вяртанне Шарапавай. Што б там ні было, але Шарапава вярнулася пасля дыскваліфікацыі. У яе ёсць сваё кола заўзятараў. На яе ідуць. Вось гэта ўменне вяртацца, працягваць, ісці далей — тое, што неабходна.

**— Вы ўзгадалі, што на сцэне людзі застаюцца і ў семдзесят гадоў. Насамрэч, думаю, складана сысці з мастацтва. А ці проста сысці са спорту, калі ўжо ўцягнуўся ў гэтую дысцыплінаванасць, рэжым?**

— Зразумела, сыходзяць. Я магу прывесці прыклад. Я атрымаў вышэйшую адукацыю, стаў заслужаным майстрам спорту. Такіх, як я, у Беларусі вельмі шмат, але працуе ў спартыўнай сферы вельмі мала. Ну, колькі іх засталося?

Дзясяткі два можна налічыць. Але большасць сыходзіць. Чаму? Бо праца гэта няўдзячная. З аднаго боку, ёсць патрэба. Напрыклад, у трэнерах. Па ўсіх каналах кажуць, што сёння адчуваецца дэфіцыт маладых трэнераў. Дэфіцыт у рэспубліцы — гэта не толькі ў нас, гэта ва ўсёй краіне. Галоўная прычына — заробак. Заробак трэнера, маладога спецыяліста, не адпавядае яго патрабаванням. Яго ладу жыцця. Яго абавязкам перад сабой і перад дзяржавай. А з часам ён захоча стварыць сям'ю. Якую сям'ю? Калі яму для сябе не хапае грошай, то як ён пракорміць сям'ю? І чалавек шукае месца, дзе яму будзе лепш. Таму і сыходзіць. Шмат спартсменаў сыходзіць у бізнес і палітыку, тут няма нічога страшнага. Розныя людзі бываюць. Адзін хутка пакіне спорт. Другі не зможа. Трэці — і ні тое, і ні гэта. Быццам і не застаецца, але адначасова і побач. Можна жыць за спортам, можна жыць без спорту. Залежыць ад таго, як складваецца жыццё. Многія нават з нашых работнікаў у свой час сыходзілі ў бізнес, а пасля вярталіся і працуюць, паказваюць вынікі. Гэта ўсё дыктуе жыццё. Тут нельга даваць нейкія крытычныя адказы. Часам перад чалавекам паўстаюць складаныя ўмовы, цяжкія абставіны, і ён не можа займацца любімай справай. Пытанне вельмі сур'ёзнае. І адно можна з упэўненасцю сказаць: маладым людзям замацавацца ў спорце ў наш час складана.

**— Раней вы казалі пра межы чалавечых здольнасцей. Ці ёсць гэтыя межы? Сотню гадоў таму былі іншыя рэкорды, і сучасныя дасягненні выглядалі б фантастычнымі. Але ж і сучасныя дасягненні нявечныя? Як вы думаеце, ці скончыцца калі-небудзь гэты рух ад рэкорда да рэкорда? Ці ёсць якая-небудзь планка чалавечых магчымасцей у спорце?**

— Зразумела, гэта будзе працягвацца яшчэ доўга. Я ведаю рэкорды, якія трымаліся больш за пятнаццаць гадоў. Але ўсё роўна мы развіваемся. Гэта супыніць нельга. І не толькі мы самі развіваемся,














развіваюцца спартыўныя тэхналогіі. Напрыклад, нядаўна стварылі красоўкі вагой 150 грамаў. Уявіце. Уяўляеце? Тады вы разумееце, што развіццё гэта ў бліжэйшы час не супыніцца.

**— Думаю, гэта цудоўна. І для саміх спартсменаў, і для аматараў спорту. Магчыма, вы хацелі б штосьці пажадаць нашым чытачам? Ці параіць?**

— Сёння я б хацеў, у першую чаргу, перасцерагчы. Жыццё — з'ява вельмі хуткаплынная. Здаецца, што яно вечнае. А насамрэч, колькі маладых людзей памірае ад перадазіроўкі, ад другіх рэчаў. Яны злоўжываюць сваёй «свабодай». Яны… Я хацеў бы перасцерагчы іх. Ёсць шмат іншых жыццёвых радасцей, проста мы іх не паказваем. Не знаёмім сваіх дзяцей з сапраўдным жыццём. Тут часам і СМІ, здаецца, не дапрацоўваюць, і фільмы не тыя, вакол спрэс не тое. І ў ранг культу трапляюць непатрэбныя, дрэнныя рэчы. Уключаеш які-небудзь канал — і там цэлыя суткі альбо крадуць, альбо забіваюць, альбо іншы гвалт. Каму гэта патрэбна? Навошта? Што можа ўзяць сучасная моладзь з такіх фільмаў або праграм?

У мяне ёсць знаёмыя, якія ў маладосці прайшлі праз розныя цяжкасці, залежнасці. Цяпер у іх добрыя сем'і, праца. Разумееце, моладзі патрэбныя прамыя зносіны. Магчыма, рубрыку адкрыць, каб у ёй тыя, хто выбраўся з гэтай ямы, расказвалі, як у ёй страшна.

Яшчэ адно пажаданне. Толькі гэта абавязкова трэба надрукаваць. Гэта сапраўды важна. Калі па тэлебачанні паказваюць, як дваццаць два мужыкі ганяюць па полі дзевяноста хвілін мяч і не могуць забіць гол, не могуць трапіць у вароты, а затым за гэта атрымліваюць грошы... У гэтым вельмі мала ад спорту. Трэба паказваць першынствы сярод школьнікаў: па плаванні, веласпорце. Трэба паказваць дзяцей з медалямі. Трэба, каб у нас бачылі, ведалі, што, напрыклад, твой сусед — чэмпіён вобласці ці чэмпіён рэспублікі. А гэта… Дзевяноста хвілін марнавання часу.

**Спорт не павінен быць пустым. І ў гэтым ён таксама падобны да мастацтва. Са спортам ці без спорту — жывіце поўным, сапраўдным жыццём.**

## Жыць спортам, або пра тое, што хаваецца ад афіцыйных даных




«О спорт, ты — свет». Штогод гэтыя словы паўтараюць на розныя лады розныя людзі. А які ён — свет? А які ён — спорт? Няўжо ўсё, што мы бачым па тэлебачанні ці з трыбун, — гэта ўсё? Вось бяру я ў рукі, напрыклад, мінулы нумар «Маладосці», і бачу толькі палову. Толькі вынік працы. І нават не ўвесь вынік, бо людзі, якія працавалі над гэтым нумарам, крыху таксама змяніліся. Хтосьці нават значна змяніўся. З рэдактараў ці з аўтараў. Для некага пэўны тэкст стаў адкрыццём, новай важнай прыступкай. Але мы бачым толькі тэксты. І як гэтыя тэксты ўплываюць на нас. Мы бачым толькі моцных, прыгожых, здаровых людзей на спартыўных пляцоўках, стадыёнах; яны трымаюць медалі, а медалі — гэта толькі вынік. Мне захацелася ведаць больш. Захацелася высветліць сутнасць. Што за людзі — спартсмены? Як яны бачаць спорт? Як прыходзяць да яго? Чаму застаюцца? У чым перавагі спартыўнага жыцця? Ці ёсць недахопы? Пытанняў шмат. Адказы на іх я вырашыла пашукаць далей ад вынікаў, бліжэй да вытокаў. Там, дзе людзі пачынаюць разумець слова «спорт» як сінонім слова «жыццё». Такім месцам аказалася Мінская дзяржаўная абласная сярэдняя школа-вучылішча алімпійскага рэзерву.




Хачу адразу адзначыць, што не буду ставіць акцэнты на статыстычных даных і інвентарызацыі памяшканняў. Гэта не галоўнае. І гэта збольшага ёсць у адкрытым доступе ў сеціве. Я паспрабую расказаць пра больш важнае. Таму я доўга размаўляла з навучэнцамі, а затым з намеснікам дырэктара па вучэбна-выхаваўчай рабоце Інай Іванаўнай Авіжыч. Шмат інфармацыі і эмоцый прыйшлося «адсартаваць» для таго, каб нарэшце атрымаўся пазнавальны і зразумелы тэкст.




Калі ж вам патрэбна статыстыка, то запрашаю на сайт установы. Я, між іншым, перш чым ісці ў госці за рэпартажам, крыху пагуглiла, каб прыйсці падрыхтаванай. Пабачыла фотаздымак дырэктара і шмат віншаванняў з рознымі дасягненнямі. Апошнія прымаў Даніэл Мукетэ (дзюдо) — прызёр Кубка Еўропы U-21. У час гутаркі ў вучылішчы ён таксама паказаў сябе









выдатна. Калі ж вам не хочацца лезці ў інтэрнэт, то вы атрымаеце крыху лічбаў цяпер. Створана ўстанова ў снежні 1988 года. Укамплектавана трынаццаццю спартыўнымі аддзяленнямі. 225 навучэнцаў, з іх 32% уваходзіць у склад нацыянальных зборных. 187 супрацоўнікаў. 28 настаўнікаў-выкладчыкаў. 40 трэнераўвыкладчыкаў. 17 алімпійскіх медалёў. Мабыць, хопіць лічбаў. Пяройдзем да справы.

Першае, пра што мне варта сказаць, — гэта месца, дзе знаходзіцца ўстанова. Зразумела, спартсменам на месцы не сядзіцца, але сюды я б вярталася з радасцю. Думаю, і яны вяртаюцца. Амаль ускраіна Мінска, Уručча, парк, шпакі, прыгажосць. Сам жа будынак вучылішча не вылучаецца яркасцю, але і не трэба. Галоўнае, што ўнутры: якія людзі маюць магчымасць праводзіць там свой час. А якія? Настойлівыя, мэтанакіраваныя, упартыя. Гэта яны самі мне так сказалі, і я ім паверыла. Акрамя вышэйназваных характарыстык, ад навучэнцаў патрабуецца вельмі шмат. Паспрабую раскласці па палічках.

Узаемадапамога. Без яе спорт немагчымы. Пры гэтым дадзенае паняцце ўтрымлівае ў сабе і павагу да супрацоўнікаў. Як прыклад найперш узнікаюць у галаве такія віды спорту, як грэка-рымская барацьба, вольная барацьба і дзюдо. І навучэнцы вучылішча, якія выбралі гэтыя віды спорта, — Сяргей Барадзюля, Ягор Бяляк, Дзмітрый Камінскі, Валянцін Кандрацьеў, Яўген Лемяшэўскі, Антон Сахно, Аляксандр Чашчын, Ілья Юдчыц. Сярод іх майстры спорту і кандыдаты ў майстры, прызёры і пераможцы, удзельнікі еўрапейскіх і сусветных першынстваў. Яны цвёрда ведаюць, што спорт — гэта не вайна. У спорце няма ворагаў. Спорт — гэта агульнае. Тое, што аб'ядноўвае. Спорт — гэта змаганне за перамогу ў межах правіл. Спорт — гэта пастаяннае ўтрымліванне сябе ў межах з мэтай пераадолець іншыя межы. Спорт — гэта крыху іншы свет, і таму ўзаемадапамога тут яшчэ важнейшая. Для тых, хто прыходзіць у спартыўную ўстанову, адразу ўзнікаюць складанасці. Складана адаптавацца. Звыкнуцца з рэжымам і дысцыплінай. Складана ўставаць рана. Таму навучэнцы дапамагаюць навучэнцам. Спартсмены падтрымліваюць спартсменаў. Моцна трымаюць іх, каб тыя смела ішлі па гэтай дарозе ў новае жыццё. Жыццё, якое стане для іх чымсьці вялікім.

Узаемадапамога патрэбна і з прычыны вялікага ціску. Пастаяннае змаганне з сабой і адначасова з гледачамі. Сярод якіх дзясяткі, сотні, тысячы могуць ненавідзець цябе з адной прычыны: ты — спартсмен не з іх горада ці не з іх краіны. А табе нельга хвалявацца. Ты ж спартсмен. Хваляванне паўплывае на выступленне.







Ты павінен кантраляваць свой арганізм. Як можна гэта пастаянна цярпець? Як навучыцца ставіць гэты псіхалагічны бар'ер? І ці можна з гэтым справіцца аднаму? Мне здаецца, не.

Як бачна, для спорту мала фізічных здольнасцей. Хоць яны вельмі патрэбны. Напрыклад, ёсць такі цудоўны від спорту, як трыятлон. Для мяне гэта штосьці па-за межамі чалавечага, а юнакі маладзейшыя, чым я, спакойна гэтым займаюцца і, больш таго, атрымоўваюць прызы. Мікіта Белы, Дзяніс Дудко, Мікіта Кацянёў, Таццяна Лукша, Аліна Малашэвіч, Аляксей Раманоўскі — гэта імёны, якія беларусы павінны ведаць, бо яны ўжо адзначаны поспехам, а наперадзе яшчэ колькі магчымасцей. Тое ж самае можна сказаць і пра пяціборцаў: Ганна Галожына, Вікторыя Марцінкевіч, Наталля Міхалюк, Дар'я Рыжыкава, Іван Хамцоў. Усе яны займаюцца гэтым дзіўным і неабсяжным для простага чалавека відам спорту — сучасным пяцібор'ем. Усе яны неаднаразовыя прызёры розных першынстваў. Калі буду пісаць падрабязна, то не хопіць старонак. Таму адкрывайце гугл і павышайце свой узровень ведаў пра тое, што робіцца ў вашай краіне, пра тых, хто стварае аблічча нашай краіны ў свеце.

Вярнуся туды, дзе спынілася. Для спорту неабходна і трывалая псіхіка, і розум. Але навучэнцы вучылішча алімпійскага рэзерву не проста спартсмены, яны яшчэ і навучэнцы. Яны атрымліваюць сапраўдную адукацыю з сапраўдным дыпломам. Яны, нягледзячы на поўную занятасць (а пра рэжым пасля больш напішу), вучацца. Вывучаюць не толькі звычайныя дысцыпліны, а і прафесійныя. Напрыклад, біяхімію. Адкуль яны бяруць гэты дадатковы час ці расцягваюць, як гуму, ці карыстаюцца нейкімі чароўнымі прыстасаваннямі, я не ведаю. Але можна сказаць, што яны малайцы.

Яшчэ адна перашкода для вучобы — гэта паездкі. На спаборніцтвы, на спаборніцтвах, са спаборніцтваў. Таму для выкладчыкаў важна, у першую чаргу, навучыць юнакоў вучыцца. Навучыць шукаць матэрыял, весці канспект і іншым «прамудрасцям», якія дапамогуць грызці граніт навукі, седзячы ў аўтобусе, які едзе ў далёкія краіны.

Пра рэжым дня. Трэніроўкі пачынаюцца а сёмай раніцы (насамрэч, па-рознаму ў залежнасці ад групы і віду спорту, але прывяду той прыклад, які агучылі мне). Ранішняя трэніроўка. Плывец










праплывае 3—5 кіламетраў. Ведаю людзей, якія столькі за цэлы дзень не праходзяць, а ён праплывае. Ён? Напрыклад, Павел Башура — член нацыянальнай каманды Рэспублікі Беларусь. А, магчыма, і яна. Напрыклад, Ксенія Чайка, Лізавета Саломенная, Ірына Міхалёнак, Ганна Максімец — майстры спорту Рэспублікі Беларусь, неаднаразовыя пераможцы і прызёры чэмпіянатаў і першынстваў Рэспублікі Беларусь. Для мяне ў гэтай трэніроўцы дадатковай складанасцю была б неабходнасць лічыць. Бо гэта ж не па прамой кіламетры, а туды-сюды, ад борціка да борціка. Ранішняя трэніроўка доўжыцца прыкладна дзве гадзіны. Пасля трэніроўкі — вучоба. Вучоба займае гадзін пяць. І затым зноў трэніроўка. Адбой а палове на адзінаццатую. Пры гэтым, як мне падкрэслілі, сапраўдны адбой, а не тое, што несур'ёзная дзяўчынка магла падумаць (сацыяльныя сеткі, размовы-жарты, уцёкі праз фортку). Зразумела, ёсць месца і для ежы, але я яе чамусьці вырашыла выцягнуць з агульнага рэжыму і напісаць пра яе асобна. Напэўна, не атрымалася б з мяне спартсменка. Бо ў спартсмена не павінна нічога «вылазіць» з рэжыму. Дысцыпліна — на першым месцы. То ежа. Харчуюцца навучэнцы чатыры разы на дзень. Харчаванне, зразумела, спецыяльнае спартыўнае, збалансаванае. Адна з прычын прыйсці вучыцца сюды. На жаль, паза межамі доступу вегетарыянцаў. І гэта не мой камень у іх агарод, а так склалася. Прычына — у нейкіх амінакіслотах, якія, акрамя як з мяса, чалавек не ведае, адкуль узяць. А спартсмену гэтыя амінакіслоты патрэбныя нават больш, чым звычайным людзям. Ну, самі разумееце, што тут зусім іншы ўзровень работы арганізма. Вялізнае месца — роўнаму дыханню, пульсу. Адразу ўяўляецца прафесійны лёгкаатлет, а побач, напрыклад, я. Зразумела, што я не раўня Анастасіі Бялковіч, Кірылу Барысу, Ільі Галаганюку, але справа не толькі ў мышачнай масе, але і ў адлегласці ад свайго цела. Для мяне маё цела, па сутнасці, прылада, для іх гэта музычны інструмент. Таму мне ўпэўнена і ледзь не хорам заявілі: «Прафесійны спорт і вегетарыянства несумяшчальныя». Я нават у гэты момант сябе вегетарыянкай адчула. Сумна стала неяк.

Акрамя таго, што дысцыпліна спартыўнага жыцця не дазваляе жыць без мяса, яна яшчэ і не дазваляе завесці шкодныя звычкі. З аднаго боку, часу не хапае. З другога, зловяць — выкінуць адразу. З трэцяга, глупства гэта, пра якія шкодныя звычкі можна гаварыць, калі ў цябе думкі пра алімпійскія гульні, пра медалі.

Здаецца, я крыху вышэй выказала здзіўленне: адкуль бяруць час на вучобу? А зараз выкажу яшчэ большае. Бо пасля таго, як час на вучобу выдаткаваны, яшчэ застаецца час на мастацтва. Так, я зусім не хлушу. Праводзяцца розныя мерапрыемствы, конкурсы, спевы, танцы. Дзень вучылішча, канцэрты, гітара, вальс.

Усё гэта ў цэлым утварае «маленькую сям'ю». Ці штосьці большае. Бо нават у членаў сям'і не заўжды агульныя мэты і аднолькавыя спосабы іх рэалізацыі. Неаднолькавы свет. У навучэнцаў і выкладчыкаў вучылішча алімпійскага рэзерву свет адзіны. Адзіны далягляд. Адзіны шлях. Кожны з іх займаецца лепшым відам спорту (а кожны лічыць менавіта той від спорту, якім займаецца, лепшым). Для Вікторыі Гедровіч — гэта кулявая стральба. Для Паліны Бялецкай і Вячаслава Кавалёва — вольная барацьба. Для Арцёма Асомчыка і Ігара Гоманава — лёгкая атлетыка. Для Вячаслава Карпава і Кірыла Кірпічова — фехтаванне. І кожны з іх бачыць наперадзе медаль. Чуе гімн сваёй Айчыны, які гучыць праз яго намаганні ў розных краінах свету. Спартсмен — гэта своеасаблівы місіянер. Гэта дзеяч культуры. Праз беларускіх спартсменаў пра Беларусь гавораць у розных куточках свету. Гэта гонар і гэта адказнасць.

Шчыра скажу: падарожжа ў вучылішча алімпійскага рэзерву стала для мяне важным. Я шмат зразумела. Шмат стэрэатыпаў развалілася на маленькія кавалачкі і ніколі больш не будзе замінаць мне. Захацелася стаць мацнейшай. Прачынацца раней, працаваць больш. Над сабой. І проста працаваць. Каб дасягнуць вяршынь у самым экстрэмальным відзе спорту і самым вычурным жанры мастацтва — у жыцці.

*Досця Звяздоўская*





# ААТ «Баравое-2003»: сістэма лепшых каардынат

**Пачынаючы гэты тэкст, не магу не падзяліцца з чытачом вострым жаданнем займець як-небудзь пяро Гамера: калі трэба распавесці нешта вельмі вартае пра нешта асабліва значнае, то як без яго абысціся?**

Калі не тое пяро, то някепска было б здабыць хаця б пішучую машынку Сцяпана Кухарава, на якой ён, паспяховы рэдактар аддзела публіцыстыкі часопіса «Маладосць» 1950—70-х гадоў, набіраў свае маляўнічыя нарысы, прысвечаныя працаўнікам вёскі. А паколькі не маю ні пяра, ні машынкі, нагрукаю на клавіятуры так: бліжэйшыя дзевяць старонак не толькі дадуць чытачу ўяўленне пра будні і дасягненні адной з самых паспяховых гаспадарак Дзяржыншчыны, але і падштурхнуць да актыўных дзеянняў, прадэманстраваўшы рэальныя прыклады поспеху і досыць пабуджальную заўзятасць. Бо ведаў бы чытач, колькі разоў, здымаючы з дыктафона гутарку з кіраўніцтвам ААТ «Баравое-2003», я рукою цягнулася па нататнік для запісу цытат-матыватараў. Зрэшты, апошнія стварылі для матэрыялу назвы частак, стаўшы такім чынам канвою аповеду пра людзей, захопленых справай, і пра справы, патрэбныя людзям.

## Адным днём нічога не робіцца

Для пачатку трэба пацікавіцца з першых вуснаў, ці правільна мяне праінфармавалі з вуснаў не першых — пра тое, што ААТ «Баравое-2003» уваходзіць у тройку лідараў Дзяржынскага раёна. Гэта значыць, ідзе нароўні з такімі слупамі сельскагаспадарчай вытворчасці гэтага рэгіёна, як агракамбінат «Дзяржынскі» і ААТ «Крутагор'е—Петкавічы». Задаю такое пытанне дырэктару гаспадаркі Рыгору Іванавічу Нікалаевічу — і чую адказ, які нават пераўзыходзіць усе мае чаканні.

— Калі браць агульны ўзровень развіцця, то мы ў тройцы лепшых, — кажа Рыгор Іванавіч. — Але па эфектыўнасці вытворчасці за мінулы год мы першыя, прычым ганаровы пераходны кубак маем другі год запар. Ён уручаецца яшчэ толькі на працягу чатырох гадоў, а мы ўжо тройчы яго атрымалі.

Такія дасягненні тлумачацца адначасова і тым, што заваёўваецца сёння, і намаганнямі папярэдніх гадоў. Якраз гэтая выснова і вызначыла напрамак, стыль і стрыжань будучай публікацыі: мы збіраемся гаварыць пра шлях, пройдзены за дваццаць чатыры гады, ацэньваючы яго ў эканамічным аспекце. Сапраўды, як сказаў дырэктар, адным днём нічога не робіцца: база для поспеху пачала закладвацца даўно, закладалася паступова і мае цяпер выгляд фундаментальны.



Рыгор Нікалаевіч, дырэктар ААТ «Баравое-2003».

— Мы можам дазволіць сабе тое, пра што нельга было марыць напачатку, — кажа Рыгор Нікалаевіч, — разгарнуць будаўніцтва. У прыватнасці, новых малочна-таварных комплексаў, што вельмі істотна павышае эфектыўнасць эканомікі, а разам з тым забяспечвае прыбытак і гаспадарцы, і работнікам, і дзяржаве. Укладанне ў будаўніцтва — гэта ўкладанне ў агульную эканоміку.

Пра новыя малочна-таварныя комплексы мы яшчэ пагаворым, і досыць цікава, інфарматыўна з намеснікам дырэктара па жывёлагадоўлі Васілём Апанасовічам, які, бы сапраўдны экскурсавод, арганізуе захапляльную экскурсію. Пакуль жа час расказаць пра пачатак.

## Каб атрымаць, трэба ўкласці

ААТ «Баравое-2003» узнікла на базе аднайменнага сельскагаспадарчага вытворчага кааператыву (СВК), папярэднікам якога быў калгас імя Максіма Горкага. Змены ў назвах і формах гаспадарання суправаджаліся далучэннем да першапачатковай тэрыторыі зямель гаспадарак зусім ужо непрыбытковых, загразлых у даўгах. Сам калгас-папярэднік, між тым, таксама не быў лідарам.

Як дасціпна мовіў некі барон Амхерст, у старыя нядобрыя часы самым надзейным спосабам разарэння, з ліку найбольш лёгкіх, была сельская гаспадарка. Часы таго барона гадоў дзвесце як прамінулі, але ці не мае хто сёння спакусы сказаць тое самае? Па ўсім відаць, што колішні калгас імя Максіма Горкага ў адрозненне ад суседніх меў нешта такое, з-за чаго тыя далучыліся да яго, а не наадварот. Усё з тых жа не першых вуснаў, ад самых непасрэдных сведкаў ранейшых падзей даведваюся, што некаторыя змены да лепшага ў названай гаспадарцы пачаліся трошкі раней, чым рэарганізацыі і перайменаванні, а менавіта тады, калі ў штат супрацоўнікаў на пасаду галоўнага агранома быў прыняты адзін выпускнік-выдатнік Горацкай сельскагаспадарчай акадэміі.

Кажуць (спачатку), што з выдатнікаў не выходзіць нічога выбітнага. Кажуць (потым), што ім проста шанцуе. Чаго толькі пра выдатнікаў не кажуць, імкнучыся апраўдаць усіх астатніх! Адзінае, чаго амаль ніколі не кажуць, — пра тую ўладу над сабой, якую маюць выдатнікі (якім потым «проста шанцуе»), і тую здольнасць да працы, якая вышэй за астатнія здольнасці і якую можна займець, толькі маючы тую самую ўладу — над сабой і ўласнай лянотай. Ну, яшчэ ў выдатнікаў, якіх чакаюць сапраўдныя, не школьныя, поспехі, вельмі часта адразу нічога як след не атрымліваецца. Мо проста лёс іх больш пераборлівы: адбірае для іх задачкі, пазначаныя зорачкамі.

Новы галоўны агранам марыў некалі стаць ваенным. Не атрымалася. А пераарыентаваўшыся на мірную прафесію (вось вам урок лёсу: не трэба дзяўбаць у замкнёныя наглуха дзверы, калі побач ёсць злёгку прычыненыя), атрымаў пасаду, на якой… Уласна кажучы, тут і пачаліся ў калгасе перамены да лепшага. Кажуць, гэта з яго прыходам з палёў пачалі збіраць камяні, што істотна паўплывала на стан тэхнікі, — яна менш ламалася; гэта ён скрупулёзна паставіўся да тэхналогіі апрацоўкі глебы і вырошчвання сельгаскультур; гэта яго прынцыповасцю была ўсталявана працоўная дысцыпліна ў стане механізатараў.

— А чаму менавіта аграномія? — пытаюся ў таго самага агранома, у якім чытач ужо сам, напэўна, убачыў сённяшняга дырэктара паспяховага ААТ.

— Ведаеце, гэта мне бліжэй. Я не хацеў быць ні інжынерам, ні заатэхнікам, ні ветурачом, а вось аграномія мне падабалася. Вырошчваць расліны — справа для мяне. Я і сёння гэтым займаюся з задавальненнем.

На пытанне пра тое, ці існавала на час прызначэння дырэктарам унутраная гатоўнасць быць ім, атрымліваю адказ, у якім, паспрабуй яшчэ разабрацца, чаго больш — упэўненасці ў правільным рашэнні ці проста пакорнасці лёсу: на час атрымання прапановы стаць дырэктарам 34-гадовы Рыгор Нікалаевіч не толькі працаваў галоўным аграномам, але і вучыўся ў аспірантуры і быў сур'ёзна настроены на будучую працу ў акадэміі, сваёй альма-матэр. А лёс — вось гарэзнік! — паставіў яго перад выбарам: або навука і выкладанне, або дырэктарства і кіраванне.

— І як вы ўзважвалі? Як разважалі?

— Ды не давялося мне ні ўзважваць, ні разважаць. Тады старшынёй Дзяржынскага райвыканкама быў Уладзімір Гаркун, ён сказаў мне: «Ты будзеш тут кіраваць». Я, канечне, выказаўся — катэгарычна супраць. Аргументаваў вучобай, на якую патрэбен час, але Гіляравіч паўтарыў: «Ты будзеш тут кіраваць». Вось і кірую.

Але вучыцца зноў давялося: Рыгор Іванавіч атрымаў яшчэ і эканамічную адукацыю ў Акадэміі кіравання пры Прэзідэнце Рэспублікі Беларусь.

Стаўшы дырэктарам, ці адчуў ён змены ў светапоглядзе і светаадчуванні? Ці адбыўся якасны скачок, які быў свядома адзначаны?

— З'явілася больш адказнасці — за вытворчасць і за людзей. Чалавек павінен атрымліваць за сваю працу грошы, вартыя гэтай працы, грошы, якія забяспечылі б яму і родным якаснае жыццё. З моманту прызначэння на такую пасаду адказнасць за гэта ўсклалася на мяне. І трэба сказаць, што фінансавыя складанасці, асабліва спярша, вельмі даймалі. Кадры меліся, але гаспадарка была закрэдытавана, як кажуць, «па самае нельга». Купіць хоць што-небудзь патрэбнае не было за што. Даводзілася круціцца. Каб атрымаць, трэба ўкласці. Спачатку паволі, пацiху, але вытворчасць нарошчвалася, і з крызісу мы выходзілі. З цягам часу з'явіліся рэальныя матэрыяльныя сродкі, з імі — новыя магчымасці, і развіццё пайшло шпарчэй. Цяжкасці былі, але толькі фінансавыя.

Дырэктар мог бы сказаць іначай — не складанасці і цяжкасці, а праблемы. Па сутнасці, гэта ж сінонімы. Але, відаць, не для кожнага. Бо калі я спытала, якія праблемы ў сельскай гаспадарцы можна назваць надуманымі, а якія — невырашальнымі, Рыгор Іванавіч выказаў сваё досыць прынцыповае стаўленне да таго, што можна было б назваць адценнямі мовы, але (ну і праўда!) навошта такія адценні?

## Праблемы не існуюць — ёсць задачы

— Я лічу, што праблемы не існуюць увогуле. Ёсць задачы, якія патрабуюць вырашэння. Паўсюль чуеш: праблема фінансавання, праблема адсутнасці паліва, праблема набыцця запчастак... А гэта ж праблемы прывідныя, іх няма. Трэба проста вельмі шмат працаваць, і тады ўсё можна будзе набыць. Вынік падчас мэтанакіраванай разумнай працы заўсёды ёсць. Але не адзін кіраўнік павінен так працаваць, а ўвесь калектыў — ад дырэктара і спецыялістаў да выканаўцаў, простых работнікаў.

— Як у вас атрымліваецца кіраваць працэсамі і рэсурсамі? Што вы робіце, калі нешта не спрацоўвае, нешта зламалася, некім немагчыма кіраваць, нехта не выйшаў на працу? Як вы мабілізуеце і матывуеце?

— Дысцыпліна павінна існаваць апрыёры — тады кіраваць лёгка. Але ўсё можа быць, і ўсё было за гэтыя гады кіравання, асабліва на самым пачатку: і п'янства, і неразуменне, і нежаданне працаваць — але гэта ў мінулым. Як трымаецца дысцыпліна? Яна ў нас прывязана да матэрыяльнага боку: працуеш кепска — прэміяльнага ўзнагароджвання не атрымаеш, зусім не працуеш — развітаемся без шкадавання. Грошы мы не праядаем, а ўкладаем у вытворчасць, аплату працы ўвязваем з аб'ёмам выручкі і тэмпамі росту прадукцыйнасці працы. Калі з гэтым паказчыкам яе не ўвязваць, а толькі павышаць зарплату, можна зайсці ў тупік.

На такіх дысцыпліне і прынцыповасці, сумленнасці і адказнасці трымаецца тут усё. Тыя з супрацоўнікаў, хто не захацеў развітацца з месцам працы з-за п'янства, прынялі валявое рашэнне закадзіравацца і цяпер паспяхова працуюць без злоўжывання. Значыць, размова ідзе яшчэ і пра выхаванне асобы, выраўноўванне жыццёвага шляху.

Тым часам дырэктар працягвае абвяргаць паняцце «праблемы».

— Яны ўзнікаюць штодзённа: тут тэхніка выйшла са строю, там нешта недапрацавалі, тут перакармілі, там недакармілі, але гэта не праблемы — гэта працоўны працэс. Невырашальнае — не існуе. Нейкія сапраўды вялікія цяжкасці, калі ўзнікаюць, ліквідуюцца пры падтрымцы дзяржавы. А дробныя мы не выносім нікуды, спраўляемся з імі і рухаемся далей.

— А, мабыць, кожная гаспадарка хоча мець ганаровы кубак і лепшыя дасягненні, але кубак гэты — у вас, і дасягненні — спрэс вашы. Вы задавалі сабе пытанне: чаму?

— Канечне. І адказ даў такі: галоўную ролю іграюць кадры. Я маю на ўвазе не толькі спецыялістаў, але і радавых — жывёлаводаў і механізатараў. З нашым балам пашні — усяго 29, з той камяністасцю глебы, якую мы маем, — да 15—27 метраў кубічных, нам трэба працаваць больш чым каму іншаму, бо такія ўмовы ствараюць дадатковыя цяжкасці ў час працы: тэхніка на камені ламаецца, і мы, зразумела, губляем у тэмпах. Камень, безумоўна, збіраем, але ён «расце». І ўсе нашы дасягненні можна тлумачыць толькі прафесіяналізмам, узроўнем ведаў, майстэрствам людзей. Некалі ўдой на карову складаў 1 950 літраў у год, а летась мы выйшлі на больш чым 8 000 літраў. Калісьці ўраджайнасць збожжавых складала да 27 цэнтнераў з гектара, а сёння — 45 і нават 50. Бульбы летась накапалі 365 цэнтнераў з гекта-

ра, цукровых буракоў — 500 цэнтнераў з гектара. Узраслі і прывесы: калі раней сяррэднесутачны прырост жывой масы буйной рагатай жывёлы складаў 300—400 грамаў, то сёння мы выйшлі на 600 грамаў. Тут адыгрывае ролю і паляпшэнне кармавой базы, і селекцыйна-племянная праца: за гэты перыяд мы амаль цалкам аднавілі пароду кароў — перайшлі з галандскай чорна-пярэстай на канадскіх галштынаў. Але галоўнае — менавіта людзі, іх праца.

Дарэмна мне ўяўлялася, што, кажучы так пра кадры, дырэктар ААТ «Баравое-2003» па маёй просьбе раскажа пра свой вопыт у іх падборы, распавядзе пра «фільтры» пры прыёме на работу, казырне «спрактыкаваным вокам»… Усё нашмат прасцей і правільней: кіраўнік гэтай гаспадаркі здолеў атрымаць, па сутнасці, новы калектыў, не памяняўшы персанальны склад супрацоўнікаў, а нацэліўшы кожнага на прынцыпова новы падыход да працы. Такім чынам, калектыў захаваўся, але можна сказаць, што ён змяніўся.

— Кадры ў нас у большасці сваёй, з якімі і пачыналі, — працягвае Рыгор Іванавіч. — Хіба што на змену тым, хто пайшоў на пенсію, прыйшлі маладыя. Але, нягледзячы на ўзрост, гэта ўсё людзі разумныя. Іншымі словамі, яны — дастойная замена тых прафесіяналаў, я нават сказаў бы, фанатыкаў сваёй справы, з якімі мы здолелі зрушыць усё з мёртвай кропкі. Убачыўшы ўзровень развіцця, дасягнуты папярэднікамі, моладзь выдатна ўсведамляе, чаго ад яе чакаюць. Гэта ўсведамленне і дае ўсім патрэбныя вынікі.

Разам з прыходам ў калектыў новых людзей адбываюцца і змены ў колькасным складзе. Працэс гэты непазбежны, звязаны з сучаснымі тэхналогіямі. Паводле даных, прадастаўленых намеснікам дырэктара па эканоміцы Іванам Бокачам, нягледзячы на прырост і ўгоддзяў, і пагалоўя, і ураджайнасці, і надояў фактычна ў чатыры разы, колькасць работнікаў — вось парадокс — паменшылася ў паўтара раза. Тлумачыцца гэта проста. Параўнаем, да прыкладу, звычайную, старога ўзору малочна-таварную ферму з сучасным высокатэхналагічным малочна-таварным комплексам: на першай на аднаго аператара машыннага даення прыпадае 50 кароў, значыць, той статак у 600 галоў, які стаіць сёння на другой, сучаснай, павінны былі б абслугоўваць каля 12 даярак. А колькі іх там працуе насамрэч? Падрыхтуйцеся ўразіцца: з усімі шасцю сотнямі галштынаў (галштынак, відаць, было б правільней) спраўляюцца чатыры чалавекі. І нават так сказаць не вельмі правільна: на змене працуе толькі два аператары. Плюс адзін слесар на змену. Такім чынам, увесь штат супрацоўнікаў новага комплекса — шэсць чалавек.



Ангар-кароўнік са шкляным празрыстым дахам.

## Тэхналогія ёсць тэхналогія — яе паважаць трэба, а не прыпадабняцца да саматужнікаў

Часам пачутыя фразы надоўга застаюцца ў галаве. Незлічонымі віхурамі думак, якімі пракладваецца ў свядомасці шлях да разумення чарговай ісціны. Часцей так адбываецца ў тым выпадку, калі ты з суразмоўцам на адной хвалі. У запісе інтэрв'ю шмат агульнага з праглядам мастацкага фільма: да таго часу табе цікава глядзець на экран, пакуль атаясамліваеш сябе з героем, да таго часу ў цябе не заканчваюцца пытанні да суразмоўцы, пакуль ёсць пытанні да самога сябе.

— Вы вось сказалі, што варта проста шмат працаваць, — і рух наперад будзе забяспечаны. Але ж хіба не здараюцца дні, калі ад стомленасці ці часовых няўдач вы не ведаеце, як быць далей? І апускаюцца рукі. Якія спосабы псіхалагічнага самаўзнаўлення выкарыстоўваеце? Што вам дапамагае?

— Каб апускаліся рукі — так у мяне не бывае. Гэта ўжо называецца панікай, і гэта недапушчальна, як і паказваць іншым тое, што ты ў нечым слабы або не ведаеш, што рабіць. Але я разумею, пра што пытанне. Унутранае напружанне прысутнічае, можна сказаць, пастаянна. Але на гэтым фоне настрою на апусканне рук у мяне ніколі не бывае. А калі недзе нешта не так, трэба проста выехаць у поле, прайсціся — і ўсё пройдзе.

Тое самае можа сказаць і намеснік дырэктара па раслінаводстве Віктар Курыцкі, які яшчэ распавядзе пра палі і ўласцівасць трымаць у памяці, што на якім полі пасеяна і пасаджана. Месца працы людзей, пра якіх набіраў на пішучай машынцы свае маляўнічыя нарысы на паўстагоддзя раней за мяне калега Сцяпан Кухараў і будуць набіраць на клавіятуры або якім-небудзь новым, дасюль невядомым спосабам калегі, якія яшчэ народзяцца, даволі нестандартнае. У адрозненне ад большасці, для якой яно абмежавана сценамі офіса, пісьмовым сталом, месцам ля станка або нейкай іншай плошчай, яны, і стоячы ў полі, раскінутым на цэлыя гектары, і пад ясным сонцам, і пад загадкавым месяцам — на працы. Пра месяц стане больш зразумелым пасля, калі будзем весці размову на тэму працягласці працоўнага дня.

Мне раптам захацелася спытаць, якія прадукты трэба набыць у краме, каб судакрануцца з тым, што вырошчваецца, выпешчваецца, надойваецца і абмалочваецца ў ваколіцах аграгарадка Баравое.

— Калі пералічваць па накірунках, то ў жывёлагадоўлі гэта малочны і мясны, прычым мы спецыялізуемся выключна на буйной рагатай жывёле; у раслінаводстве стаўка робіцца на збожжа — галоўным чынам пшаніцу і ячмень, а таксама кармы для жывёлы — сена і зялёную масу. На другім месцы ў спісе стратэгічных раслін — цукровыя буракі, далей ідуць бульба і рапс.

На пытанне, якія прадпрыемствы прымаюць тое, што выраблясцца намаганнямі калектыву адкрытага акцыянернага таварыства, я атрымала такія адказы: малако два разы на суткі агульным аб’ёмам 35 тон адгружаецца ў Мінск, на гарадскі малочны завод №1. Гэта значыць, што глазураваныя сыркі з бялявай дзяўчынкай на абгортцы, ванільны пудынг «Мінскі», плаўленыя сыры «Сфінкс», маянэз «Славянскі», тварожныя дэсерты «Венскі сняданак», сыры і ёгурты пад назвай «Арысцей», кефір «Траецкі», малако, смятана і сметанковае масла пад брэндамі «Мінская марка», «Малочная краіна» і «Славянскія традыцыі», а таксама процьма іншых смачных рэчаў маюць у сабе даволі істотную частку слаўнай працы тых, пра каго я тут зараз пішу. Мяса, выгадаванае імі, можна пакаштаваць, купляючы каўбасы, сасіскі, сардэлькі, шпікачкі, вяндліну, паштэты, пельмені і іншую прадукцыю Мінскага і Стаўбцоўскага мясакамбінатаў. Вырашчаныя на тутэйшых палетках цукровыя буракіператвараюцца ў цукар на Гарадзейскім цукровым камбінаце і могуць трапіць у нашы кухні і сталовыя не толькі ў выглядзе пяску ці пудры, але і кубікамі, і ў форме «брыдж», і нават ледзянцамі на палачках.

— І нічога вы мяняць не збіраецеся? Маю на ўвазе вытворчасць: ніякія новыя жывёлы ці культуры не плануюцца? А асвоіць перапрацоўку?

Чалавеку «збоку» паспяховае прадпрыемства здаецца ўсёмагутным і ўсюдыісным. Так і бачыцца, як яго лагатып асвойвае глыбіні Сусвету.

— Ніколі нельга сказаць наперад, што будзе заўтра ці паслязаўтра, — адказвае Рыгор Іванавіч. — Але пра перапрацоўку я адразу скажу: гэта вельмі ўсталяваная ніша, у якую цяжка ўвайсці навічку, каб не пацярпець паражэнне, а раскруціцца. Дробнай перапрацоўкай увогуле няма сэнсу займацца. Гэта і затраты, і тэхналогія ёсць тэхналогія — яе паважаць трэба, а не прыпадабняцца да саматужнікаў. Наш шлях — далей павялічваць аб’ёмы вытворчасці таварнай прадукцыі. Але хто ведае… Нельга сказаць, што мы не захочам калі-небудзь паставіць, да прыкладу, сырны заводзік.

## Працуеш і працаваць хочацца

Адзін амерыканскі рэдактар (ён жыў паўтара стагоддзя таму, яго звалі Эдгар Хау) казаў, што вясковец, нават калі вырашыць дзень пралайдачыць, усё роўна ўстане з пеўнямі — каб

пачаць гэтую справу як мага раней. Сваю размову з намеснікам дырэктара па раслінаводстве Віктарам Курыцкім і намеснікам дырэктара па жывёлагадоўлі Васілём Апанасовічам я пачынаю з пытання пра тое, чым поўніцца тыповы працоўны дзень кожнага. Выказваю дзве версіі яго пачатку: з планёркі? з аб'езду-агляду аб'ектаў? Другая спроба аказваецца паспяховай: тыповы дзень кіраўнікоў раслінаводчай і жывёлагадоўчай службаў пачынаецца з аб'езду адпаведна палёў і ферм — з мэтай ацаніць бягучую сітуацыю, каб пасля на планёрцы, нязменна штодзённай, узняць і вырашыць усе пытанні — бягучыя, вытворчыя, набалелыя. Планёрка — увага! — пачынаецца без чвэрці сем. Гарадскога чытача гэта павінна ўразіць: калі планёрка пачынаецца ў такі час, а ёй папярэднічае аб'езд аб'ектаў, якія, між іншым, раскіданы адзін ад аднаго на адлегласці, і немалой, то на які ж час наводзяць будзільнікі спецыялісты і радавыя работнікі?

— Прачынаемся а чацвёртай, — адказвае Васіль Апанасовіч.

У гэты час вытворча-тэхналагічны працэс у жывёлагадоўлі — першая дойка — ужо пачынаецца. Доўжыцца да дзевяці, але да планёркі Васіль Фёдаравіч аб'язджае ўсе ўчасткі, бачыць усе праблемы і на планёрцы іх абгаворвае і вырашае цягам працоўнага дня.

Напісала «працоўнага» — і падумала, што лепш напісаць проста «дня», бо працоўны дзень ці светлавы — няма тут ніякай розніцы. Хочаце, дакажу? Лёгка, адным пытаннем.

— А заканчваецца працоўны дзень а якой гадзіне?

— Не раней чым за гадзіну да поўначы, зноў аб'ездам, то бок, кантролем, адказамі на пытанні: што за дзень адбывалася, як вырашалася?

Васіль Фёдаравіч ведае на гэты момант лічбу надою малака за прабеглыя суткі. І так з дня ў дзень. Галоўнае — лічбы растуць! Гэта вельмі радуе: калі ўчора было добра, а сёння яшчэ лепш, то заўтра мусіць быць проста выдатна. Тое самае і ў мясной вытворчасці: узважваюць жывёлу раз на месяц і адразу ж выводзяць паказчык сярэднесутачнага прывесу — аказваецца, што было, напрыклад, 650 грамаў, а стала 700. Калі ўсё ўгору, а не пад гару, то…

— Працуеш і працаваць хочацца, — кажа Васіль Фёдаравіч, і думаецца, што супадае тут не толькі працоўны і светлавы дзень, але і прафесійнае з асабістым — спалучаючы лепшае ў лепшай форме…

— А чаго ў сельскай гаспадарцы больш — рамантыкі, прагматыкі, цяжкай працы, руціны?

У тым, што хапае ў ёй і першага, і другога, і трэцяга, і чацвёртага, я нават не сумняваюся. Мне хочацца ведаць, што бачаць у сельскай працы тыя, хто аддаў ёй ужо па тры дзясяткі гадоў кожны.

— Усё разам і можна назваць. Але чаго больш, чаго менш… Дзень на дзень не трапляе, — адказвае Віктар Курыцкі. — Адно можна сказаць дакладна: рамантыкі вельмі мала.

Вохці мне! Мо яе ўсё ж дастаткова, але яна ўжо не так фіксуецца свядомасцю, як гэта было напачатку і як гэта бачыцца збоку? Прынамсі, Віктар Іосіфавіч ахвотна пагаджаецца з маёй версіяй, апраўдваючы свой папярэдні адказ тым, што ўсе думкі скіроўваюцца ў бок вытворчасці — тэхналогій, прыбыткаў, паказчыкаў эфектыўнасці…

— …каб ні застою, ні прастою. Галоўнае — праца, а ў працы галоўнае — эфектыўнасць. Усё павінна быць праведзена так, каб затраты былі мінімальныя, а вынікі максімальныя.

Нейкі Лоранс Пітэр, вядомы сваімі дасціпнасцямі, некаторыя з якіхператварыліся ў асноўныя прынцыпы менеджмента, назваў эканоміку мастацтвам задавальнення бязмежных патрабаванняў пры дапамозе абмежаваных рэсурсаў. Здаецца, Віктар Іосіфавіч кажа пра тое ж самае. Спяшаючыся ў поле, ён затрымаўся дзеля некалькіх маіх пытанняў, з якіх, бадай, самае нетыповае — пра колькасць палёў. Мне, прызнацца, і сорамна было яго задаваць (усё ж яно не пра бал пашні), але сорам перамагла цікаўнасць.

— Ці можна іх увогуле палічыць?

Аказалася, можна.

— Каля чатырох соцень палёў, — кажа намеснік дырэктара па раслінаводстве, і, відаць, баючыся, што лічба можа не выклікаць у мяне даверу (яна сапраўды ўразіла), удакладняе: — Справа ў тым, што палі ў нас дробнаконтурныя, з-за гэтага іх так шмат. Раскіданыя не толькі на вялікіх плошчах, але на вялікіх адлегласцях адно ад аднаго. У спадчыну ад іншых гаспадарак мы атрымалі землі, да якіх каля 35 кіламетраў, пад самы Мінск трэба ехаць…

Як часта здараецца, адно пытанне нараджае наступнае, і так хутка, што не паспяваеш атрымаць адказ на першае, як спяшаешся ўжо задаць

другое. Гэта, я мяркую, сведчыць толькі пра тое, што тэма цікавая. Застаецца спадзявацца, што і для чытача таксама.

— А як вырашаецца, што на якім полі сёлета неабходна пасадзіць?

Пра севазварот як навукова абгрунтаванае чаргаванне сельгаскультур я ведаю, але толькі прыблізна. Мабыць, ён мае не адну формулу.

— Так, сапраўды. І падыходы мяняюцца. Але, напрыклад, бульба вернецца на старое месца не раней як праз пяць гадоў. Цукровыя буракі таксама некалі самае малое праз пяць гадоў вярталіся, але прагрэс ідзе — па новых правілах іх можна вяртаць праз тры гады. Але я прытрымліваюся класічных падыходаў і маю свае сакрэты, якія пакуль нікому не выдаю. Ды і поспех залежыць ад збегу фактараў, і часам праводзіцца ракіроўка з папраўкай на знешнія ўмовы. Але гэта рэдка, часцей жа севазварот павінен быць такі, як запланавана: пад кожную культуру ёсць свой папярэднік, які найбольш эфектыўна спрацуе на будучы ўраджай. Гэтага трэба прытрымлівацца.

— Як хутка ўдаецца ўкласці ў галаву, што на якім полі з чатырохсот пасаджана і пасеяна? Гэта ж кожны год новая памяць!

— Пакуль што ўсё добра ўтрымліваецца. Як тэлефон свой я не выкарыстоўваю ў якасці даведніка, а набіраю ўсе нумары па памяці, так і з пасевамі. Некалі мой бацька, які працаваў у гэтай жа гаспадарцы інжынерам, ажно да 78 гадоў усю нумарацыю падшыпнікаў памятаў, нічога нідзе не запісваючы.

Выказваю ўпэўненасць, што чым большыя аб'ёмы інфармацыі трымаюцца ў галаве, тым даўжэй гэтая опцыя будзе дзейнічаць.

Ідэал, да якога імкнецца галоўны спецыяліст гаспадаркі ў галіне раслінаводства, складаецца з дзвюх разнапланавых частак: павышэнне ўраджайнасці пасеваў і павышэнне добразычлівасці сярод людзей.

— Час цяпер агрэсіўны, — кажа Віктар Іосіфавіч. — Раней людзі больш усміхаліся і смяяліся, а цяпер — напружаныя. Да таго ж кожны чалавек — гэта асоба, да якой патрэбны тонкі псіхалагічны падыход. Хочацца больш дабрыні, цяпла і здароўя для кожнага.

І такая далікатнасць назіраецца ў брутальнай галіне — сельскай гаспадарцы.

І вось пра што мне яшчэ хочацца напісаць. Раней жніво было гарачай парой, бо насамрэч было пакутай. Тэхнікі не хапала, у кабіне камбайна разлівалася спёка, у вочы камбайнера ляцеў пыл… Цяпер жа — наколькі камбайнер пакутуе? Ці можна жніво называць, як раней, гарачай парой?

— Вы маеце рацыю: камбайны абсталяваныя кандыцыянерамі, а колькасці іх дастаткова, каб працаваць спакойна, упэўнена, без мітусні, атрымліваючы маральнае і матэрыяльнае задавальненне. Цяпер уборка ўраджаю — гэта звычайны тэхналагічны працэс, дзе ўсё ў сваю чаргу і без панікі.

Псіхолаг адразу заўважыць, што на першым месцы стаіць маральнае задавальненне, а не матэрыяльнае. Я таксама заўважыла і акцэнтую ўвагу чытача на сваім назіранні і на поўнай упэўненасці гэтых людзей у важнасці сваёй справы, на іх спакоі, раўнавазе, разважлівасці… Гэта, спадарства, вёска. Сельская гаспадарка.

## Мы можам трымаць сваю гаспадарку, а ў гараджан могуць здарыцца чатыры выхадныя запар

«Адзіны сродак утрымаць дзяржаву ў стане незалежнасці ад каго б там ні было — гэта сельская гаспадарка. Валодай вы хоць усімі скарбамі свету, калі вам няма чаго есці — вы залежыце ад іншых… Гандаль стварае дабрабыт, але толькі сельская гаспадарка забяспечвае свабоду». Гэта Жан Жак Русо, і гэта ўжо вельмі сур'ёзна.

Я ў кабінеце, дзе пра ўсіх і ўсё гавораць лічбы. Намеснік дырэктара па эканоміцы Іван Бокач прыводзіць для параўнання паказчыкі 1993 і 2016 гадоў. Плошча сельгасугоддзяў (а гэта адна з найважнейшых характарыстык) павялічылася ў 1,8 раза. Плошча раллі — у 1,9 раза. І ўсё шляхам далучэння зямель нізкарэнтабельных гаспадарак, якія падзялілі паміж сабой больш моцныя. Ураджайнасць збожжавых культур узрасла ў 1,6 раза, бульбы — у 4,3 раза, кукурузы (зялёнай масы) — у 1,5 раза. Сена, сянаж і сілас (іх можна аб'яднаць у адзін пункт «нарыхтоўка кармоў на зімовы стойлавы перыяд») — у 6,2 раза. Валавы надой малака — у 6,7 раза. Прывес жывой масы — у 4,2 раза. Продаж малака — у 7,5 раза, про-

даж мяса — у 4,7 раза. Надой на адну карову — у 3,3 раза. Сярэднесутачны прывес — амаль у 2 разы. Пагалоўе буйной рагатай жывёлы — у 2,3 раза, у тым ліку кароў — у 2 разы. Якасць прадукцыі, безумоўна, таксама палепшылася. Гэта мне здаецца лагічным: калі жывёлы прырастаюць у вазе, то і мяса іх робіцца лепшым. Калі больш надойваецца малака ад каровы, то і тлустасць яго павялічваецца.

Я ўжо напісала, што за гэты перыяд колькасць работнікаў паменшылася ў паўтара раза, то бок, усе гэтыя аптымістычныя паказчыкі дасягнуты з дапамогай меншых чалавечых рэсурсаў, што, безумоўна, сведчыць пра больш эфектыўную працу кожнага і асваенне новых тэхналогій — гэта не пашкодзіць паўтарыць.

За такі ж перыяд спажыванне электраэнергіі ўзрасло ўсяго ў 1,2 раза. І толькі ў 1,7 раза больш, чым раней, спажываецца бензіну і дызельнага паліва, разам узятых. Такім чынам, значныя поспехі суправаджаюцца нязначным расходам электраэнергіі і светлых нафтапрадуктаў (паўтараю гэты прафесійны тэрмін за Іванам Іванавічам). Эканомія забяспечана выкарыстаннем высокіх тэхналогій і энергазберагальных рэсурсаў.

Пасля прагляду аркуша з вышэйназванымі лічбамі, так дакладна выпісанымі Іванам Іванавічам, задаю яму сваё першае пытанне:



— Як вы ставіцеся да грошай?

— Пытанне цяжкае, — адказвае галоўны «скарбнік» гаспадаркі. — Грошы бываюць розныя. Грошы прадпрыемства — адно, грошы работніка — другое, асабістыя — трэцяе. Да грошай работніка імкнуся ставіцца з аднаго боку прынцыпова, з другога — раўнадушна, без зайздрасці. Галоўнае, каб яны былі атрыманы за справу, — тады вельмі радасна за чалавека. Грошы гаспадаркі… Практычна ўсе нашы спецыялісты думаюць пра тое, каб іх станавілася ў касе ўсё больш і больш, і кожны для гэтага нешта робіць, імкнучыся купіць танней, але не губляючы ў якасці, а прадаць як мага даражэй. Мы не ўсёмагутныя, не заўсёды можам ажыццяўляць куплю-продаж з найбольшай для сябе выгадай, але галоўнае, што мы працуем згуртавана і на адзін, агульны для ўсіх, вынік.

— Ці дапамагаюць прафесійныя эканамічныя веды ў асабістых фінансавых пытаннях?

— Баланс даходаў і расходаў ні ў сям'і, ні ў працы ніхто не адменіць, а эканамісту лічыць грошы, бясспрэчна, лягчэй. Я увогуле не задумваўся, ці выкарыстоўваю прафесійны падыход адносна сямейнага кашалька, але мо таму і не задумваўся, што гэта адбываецца аўтаматычна, без штучных намаганняў. Хаця, канечне, не заўсёды. Калі госці ў хаце, эканоміць ужо не даводзіцца.

— А чаму вы абралі эканамічную спецыяльнасць і чаму менавіта ў сельскай гаспадарцы?

Адказваючы на гэта пытанне, Іван Іванавіч адказаў і на наступнае, якое мне нават агучваць не давялося: пра людзей, чый жыццёвы і прафесійны прыклады сталі арыенцірамі.

— Эканамістам усё сваё жыццё працавала мая маці, яна набыла ў гэтай справе вялікі вопыт, які стаў для мяне і арыенцірам, і прыкла-

дам. Галоўнае, што назаўсёды паслужыла ўзорам, — тое, як мая маці ставілася да людзей і як людзі ставіліся да яе.

— Што для вас — жыццё ў вёсцы? Эканамістам жа можна быць і ў горадзе.

— Хто ведае… Вёска мне падабаецца. У горад жа добра з’ездзіць. Гараджанам я не зайздрошчу. Нашы з імі магчымасці ўраўнаважаныя: мы можам трымаць сваю гаспадарку, а ў гараджан могуць здарыцца чатыры выхадныя запар. У нас так не бывае ніколі. У міжсезонне можа надарыцца выхадны дзень, або ў свята раптам іх выпадзе ажно два запар, але на другі ўжо не ведаеш, куды сябе дзець. Куды свае выхадныя пускае гараджанін — не ведаю.

## Трэба, каб сёння было лепш, чым учора, заўтра — яшчэ лепш і гэтак далей

Добра было пытаць пра колькасць палеткаў — адказ атрымаўся цікавы і вельмі мяне ўразіў. А колькасць ферм? Сёння іх у гаспадарцы пяць, але гэта фермы двух тыпаў — ферма XXI стагоддзя (так яе ўсе называюць, з дойкай «паралель два на шаснаццаць») і ферма «як раней» (я яе так назвала, са звычайным малакапровадам). Новых — дзве, але гэта пакуль. Старых — тры, і таксама пакуль. Але гэтыя «пакуль» вельмі розныя: хутка замест трох ферм «як раней» з’явіцца адна — яшчэ адна ферма XXI стагоддзя, і тады ферм у гаспадарцы будзе ўсяго толькі тры. Але якія! Са шклянымі празрыстымі дахамі, прасторныя і ўтульныя. І кароўнік (я б сказала — ангар) тут адно — у ім кароўкі кормяцца і бавяць свой вольны час, а даільная зала іншае — іншае памяшканне, у якое яны трапляюць праз галерэю, каб быць па чарзе падоенымі пад кантролем камп’ютара.

Каровы на такіх фермах круглы год знаходзяцца ў памяшканні. Атрымліваецца, хутка не ўбачыш, праязджаючы ўздоўж палеткаў, ніякіх статкаў. З іншага боку, што ім, статкам, ля дарогі рабіць? Але ж калі карова не будзе бачыць траву — як тая расце пад сонцам, калі не будзе яе пад гэтым жа сонцам скубці, то ці не памяняецца калі-небудзь яе ДНК? Заклапочаная гэтымі разважаннямі, выказваю іх намесніку дырэктара па жывёлагадоўлі.

— Каб яны зусім не бачылі сонца і не скублі траву — так не бывае, — адказвае Васіль Апанасовіч. — У іх рэжым свабоднага перамяшчэння: хочуць — у памяшканні знаходзяцца, хочуць — выходзяць на вольнае паветра, выгульваюцца ў загонах з зялёнай травой. Розніца толькі ў тым, што гэта не паша. На ферме яны харчуюцца паўнавартасна: ядуць шматкампанентную ежу, збалансаваныя кормасумесі, якія рыхтуюцца тут жа, на ферме, з сіласу, сенажу, канцэнтратаў, прэміксаў, макра- і мікраэлементаў. Рацыён разлічваецца на камп’ютары. Вада, якую яны п’юць, ачышчаецца фільтрамі.

Стаіць цёплы дзень. Васіль Фёдаравіч звяртае маю ўвагу на вокны ангара-кароўніка: ніякага шкла няма — ветрык прыемна гуляе. Аказваецца, шкло і не прадугледжана: калі ветрык разгуляецца занадта, вокны будуць зацягнуты спецыяльнымі «шторамі».

Ідзём далей — у даільную залу. Васіль Фёдаравіч расказвае, як малако ідзе па трубах, як напампоўваецца ў халадзільнік і адразу там ахалоджваецца да 4 градусаў (на пульце ёсць табло, дзе высвечваецца тэмпература). Каб яго працадзіць, на шляху да халадзільніка ўсталяваны два фільтры. З халадзільніка два разы ў суткі, раніцай і ў абед цэнтравывазам з малочнага завода малако забіраецца і дастаўляецца ў цыстэрнах туды, дзе ператвараецца ў смятану, тварог і масла, глазураваныя сырочкі і ёгурты, сыр і кефір — у тое, без чаго мы не ўяўляем сабе ніводзін звычайны дзень.

— Пра што вы марыце? — пытаю ў Васіля Фёдаравіча.

— Асабіста я мару, каб вытворчыя паказчыкі ў жывёлагадоўлі з года ў год павышаліся, — адказвае ён. — Бо з імі павышаецца дабрабыт работнікаў, іх зарплата, а значыць, настрой, — ад настрою ж павышаецца прадукцыйнасць. Некаторыя гаспадаркі надойваюць ужо і 10 000, і 12 000 літраў у год на карову, а мы яшчэ толькі 8 000 — нам ёсць яшчэ куды рухацца. Трэба, каб сёння было лепш, чым учора, заўтра — яшчэ лепш і гэтак далей. На гэта не шкада ні сіл, ні настрою, ні намаганняў.

*Тэкст і фота: Святлана ВОЦІНАВА*

*ААТ «Баравое-2003»*

*УНП 600112662*

Да 500-годдзя беларускага кнігадрукавання

# праект

# «ВАРШТАТ»

**Стагоддзі:** XVII – XIX

**З’ява:** друкаваная сатырычная кніга

**Акалічнасці:** дыстрыбʼюцыя, прэзентацыя, асартымент, канкурэнцыя, цэнзура, рэвізія і таемныя чытанні ў Мінску друкарскім — прыватным і губернскім.

**Выдаўцы:** Іван Стафановіч, Ігнат Легатовіч і Зымель Прэс, Гершон Бланштэйн, браты Бейліны — Гірш і Сымон, Ёкель Дворац, літограф пан Фальк і іншыя.

**У выпуску:**

- Ларыса Доўнар. Абразкі з кніжнага жыцця Мінска.
- Унікальны помнік смехавой літаратуры XVII стагоддзя *«Суплікацыя Віленскага збору да гера Марціна Лютэра за Кс[яндза] Мікалая Бурхарда, свайго міністра, які ў суботу, лезучы па курэй, зваліўся з драбіны і меў гонар зламаць шыю»* ў перакладзе са старапольскай мовы Ірыны Зімневай з прадмовай Уладзіміра Кароткага і з ілюстрацыямі XVII стагоддзя.



м чте ю тгьфі

Ларыса Доўнар

# Абразкі з кніжнага жыцця Мінска

## Кніга, якую мы шукаем, каб быць не горшымі

Раскрыць таямніцу нараджэння друкаванай кнігі ў Мінску здаецца вельмі проста. Дастаткова ўзяць добра вядомую «чырвоную» «Кнігу Беларусі, 1517—1917», «пайсці» следам за геаграфічнай падказкай «Минск» — і ўсё будзе зразумела: выданне 1622 года — «*Казанье на чиненю памяти по зешлом его милости пану Александрови Федоровичу Шептицком, през отца Павла Домжива Лютковича игумена менского отправованое месяца декабря 20 в року 1622*» — і ёсць адказ, але сумненні застануцца, бо не ўказаў дакладна друкар дзе, у якім месцы адціснуў ён сваё «Казанне». Хоць сувязь з месцам ёсць. «Казанне» выдаў першы ігумен праваслаўнага Петра-Паўлаўскага манастыра ў Мінску Павел Дамжыў Лютковіч († каля 1634 г.), які ажыццяўляў выдавецкую дзейнасць спачатку ў Вільні і Еўі, а пазней на Львоўшчыне і Валыні і меў «пры сабе» ўласны друкарскі станок. У Мінску ў 1611—1617 гадах ён займаўся ўзвядзеннем праваслаўнага манастыра, арганізацыяй дзейнасці брацтва, пасля ўзначаліў яго школу. Гісторыкі таксама сцвярджаюць, што ў 1613 годзе праваслаўнае брацтва Іаана Хрысціцеля пры Петра-Паўлаўскім манастыры ўзнавіла ў горадзе дзейнасць праваслаўнай трохкласнай брацкай школы, адкрыла друкарню і шпіталь. Прыкладна ў гэты самы час і ўніяты, якія заснавалі ў Мінску Свята-Духаў мужчынскі кляштар і адкрылі духоўную семінарыю (каля 1615 г.), маглі займець уласную друкарню ў 1616 годзе ці пазней — каля 1650 года. Інакш кажучы, і праваслаўныя, і уніяты маглі «паставіць на ўзбраенне» горада друкаванае слова. Цалкам верагодным выглядае нараджэнне друкаванай кнігі ў Мінску ў першай палове XVII стагоддзя, бо такая кніга была патрэбна найперш для навучання, правядзення царкоўных службаў і палемікі, а таксама для кіравання горадам.

Толькі шэраг цяжкіх выпрабаванняў, якія абрынуліся на Мінск, пачынаючы з другой паловы XVII стагоддзя, не пакінулі і знака ад гэтага друкарскага следу, акрамя здагадак: падчас руска-польскай вайны 1654—1667 гадоў горад быў амаль цалкам разбураны, Вялікая Паўночная вайна са шведамі ў 1700—1721 гадах зноў прынесла рабаванні і спусташэнні, у пажары 1762 года выгарала цэнтральная частка Мінска, а разам з будынкамі згарэлі і кнігі з па-над стагадовай гісторыяй горада…

Жыццё аднак паступова прабілася і скрозь попел, вяртаючы мінчукам жаданне быць не горшымі хоць бы за Вільню ці Гародню, а мо нават і Варшаву, у якія найперш цяпер накіроўваліся, каб задаволіць мясцовыя патрэбы і шляхетныя амбіцыі ў друкаваным слове. Як гэта і зрабіў вядомы пісьменнік з Міншчыны *Ігнат Быкоўскі* (1750—1819), паручнік расійскіх войск, што свае мастацкія творы і пераклады на польскую мову пачаў друкаваць у Гродзенскай Каралеўскай друкарні (w drukarni Jego Królewskiej Mości) і ў варшаўскіх друкарнях *Міхала Гроля* (w Drukarni J. K. M. i Rzplitey uprzywileiowaney Gröllowskiey) —

### Пра незразумелыя літаркі на вокладцы праекта «Варштат»

*З нумара ў нумар, ад студзеня да снежня 2017-га на вокладцы сур'ёзнага праекта, прысвечанага значнай даце, размяшчаецца абракадабра?!*

*Ніякая не абракадабра, а… арбадакарба. Бааракадрба. Аьматацаьма. F,hfrflf,hf. Бвсблбебвсб. Што мы выкарысталі для зашыфроўкі такога простага слова «абракадабра» — тарабарскую грамату, мудрую літарэю, шыфр пад назвай ROT1, іншыя перастановачныя ключы?*

*На вокладцы нашага праекта размяшчаецца не абракадабра, а зашыфраваная частка выказвання. Займець цэлы зашыфраваны выраз магчыма толькі пры чытанні ўсіх нумароў «Маладосці» за год. Сабраўшы часткі ў парадку, які супадае з нумарацыяй часопіса, знайшоўшы ключ і расшыфраваўшы выказванне, можна атрымаць ад «Маладосці» шыкоўны прыз!*

*Месца выдачы прызоў — рэдакцыя «Маладосці». Тэрмін выдачы: 25—31 снежня 2017 года.*



у 1787 годзе, *Пятра Дзюфура* (w drukarni P. Dufour) — у 1788 годзе. Вышэйназваныя друкарні былі аднымі з буйнейшых выдавецтваў свайго часу. Дарэчы, П. Дзюфур меў як вандроўных, так і стацыянарных дыстрыб'ютараў (у тым ліку ў Гародні), якія распаўсюджвалі яго выданні. Да Мінска дасягалі і кнігі знакамітага варшаўскага кнігагандляра і выдаўца *Міхала Гроля* (Michał Gröll). Магчыма, менавіта ў 1786 годзе І. Быкоўскі, прачытаўшы ў «Gazecie Warszawskiej» (у нумары 16 ад 22 лютага), даведаўся, «że skład Gröllowski różnego gatunku książek znajdować się będzie w Mińsku i Nowogródku podczas kontraktów tego roku odprawiać się mających», і змог заключыць дамову на друк свайго зборніка вершаў «Вясковыя вечары» («Wieczory wiejskie»), першая частка якога і выйшла ў гэтай друкарні ў 1787 годзе (другая — праз год у П. Дзюфура).

Нарэшце, калі наступіў 1790 год і браты-базыльяне законна абвясцілі аб нованараджэнні ў Мінску друкаванага слова, першымі з выданняў «*Drukarni J.K.M. XX. Bazylianów*» былі менавіта творы пісьменніка Ігната Быкоўскага. Адно з іх — уласна яго твор філасофскага зместу на польскай і лацінскай мовах — «Праблема, прапанаваная для вырашэння, ці Чым бывае душа больш усхвалявана, радасцю ці смуткам?» («Kwestya podana do rozwiązania, czyli Dusza bardziey bywa wzruszona przez roskosz; czyli też przez smutek?»). Як можна даведацца з кароткай абвесткі, змешчанай у гэтым выданні 1790 года, «<…> i inne dzieła tegoż Authora wkrótce wyidą z Druku». І сапраўды, у той жа самы год выйшаў яшчэ адзін твор І. Быкоўскага — пераклад з французскай мовы на польскую і адзіная мастацкая кніга мінскіх базыльян — «Батмендзі: аповесць персідская» («Batchmendy: powieść perska»), аўтарам якой быў французскі пісьменнік Жан-П'ер Клары дэ Фларыян (Jean-Pierre Claris de Florian, 1755—1794). Дарэчы, пераклад на рускую мову — «Батменди» — з'явіўся толькі ў 1819 годзе ў Пецярбургу. Не абышлося ў першы год базыльянскага кнігадрукавання ў Мінску і без рэлігійнага выдання — «Набажэнства да найсвяцейшага [сэрца Пана Езуса]»(«Nabożeństwo do nayswiętszego [serca Pana Jezusa]»), а ў наступныя чатыры гады асноўнамі сталі друкі прававой тэматыкі – пастановы сейма, урадавыя законы, Канстытуцыя 3 мая 1791 г., дэкларацыя, і, як відаць, сярод апошніх — «Данясенне Яна дэ Няплюеў» («Doniesienie Jana de Neplujew»), датаванае 1794 годам. У выніку пяцігадовай друкарскай дзейнасці мінскіх базыльян убачылі свет каля двух дзясяткаў выданняў, праўда, толькі палова з іх мае пацверджанае месца нараджэння. Тым не менш гэтыя базыльянскія выданні, бясспрэчна, мінскія старадрукі, з якіх пачала жыццё ў горадзе ўласна друкаваная кніга. У 1795 годзе Свята-Духаўскі базыльянскі кляштар у Мінску быў закрыты, базыльянская друкарня з яе абсталяваннем — адным друкарскім станком, шрыфтавым начыннем (з славянскімі і польскімі літарамі) і матэрыяламі для мастацкага аздаблення выданняў — перайшла ва ўласнасць губернскага праўлення, а, з'яўляючыся з гэтага часу Губернскай друкарняй, заставалася яшчэ больш за дзесяць гадоў адзінай у горадзе.

## Кніга, якую мы шукаем на шляхах да Горада

«Дажыць да вясны» азначала для мінчукоў дачакацца і вясновых кірмашоў — «кантрактаў». Тады абуджаліся і ажывалі шырокія тракты і бальшакі, брукаваныя гасцінцы і шляхі, упарадкоўваліся грэблі і альтанкі, пачыналі весела «гаманіць» нават вузкія сцежкі — усё станавілася (а зрэшты і было) адным вялікім рухам, адной дарогай. З «вялікага свету» траплялі ў Мінск і новыя друкаваныя кнігі, а перад імі «ляцелі» газеты — віленскія і варшаўскія, якія запрашалі ўсіх аматараў літаратуры і навукі наведаць кантрактавыя кірмашы ў Мінску.

Пра свае выдавецкія і кнігагандлёвыя навінкі для жыхароў Літвы і Беларусі часта нагадваў у сакавіцкіх ці нават лютаўскіх нумарах «Gazety Warszawskiej» і «Gazet Wileńskich» *Міхал Гроль*: «Księgarnia Gröllowska Warszawska uwiadamia Prześwietnie Publicum, iż na następujących kontraktach w Mińsku i Nowogródku znajdować się będą następujące nowo wyszle książki i pisma», пералічваючы некаторыя асабліва папулярныя выданні, сярод якіх «Uwagi obywatela w teraźniejszych okolicznościoch Polski», «Katechizm o tajemnicach rządu polskiego», «O niebiezpieczeństwie wagi politycznej».

У 1780—1790-я гады М. Гроль падтрымліваў цесныя кантакты з дзвюма віленскімі друкарнямі — *Друкарняй Віленскай акадэміі* і *Друкарняй ордэна піяраў*, якія мелі свае кнігарні (кнігарня езуіцкай акадэміі была заснавана яшчэ ў 1681 годзе), супрацоўнічаючы «na zasadzie komisu bądź wymiany księgarskiej». Таксама ў Вільні варшаўскі кнігагандляр распаўсюджваў сваю прадукцыю і праз прыватныя кнігарні *Ігнація Бушкевіча* і *пана Стажынскага*, куды ў выпадку неабходнасці маглі звяртацца і мінскія аматары кніг. Можна дапусціць, што М. Гроль меў пэўныя зносіны і з мінскімі кнігагандлярамі, адным з якіх мог быць *пан Гілевіч* (Gilewicz), «w sklepie» якога прадаваліся «za cenę mierną» і выданні мінскіх базыльян.

Патрэбы мясцовых калекцыянераў кніг задавальнялі выданні, прывезеныя як з замежных друкарняў, так і «osobliwie krajowych». Большасць з іх, што «docierali» Мінска, былі на польскай мове, напрыклад «Biblia sacra latino-polonica vulgate…» (Вроцлаў, 1771), «Akt unii kościołów protestanckich» (Дрэздэн, 1791), «Historia narodu polskiego» А. Нарушэвіча (Т. V—VIII. Варшава, 1784—1786), творы М. Т. Цыцэрона «O piwinnościach wszechstanów ludzi» ў перакладзе С. Кашуцкага (Вільня, 1766), «Gramatyka francuska krótko zebrana» (Вільня, 1784), «Księgi o stateczności» ў перакладзе Б. Буднага (Вільня, 1766), «Historia Indii Wschodnich» Т. Падлескага (Вільня, 1775), «Bajki» Ф. Д. Князьніна (Варшава, 1776), «Dobra gospodynia» (Кракаў, 1784), «Budowanie wiejskie» П. Світкоўскага (Варшава, 1793) і інш. Паводле кнігагандлёвых каталогаў рабіліся замовы на кнігі, і нават на тыя, што знаходзіліся яшчэ ў друку, як «Bajki wybrane Ezopa Frygijczyka z naukami moralnemi i wierszykami tudzież najpiękniejsze bajeczki Fedra i Filelfa, po polsku, francusku i po niemiecku» («w druku»). У асартыменце прадаваных кніг, акрамя мастацкіх твораў, былі навуковыя, вучэбныя, для самаадукацыі і вольнага часу; па гісторыі, рэлігіі, арыфметыцы, праву, геаграфіі, граматыцы — перакладныя і арыгінальныя, для дарослых і дзяцей, выдадзеныя ў краёвых і заходнееўрапейскіх друкарнях.

Аб разнастайнасці і сталай прысутнасці ў горадзе шматмоўнай кніжнай прадукцыі сведчыць складзены ў 1805 годзе і надрукаваны «Каталог кніг, якія знаходзяцца ў Мінску ў кнігарні *Антонія Мушыньскага*» («Katalog Xiąg znaydujących się w Mińsku w Xięgarni Antoniego Muszyńskiego»). У ім прадстаўлена больш за 560 найменняў для кнігагандлёвых прапаноў мясцовым аматарам навукі і чытання на польскай, французскай, нямецкай, рускай, лацінскай і англійскай мовах. Значная колькасць асартыменту гэтай кнігарні — мастацкія творы і рэлігійная літаратура. Адначасова запатрабаванымі і неабходнымі былі кнігі для вядзення гаспадаркі і агародніцтва, па педагогіцы, этыцы і маральнасці, гісторыі і палітыцы, праву, філасофіі, медыцыне, геаграфіі, астраноміі, батаніцы, матэматыцы, граматыцы; календары, ноты і інш. Меў пан Антоній у продажы і творы Ігната Быкоўскага, у тым ліку і надрукаваныя ў Мінску яшчэ базыльянамі ў 1790 годзе.

З пашырэннем попыту на кнігі павялічвалася і колькасць кнігароў, якіх у 1811 годзе, як паведамляў грамадзянскі губернатар Герман Іванавіч Родзінг, «находится в городе Минске три: мещанин *Адам Макаревич*, второй — мещанин *Фелициан Калиновский*, третий — шляхтич *Тадеуш Бильмин*, которые имеют по одной лавке для продажи книг». Таму, відаць, былі падставы і ў сучаснікаў, дарэчы, замежных, каб назваць Мінск «лучшим после Вильны городом в белорусско-литовском крае», у якім «среди жителей было много интеллигентных семейств, одинаково свободно объяснявшихся как по-французски, так и по-немецки».

## Кніга, якую мы павінны шукаць у Горадзе

Кніга, якая аднойчы з'явілася ў Мінску разам з пачаткам гісторыі горада, верагодна, не пазней XI—XII стагоддзяў, абжывалася тут, спачатку ўтвараючы княжацкія, царкоўныя і манастырскія кніжніцы; захоўваючы ў сабе Боскую мудрасць, пабуджала да яе спасціжэння і памнажэння мясцовымі кнігапісцамі; з цягам часу, пачынаючы з XIV—XVI стагоддзяў, набывала разнамоўны характар: у царкоўнаславянскую мову ўпляталіся беларускія словы, спасцігалася грэчаская, лацінская і старажытнаяўрэйская мовы, ствараліся польскамоўныя рукапісныя кнігі, кнігі на лацініцы і арабіцы, у якіх расчытваліся беларускамоўныя тэксты. Самае галоўнае, што ўсе гэтыя кнігі тут

разумелі, чыталі, па іх навучаліся, іх шанавалі і зберагалі і хрысціяне, і мусульмане, і іудзеі.

Багацце і разнастайнасць кніжных скарбаў Горада, якімі валодалі манастыры, цэрквы, семінарыі, гімназіі, вучэльні, таварыствы, публічныя бібліятэкі, а потым і прыватныя асобы, ацэньвалася грамадскасцю хутчэй за ўсё тады, калі ўжо страчвалася, як каштоўнасці мясцовага — нацыянальнага — пісьменства і друку, што збіралі тутэйшыя калекцыянеры, — рукапісныя кнігі XIV—XVI стагоддзяў, старадрукі другой паловы XVI—XVIII стагоддзяў у пергаменных аправах з Вільні, Супрасля, Нясвіжа, Брэста, Астрога, Мінска, у тым ліку і кнігі *Бібліі* Францыска Скарыны, *Статуты Вялікага Княства Літоўскага*. Сустракаліся ў мясцовых зборах еўрапейскія рарытэты: інкунабулы — першыя друкаваныя кнігі XV стагоддзя і палеатыпы — выданні пачатку — першай паловы XVI стагоддзя. Геаграфія кніжных выданняў, чытаных мінчукамі, сягала да найвыбітнейшых цэнтраў кнігадрукавання, якімі былі Амстэрдам, Антверпен, Базель, Варшава, Вена, Венецыя, Жэнева, Кракаў, Лейпцыг, Львоў, Люблін, Лондан, Майнц, Масква, Парыж, Пачаеў, Познань, Прага, Рым, Санкт-Пецярбург, Франкфурт і інш.

Мінск славіўся і знакамітымі калекцыянерамі. Гэта Дамінік Вітаноўскі, Ігнат Легатовіч, Юры Кабылінскі, Ісахар-Бер Бампі, Міхаіл Гаўсман, Генрых Татур, Аляксандр Смародскі, Андрэй Снітка, Сяргей Зубакін, кніжныя набыткі якіх сабраны былі адусюль і разышліся па свеце, склаўшы гонар не аднаму кнігазбору ці антыквару.

Лёс кніг вяршылі людзі — купляючы ці збіраючы — і вызначалі іх жыццёвы рух. У паступальным руху і развіцці знаходзілася і ўся кніжная справа Мінска на працягу XIX — пачатку XX стагоддзя, дзе ў цесным звязку выступалі кніжны гандаль, кнігазбіранне і кнігадрукаванне, якія лучылі не толькі ўнутраныя сувязі, а і адзінства з цэлым кніжным сусветам. Горад быў кропкай перасячэння і яднання кніжных інтарэсаў, месцам іх нараджэння і кніжнага жыцця, якое то заціхала, то абуджалася.

Такім зацішкам можа здацца мінскае кнігадрукаванне ў першыя гады панавання тут царскай улады, з 1795 да пачатку 1820-х гадоў, калі хоць і нешматлікая, але асноўная выдавецкая прадукцыя выпускалася ў *Мінскай губернскай друкарні*, колішняй базыльянскай, вытворчую «магутнасць» якой вызначалі два друкарскія варштаты: у 1798 годзе была «произведена переделка из словянских на гражданские <...> польских испортившихся литер, с умножением оных, и добавлением другого станка, купленного в Москве». Акрамя ўрадавых інструкцый і адозваў, рэлігійных казанняў і прамоў у Губернскай друкарні ў гэты час выйшла адносна значная колькасць кніг, прызначаных для навучання, для выкладчыкаў і навучэнцаў Мінскай гімназіі, як першае з іх — 1799 года — «Лёгкі спосаб навучыцца чытаць па-расійску і па-польску» («Łatwy sposób nauczenia się czytać po rossyisku y po polsku») ці наступныя — вучэбныя праграмы, напрыклад, «Змест навук <…> у Мінскай гімназіі для публічнай праверкі ведаў навучэнцаў гімназіі» («Treść nauk, dawanych w Gymnazyum Mińskiem <...> na popis publiczny uczniów tegoz Gymnazyum», 1810, 1818—1823). Было надрукавана і некалькі мастацкіх твораў на польскай мове: аповесць «Выпрабаванне кахання» («Miłość na doświadczeniu», 1797) — пераклад з французскай мовы; камедыя «Нагаворшчык» («Jabieda», 1808) Васілія Капніста — пераклад з рускай мовы М. Б. Тамашэўскага; вершы Ігната Легатовіча (1822) і Ігната Быкоўскага (1823).

У 1812 годзе Мінская губернская друкарня становіцца Друкарняй дэпартамента — урадавай друкарняй, кіраўніцтва якой ажыццяўляў яе галоўны супрацоўнік Іван Іосіфавіч Стафановіч. Яму было даручана пераліць рускія шрыфты на польскія і французскія і займацца выпускам бюлетэняў аб ваенных дзеяннях французскага войска, заклікаў, пракламацый. Была надрукавана і камедыя Яна Ходзькі «Litwa oswobodzona», прысвечаная падзеям 1812 года, з якімі звязваліся спадзяванні на вызваленне з-пад царскай улады. На гэты час прыпадае і выданне ў горадзе першай газеты пад назвай «Gazeta mińska tymczasowa» («Часовая мінская газета»), якой выйшла 25 нумароў.

Яшчэ перад пачаткам руска-французскай вайны, калі адпаведна прынятаму ў Расійскай імперыі ў 1804 годзе статуту аб цэнзуры, даволі ліберальнаму, задача цэнзуравання кніг свецкага зместу даручалася цэнзурным камітэтам

універсітэтаў, пачалі складвацца спрыяльныя ўмовы для развіцця прыватнага кнігадрукавання, то і ў Мінску (падпарадкаваным цэнзурнаму камітэту Віленскага ўніверсітэта) з'явілася першая прыватная друкарня, аб чым сведчыць і яе першае выданне — рэлігійны зборнік «Вока Якава», надрукаваны на іўрыце ў 1808 годзе *Сімхам Зымелем*, былым гродзенскім друкаром, які пераехаў у Мінск. Разам з *Іегудам Лімам* ён выдаў больш за дзясятак рэлігійных твораў на іўрыце, якія выйшлі ў наступныя 1809—1816 гады. У рапарце ж мінскага грамадзянскага губернатара Германа Іванавіча Родзінга (Родзіна) міністру паліцыі, пецярбургскаму ваеннаму губернатару Аляксандру Балашову ад 5 кастрычніка 1811 года паведамлялася, што яўрэйская друкарня, як і Губернская, абсталявана двума станамі, а ўтрымліваецца «мещанином *Лейбою Лейбовичем Гурвичем*».

У 1818 годзе Мінскае губернскае праўленне заключае кантракт з прыватным друкаром *Зымелем Хацкелевічам Прэсам*, які бярэ на сябе ўтрыманне Губернскай друкарні з чатырма наборшчыкамі, перанаборшчыкам і памочнікам для «тиснения бумаг на российском и польском диалектах». Праўда, праз год, у 1819 годзе пакідае працу ў Губернскай друкарні і адкрывае ўласную — новую друкарню — *Іван Стафановіч*. Пасля гэтага, у 1820—1835-я гады, наступае пэўнае ажыўленне — хоць бы ў канкурэнцыі паміж мінскімі друкарамі, у якой ці не заўсёды апошнім аказваўся аўтар, выдавец, замоўца выдання да друку. Як тое і здарылася з аўтарам-выдаўцом уласных твораў *Ігнатам Легатовічам*, прафесарам Мінскай гімназіі, паэтам і бібліёграфам. У «Przedmowie wydawcy» да навукова-папулярнага твора XVII стагоддзя Яна Германа па сельскай гаспадарцы «Землеўладальнік, або Інфлянцкі гаспадар» («Ziemianin, albo Gospodarz Inflandski»), пераклад і выданне якога ў 1823 годзе ажыццявіў Ігнат Легатовіч, апісваецца гісторыя друку названага твора ў Мінску: «Zdobyłem się na edycyą, na jaką w Mińsku zdobydź[ć] się można. Pierwsze sześć arkuszy niegodziwie drukował żyd maiący tu nikczemną drukareńkę i aręduiący rządową drukarnię: ten wybrawszy zgóry umowioną ode mnie sobie należność, przestał nareszcie kończyć, tak, że musiałem inaczey szukać drukarni. Początek, koniec i okładkę dorobił Stefanowicz». З прыведзеных слоў І. Легатовіча яскрава паўстае даволі бедная карціна пачатку друкарскай працы ў горадзе, а з таго і недобрасумленнасць у дзейнасці некаторых друкароў, у дадзеным выпадку гаворка ідзе пра Зымеля Прэса, які ўзяўся, аднак не давёў друк да канца, тым не менш скарыстаўшы сродкі выдаўца. Даводзіць жа справу да розуму прыйшлося ўжо І. Стафановічу.

Калі ў 1828 годзе І. Стафановіч друкуе рускамоўную п'есу мясцовага аўтара Андрэя Паўлава «Зема», то ў 1831 годзе яе перавыдае і З. Прэс. Аднак у І. Стафановіча ўсё ж атрымліваецца «вярнуць» аўтара да сябе, і ў 1833 годзе ён выпускае яго зборнічак апавяданняў — «Подарок благонравным ученикам и ученицам на новый 1834 год, или Нравоучительные детские повести, служащие к образованию ума и сердца» — гэта першая ў горадзе кніга, надрукаваная ў мініяцюрным фармаце (9 см).

У адносінах жа да «канкурэнта» І. Стафановіча — «содержателя Минской казенной типографии Пресса» — у 1833 годзе Віленскі цэнзурны камітэт распачынае справу аб друку без дазволу цэнзуры кнігі пад загалоўкам «Песні набожныя» («Pieśni nabożne») у яго прыватнай мінскай друкарні ў 1826 і 1830 гадах, узорам якой паслужыла выданне 1825 года Віленскай друкарні місіянераў. У кнізе, як адзначалася, «находятся песни неблагонамеренные и несогласные с теперешним политическим состоянием здешнего края, распространение коих <...> могло бы произвести вредное действие». Аднак на «Pieśni nabożne» была звернута ўвага толькі ў 1832 годзе, пасля «доноса» ў Дэпартамент духоўнай цэнзуры Міністэрства ўнутраных спраў. Тады і мінскаму губернатару прыйшлося правесці адпаведнае расследаванне: выявіць, хто друкуе, — гэта быў З. Прэс, і хто гандлюе — Бейліны.

Праведзеная ў 1834 годзе рэвізія Губернскай друкарні выявіла недахопы ў яе абсталяванні, якія Зымель Хацкелевіч Прэс павінен быў кампенсаваць і па распараджэнні Мінскага губернскага праўлення 1835 года канчаткова развітацца з утрыманнем казённай друкарні і загадваннем ёю. Апошнім яго выданнем стала «Навука чытання польскага пісьма для малых дзетак з рознымі набажэнствамі і катэхізісам каталіцкім» («Nauka czytania piśma polskiego dla małych dziatek z różnem nabożeństwem i katechizmem katolickim»,

1835). У 1838 годзе ў афіцыйнай частцы «Минских губернских ведомостей», якія з гэтага года пачынаюць тут выдавацца, было апублікавана «Извещение» ад Мінскага губернскага праўлення, у якім абʼяўлялася, што «Минскому еврею Зымелю Прессу, по решению правительствующего Сената, вовсе запрещено содержание типографии, и отпечатанные в его типографии кантычки, содержащие песни, должны быть изъяты из народного обращения». І яшчэ на працягу года мясцовыя жандары расшуквалі шкодныя выданні «Pieśń nabożnych» і высылалі знойдзеныя асобнікі ў Дэпартамент духоўных спраў МУС. Так скончылася дзейнасць З. Прэса, што, відаць, меў на мэце ў гэтай справе свой фінансавы інтарэс, рызыкнуўшы заняцца друкам забароненых выданняў, але і час быў такі — рызыкі і надзеі — ад паўстання дзекабрыстаў у 1825 годзе і да Лістападаўскага паўстання 1830—1831 гадоў.

Колькі гадоў — з 1830 да 1836 года — удалося выкарыстаць і *Гершону Бланштэйну*, каб паспрабаваць свае сілы ў друку яўрэйскіх штогадовых календароў — «Луах», а таксама рэлігійных твораў на іўрыце, некаторыя з якіх уключалі каментарыі на ідыш, як «Агада» (1833). У Мінску былі перадрукаваны і раней выдадзеныя ў Амстэрдаме, Празе, Кракаве, Львове і Шклове (у XVI—XVIII стагоддзях) Кнігі Запавета Аўрагама і Міласэрнасць Аўрагама (1836), крыніцы да каментарыя з Мідраша, Міхільты, Вавілонскага і Іерусалімскага Талмуда (1836). Хоць і не быў Г. Бланштэйн канкурэнтам І. Стафановічу, але і яго дзейнасць у хуткім часе скончылася, бо ў 1836 годзе была абвешчана забарона яўрэйскага друку ў Расійскай імперыі (акрамя Вільні — на тэрыторыі Беларусі і Літвы). Зноў у друкарскай справе запанавала ціша, ледзь чутна працавала толькі Стафановічаўская друкарня, працягваючы нязменна адціскаць штогадовы «Directorium» (з 1824 года), касцёльны каляндар на польскай і лацінскай мовах, прызначаны для Мінскай дыяцэзіі.

З сярэдзіны 1840-х гадоў, нібы пасля летаргічнага сну, паступова ўзнаўляецца дзейнасць казённай Губернскай друкарні: выпускаецца «Памятная книжка Минской губернии» (1845); з загалоўкам і прадмовай на рускай і польскай мовах, з граматамі на старабеларускай, польскай і лацінскай мовах выдаецца «Собрание древних грамот и актов Минской губернии» (1848). Хто і што шукаў, хто і што зберагаў, хто і на што спадзяваўся? Якая патрэбна была кніга мінскаму чытачу? Аповесць у вершах «Пан Дольский, или Свидание с дочерью» Дзмітрыя Сяргіеўскага, што выпусціла Губернская друкарня (1845), ці нотна-музычныя творы Станіслава Манюшкі «Fraszki» («Гумарэскі») (1843) і Камілы Марцінкевіч «Pierwsze proby muzykalne» («Першыя музычныя пробы») (1845), якія выйшлі ў літаграфіі Ф. Фалька?

Сапраўды, новае прыватнае літаграфічнае прадпрыемства *Ф. Фалька* зацікавіла многіх, і нават Уладзіслаў Сыракомля парэкамендаваў «віленскім выдаўцам звяртацца да пана Фалька з рознымі патрэбамі». Асаблівую вядомасць набыла выдадзеная ім мапа Мінскай губерні «с изображением: уездных и заштатных городов, местечек, пригородков, слобод, сёл, погостов, церквей, монастырей, пустынь и деревень, которые заключают в себе даже менее 5 дворов. На ней подробно и со всею точностью обозначены: фольварки и хутора, корчмы, господские дома и мызы, почтовые станции, а также дороги — почтовые, большие и малые; мельницы — ветряные, водные и пильные, разного рода фабрики и заводы, равно крепости, редуты и малые укрепления; распределены также границы губернские и уездные». Інфармуючы ў 1849 годзе грамадства Міншчыны пра новае выданне і значнасць працы Ф. Фалька, рэдактар газеты «Минские губернские ведомости» раіў набыць выданне кожнаму адукаванаму памешчыку. У 1850-я гады ў літаграфіі Ф. Фалька выпускалі таксама папулярныя гравіраваныя азбукі для дзяцей на польскай, нямецкай і расійскай мовах, названыя «Abecadło» ці «ABC».

Невядома, ці звярталіся віленскія выдаўцы да паслуг мінскай літаграфіі Ф. Фалька, аднак у 1851 годзе ў Мінск пераязджае на сталае месца жыхарства віленскі мешчанін *Ёкель Дворац*, які, набыўшы друкарню ў І. Стафановіча, не толькі пераймае друк касцёльных календароў, а і разгортвае даволі значную выдавецка-друкарскую дзейнасць. Яго накладам, менавіта як выдаўца, выйшлі ў Мінску на беларускай і польскай мовах чатыры творы Вінцэнта Дуніна-Марцінкевіча: у 1855 годзе — «Вечарніцы

і Апантаны» («Wieczernice i Obłąkany»), у 1856 годзе — «Цікавішся? — Прачытай!» («Ciekawyś? — Przeczytaj!»), у 1857 годзе — «Дудар беларускі» («Dudar białoruski, czyli wszystkiego potrosze»); сумесна з мінскімі кнігарамі братамі Бейлінымі ў 1855 годзе быў надрукаваны «Гапон» («Hapon»), ілюстрацыі да якога паводле малюнкаў Карнэлія Бжэскага былі зроблены Ф. Фалькам, але на гэты раз атрымаліся не лепшай якасці, аб чым таксама засталіся ўспаміны Сыракомлі. Акрамя Дуніна-Марцінкевіча, падтрымліваў і друкаваў Ё. Дворац творы Мікалая Лойкі, Людаміра Вечара (Шчарбовіча), Фларыяна Чапялінскага. То «віншуем горад Мінск з тым, што ў ім абуджаецца літаратурны рух. Браты Бейлінавы і Ё. Дворац варушацца над выданнем кніг; увогуле някепская друкарня апошняга адпавядае мясцовым літаратурным патрэбам», — сведчыў аб зменах у мінскім кнігавыданні Уладзіслаў Сыракомля.

Значную ролю ў актывізацыі кнігадрукавання ў гэты час адыграла менавіта фінансавая падтрымка з боку ўладальнікаў мінскіх кнігарняў, асабліва Бейліных, а пазней і А. Валіцкага. *Браты Бейліны* — Гірш і Сымон, якіх зазначыў Сыракомля і якім прысвяціў вершаваныя радкі Дунін-Марцінкевіч, былі сталымі кнігарамі ў Мінску і спадчыннікамі гэтай справы, што развілася з вандроўнага да стацыянарнага гандлю. Яны мелі добра наладжаныя кнігандлёвыя кантакты з варшаўскімі і віленскімі выдаўцамі, таму асартымент іх прыватнай мінскай кнігарні паспяхова і аператыўна абнаўляўся, прэзентуючы чытачам найноўшыя творы сучасных пісьменнікаў (мелі ў кнігарні прыкладна да пяці тысяч тамоў), але таксама знаходзіліся магчымасці для падтрымкі мясцовых аўтараў шляхам фінансавання выдаткаў на друк іх выданняў. Гэта былі спачатку (у 1855 годзе), супольныя з Ё. Дворцам праекты, а потым і самастойныя. Дзякуючы накладу Бейліных былі надрукаваны ў 1858 годзе «Азбука» («Abecadło») Ф. Фалька, «Першыя ўражанні» («Piersze wrażenia») Яна з-над Бярэзіны (Яна Мікульскага), «Памяткі айчынныя» («Pamiątki domowe») Адама Плуга, у 1859 годзе — «Голас з Літвы» («Głos z Litwy») Адама Плуга і «Стэла Фарнарына» («Stella Fornarina») Уладзіслава Сыракомлі. Бейліны спрабавалі дбаць адначасова як пра камерцыйныя інтарэсы, выпускаючы менавіта мастацкую літаратуру, так і пра асветніцкія, прапануючы гэтыя кнігі «do czytania za pomierną cenę», што высока цанілі мінчукі і ставілі іх кнігарню на першае месца ў горадзе. Гірш Бейлін дзякуючы сваім шырокім сувязям, садзейнічаў таксама продажу букіністычных кніг, браў удзел у сустрэчах мясцовай інтэлігенцыі, якія арганізоўваў у сваёй кнігарні Аляксандр Валіцкі — літаратар, музычны крытык, публіцыст, выдавец.

Кнігарня *Аляксандра Валіцкага* была «najnowszą i najwykwintniej może urządzoną w Mińsku <...>, założona w zeszłym roku w pięknym lokalu obywatela Korkozowicza, na rogu Wołoskiej ul. Zakład ten wystąpił z wielkimi nadziejami, a może i pretensjami na przyszlość — wszystko tu nazewnątrz i wewnątrz tchnie przemysłowoscią, aż do czytelni nawet kilku gazet za opłatą miesięczną». Мінчанка Соф'я Кавалеўская ўспамінала, што кнігарня не проста распаўсюджвала кнігі, але і «budziła zamiłowanie w czytelnictwie». Кнігар Валіцкі і сам пісаў артыкулы для варшаўскіх і віленскіх перыядычных выданняў, такіх, як «Ruch Muzyczny» ці «Kurier Wileński», падтрымліваў сувязі з В. Дунінам-Марцінкевічам, А. Плугам, А. Кіркорам, У. Сыракомлем, Д. Стафановічам, С. Манюшкам, Ф. Міладоўскім, Ю. Сікорскім, збіраў забароненыя творы У. Сыракомлі з намерам іх выдаць. Па меркаванні Я. Карскага і Р. Зямкевіча, пад псеўданімам Місцюк ці Міншчук А. Валіцкі пісаў уласныя творы на беларускай мове. Разам з кніжным гандлем ён выдаваў за свой кошт і вучэбныя выданні. У лісце да А. Плуга ад 17 верасня 1862 года А. Валіцкі дзякуе сябру за газетны водгук пра «Насценны Буквар» («Elementarz Ścienny»), складальнікам і выдаўцом якога ён быў, і зазначае, што ўжо прадаў 20 000 экзэмпляраў гэтага выдання, надрукаваных літографам *Эмерыкам Адамовічам*, які, дарэчы, быў вучнем Яна Дамеля і працаваў настаўнікам малявання ў Мінскай гімназіі, а таксама выпускаў школьныя геаграфічныя мапы, разнастайныя ўзоры каліграфічнага пісьма, рабіў фота- і мастацкія партрэты (партрэт А. Міцкевіча).

У супрацоўніцтве А. Валіцкага і Э. Адамовіча выходзяць у Мінску літаратурныя выданні М. Лапіцкага — камедыя-аперэтка «Канкурэнты» («Konkurenci») (1861), нотна-музычныя творы Ф. Міладоўскага — «Для Міхася і Ясі: паланэз на чатыры рукі для фартэпіяна» («Michasiowi i Johasi: czteroręczny Polonez na Fortepian») (1860).

Менавіта асаблівая руплівасць А. Валіцкага на выдавецкай ніве і была разгорнута ў выпуску нотна-музычных твораў, калі ён устанавіў прафесійныя кантакты з друкарнямі ў Варшаве, а найболей — у Лейпцыгу, дзе супрацоўнічаў з літаграфіяй-штыхарняй Карла Родэра. Паслугамі лейпцыгскай фірмы, да адкрыцця ўласных штыхарань, карысталіся ў XIX стагоддзі і вядучыя выдаўцы нотна-музычнай літаратуры з Варшавы. Як уладальнік кнігарні, а таксама склада музычных матэрыялаў «piśmiennych i rysunkowych oraz fotepianów z celniejszych fabryk warszawskich» А. Валіцкі прымаў замовы на ўсялякія «druki i litografje w Mińsku». Яго накладам рыхтаваліся ў Мінску да выдання творы С. Манюшкі, Ф. Міладоўскага, В. Пшыборы, А. Грунера, К. Лады, А. Бартэльса і інш. У планах А. Валіцкага-выдаўца быў выпуск каля 50 нотна-музычных твораў, якія прэзентавалі песні, аперэты, танцавальную музыку мясцовых і краёвых кампазітараў, музыкантаў і паэтаў. Цесныя сяброўскія і творчыя сувязі з Мінскам лепшых прадстаўнікоў тагачаснай музычнай культуры, такіх, як Юзаф Сікорскі ці Станіслаў Манюшка, выявіліся ў ажыўленні музычнага і літаратурнага руху, у актыўным кніга- і нотавыданні. Адной з галоўных асоб у Мінску, дзякуючы каму пашырылася музычная культура ў Горадзе, і быў А. Валіцкі.

1850—1860-я гады сталі росквітам не толькі польскамоўнага кнігадрукавання ў Мінску, а і ўсплёскам культурнага ўзаемадзеяння літаратараў, кампазітараў, мастакоў, выдаўцоў, кнігароў і друкароў у справе нараджэння новых мясцовых выданняў, і найперш на беларускай мове, што зрабілася цэлай грамадскай з'явай, якая ўзняла хвалю абуджэння гарадскога і краёвага жыцця інтэлігенцыі. Але, безумоўна, да пэўнай ступені дазваляўся той грамадскі ўздым. Чытанне па-за межамі дазволенага было патаемным — у гуртках, у прыватных бібліятэках і кнігарнях, як гэта рабілі мінскія гімназісты, якім забаранялася прыносіць польскія кнігі ў гімназіі. Такое чытанне і яго прапаганда жорстка пераследаваліся адміністрацыяй установы, цягнучы за сабой канфіскацыю выданняў.

Вось паспрабавалі мінчукі падпісацца на новае, перакладзенае В. Дуніным-Марцінкевічам на беларускую мову з выкарыстаннем польскага шрыфту выданне «Пана Тадэвуша» Адама Міцкевіча, якое пасля выхаду першай часткі ў 1859 годзе ў віленскай друкарні Адама Сыркіна таксама аказалася забароненым... Нібы ў прадчуванні чарговага паўстання — паўстання 1863 года. Падчас жа паўстання быў арыштаваны А. Валіцкі і 14 лютага 1863 года высланы ў Тамбоў. Пасля вяртання, у 1867 годзе, — яму было забаронена жыць у Мінску — жыў і працаваў у Варшаве, Кракаве, Радзівілаўскім архіве ў Нясвіжы, падтрымліваючы кантакты, у значнай ступені кніжныя, з роднымі ў Мінску.

Мінск жа, апынуўшыся пасля 1864 года на ваенным становішчы, на якім быў да 1870 года, зноў заціх у роздуме над новымі ўмовамі гарадскога жыцця і яго спраў, разам з тым і кніжнай справы: у 1864 годзе царскім урадам было забаронена ўжыванне польскай мовы, у 1865 годзе — уведзены «Часовыя правілы аб цэнзуры і друку», паводле якіх правінцыйныя друкарні аказаліся ў больш жорсткай сітуацыі ў параўнанні са сталічнымі, пецярбургскімі і маскоўскімі, у выніку чаго дзейнасць прыватных выдаўцоў у Мінску прыпынілася. Без перашкод і канкурэнцыі працягвала працаваць толькі Губернская друкарня, кіраўнікі якой яшчэ зусім нядаўна скардзіліся ў Губернскае праўленне і абвінавачвалі прыватныя друкарні ва ўсіх сваіх бедах: «Частная типография еврея Дворжеца и другая с литографией, вновь открытая чиновником Адамовичем, поставлены в такое положение, что, независимо означенных присутственных мест и воинских учреждений, все частные лица, а в особенности купечество и аптеки, обращаются к ним со своими заказами; Губ. тип. при таких обстоятельствах не имеет решительно от них никакого дохода». Ажыццявіўшы на пачатку 1860-х гадоў пераабсталяванне друкарні, набыўшы ў Вільні новую машыну для літаграфічных работ, Губернскае праўленне нібы прыняло ўсе неабходныя меры, «чтобы заказы исполнялись немедленно <...> по ценам значительно низшим, нежели в частных типографиях». Але не стала «раптам», амаль на дзесяцігоддзе, канкурэнтаў у мінскім кнігавыданні — прыватных друкароў. І неабходны быў час, каб у новых умовах з'явіліся новыя прыватныя ініцыятывы.

## Унікальны помнік смехавой культуры XVII стагоддзя

Да канца XVI стагоддзя помнікі смехавой літаратуры Беларусі былі пераважна рукапісныя. Кірылічная традыцыя, як правіла, звярталася да монатэксту. Успомнім хаця б «Прамову Мялешкі», «Ліст да Абуховіча», самыя розныя лісты да Святога Пятра або трапары, кандакі, асьмагласнікі і т. п. Выдатны знаўца народнай культуры Сярэднявечча і Рэнесансу М. Бахцін адзначаў: «Да нас дайшлі даволі шматлікія парадыйныя літургіі («Літургія п'яніц», «Літургія ігракоў»)…, пародыі на евангельскія чытанні, на царкоўныя гімны і псалмы…, пародыі на запаветы («Запавет свінні», «Запавет асла»), парадыйныя эпітафіі, парадыйныя пастановы сабораў і інш.».

Сёння мы пазнаёмім беларускага чытача з сатырычным друкаваным выданнем іншага парадку. Гэта «*Суплікацыя Віленскага збору да Гера Марціна Лютэра за Кс[яндза] Мікалая Бурхарда, свайго міністра, які ў суботу, лезучы па курэй, зваліўся з драбіны і меў гонар зламаць шыю*». Мне вядомыя дзве яго рэдакцыі: віленская (1623) і кракаўская (1625). Яны адрозніваюцца тытульнымі лістамі, наяўнасцю гравюр і іншымі элементамі структурна-сюжэтнага характару. Акрамя выпускніцы філалагічнага факультэта БДУ Ірыны Прычынец (Зімневай), гэты твор даследаваўся таксама магістрам філалогіі Ірынай Міхно. На вялікі жаль, не былі напісаны манаграфіі, не былі выдадзены навуковыя тэксты. Таму ў Год навукі было б недаравальна і далей хаваць «Суплікацыю» ад беларускага чытача.

Гэты помнік унікальны найперш сваім прафесійным выкананнем. Хутчэй за ўсё ён належаў пяру езуіта Хадзыньскага (Хадынскага) і быў накіраваны супраць пратэстантаў. Твор напісаны з нагоды трагічнай смерці лютэранскага прапаведніка Мікалая Бурхарда. Аднак жанравая прырода яго далёкая ад твораў фунеральнай (на пахаванне) літаратуры. Сатырык-езуіт абраў форму

SVPLICACYA
ZBORV
WILENSKIEGO.
Do Hern Martyn Luter/ zá X. Mikołáiem Burchardem Ministrem swym/ ktory w Sobotę po kury łażąc/ z drabiny spadł/ y szyię złamác raczył.





Dan z Piekłá ośminastego dniá Czerwca/ Ulicy Niemieckiey/ w Lutrowskiey pisan Kamienicy.

Тытульны ліст выдання «Суплікацыя Віленскага збору…»
Кракаў, 1625 год.

суплікацыі (старапольск. suplika, suplikacja ад лац. supplicatio ‘прашэнне, просьба’), якая звычайна мела характар звароту да дзяржаўных асоб, караля або адзінаверцаў з далёка не сатырычным і не гумарыстычным зместам. Так, напрыклад, у 1623 годзе стварыў сваю «Суплікацыю» беларуска-украінскі пісьменнік-палеміст Мялецій Сматрыцкі. Шэраг рукапісных суплік напісаў абаронца праваслаўя ў Вялікім Княстве Літоўскім Афанасій Філіповіч.

У XVII стагоддзі для дасягнення сатырычнага эфекту было недастаткова таленту пісьменніка. Друкаваная сатырычная кніга прадугледжвала таксама чытача, абазнанага ў тонкасцях архітэктонікі кнігі, яе знакавай адметнасці. Абавязковым элементам друкаванай кнігі быў прадмоўна-пасляслоўны комплекс, які меў на ўвазе наяўнасць такога пазалітаратурнага кампанента, як герб знакамітай асобы, а таксама ён уключаў у сябе эпіграму, прысвячэнне, прадмову, пасляслоўе ці малітву-пасляслоўе.

Этыкетна пажаданым быў і партрэт-гравюра выдаўца або аўтара твора, чым вызначаліся выданні Іагана Гутэнберга, Марціна Лютэра, Францыска Скарыны, Мікалая Гусоўскага. Каб выклікаць смехавы эфект, трэба было перайначыць, перавярнуць, не толькі звярнуцца да так званай алхіміі слова, але і сам знак, сімвал, метафару паставіць у шэраг кніжнай антыкультуры.

Найбольш яркія помнікі друкаванай смехавой літаратуры стварылі езуіты, якія навучаліся паэтычнаму майстэрству або ў езуіцкіх школах і калегіях, або ў Віленскай езуіцкай акадэміі. Вастрыё сваёй сатыры яны часцей за ўсё накіроўвалі супраць лютэран або кальвіністаў — галоўных апанентаў у галіне дагматычнага багаслоўя. Сатырычны фунеральны, эпіталамічны (прысвечаны вяселлю) або прысвечаны сіноду твор з’яўляўся адразу ж пасля адпаведных падзей. «Ліст д’ябла да суперінтэнданта» ці «Вітанне на першы прыезд з Круляўца ў Кадлубак Віленскага саксонскага невядомага гера Лютэрмарха» са сваёй з’едлівай сатырай на апанентаў па веры даволі хутка распаўсюдзіліся па ўсёй тэрыторыі Рэчы Паспалітай.

У сатырычных творах збор нярэдка называецца зборышчам, казнадзей — блазнадзеем, міністр — свіністрам і г. д. У гербах і іх апісаннях замест грыфонаў, львоў і лілей з’яўляюцца пеўні, куры, свіныя лычы або капыты. Нават інскрыпцыі (надпісы) друкуюцца ў люстраным адбітку, як, напрыклад, у «Суплікацыі»: «*Ubi ego sum, ibi minister meus erit — Там, дзе я, там будзе і мой слуга*» (гл. ілюстрацыю). Для пазначэння часу і месца выдання твора таксама ўжываюцца сродкі з арсенала барочнай «дурноты»: «Дадзены з пекла» або «Року 1642 учарашняга дня». Дзеля пазначэння «сур’ёзнасці» выдання як твора высокага стылю нярэдка выкарыстоўваюцца такія жанры малых паэтычных форм, як эпітафія, апастрофа, а таксама зварот, ліст, адказ.

Беларускія сатырычныя творы на рэлігійную тэматыку карэнным чынам адрозніваюцца ад падобных рускіх опусаў. Айчынныя помнікі былі з’арыентаваны на адпаведныя друкаваныя ўзоры польскай літаратуры, якія ствараліся, напрыклад, у Кракаве шкалярамі, пеўчымі, рыбалтамі. Па сутнасці, гэта творы гарадской культуры, і смех у іх быў прывязаны не да канкрэтнага свята, як, напрыклад, Каляд, а да нейкага камічнага выпадку, смешнай гісторыі або чалавека, які трапляў у смешную сітуацыю. Горад не толькі патрабаваў відовішч, але і мог шчодра іх аплачваць. Друкаваныя творы смехавой культуры траплялі ў разрад «вечнасных» помнікаў, яны не маглі перадавацца з вуснаў у вусны, а чыталіся, няхай і карпаратыўна.

Кананічная малітва ў рускай смехавой культуры гэтага перыяду (напрыклад, малітва «Святый Боже, Святый крепкий, Святый бессмертный, помилуй нас») у вуснах п’яніц набывала богазневажальны змест: «Свяже хмель, свяже крепче, свяже пьяных и всех пьющих, помилуй нас». Аднак акадэмік Д. С. Ліхачоў лічыў, што гэта быў тыповы «смех над самим собой», і аб’ектам абсмейвання не была ні праваслаўная царква, ні праваслаўная вера.

«Суплікацыя» — твор-пародыя абсалютна новага тыпу смехавой літаратуры. У поле зроку аўтара трапіў іншаверац са сваімі дагматычнымі ўяўленнямі, таму «смех» мае тут не столькі гумарыстычную, колькі сатырычна-гратэскную прыроду. Спадзяёмся, што гэты літаратурны помнік у перакладзе на сучасную беларускую мову не толькі будзе цікавым для прачытання, але і дасць імпульс для даследавання друкаваных сатырычных твораў Беларусі эпохі Барока.

*Уладзімір Караткі*

**Суплікацыя Віленскага збору**

***да гера Марціна Лютэра[1] за Кс[яндза] Мікалая Бурхарда, свайго міністра, які ў суботу, лезучы па курэй, зваліўся з драбіны і меў гонар зламаць сабе шыю.***

*Перададзены з пекла дня васямнаццатага месяца чэрвеня, з Нямецкай вуліцы, а напісаны ў Лютэранскай камяніцы.*

Кс. С. Гэй, Бурхард, прызнайся, зрабіў дабра многа?

Кс. Мк. Пазней мы паглядзім. Цяпер — хопіць злога.

Да гэтага часу град, дождж падаў з неба,
А зараз міністры — як быццам так трэба!
Аблезлы кажух і старое адзенне —
Знайшлі лютэране ў ім скарб, суцяшэнне.
Хавайце скарб пільна, бо раптам шчэ згіне —
Глядзіце, хто ходзіць з касой пры драбіне.

*Суплікацыя Віленскага Збору*

*Да гера Марціна Лютэра ад твайго Ксяндза Мікалая Бурхарда, які ў суботу, лезучы па курэй, зваліўся з драбіны і зламаў шыю.*

Ад верных авечак на грудзі яму ў труну пакладзена.

Шаноўнаму Саскаму Патрыярху геру Марціну Лютэру Пятаму Евангелісту Вітэнбергскаму Апосталу Архісеньёру Сапраўднай веры ад вернікаў Аўгсбургскай Канфесіі Віленскага збору. Паклон і паслушэнства.

Гер Лютэр Марціне — так пастыра ўзносяць —
Паслухай, наш родны, як людзі галосяць.
Спрабуй разабрацца, цябе вельмі просім,
У тым, што у Вільні на днях адбылося.
Аддаць ліст павінен слуга твой рахманы,
Жыве на Нямецкай — табе ён адданы.
Твайго Евангелля быў слаўным Рабінам[2],
Але зламаў шыю, упаўшы з драбіны.
Язык адваліўся, і зубы ўраз зніклі,
І мовы няма больш, і словы заціхлі.
Калі ў яго будзеш пра нешта пытацца,
Адказу не зможаш ужо дачакацца.
Паколькі маўчыць ён, тут страціўшы мову,
Табе гэты ліст перадаць мы гатовы.

Аднойчы ў суботу пазваў ён у госці
Суседзяў — праўдзівых авечак вашмосці.
Гарэлкі глынуў ён, прыйшоўшы са збору,
«Варыла што?» — у жонкі спытаўся з дакорам.
«Яечка і рыбкі» — яна кажа ціха.
Касцельных правоў абаронца успыхнуў:
«Ты хочаш застацца дурной Папяжніцай[3],
Ну, як я магу нейкім яйкам карміцца?»
Тым часам гарэлка дакончыла справу —
Раз'юшаны леў у тваіх ён уставах,
Быў бацькі свайго найлепшым ён сынам,
У курнік да курыцы ўзлез праз драбіну.
І вось як да курніка хутка так скочыў,
Квактуху за горла схапіў ён ахвоча.
Святар не чакаў, што пявун нецнатлівы,
Курэй абаронца, кідаць стане дзівы.
Тварыліся ў курніку страшныя дзеі —
Зрабіў летуна ён з ксяндза Казнадзея.
Аматар курэй не дабіўся падаткаў,
Крычаць дзеці з плачам — ды ў д'ябла ўжо татка.
А пані, нябога, што рыбу варыла,
Ад сполаху лыжку аж з рук упусціла.
Ён доўга рабіў зло і шкодзіў нямала —
Дарога да д'ябла яго напаткала.
Галовачка, Божымі пісьмамі поўна,
Звалілася так, што ляцела аж воўна.
Язык, якім рэзаў ён Божае слова,
Адсох вельмі хутка — спынілася мова.
А горла, што ў зборы грахоўна спявала,
Жахліва скрывіўшыся, кроўю заззяла.
Душа ж, як закрыліся дзверы ля горла,
З другога канца нечакана папёрла.

Каб мускус[4] не траціў, быў з ім асцярожна,
Завёў душу ў лазню б — адмылася б, можа?
Пра веру Вашмосці нам чуць нескладана,

[1] Марцін Лютэр — нямецкі манах, былы каталіцкі святар, прафесар багаслоўя, выдатны дзеяч і пачынальнік хрысціянскага рэфарматарскага руху XVI стагоддзя, пасля вядомага як пратэстанцкая Рэфармацыя.
[2] Рабін — служыцель культу ў іудаізме, суддзя па пытаннях рэлігійнага і сямейнага жыцця ў яўрэйскай абшчыне.
[3] Папяжніца — паводле некаторых звестак Папа Рымскі Ян VIII быў асобай жаночага роду.
[4] Мускус — рэчыва з моцным пахам, якое выпрацоўваецца залозамі самца кабаргі і некаторых іншых жывёл.

Няхай душа сасаў не будзе паганай.
Калі яму скажуць nil coinquinatom[5],
Не зойдзе на неба, аддаў страх свой катам.
Калі ты таксама патрапіш у неба
(Так, як п'яныя. Дзівіцца не трэба.)
Яму ўжо да пекла праклаў ты дарогу,
Да д'ябла ён пойдзе, не трапіць да Бога.
Твае шанаваў і правы, і уставы,
Еў мяса ў суботу (пакутнік ён правы!).
Каб ты не цураўся паслоў з Рыму Папы,
Не шыю зламаў бы, а ўскочыў на лапы.
Яго лічыць будзем пакутнікам простым,
Бо куры забілі яго падчас посту.
Ахоўваў старанна правы твае ў Вільні
І цноты захоўваў твае вельмі пільна,
Дзяўчат не кахаў, бо жыў libераю толькі,
Меў шчодрую жонку і дзетачак колькі.
Усе абавязкі выконваў ён мужна,
Клянёмся: рабіў усё добра, паслушна.
Яго цяпер з шыяй зламанай малюем:
Між цнот чатырох на выяве гаруе.
Мы праўду гаворым табе, як па нотах,
Цябе абскакаў ён у шмат якіх цнотах.
Ты ў кляштары быў як (пасціўся аддана),
А ён хоць пры кляштары й быў выхаваны,
Але не пасціў; на імшу ты ахвоча
Хадзіў, а пасля шчэ маліўся паўночы,
А ён, каб хацеў ноччу ўстаць на малітву,
То з жонкай павінен быў вытрымаць бітву.

З кахання дзівіліся кот і суседзі,
Як скарб дарагі, ён хаваў жонку недзе.
З амбону[6] казаў нам усё, што ён ведаў,
І толькі ад праўды не бачылі следу.
А гэта таму, што так моцна кахае,
Бо ў што закаханы, то й не дазваляе.
У вочы нам сунуў твае ён уставы —
За гэта яму акурат вечна слава.
Дэвізам яму назаўсёды застыла:
Si not vult uxor, ergo veniat ancilla[7].
Гучала імя тваё часта ў казаннях,
Паклонам паказваў сваё шанаванне.
Калі ж іншым шляхам душа прэч скакала,
Дзівіліся з гэтага ўсе мы нямала!
Смерць бы такая яго не спаткала,
Каб жонка пярыну яму падаслала.
Палёт яго з курніка — Бога каранне,
Даволі вясёлае меў ён скананне,
Бо, дух выпускаўшы, мы бачылі самі:
Шчаслівa і радасна дрыгаў нагамі.
А тую драбіну схаваць ёсць патрэба:
Па ёй казнадзей можа ўскочыць на неба.
А зараз да збору яго перанеслі,
А пеўня адразу ж на шпагах разнеслі,
Бо смерці Святога стаў певень прычынай,
Зваліўся на шыю, як коцік з драбіны.
Людзей такіх добрых у нас вельмі мала,
Хоць ксёндз у касцёле й жаніўся удала.
Калі нашы шыі так будуць круціцца,
То шмат тады люду да д'ябла памчыцца.
Таму, каб прыйшоў, мы цябе зараз просім,
Табе толькі верым і з гора галосім.

З-за жонкі тваёй Катарыны Фон Борэ[8]
(Лакцёў дзевяноста, а можа, і спорай)
Душы нямой дзверы адкрый ты да Раю,
І скажам «бывай» мы ксяндзу Мікалаю.
Па ім, казнадзеі, слязу праліваем,
Тваё вельмі часта імя ўспамінаем.
А жонка галосіць, раве слёзным крыкам,
І ставіць ў галовах дзбан піва вялікі.
Дзбан піва, яшчэ аквавіту у пляшцы:
Яна у цябе была часта у ласцы.
Табе, Марцін Лютэр, мы ліст пасылаем,
Парады разумнай тваёй мы чакаем.
Настаўніка зараз мы іншага маем:
Ксяндза Самуэля у Вільні прымаем.
Пасвечаны ў Познані, толькі прыехаў,
Пра праўду тваю ён гаворыць без смеху.
З навукі глыбокай, што мае без меры,
Ён новае ўносіць ў касцёльную веру.
Як хрысціць дзіця, дык чарцей ўспамінае,
Ці тое чыніць твой закон дазваляе?
Як быццам бы ліха на жонку напала,

[5] Nil coinquinatum (лац.) — нічога ганебнага.
[6] Амбон(а) — спецыяльнае збудаванне ў хрысціянскім храме, прызначанае для чытання Святога Пісання, спеваў або абвяшчэння некаторых богаслужэбных тэкстаў.
[7] Si non vult uxor, ergo veniat ancilla (лац.) — Калі не хоча жонка, тады няхай прыйдзе служанка.
[8] Катарына фон Бора — жонка і найбліжэйшая памочніца нямецкага царкоўнага рэфарматара Марціна Лютэра.

Для дзетак у д’ябла упынку шукала.
А Кальвіна[9] дзеці шчаслівыя ходзяць,
І, дзякуй Богу, здароўе знаходзяць.
Ад нас некаторыя ўжо адракліся —
Да Кальвіна хросту прыйшлі-прыпляліся.
Па-іншаму ўставы ён выдаў без спору
І біскупаў двух далучыў да сабору.
Вайцеха і Стася ён сасамі кліча,
Яны ж прад тваім былі ўласным аблічам.
Такіх святых шмат ён і часта прыводзіць,
Усіх з каталіцтва гвалтоўна выводзіць.

Табою мы цешымся, шчыра шануем,
Замест іх касцей лахманы ім цалуем.
Рараты[10] прыдумаў, праводзіць ахвоча,
Ён робіць усё, галава што захоча.
І з вуснаў ягоных падман ляціць куляй,
Гаворыць пра тое, чаго мы не чулі.
Да споведзі нас ён хадзіць прымушае —
І што нашу веру тады напаткае?
Вучыць будзе ён, хоць яму не казалі,
Свіней каб, сабак у саборы хавалі!
І кнігу сваю напісаў пра Рай душны —
Паводле матэрыі — так, тытул слушны!
А ксёндз Самуэль сам там будзе Адамам,
А побач яго будзе Ева за даму.
Калі спакушаць стане чорт цябе ў Раі,
То ты не здзіўляйся: так часта бывае.
Яму тады з Вільні ўчынілі выгнанне,
Так, як зрабілі ў свой час у Пазнані.
Тады б вось і звычай стары аднавіўся,
І Рай бы, як трэба, сапраўдным зрабіўся,
Кажух як Адаму і Еве падалі,
Калі саграшылі ды з Раю іх гналі.
А з гэтым Адамам то што б тады стала,
Калі б яго з Евай жыццё ў свет пагнала?
Хадзіў бы, магчыма, у іншым убранні,
Змяніў бы сутану на беднае рванне.
Нятанныя стужкі купляе для жонкі,
Яна носіць тасьмы — не хоча вяроўкі.
Пайшоў бы да кушнера — футра хай зробіць,
Сутана яго больш ужо не аздобіць.
Што хоча, ён творыць у нашым саборы,
І слухаць яго мы павінны з пакорай.
Твайго зараз вельмі чакаем рашэння,
Таму пасылаем такое прашэнне.
Ты нам дапаможаш, падкажаш, напэўна,
І вышлеш законы свае сасам верным.
Паштоўку ад вас спадзяёмся убачыць
І за душу тваю Богу аддзячыць.
Для нас назаўсёды ты будзь мілым панам,
Мы ж будзем з табою. На век вякоў. Аман.

**На магілку:**
*Вернікі:*
Вы, куры нягодныя, што тут грабеце?
Тут Ксёндз спачывае. Ужо на тым свеце.
*Кс. Мікалай:*
Спакою мне дайце, бо злыя тут куры
Мяне ўвялі ў сорам праз іх авантуры.
А вы па прысмакі ісці не спяшайце,
У курніку шыю сабе не зламайце!

**Гербы слаўнай памяці Нябожчыка Кс. Мікалая:**
Кій у полі шырокім — ад бацькі герб мае,
Нясушкі на кроснах — па маці трымае.
На бабчыным гербе — каза з качаргою,
На шлёме вісіць ключ са стужкай даўгою.

**Апастрофа да горада Вільні:**
О, Горад няшчасны, о, Горад адзіны,
Ты радасць Літвы і аздоба краіны!
Ты людзям з Пазнані саны давала,
Спачатку гасцінна ў сябе іх прымала.
Ім добра жылося у горадзе іншым,
Але пакарае іх ў Вільні Ўсявышні.
Шукаючы шчасця, у Вільню ўцякаюць,
Але вельмі хутка тут шыі ламаюць.

**Зварот-папярэджанне да сасаў:**
Курэй вы не прагніце, сасы, ў час посту,
Міколы кіруйцеся прыкладам простым.
Каго курнік вабіць і ўсяк спакушае,
Той шыю, упаўшы з драбіны, зламае.
Жыццё будзе вернікаў доўгім, салодкім,
Калі спажываць будуць рыбу, сялёдку.

[9] Жан Кальвін — дзеяч Рэфармацыі, заснавальнік кальвінізму — кірунку пратэстанцтва.
[10] Рараты — імша ў касцёле на ўсходзе сонца падчас Адвэнту (пост перад Раством).

**Да тых жа сасаў:**
Крывая, знаць, вера і сасам не міла,
Бо Бурхарду б шыю тады не скрывіла.

*Свечка,*
*Якую Кс. Шван Дамбровскі паставіў на ліхтары Справядлівасці.*
*Самуэль Шван Дамбровскі, Слуга Божага слова, верным у Хрысце Братам і Сёстрам Хрысціянскай веры Аўгсбургскага вызнання.*
Вас выбралі, дзеткі, у статак да Бога,
Усе вы авечкі для Бога жывога.
Пан Бог ужо цуды нам новыя творыць,
Мацуе уставы, моц сэрцу ён дорыць.
Пад вечар учора я лазіў ля печкі,
Агеньчык свяціўся, гарэла і свечка.
Як раптам Дух Панскі праз комін ускочыў,
Аж іскры і дым мне палезлі у вочы!
Напэўна, сказаў бы мне нейкія словы,
Дык жонка, дурная і белагалова,
Па-папску жагнацца прыдумала з страху,
А пан разлаваўся і прэч скокнуў з даху.
І ліст блізка печы ён толькі пакінуў,
Напісаны Лютэрам сэрам Марцінам.
Ён так адказаў нам на супліку гэту,
Што Бурхарду ўклалі ў труну з нейкай мэтай.
А ліст, што напісаны намі з надзеяй,
На мшы прачытаю з амбону ў нядзелю.
А Пан наш брыдотны і нейкі жахлівы,
Абсмалены нечым — глядзець немажліва.
Дык вось, мае дзеткі, збяромся мы рана,
За ласку падзякуем нашаму Пану.
Мы славіць павінны яго усе разам,
Бо раптам у цела залезе зараза.

Кс. Самуэль Шван Дамбровскі

**Minister Febri Dei[11].**

*Адказ*
гера Марціна Лютэра на Суплікацыю Саскага Віленскага Збору ад Кс. Мікалая Бурхарда, Твайго Міністра, які ў суботу, лезучы за здароўе Пана Лютэра па курэй, зваліўся з драбіны і зламаў сабе шыю.

*Марцін Лютэр адзіны над усімі сасамі галоўны Пастыр і Пан на вечныя часы. Маім дзецям на Нямецкай у Вільні шчасця і здароўя, якія сам мае, вам жадае.*

Тых, дзеткі, не бойцеся, ў Пекле хто ходзіць,
Там мілы ваш тата прытулак знаходзіць.
Так верыў я сам і вам верыць так трэба,
Ніхто з вас не пойдзе ў дзень суду на неба.
Чысцу ты не маеш, ў зямлі чэрві, мушкі,
Жывёлы — на сушы, у небе ёсць птушкі.
Для люду жывога дык Рай месцам служыць,
Анёл над тым Раем з мячом сваім кружыць.
А дзе ж пасля смерці падзець усе душы?
Дык я ўлез у Пекла па самыя вушы.
Ды я не адзін, тут нас немцаў хапае,
Шмат хто па-нямецку з чарцей размаўляе.
Няўжо б мы цярпелі, каб верылі ў тое,
Што будзе дзень судны і нешта святое?
Мы з чэрцямі п'ём тут, суду як чакаем,
Ва ўсю тут у косткі і ў карты гуляем.
А часам бывае, як добра нап'ёмся,
Учэпімся разам і ўсе пераб'ёмся.
І мне перапала з такой жа нагоды
(Да вас не пісаў: то было перашкодай).
А што тут рабілася, слухайце пільна,
Пасля ж прачытайце ўсім сасам у Вільні.
Застолле наладзіў для новага госця
Люцыпар для Бурхардавай ягамосьці.
Паклікаў таксама і нас, душахватаў,
Касцёла твайго злачынцаў заўзятых.
Філіпа паклікаў і Рохакадама,
Была мая люба Катрына таксама.
Прыйшоў Кальвін з Бэзам — такія пачвары,
Лгуноў несусветных вядомая пара.
Было там разумнікаў надта ўжо многа,
Маю ці Кальвіна абралі дарогу.

І вось так пілі яны чарку за чаркай,
За веру, падпіўшы, палезлі у сварку:
Якому касцёлу ўсе людзі больш вераць?
І Кальвін да Лютэра кажа з намерам:
Табе давяраюць, напэўна, не вельмі,
Бо сына ты меў цераз дзень па вяселлі.

[11] Minister Febri Dei (лац.) — слуга ў Божай ліхаманцы.

Дадаў: я канонік і веру без страху,
А ты быў лаікам, так, голым манахам.
Так Кальвін сказаў — я ў даўгу не застаўся —
Адказ для яго вось які атрымаўся:
З ваколіц Жэневы ты, у паскі сабака!
Ад пугі на спіне ты маеш пазнакі!
Чаму без сумлення на мой касцёл брэшаш,
На свой паглядзі лепш, мо горб свой пацешыш?
Выява лілеі, што ссохла на спіне,
Тваім Евангеллем заззяла б ў хвіліну.
Ты тут распаўсюдзіў Садом і Гамору,
А я з Люцыпарам не ведаю гора.

І вось за грахі сустракаем тут госця —
Самога Кальвіна Міністра Вашмосьці.
Прамовіў да нас ён з усмешкай спагады:
Хлусовічу трэба вышэйшай пасады!
І Бурхарда раптам ужо выганяе,
Халопам пакутніка ён замяняе!
Мяне абурыла пляткарства Кальвіна —
Вось гэта і стала для гневу прычынай.
Я даў яму з сілаю куфлем з-пад піва,
Мяне ён зубамі ўхапіў неяк крыва.
Сабачы сынок меў атрутныя зубы,
Я ледзь у Аіда не стрэў тады згубу!
Паехаў лячыцца да Матыса-пана,
(Цырульнік ён з Вільні ды чорт паважаны).
З рагаткі страляў у мае ён вантробы,
Але не адолеў жахлівай хваробы.
Пранік у мяне ўжо агеньчык пякельны,
Што не дапаможа малітва нядзельна.
Пячэ мне і смаліць гарачка ўсё цела,
Ад болю у пекле амаль вар'яцею.
Таму не адпісваўся, родныя дзеткі,
Рука мне балела — на гэта ёсць сведкі.
Філіп Міланхтан[12] пісаць пагадзіўся,
Падканцлерам-пісарам ён падрадзіўся.
Пісаў ён для вас сваёй ўласнай рукою
Што я дыктаваў, так што будзьце ў спакоі.
А ваш дарагі пастар Бурхард Мікола
Улез у пашаны і гонару кола.
Цярпеў за мае ён правы і уставы,
Мяне не падвёў сас — працягвае справу!
Кароль яму выдаў уласных салдатаў
І кухню сваю, ежай рознай багату.
У рукі аддаў, бо ў ім бачыў ахвоту
Да кухні, бо там склаў жыццё у суботу.
Ён кухарам стаў: карміў дзяцей статак,
Цяпер корміць ён і чарцей, і іх матак.
На кальвінскім тлушчы і сасаў душыцы
Так Бурхард паварвае ў чорнай юшыцы.
Там салам шпігуюць вантробы худзейшых,
І перчыкам сыплюць, былі каб смачнейшы.
Пякуць налівайкаў, замест грэнак сушаць —
Іх з півам глытаюць пякельныя душы.
Усіх на тым свеце з кустоў іх лавілі,
Яны з чарапоў сабе чаркі рабілі.
А з Віцебску тых, што забілі ўладыку,
Ў мяху прынёс д'ябал (даволі вялікім) .
Мікіт з барадою з батвой гатавалі:
Грыбоў не было, таму іх паўкідалі.
Галовы, што ў Віцебску ім паздымалі,
На крошкі у кухню мы хутка забралі.
Снарады вазілі — цяпер возяць дровы,
Астатнія — міскі памыць нам гатовы.
А новахрышчэнцаў ў ваду акунаюць,
Як нечысць якую ў расольнік кідаюць.
Жыдоўскія козы смярдзяць, ды ў каросце,
Татарскія — чорныя, з вылезлай поўсцю.
Цэрбер гэта есць вельмі хутка адразу,
І варыць яму Бурхард іх раз за разам.
Цэрбер прывязаны пры браме навечна,
Есць туркаў, татараў, жыдоў недарэчных.
А што застанецца ад гэткай вячэры,
Адразу памчыцца да пашчы Цэрбера.
Шкілеты жыдоў каля пекла стаялі
І уваходу да д'ябла чакалі.

Жыдоў вельмі многа сюды прыязджае:
Ім Бурхард за грошы грахі адпускае.
Каза запякае яму ныркі шпарка
І з тлушчу яго робіць смачную скварку.
Часамі гатуе смачны рабунак
(Яму на сняданне — цудоўны гатунак)
І жывіцца кіслым і вострым ахвоча,
Аж крывяцца вусны, на лоб лезуць вочы.
Язык перад гэтым яго адваліўся,
Па куры як лез ды з драбіны зваліўся.

[12] Фі́ліп Мела́нхтан — нямецкі гуманіст, тэолаг і педагог, евангелічны рэфарматар, сістэматызатар лютэранскай тэалогіі, паплечнік Лютэра.

Але з пачуццём ён спявае прыгожа,
Шкада, слоў выразна прамовіць не можа.
Сам словы прыдумаў, прыдумаў і ноты,
Як мужна з курамі змагаўся ў суботу.
Да штурму хадзіў як — расказваў ён смела,
Але што казаў, то не ўсе разумелі.
Хацеў заспяваць, як праходзяць абеды,
А выйшла — пра нейкія ўласныя беды.
Хацеў штосьці спец пра ягоных какошаў (курэй),
На жаль, атрымалася песня раскошы.
Успомніў таксама ён Самуэля,
Каб той дапамог яму штосьці з вяселлем.
Так Бурхарда шчасце раптоўна спаткала,
А з вашым Мацеем таксама штось стала.
Аднойчы, калі Люцыпар выпіў многа,
То ў бруху яго узнялася трывога.
Мацея глынуў Люцыпар замест лекаў —
Вось так пагуляў д'ябал з тым чалавекам.
Цырульнік сапраўдны, ускочыў з валізкай,
У д'яблавым роце, ля выхаду блізка.
Па нітках Тэсей з лабірынту выходзіў,
Калі дзесьці качку паблізу знаходзіў.
Па радзе маёй, ён вам кажа з ахвотай,
Штогод адзначаць ў Вільні тую суботу.
Суботу, як Бурхард зваліўся з драбіны
І стаў для чарцей ён за роднага сына.
І вы гэты дзень услаўляйце вяселлем
І адпраўляйце ў курнік Самуэля!
Калі да мяне Самуэль ласку мае,
Няхай у мой гонар ён шыю зламае!
На скаргу, што неяк вы мне дасылалі,
Параду такую маю атрымалі:
Вы чулі пры хросце чарцей выклінанні? —
Дык гэта з майго ўсё было прыказання.
Не думаў я нават, што вас гэта ўразіць,
Суседзяў таксама не меўся абразіць.
А дзе падзел маем між Пеклам і Раем,
Калі з чалавека ўвесь дух вылятае?
Чысцу няма ў небе і Раю не бачна,
Зямля для жывых — гэта ўжо адназначна.
І вера такая, што спрэчак не маем
З тымі, сябрамі каго называем.
І нас кальвіністы ніколі не лаюць
І саны ад нас з падзякай прымаюць.
Я помню ад д'ябла што мы атрымалі,
Калі з Вітэнбергу яго выганялі.
Ламалі закрыстую, білі парогі,
Самога мяне ледзь паднялі з падлогі.
Пра гэта мае лахманы б лепш сказалі,
Што мы ад д'ябла тады атрымалі.
Ён з'еў бы мяне на дэсерт ці закуску,
Яго Самуэль з перцам з'есць упрыкуску.
А Мацiс сказаў мне учціва з паклонам,
Што рэдка гаворыць ён словы праклёну.

Калі вам надасца быць кумам Кальвіна,
Не трэба саромецца саскай дзяціны.
Яны д'яблаў злымі усе называюць —
Але ўсё ж цярпліва жывуць і кахаюць!
Хоць Самуэлем быў д'ябал прагнаны,
Але ў пекле добра ён быў прывітаны.
Ён біскупаў польскіх згадаў у пастылі,
Мяне аблапошваць — ў яго гэта стылі.
Святы Станіслаў пра чысцец ўспамінае,
Малога Пятра ён калі ўваскрашае.
Вайцех Багародзіцу ўславіў прад мною,
А вы лепш Марыю пакіньце ў спакоі.
Яны у касцёле сан біскупскі мелі,
А мы з Божай ласкі ад іх адляцелі.
Яны пра прыбытак касцёльны ўсё дбалі,
А мы іх балюча кіймі лупцавалі.
Пачатак бяром мы з Іуды самога,
Да нашае веры праклаў ён дарогу.
І мудрымі быць на пісьме ён прарочыў,
Каб мы ад Хрыста адракліся ахвоча.
Тады ўжо было там Сіньёраў нямала,
Адно святароў папскіх там не хапала.
Вось бачыце, ў свеце даўно вера наша,
А новай хто лічыць — бязглуздзіцу кажа.
Іуда з Міністрамі добра схаваўся,
Што з біскупаў нашых ні з кім ён не знаўся.
Іх сасамі ўсе ўжо даўно называлі,
А біскупы намі заўжды пагарджалі.
Святых тады вельмі яму не хапала,
Бо ў саскім Касцёле было іх замала.
Усіх пералічваць — дурная работа,
Дый Бурхарда хопіць, што гігнуў ў суботу.
Не трэба чужога — свайго нам хапае.
Хто прагне чужога — пятлю атрымае.
Вы порткі ўжо занадта яго усхвалялі
І добра набожнасць да іх паказалі.
Жадаю вам іхператрэсці набожна,
Адтуль прыклад цнотаў узяць асцярожна.
Лакцёў дзевяноста і дзевяць з матраца,

І прыкладу веры не будуць трымацца.
Калі справядлівасці з іх пажадалі,
То трэба, каб вагі вялікія ўзялі.
Калі жывяце ў справядлівасці, праве,
Тады замест портак я дам свае ўставы.
А мудрасць мая ў лахманах пражывае,
Яе я адтуль у галоўку ганяю.
З майго хто захоча пісьма навучыцца,
Той мусіць да портак з пакорай схіліцца.
Вы маеце важныя цноты чатыры,
Яны ад мяне — іх захоўвайце шчыра.
Цвярозымі ўбачыць іх нам не ўдалося,
Бо лепей у пуза, чым ў порткі лілося.
І так тыя порткі шануюць і славяць,
Што іх на галовах пакорна цягаюць.
Вы прагнеце веры, надзеі, любові,
Такога багацця тут будзе даволі.
На іх хаця б вочкам адным вы зірніце —
Мае гэта порткі — мо вочы пратрыце!
Цяпер верце ў тое, што ваша адплата
Вас знойдзе. Бо мае яе мілы тата.
Таму ў Вітэнбергу, ў Капліцы дакорам
Вісяць лахманы мае якарам ў моры.
Каб вы сваім вокам на іх паглядалі,
Для веры сваёй за аснову іх бралі.
Кахання свайго я не ўспомню ніколі,



Ілюстрацыя з кнігі «Суплікацыя Віленскага збору…». Кракаў, 1625 год.

Яно пра сябе ўжо сказала даволі.
Навошта змяніў я на порткі сутану? —
Катрынка пазбавіла сэрца і сану.
Яе пара ботаў з маімі штанамі
Хай будуць таенствам і скарбам між намі!
Святых каталіцкіх пакіньце ў спакоі,
Бо ладзяць яны ўжо даўно між сабою.
Калі ўваскрашаць яны будуць памёрлых,
То вас пераробяць ў свіней брыдкіх чорных.
А той, хто пакраў у касцёле святыні,
Хай будзе пракляты — у гэтым ён вінен.
Трымаць сваю веру вучыў яго йначай
Пякар Аляксандр з-пад брамы Сабачай.
Бакі хай асвеціць яму святло з лою,
Каб глупства сваё ён спазнаў немалое.
Няхай бы ягоны трыбух разарвала,
Прызнаўся б тады, з кім здаўна размаўляе.
Накінуў яму бы гадоў шчэ з дзясятак,
Як бачыце, добры дае вам пачатак.
І цяжка пярэчыць, бо сам прымушае
Міністар уладны — сябрук налягае.
Навошта ён робіць? Хоць нехта убачыць?—
За споведзь такую ніхто не заплаціць.
Хоць цяжка яму, але знову і знову
Ён мусіць казаць свае зверху прамовы.
І веру яго Аляксандр хай праверыць,
І за заслугі хай меру адмерыць.
Рараты ты скраў з каталіцкай закрыстай,
Не знойдзеш таго ты у Евангелістаў.
Але калі спевы іх гэтыя бавяць,
Ну, хай пра расу ўжо сваю пасяваюць.

Інтэнцыю нам зразумець ёсць патрэба,
Жадае расы Божай з склепа — не з неба.
Як гэта жаданне прагнаць спрабавалі,
Рараты з камення яму падавалі.
І трэба баяцца, бо рок злым быць можа,
Ягоныя погляды, кара, о, Божа!
Меркурый ўсіх злодзеяў, хлуснікаў ярых
З Венераю разам злучае у пары.
Адно аднаго хоць яны зразумелі
І разам з Венераю побач сядзелі,
Меркурый скраў грошы — яна зазлавала! —
І супраць яго ўсіх багінь збунтавала.
Ён той свой учынак тлумачыў ганебны:
Падзякаваць сасам у Вільні патрэбна,
Таму што адведваў ён сасаў ахвоча,
І выспаведваў іх ўсіх неаднойчы.

І ледзь мы не склікалі раду праз гэта,
Няшчыра аддзячыць было яго мэтай.
Які саскі гонар, калі вашы бабы
Піхаюць з навукі Самуэля няслаба.
Тады яму дайце з Вільні на радасць
За цноты ў навуцы адну дасканаласць.
Даўно ўжо у Познані так учынілі,
Ці (як вы пішаце) яўна свянцілі.
А можа, пабавімся добра з табою:
Дадзім шыла ў рукі і шпульку з дратвою.
Па бацьку сваім ён у спадчыну мае
Шчацінку і шыла — дзе ж кніга святая?
Яшчэ яго матка ў той час нараджала,
Калі праз свінню з нейкім псом размаўляла.

І ў той час, як пёс драў свінню за шчаціну,
Яна адразала сынку пупавіну.
Тады ёй сказаў нехта (розумам чысты),
Што сын яе будзе, няйначай, Свіністрам.
А бацька ягоны Дуброўскім быў зваўся,
Мачыў у дубе скуры і імі займаўся.
Яму педагог бы больш мудры надаўся,
То Моня, што ў Ковенскім зборы змагаўся.
І іншага тытулу не выдумляйце,
Маіх супраціўнікаў тут не хавайце.
Мы выратка ўсё ж у спакоі пакінем
І скажам пра тое, пра што і павінны.
Найперш мяне просяць хлапцы і дзяўчынкі
Праз вашую матку — пані Катрынку:
За крыўды адпомсціце Кальвіна вучням,
Хоць шляхта яны, купцы вы — нязручна.
Ім дорага перац, шафран прадавайце
І фунтам ілжывым усё адмярайце.
Даруеце ім — назавуць вас асламі,
Хоць і лічылі як быццам купцамі.
У Гданьску ён Сару ласкава пястуе,
Катэдру казаннем сваім прафануе.
Тут мала паноў, каб быў розум ад Бога,
А Лютэра служкаў тут тысячаў многа.
Бо ўжо вельмі хутка ён будзе у Вільні,
Бо нават на Раскім яму не стабільна.
Анёл Міхаіл як ля Збору устане,
І Д'ябал у страху, і ты, о мой пане.
Аж Кальвін шалее і розум губляе
Ад смутку такога, што ўжо прыпякае.

Кальвінскія душы мяшкамі чорт носіць,
Што кесар Фердынанд на свеце тым косіць.
І душы міністраў шматлікіх цягае,
Пра Кальвіна хто бязглуздзіцу бае.
І Фрыдрых, бядак той, ***Palatinus Rheni***[13]**,**
Ён шчасце сваё ні на што не заменіць.
Забыўся падвязкі, як з Прагі ён браўся,
З фартунай сваёю імкліва прэч мчаўся.
Яны скаргі пішуць на ўсякіх там лісаў,
Таму Люцыпар выслаў перш за ўсё Флісаў.
Фердынанду якія б дапамагалі,
Габора і Туркі сватамі нат сталі.
Не мучыла Кальвіна тое ніколі,
Што ў шляхты міністры ў страшэннай няволі.
А нехта хацеў бачыць катам лепш сына,
Чым катэхетам[14] ці служкам Кальвіна.
І вось адбылося што ў Вільні нядаўна:
Міністрам быў кат, працаваў досыць спраўна.
Уцехай адной Кальвін сэрца ратуе,
Што ў Зборы сваім ён пра Лілію чуе,
Якая ў Жэневе была яму плямай,
Са спаленай рыскай, за што — ўспомнім самі.
Шчаслівы, што дзеткі з яго гербам ходзяць,
Над Зборам паставілі — там не нашкодзіць.
Пра крыж, што над Ліліяй помняць няпалка,
Усклалі на Збор, знакам: горад Баранка.
А крыж — то сыночкі яго добры, мілы,
У гонар нягодніка гэта ўчынілі.
Іконы усе пазнімалі са Збору,
І месца для крыжа няма — гэта ж сорам.

Мы чэрцям усім радзім ціха, спакойна
Забраць разам з Кальвінам дзетак ягоных.
Уставы мае, дзеткі, сэрцам любіце
І мой запавецік, як скарб, беражыце!
Вы перш за ўсё верце з усёй вашай сілы,
Як веруюць чэрці і Люцыпар мілы.
Хрыстос за людзей памёр, ўзняўся на неба,
І больш для збаўлення нічога не трэба.
Ўсе добрыя ўчынкі, цнатлівасць — нічога,
Пакуты і шлюбы — нашто гэта Богу?
Пасты, устрыманні, і ўся дысцыпліна
Не вартыя нават між вамі ўспамінаў.
Танцуй, еш і пі, весяліся ганебна,
Хрыстос за цябе цярпеў — пойдзеш на неба.
Сап'ешся і станеш распуснікам-панам,
Са мной пойдзеш к Д'яблу. На век вякоў. Аман.

*Пераклад са старапольскай мовы Ірыны Зімневай*

[13] Palatinus Rheni (лац.) — ваявода Рэйнскі.
[14] Катэхет (катэхізатар) — царкоўная пасада ў лютэранскай царкве.

**Ірына Клышэўская**

# Доктар Здановіч

Кожны хоць аднойчы ў жыцці апынаўся ў цёмным памяшканні. Бывала, раптам познім вечарам патухала святло і пакой агортвала поўная цемра. Кожны памятае сваю разгубленасць з гэтай прычыны і поўную бездапаможнасць: ідзеш навобмацак, на нешта натыкаешся, нешта чапляеш у пошуку ліхтарыка ці свечкі і з палёгкаю ўздыхаеш, бачачы, як слабенькі агеньчык разганяе цемру. А чалавек жа можа застацца ў цемры не на некалькі «спалоханых» імгненняў, і нават не на адзін дзень, а на ўсё жыццё!

Гэта страшна — страціць зрок або не бачыць ад нараджэння. Так, сляпыя людзі могуць атрымаць адукацыю і працу, быт іх наладжаны, але гэта сёння. Стагоддзе таму было іначай.

У пачатку ХХ стагоддзя хваробы вачэй ахаплівалі цэлыя рэгіёны, з кожным годам сляпых людзей станавілася ўсё больш. З горада ў горад, з вёскі ў вёску, у снег і дождж па разбітых дарогах брылі сляпыя жабракі з павадырамі. Міласэрныя людзі выносілі ім ежу, кідалі ў бляшаныя кубкі манеты, шкадавалі няшчасных. Горкая доля ў сляпога. Цяжка жыць з міласціны. Але чым бядзе дапаможаш? Кожнаму чалавеку свой хлеб зарабіць трэба. Ды які ты работнік, калі сляпы? Нават для ўласнай сям'і — лішні рот, што ўжо казаць пра чужых…

Ды ёсць на зямлі людзі, для якіх чужых бед не існуе, а чужы боль — быццам свой, уласны. Гэта аповед пра чалавека, які змяніў лёс сляпых у нашай краіне, — пра доктара Здановіча Івана Усцінавіча.

Ён нарадзіўся ў Мінску 25 мая 1864 года. Бацька яго выкладаў у духоўнай семінарыі, дзядуля быў настаяцелем царквы ў імя Святых жанчын-міраносіц на Пярэспе. Ваня часта прыходзіў на службу ва ўзведзены дзедам храм. Пры храме існаваў прытулак для адзінокіх старых і інвалідаў. Дзядуля расказваў унуку, што дзякуючы царкоўнай абшчыне абяздоленыя бедакі ў прытулку заўсёды накормленыя і дагледжаныя. Што ў абшчыне і моляцца, і працуюць супольна.

Ваня меў шэсць гадкоў, калі аднойчы ля каванай агароджы царквы ўбачыў сляпога селяніна. Стары абапіраўся на кій, уставіўшы ў неба невідушчы застылы пагляд. Вецер раздзімаў сівыя валасы на галаве жабрака, шавяліў калматую бараду.

Нешта вусцішнае было ў абліччы старога.



Доктар Здановіч.

Ваня спалохана прыціснуўся да маці.

— Не бойся, анёл мой, — ласкава прашаптала яна сыну. — Падыдзі, падай жабраку міласціну.

Яна ўсунула манетку ў далоньку хлопчыка і падвяла яго да маленькага павадыра. Ваня паклаў сагрэтую манетку ў працягнутую ручку.

— Беражы пана Бог, — прашаптаў павадыр ссінелымі вуснамі.

Шасцігадовы «пан» кінуўся да маці, парывіста абняў яе, хаваючы твар.

— Ну, што ты, міленькі, не плач! Слязьмі не дапаможаш. Хадзем у храм, мой сардэчны, — супакойвала маці сына.

— Божа, дапамажы ўсім сляпым! — горача маліўся Ваня ў храме.

Упершыню ён маліўся не за сябе, не за сваіх родных, а за незнаёмых людзей.

Дома вобраз сляпога старога і дрыжачага ад холаду хлопчыка-павадыра ўсё непакоіў яго.

— Татачка, хіба Бог не можа дапамагчы гэтым няшчасным? Ён жа ўсёмагутны.

— Бог, Ваня, праз людзей дзейнічае: праз цябе, праз мяне. Бог нашымі рукамі людзям дапамагае.

Ваня ўважліва паглядзеў на бацьку, пасля — на свае далонькі.

— Нашымі рукамі? І маімі? — здзіўлена перапытаў ён.

— Канечне, — пацвердзіў бацька.

Ваня моўчкі падышоў да акна, доўга глядзеў на аблокі, што пралятаці ў небе, пасля павярнуўся да бацькі і сур'ёзна прамовіў:

— Я ведаю, як я сваімі рукамі магу ім дапамагчы. Я стану ўрачом.

— Дай Бог, — задумліва адказаў яму бацька.

***

Іван Здановіч стаў доктарам. Сапраўдным, з веданнем справы, уважлівым, добрасумленным. З малых гадоў ім валодала прага дапамагаць людзям.

Пасля вучобы ў Кіеўскім універсітэце і стажыроўкі ў Еўропе малады ўрач вярнуўся на Радзіму, каб укараніць у практыку тое новае і карыснае, пра што ён даведаўся за мяжой.

Сваё служэнне грамадству Іван Усцінавіч пачаў з таго, што на свае сродкі адрамантаваў радзільны прытулак, забяспечыў яго інвентаром і пасля перадаў гарадскім уладам.

Ён працаваў з ранку да ночы. А восьмай прыходзіў у губернскую бальніцу, а пятай вечара завяршаў там прыём і яшчэ дзве гадзіны прымаў хворых дома. Аднолькава клапатліва ставіўся да кожнага — і да багатага, і да беднага. Беднякі асабліва абагаўлялі яго — за сардэчнасць і ласку называлі «доктар Дабрыня».

Ён шмат зрабіў для свайго горада. Абсталяваў губернскую бальніцу лабараторыяй для бактэрыялагічных даследаванняў і рэнтгенапаратам — навінкамі таго часу. Набыў новыя хірургічныя інструменты, адкрыў першы ў Мінску кабінет для лячэння хвароб вачэй і першую школу масажу. Дзясяткі гадоў ён бескарысліва лячыў акцёраў, быў бясплатным урачом у інтэрнаце Рускага жаночага гуртка і ў жаночым манастыры. Клапоцячыся пра здаровы лад жыцця, арганізаваў побач з бальніцай на Траецкай гары народную чайную. У вольны ад службы час бясплатна выкладаў гігіену ў старэйшых класах гімназіі, вёў курсы сясцёр міласэрнасці.

Калі ён на сваім участку заўважыў крыніцу з лячэбнай вадой, адкрыў тут лячэбную ўстанову на шэсць коек. А каб хворым было зручна дабірацца з Мінска ў прыгарад, на свае грошы збудаваў чыгуначную платформу. Так яна і называлася — платформа Здановіча.

Шмат ён папрацаваў на медыцынскай ніве, але галоўнай справай яго жыцця стала вучылішча для сляпых дзяцей.

У тыя гады навучанне сляпых многім здавалася немагчымым. Але малады ўрач узяўся за справу з непарушнай верай і невычэрпнай энергіяй. Спачатку вучылішча размяшчалася на здымных кватэрах. Пасля ўдалося купіць пляц зямлі і старую драўляную хату. Дзеці і выкладчыкі ўсё рабілі разам: вучыліся, працавалі, маліліся. І праз некалькі гадоў на месцы закінутай пусткі ўзнікла дзівоснае пасяленне: сярод дрэў стаяла пяць асобных дамоў, лазня, пральня, лядоўня. Калі ў суседніх дамах Мінска яшчэ карысталіся газавымі лямпамі, вучылішча ўжо мела электрычнасць і нават бактэрыялагічную ачыстку сцёкавых вод. А ў глыбіні сада стаяла драўляная царква ў гонар абраза «Всех Скорбящих Радость». Царква была пабудавана за два гады паводле чарцяжоў самога доктара і з яго непасрэдным ўдзелам. Увесь вольны час (і нават адпачынкі) ён праводзіў на будоўлі. Сваімі рукамі выразаў драўляныя ліштвы для вокнаў і апраўы для абразоў. Палюбіўшы ўсім сэрцам праваслаўнае богаслужэнне, Іван Усцінавіч асвоіў звон. А як спявалі сляпыя хлопчыкі ў царкоўным хоры! Многія з іх, страціўшы зрок, мелі тонкі слых і чысты голас. Душэўная малітва падтрымлівала, умацоўвала і акрыляла іх. Сляпыя спевакі ведалі на памяць усю службу, і цяпер іх часта запрашалі ў іншыя храмы і нават у кафедральны сабор.

***

Ва ўстанове Здановіча вучыліся па падручніках, надрукаваных шрыфтам Брайля. Бібліятэка вучылішча мела каля дзвюх тысяч такіх кніг.

Каб у самастойным жыцці нікому не быць цяжарам, дзеці засвойвалі рамёствы. Ды так добра, што вырабы сля-







Вучылішча для сляпых дзяцей было адкрыта 25 верасня 1897 года ў Мінску на вуліцы Захар'еўскай.

пых вучняў часам атрымліваліся больш удалымі, чым у відушчых дарослых. Плеценыя кашы, шчоткі, дыванкі, мэбля, зробленыя падапечнымі доктара Здановіча, прадаваліся ў новай каменнай краме вучылішча. А за разнастайныя драўляныя вырабы сляпыя ўмельцы неаднойчы атрымлівалі дыпломы на гарадской выставе.

Але самае галоўнае — дзеці жылі ў атмасферы радасці, акружаныя клопатам і любоўю.

Тое, што нядаўна здавалася невыканальным, стала рэальнасцю дзякуючы штодзённай вялікай працы доктара Здановіча і яго паплечнікаў. Шмат паспеў зрабіць Іван Здановіч для роднага Мінска і яго жыхароў! Мы і сёння карыстаемся плёнам яго працы. На месцы збудаванай доктарам платформы ўзнікла чыгуначная станцыя і пасёлак Ждановічы. На беразе Свіслачы, дзе доктар Здановіч адкрыў лячэбную крыніцу, на месцы яго лецішча, знаходзіцца вядомы цяпер на ўсю краіну санаторый «Крыніца».

У 1930-я драўляныя дамы і царкву знеслі, а на іх месцы пабудавалі Дом Урада. Але пачатае Іванам Здановічам працягваецца. І цяпер сляпыя хлопчыкі і дзяўчынкі, закончыўшы спецыяльную школу, ідуць вучыцца далей, працуюць на прадпрыемствах Беларускага Таварыства інвалідаў па зроку.

Мінская школа для сляпых дзяцей носіць яго імя. Медалём Івана Здановіча ўзнагароджваюць за асаблівыя заслугі ў апякунстве над сляпымі. У высакародных сэрцах жыве памяць пра доктара Дабрыню.

*Аўтар просіць адгукнуцца людзей, якія захоўваюць успаміны пра паплечнікаў Івана Здановіча, выкладчыкаў Мінскага вучылішча сляпых: Івана Васільевіча і Дар'ю Мацвееўну Георгіеўскіх і Канстанціна Станіслававіча Болтуця. Хочацца сабраць матэрыялы для паўнавартаснага аповеду пра гэтых людзей.*

**Айцец Аляксандр (Голуб)**

# Калі споведзі не было шмат гадоў

У практыцы нашага манастыра часта такое бывае: на споведзь і прычасце прыходзяць упершыню ў жыцці або некалькі разоў за шмат гадоў — бо наперадзе хрэсьбіны/вяселле/вянчанне. Або — «таму, што захацелася». Або — «жонка загадала». Як правіла, падрыхтоўкай да споведзі гэтыя людзі не займаюцца. Знаёмства з Евангеллем, разуменне, што значыць быць хрысціянінам, як нескладана здагадацца, у іх адсутнічаюць. Што мне хочацца ім сказаць?

Споведзь можна параўнаць з рамонтам дома. Ёсць касметычны рамонт, які не патрабуе асаблівай падрыхтоўкі. А калі будыніна не эксплуатавалася гадоў пятнаццаць? Што патрабуецца? Правільна, генеральны рамонт. Для гэтага спачатку трэба даследаваць будыніну, вызначыцца з фронтам работ, прадумаць, якія матэрыялы неабходныя, разлічыць кошт, падрыхтаваць інструменты, размеркаваць тэрміны.

Так і са споведдзю. Ёсць людзі, якія, імкнучыся жыць адпаведна з Законам Божым, спавядаюцца штомесяц і нават часцей (не буду тут закранаць выпадкі, калі рэгулярная споведзь робіцца часткай жыцця). Споведзь для іх — гэта ачышчэнне ад пылу так званых штодзённых пагрэшнасцей.

А калі ў таінствах царквы не бралася ўдзелу шмат гадоў — патрабуецца генеральная споведзь, пры падрыхтоўцы да якой будуць пераасэнсоўвацца самі асновы жыцця, іерархія каштоўнасцей. У сучасным свеце чалавек прывык многія грахі лічыць нормай ці проста памылкамі. Напрыклад, шмат каму вельмі цяжка адчуць разбуральнасць дашлюбнай фізічнай сувязі, мужчынам цяжка ўзяць на сябе адказнасць за аборты. Для ўсведамлення ўсяго гэтага трэба вызваліцца ад ладу мыслення, навязанага сучаснымі ідэалогіямі, і прыняць тое бачанне свету, якое раскрываецца ў Бібліі. Патрабуецца пакаянне, па-грэчаску — «метанойя», «змена розуму». Калі я нанова нараджаюся, раблюся іншым чалавекам, з іншымі, не як раней, паглядамі на жыццё. Пакаянне і ёсць галоўная ўмова таінства споведзі. Але пакаянне не можа нарадзіцца з фармальнага прызнання, калі на споведзі бацюшка пытае пра наяўнасць цяжкіх грахоў, і чалавек пагаджаецца: «Так, грэшны быў, каюся». Прычым гэткім спакойным тонам, тады як названы грэх проста катастрафічны — развод ці згода на тое, каб жонка зрабіла аборт.

Сапраўднае пакаянне вырастае з усведамлення трагічнасці жыцця па-за Богам. І тады не трэба пытаць — чалавек сам свае грахі пералічыць, бо хоча пазбавіцца ад іх разбуральнага дзеяння. У апісаным жа выпадку ёсць проста прызнанне, і павярхоўнае: так, маўляў, нядобра атрымалася. Такая споведзь сапраўднага вызвалення не дасць. Не адчуваеш пры яе здзяйсненні, што чалавек сапраўды адкрывае сябе Богу, што адбываецца шчыры зварот да Яго[1]. Да таго ж, што лёгка даруецца, тое лёгка паўторыцца. Трагедыю граху трэба пражыць, адчуць яго катастрафічнасць, патрываць боль за яго. А для гэтага неабходны час. І апорная сістэма каардынат, праз якую і будзе пераасэнсоўвацца жыццё. То бок, неабходна разгарнуць Евангелле. Пажадана. каб адбылася папярэдняя размова са святарам пра мэты і змест жыцця хрысціяніна і самой споведзі.

Трэба яшчэ заўважыць, што мы атрымліваем Божую міласць у той меры, у якой гатовы яе прыняць. І чым лепш падрыхтавана споведзь, тым больш яна паўплывае на жыццё.

Канечне, можна прыняць такую непадрыхтаваную споведзь у якасці «задатку». Але ці будзе гэта на карысць? Ці паслужыць сапраўдным зменам у жыцці? Ці, атрымаўшы жаданае (споведзь дзеля ўдзелу ў хрышчэнні), чалавек зноў «знікне з гарызонту» Царквы на шмат гадоў? З усіх людзей, споведзь ад якіх я прымаў «авансам» («Бацюшка, у мяне ж заўтра вянчанне!») і каму прапанаваў сваю дапамогу ў далейшым уцаркаўленні, — ніхто не вярнуўся.

Таму я — прыхільнік споведзі з папярэдняй падрыхтоўкай, падчас якой і правярыцца, наколькі шчыра чалавек хоча быць хрысціянінам, а не проста павянчацца, не разумеючы, навошта (і, верагодна, праз некалькі гадоў развесціся).

[1] Царкоўнае слова «зварот» азначае «паварот» — як разварот аўтамабіля на 180 градусаў. Менавіта ў гэтым сэнсе ў Бібліі Бог не раз праз прарокаў кажа: «Звярніся да Мяне».

Што можна парэкамендаваць менавіта для падрыхтоўкі да генеральнай споведзі?

Для пачатку — не спяшацца. Рыхтавацца можна і тыдзень, і месяц. І пажадана карыстацца дапаможнай літаратурай. Бо ў чым звычайна спавядаюцца без падрыхтоўкі? У тым, што мала ўвагі ўдзялялі блізкім. Або што курылі. Пра стаўленне да Бога і Царквы — ані слова. Але ж споведзь — гэта таінства прымірэння з Богам, з Царквой, а не з жонкай…

А бывае і такое: спавядаюцца, што пасварыліся з дзяўчынай (хлопцам). І нават не падазраюць, што існуючая паміж імі сексуальная сувязь — смяротны грэх. Большасць такіх пар, якія былі ў мяне на споведзі, не ведаюць слоў «цнатлівасць» і «блуд». І данесці ім за час споведзі гэтыя веды, раскрыць, у чым грэх, — вельмі няпроста. Зразумела, што і вінаваціць іх нельга ў тым, што ні бацькі, ні хросныя не клапаціліся пра іх маральна-духоўнае выхаванне. І што святар, які хрысціў іх у маленстве, нават не імкнуўся ўзяць на сябе адказнасць за падрыхтоўку самых родных і хросных бацькоў хоць да нейкага хрысціянскага жыцця. Толькі вось мне што цяпер рабіць з «вынікам» гэтай кругавой безадказнасці, які стаіць перада мною?

Нават калі ўдаецца (на шчасце, нярэдка) нешта ў такіх выпадках данесці, мне пасля такіх споведзяў кепска. А калі іх за час службы некалькі, і гэтая служба нядзельная, калі і без таго шмат людзей прыйшло на споведзь? Тады для ўзнаўлення ўнутранага стану патрабуюцца гадзіны і нават суткі.

Каб такіх казусаў было менш, неабходна папярэдняя «дамашняя работа» з дапамогай «вучэбнага матэрыялу». І канечне, будзе час усвядоміць, ці сапраўды так хочацца прыняць «сістэму каардынат» Евангелля і памяняць сваё жыццё.

Бо ўцаркаўленне яшчэ азначае і ўнясенне змен у сам рытм жыцця. А гэта, сярод іншага, наступнае:

- хаця б кароткія ранішнія і вячэрнія малітвы, сваімі словамі і з выкарыстаннем Малітваслова;
- малітвы перад прыняццем ежы і пасля;
- чытанне, хаця б эпізадычнае, Святога Пісання;
- чытанне, хоць трохі, духоўнай літаратуры (пра богаслужэнне, пропаведзі на евангельскія тэмы, пра шлюб і сям'ю, веравучэнне, законы духоўнага жыцця);
- рэгулярны ўдзел у таінствах Царквы;
- рэгулярнае наведванне нядзельных і святочных богаслужэнняў (хаця б два-тры разы на месяц, для пачатку);
- прытрымліванне посту (па сілах і ўнутранай гатоўнасці);

А як інакш суадносіць жыццё з верай? Бяда «таксама праваслаўных»: прыметнік «праваслаўны», дапасаваны да назоўніка «хрысціянін», даўно сам стаў назоўнікам. І калі нехта падчас знаёмства прадстаўляецца: «Я — хрысціянін», — узнікае падазрэнне: а ці не адвентыст? Каму невядома, што гэта ў баптыстаў ладзяцца безалкагольныя вяселлі, што гэта ім важна вывучаць Святое Пісанне, і гэта ў іх практычна не бывае абортаў? Што гэта баптысты рэальна імкнуцца дакладна ведаць асновы сваёй веры (а гэта, між іншым, добрыя лекі ад забабонаў) і жыць у згодзе з гэтай верай? А мы ж праваслаўныя, з намі Бог і так, дык нашто нам усё гэта?

Гэта і ёсць галоўны грэх — халоднасць, раўнадушша ў адносінах да Бога і сваёй веры, няўменне суадносіць сваё жыццё з Богам. А не тое, што з кімсьці пасварыліся, і што «ну-у, не кожную нядзелю ў храм хаджу» (дарэчы, прамаўляецца такім тонам, што робіцца зразумелым: змен не прадбачыцца). Відавочны разрыў паміж дэкларацыяй сябе як «таксама праваслаўнага» і рэаліямі будняў. Калі пра сваё «хрысціянства» ўспамінаецца перад патрэбай «асвяціць» аўтамабіль ці паставіць свечку «за здароўе». Ці калі прыносіцца велікодны кошык з «брашнамі» «на освящение». Не задумваючыся: навошта?

Памятаю адно назіранне. У Вербную нядзелю маладая мама пасля літургіі выходзіць з манастыра: у правай руцэ — вербачка, побач — дзіця, у левай руцэ — запаленая цыгарэта. А потым такія дзядзькі і цёткі абгаворваюць святара, што ён з імі на споведзі жорстка абышоўся. Шчыра не разумеючы ці не жадаючы разумець — тое, што духоўнасць азначае, не ў апошнюю чаргу, адказнасць. Што яна да нечага абавязвае.

Генеральная споведзь — гэта выйсце з памылковага стаўлення да хрысціянскага звання

і пераход на якасна іншы ўзровень духоўнага жыцця. Гэта першы і рашучы крок да пераадолення разрыву паміж жыццём і верай.

Такім чынам, для падрыхтоўкі да генеральнай споведзі патрабуецца «вучэбная літаратура», што, як люстэрка, дапаможа ўбачыць сябе збоку. Добра, да прыкладу, падчас падрыхтоўкі прачытаць 5—7-ю главы Евангелля ад Матфея, дзе ў Нагорнай пропаведзі раскрываецца вобраз хрысціяніна. Наш манастыр выдаў у серыі лістка «Жировицкая обитель» нумар пад назвай «Как готовиться к исповеди». Добрыя водгукі атрымала кніга архімандрыта Іаана (Красцьянкіна) «Опыт построения исповеди».

І патрэбны пакаянны подзвіг. Сапраўднае пакаянне непарыўна звязана з пакаяннай працай. Бо грэх — гэта яшчэ хвароба. Каб вылечыцца, неабходна «хіміятэрапія». Таінства споведзі, па вялікім рахунку, павінна быць завяршэннем, пячаткай подзвігу, а не пачаткам. Калі ў жыцці былі дапушчаны цяжкія грахі (блуд, аборт, развал сям'і), подзвіг пакаяння лепш пачаць задоўга да споведзі. Паводле правіл царквы, такі грэшнік адлучаўся ад Царквы на некалькі гадоў. І толькі потым праз таінства споведзі вяртаўся да стасункаў з Царквою. Цяпер такое правіла амаль не выкарыстоўваецца. Але ніхто яго не адмяняў. Яно нагадвае пра трагічнасць такіх грахоў. Зыходзячы з рэалій, можна прапанаваць наступнае.

Пачаўшы падрыхтоўку да споведзі, трэба пагаварыць са святарам і атрымаць так званую епітым'ю — духоўнае практыкаванне. Скажам, на працягу сарака дзён штодзень рабіць за гэтыя грахі дваццаць паклонаў з малітвай аб дараванні і ачышчэнні ад грахоў. І яшчэ дваццаць — за тых, каму гэтымі грахамі прынесена зло ці хто быў уведзены ў спакусу (напрыклад, у блуд або п'янства, або дапусцілі аборт), каб Гасподзь і іх прывёў да выратавання. Калі аборт — яшчэ дваццаць паклонаў пра спачын ненароджанага дзіцяці. А яшчэ можна пайсці ў гінекалагічную клініку і папрацаваць валанцёрам па прадухіленні абортаў — асабісты досвед будзе пачуты хутчэй, чым адгаворванні святара ці ўрача. Прыняць на нейкі час удзел у руху «Про лайф»... Іншымі словамі, кампенсаваць, дзе магчыма, нанесеныя страты.

Пакаянне не можа нарадзіцца з фармальнага прызнання, калі на споведзі бацюшка пытае пра наяўнасць цяжкіх грахоў, і чалавек пагаджаецца: «Так, грэшны быў, каюся». Прычым гэткім спакойным тонам, тады як названы грэх проста катастрафічны — развод ці згода на тое, каб жонка зрабіла аборт

Калі не было ў жыцці цяжкіх грахоў, агульныя рэкамендацыі, якія можна даць, — трохдзённы пост і прачытанне па Малітваслове так званага «Последования ко святому причащению» (паколькі споведзь і прычасце ў дадзеным выпадку лепш аб'яднаць). Яшчэ прапаноўваецца пачаць уключаць у сваё жыццё ранішнія і вячэрнія малітвы. Чаму важна выкарыстоўваць малітвы з Малітваслова? Большасць з іх складалі падзвіжнікі, святыя айцы Царквы, і многія ўтрымліваюць іх духоўны вопыт. Выкарыстанне іх садзейнічае фарміраванню здаровага духоўнага вопыту ў нас саміх. Гэтыя малітвы ўтрымліваюць пакаянне, надзею, удзячнасць. Яны дапамагаюць сэрцу прачнуцца ад духоўнай нячуласці, якая часта апаноўвае нас, калі мы растварaемся ў «дробязях жыцця». Калі можна так сказаць, яны спрыяюць настройванню на «рэзананс» з прычасцем.

У той жа час, пры адсутнасці патрэбнага вопыту і навыку, гэтыя малітвы, разам узятыя, могуць стаць занадта вялікай нагрузкай. Правіла (так называецца сукупнасць прапанаваных малітваў) з'яўляецца хутчэй узорам, на які трэба арыентавацца, а яго памер для кожнага з нас можа вар'іравацца ў залежнасці ад нашых здольнасцей і падрыхтаванасці.

Што ж датычыцца патрэбнага ў многіх царкоўных выданнях чытання так званых Трох канонаў — Збавіцелю, Божай Маці і ангелу-ахоўніку, — дык яны, увогуле, з'яўляюцца часткай штодзённага правіла рускіх манахаў, узятага на ўзбраенне набожнымі міранамі і замацаванага потым звычаем. Асабіста я не лічу для сябе магчымым патрабаваць чытання гэтых

канонаў нават ад уцаркоўленых міран, не кажучы пра навічкоў. Мяркую, іх можна пакінуць на асабістае рашэнне кожнага, лепш — параіўшыся са сваім прыходскім святарам. А калі ў чалавека ўвогуле адсутнічае хоць які вопыт чытання царкоўна-славянскіх малітваў, то, як кажа адзін вопытны духоўнік нашага часу, на першы раз для падрыхтоўкі дастаткова будзе з «Последования к причащению» выкарыстаць адзін канон, нават без наступных малітваў. Добра, канечне, перад выкарыстаннем прачытаць яго як тэкст, каб усвядоміць і адчуць змест. Тады лягчэй будзе гэтыя малітвы зрабіць «сваімі». Затым сваё асабістае правіла можна будзе пашыраць. Пачынаць прачытванне правіла да прычасця дапускаецца не толькі напярэдадні, а, напрыклад, разам з пачаткам посту — за тры дні, за тыдзень. У інтэрнэце ёсць пераклады гэтых малітваў на сучасную мову.

Наступнае пытанне: дзе і калі спавядацца?

Дзе — не мае значэння. Гэта можа быць бліжэйшы храм або любімы манастыр. Хоць, канечне, лепш паспавядацца перад святаром, які зможа і далей суправаджаць навічка ў духоўным жыцці.

А вось калі — пытанне іншае. Першая (або генеральная) споведзь патрабуе ўвагі, клопату і пэўных намаганняў не толькі ад чалавека, але і ад святара, які прымае споведзь. А гэтага цяжка чакаць у агульным патоку за нядзельным ці святочным богаслужэннем. Цяпер многія храмы маюць дзяжурных святароў, і можна ў папярэдняй размове з імі абмеркаваць пытанне споведзі і дамовіцца пра час. Калі споведзь у манастыры — лепш прыехаць у будны дзень з начлегам. У сядмічныя дні паломнікаў звычайна нямнога, і святар мае больш магчымасцей прыняць гэтую першую споведзь. Калі ў будныя дні не атрымліваецца, то не раю выбіраць дні вялікіх царкоўных свят і апошнія нядзелі Вялікага посту — многія спавядаюцца ў гэтыя дні, і без навічкоў.

Нарэшце, пасля здзяйснення генеральнай споведзі трэба вырашыць са сваім святаром, як далей трымаць рытм удзелу ў таінствах. Ёсць шмат людзей, якія задавальняюцца споведдзю і прычашчэннем адзін-два разы на год. Звычайна іх лёгка вызначыць: іх споведзь мае даволі «нацягнуты» характар. Часам я ў іх пытаю: «А калі апошні раз вы прымалі душ, прыбіраліся ў кватэры?» Адказ зразумелы — догляд за сабой і сваёй жылой плошчай ажыццяўляецца рэгулярна. Як бы старанна мы за сабой ні глядзелі, пясок наліпае, пыл наносіцца, поры скуры забіваюцца. І нават у звышсучасных канторах ніхто ад гэтага не абаронены. Наадварот, праца ў гэтых канторах прадугледжвае больш дасканалы догляд за целам, і душ з рознымі гелямі прымаюць супрацоўнікі штодзень. Чаму ж мы такія абыякавыя да галоўнага? Як бы ні бераглі мы сябе, душа, як пылам, забруджваецца дробнымі грахамі. Там дазволілі сабе раздражненне, лёгкую незадаволенасць. Там трошкі пасварыліся — хоць адразу ж і пагадзіліся. Там пагляд на імгненне затрымаўся на нясціплай рэкламе. Там фільм не вельмі варты пагледзелі. Недзе — кароткая злаславасць, жаданне нядобрага. Недзе — дарэмна і нават сабе на шкоду прабавілі час. Паленаваліся грунтоўна памаліцца. Месяц не разгортвалі Святое Пісанне… Быццам дробязі, мы іх прывыклі не заўважаць. Але яны пакідаюць адбіткі. І барацьба з гэтымі дробнымі грахамі працягваецца да канца жыцця. Канечне, натуральна абмываць сябе ад іх пакаяннем рэгулярна. Стандартная практыка — штомесячная споведзь, звычайна напярэдадні прычашчэння. Хоць гэта і не абавязкова, споведзь і прычасце — розныя таінствы. Магчымы варыянт, калі споведзь праходзіць, да прыкладу, чатыры разы на год, а прычашчэнне можа быць штомесяц і часцей. Аднак усё роўна пастаянная праца над «дробным грахом» — адсочванне, пакаянне, малітва — павінна весціся. Тады сапраўды жыццё набудзе больш глыбокі і насычаны змест, і шмат што ўнутры і навокал зменіцца. Вочы ўбачаць больш фарбаў…

У некаторых выпадках, між іншым, споведзь «авансам» лепш прыняць — калі чалавека чакае аперацыя, ці ён трапляе ў рэанімацыю, ці ў іншых абставінах — калі ёсць пагроза жыццю. Але калі збіраюцца стаць хроснымі ці абвянчацца — на мой погляд, такіх асоб можна «прытармазіць». Гэта нястрашна. Асабліва ў выпадку з хрэсьбінамі. Я не раз праводзіў размовы з так званымі кандыдатамі ў хросныя — бывала, яны прыходзілі да разумення сваёй непадрыхтаванасці да гэтага звання…

Рыцарскі фэст

# «Гонару Продкаў 2017»



















## 1-2 ліпеня ў Вілейцы

- √ **Папулярызацыя гістарычнай спадчыны**
- √ **Падтрымка развіцця мечавога і лучнага спорту**
- √ **Захаванне традыцый сярэднявечнай і народнай творчасці**
- √ **Передача майстэрства, навыкаў і сакрэтаў старажытных рамёстваў**
- √ **Знаёмства са старадаўнімі традыцыямі і забавамі**

Трэці па ліку фэст, прысвечаны культуры ВКЛ, распавядае пра падзеі грамадзянскай вайны 1432-1438 гадоў. Мы часта чуем пра тое, як нашы продкі змагаліся з тымі, хто прыйшоў на нашы землі. А калі не прыйшоў, а жыў тут, калі гэта раскол між сваімі? Прыязджайце і паглядзіце на гэтую частку гісторыі!

ISSN 0131-2308









## «М»ы збіраемся!